# ЧЫРВОНЫ ЧАЛАВЕК

— Змаганне з сеткавым пітонам у нетрах Амазоніі, — здушана гугніць ленінградзец, накруціўшы на шыю гумовы шланг. — Шланг ільсніцца на сонцы, віецца, як сапраўдны пітон, і дзятва, што сабралася вакол, глядзіць на гарадскога штукара разявіўшы раты.

Каля дома, дзе жыве трактарыст Бохан, грувасціцца бочка на колах, у якой возяць ваду. Да бочкі прымацаваны шланг — вось ленінградзец і абкруціўся ім, дэманструючы змаганне з амазонскім удавам.

Мы з Мішкам стаім непадалёку, цісnем азадкі да агароджы, з усмешкамі на вуснах глядзім на тыя жарсці.

— Няма паратунку ад жалезных спохватаў, — каменціруе сітуацыю штукар. Твар ягоны наліваецца крывёю, рукі страшэнна напружаны, усмешкі злятаюць з нашых вуснаў, і мы з сябрам пераглядаемся: а раптам гэты недарэка і сапраўды задушыцца шлангам?

— А-а-а! — гарлае, нібыта перад скананнем, ленінградзец. Малеча, увабраўшы галовы ў плечы, адступае ад бочкі, нейкая дзеўчынёха заліваецца плачам, ды тут з канца шланга праліваецца вада якраз штукару за каршэнь, і той, ачуўшыся, незадаволена выдыхае: — Ідыёцтва.

Ленінградзец, з выгляду наш аднагодак, прыехаў на вакацыі да роднай цёткі — старой Авадзіхі. Удзень цягаўся па вуліцы, паказваючы дзятве розныя глупствы, а ўвечары, уладкаваўшыся на бярвенні каля цётчынай хаты, брынкаў на гітары ды спяваў шчымлівыя песні пра каханне. Паслухаць яго збіраліся не толькі нашы дзеўкі, але і з суседніх вёсак.

А Мішкава сястра Нюрка ў пеюна нават закахалася. Цыдулку яму напісала, паклала да часу ў кніжку, а брат знайшоў і цяпер зводзіў сястру са свету.

Іншаму задаваку вяскоўцы б даўно натаўклі. Аднак пяюн убіўся у сябры да Ваські Бохана: прывёз таму блок цыгарэт з фільтрам і напульснік з уштукаваным компасам. Таму і ходзіць па вёсцы, задзёршы нос. А яшчэ падрадзіўся кінамеханіка Лябёдку гітарным акордам навучаць, і ў кінабудку, куды пабочным асобам уваход забаронены, дзверы нагой адчыняе.

Адкінуўшы шланг, ленінградзец паважнай хадою ідзе ўздоўж штыкетніка, а за ім, як за львом Баніфацыем, — мультфільм пра таго льва нядаўна круцілі ў клубе, — сунецца вясковая блазнота.

Авадзішына карова ўнадзілася бегаць за быком, таму і пасвіцца ля хаты, прывязаная да штыкетніка. Праходзячы міма, штукар скінуў з сябе стракатую кашулю, патрос ёю перад каровінай мызай.

— Тора, тора, — стоена выдаў госць з Піцера і, узяўшы рукі ў бакі, крутнуўся на абцасах мадняцкіх туфель.

Рагуля з шумам увабрала ноздрамі паветра, рушыла, наставіўшы рогі, наперад, але зашмарга на шыі яе спыніла.

— Тора, тора, — ужо гучна азваўся штукар; зноўку, грацыёзна закінуўшы рукі за спіну, крутнуўся, і рагуля, з налітымі крывёю вачамі, грукнула рагамі па штыкецінах.

— Тореадор смеле-ээ! Тореадор! Тореадор! Знай, что испанок жгучие глаза-а на тебя смотрят страстно… — заспяваў гарадскі блазен, і тут ад весніц даляцеў звяглівы цётчын голас:

— Чаго да каровы прычапіўся?! Есці ідзі, яечня стыне!

— Ідыёцтва, — выдыхнуў пяюн: ён быў відочна незадаволены, што перарвалі ягоную песню.

Усё той жа валюхаста-фанабэрлівай хадою задавака пайшоў да цётчынай хаты, напяваючы гэтым разам пра Гіменея, які яднае нявесту з жаніхом, і карова пагрозліва рыкнула яму ўслед. Бацька ленінградца — Авадзіха казала тое кожнаму стрэчнаму — спяваў у оперы, вось сын і нахапаўся розных арый.

— Палкай нюхаўку не дастанеш, — буркнуў пад бокам Мішка. — Калі б не Бохан, я б таму задаваку хоць зараз нюхаўку натоўк.

Васька Бохан — «кароль» наваколля. Летась, пасля бойкі ў Азярышчанскім рэстаране, паўгода тэрмін цягнуў. Два гады далі, ды выпусцілі па амністыі.

Увечары сядзім на Мішкавым падворку, грызём крамяна-няспелы белы наліў — яблыкі вісяць над нашымі галовамі — і раўніва паглядаем на Авадзішыну хату. Пяюн вось-вось павінен выйсці з весніц. Чакаем яго выхаду не толькі мы, але і Мішкава сястра з сяброўкай Веркай. Дзеўкі сядзяць на ганку, з гарачкавым імпэтам перашэптваюцца, раз-пораз пырскаючы смехам. Неўзабаве сяброўкі бягуць па двары, і Мішка, свіснуўшы ім услед, галёкае:

— «Мілы хлопчык, давай сябраваць!» — так напісана ў перахопленай цыдулцы.

Нюрка з Веркай ідуць пад ручку да Авадзішынай хаты, і дзесьці непадалёку абуджаюцца гітарныя пераборы. Хвілін пяць пяюн настройвае гітару, а потым пытаецца ў дзевак, якія паселі на бярвенні, што ім збацаць.

— «Прапажу»! «Прапажу»! — гамзаюць Нюрка з Веркай, і музыка, ударыўшы па струнах, надрыўна, рыхтык як Абадзінскі, спявае:

Самой нежной любви наступает конец,
Бесконечной тоски обрывается пряжа.
Что мне делать с тобой, и с собой, наконец,
Как тебя позабыть, дорогая пропажа?..

Гэтая «Прапажа» гучыць па дзесяць разоў за вечар. Мы ўжо яе на памяць завучылі.

— Сёння па абедзе Юльку, унучку Мандрысішыну, напужаў, — дружбак чвякае кіслым яблыкам. — Юльку сляпень укусіў, а пяюн паведаміў, што гэта муха цэцэ, і што ад яе ўкусу людзі паміраюць. Юлька і зараўла. Мандрычыха да Авадзіхі бегала лаяцца. Маўляў, шасцігадовае дзіця да ікаўкі напужалі.

Мандрычыха загадчыцай клуба працуе. Галоўная пляткарка нашага раёна.

— Нічога, мы гэтага піцерскага індыка таксама пужнём. У цябе ліхтарык працуе? — сябар з сілай шпурляе пад плот напалову абгрызены яблык.

Ківаю галавой, намагаючыся ўцяміць, як можна напужаць піцерскага індыка звычайным «жучком».

— Пазычыш мне на вечар, — сябрук зрывае зялёную «налівіну», а пабачыўшы непаразуменне ў маіх вачах, пытае:

— Пра чырвонага чалавека чуў?

— Якога Марштрупа прымроіў? Чуў, вядома.

Марштрупа — наш мясцовы п'яніца. Аднойчы ўлетку ўпіўся ды заснуў у царкве на прахалоднай цэментавай падлозе. Царква ў нас стаіць на ўскрайку вёскі. Напаўразбураная. Ні дзвярэй, ні вокнаў даўно няма. Адзін бляшаны купал, наскрозь праржавелы, яшчэ нейкім чынам трымаецца. Карацей, прачнуўся Марштрупа сярод ночы, раздзёр павекі, а на яго, да сцяны прыціснуўшыся, чырвоны чалавек пазірае. Апівуда адразу ж працверазеў, пусціў у патарочу каменем і выкуліўся з царквы, нема гарлаючы. Усю вёску на ногі падняў. З таго часу ў царкву цёмнай парой ніхто не заходзіць, бо там, нібыта, апоўначы чырвоны чалавек з'яўляецца.

Цяпер мне зразумелы Мішкавы план. Ці пагадзіцца, аднак, гарадскі індык зайсці ў царкву а дванаццатай ночы?

— Пагадзіцца, — адказвае, чытаючы мае думкі, сябар. — Надта ж ганарысты. Трэба ж перад намі сваю смеласць паказаць. Да таго ж, мы яму пра жахі царкоўныя ў прысутнасці дзевак распавядзём. Так што давядзецца індыку з чырвоным чалавекам пазнаёміцца.

— Добра, а як ты яго пакажаш?

— Цёмна стане — убачыш. Толькі абавязкова ліхтарык прыхапі.

Прызначаным часам — крадком, каб не нарабіць шуму — уздымаюся па драбінах на вышкі, дзе спіць сябар. Мішка адчыняе дзверцы.

— Прынёс?

Я працягваю слізкі ад запацелай далоні «жучок».

Сябрук шамаціць сенам, адпаўзае ў дальні канец вышак, і раптам там, у цемры, пад злавеснае гудзенне «жучка», узнікае штосьці агніста-чырвонае. Я нават рот разявіў, але тут жа ачомаўся. Ну вядома: Мішка абкруціў галаву піянерскім гальштукам і асвяціў ліхтарыкам.

— Як гляджуся?

— Страшней за таго, якога Марштрупа бачыў.

Хуценька злазім з вышак, ступаем на зямлю і разам пераводзім дых. На сэрцы трывожна.

— Мо дарма ўсё гэта? Людзі спяць, а мы як злодзеі ў поцемках сноўдаем.

— Гусь не сцыць, і ты не сцы, — рашуча прамаўляе сябрук і, памаўчаўшы, дадае: — Газуй да клуба, а я гародамі да царквы пабягу. Буду вас там чакаць. Па дарозе вярзі розную лухту пра чырвонага чалавека. Наганяй, карацей, страху.

Над уваходам у клуб свеціцца лямпачка. Стаю ў коле кволага святла, углядаюся ў цемру і прагну аднаго: каб ленінградзец не прыйшоў. А то, сапраўды, немаведама чым можа скончыцца гэтая забава.

Наперадзе, з-за рога сельмага, выплывае чыйсьці цень, і сэрца маё абмірае. Ленінградзец! Але ідзе ён не задзёршы нос, а сцярожка ступае на нягнуткіх нагах.

— А дзе твой напарнік? — голас ленінградца прыкметна дрыжыць.

— Матка не пусціла. Я на гарышчы сплю, а Мішка ў хаце. Вось і тармазнула.

Ленінградзец зацкавана паглядае ў бок не бачнай у цемрыве царквы.

— Ну… пайшлі?

З цёмнага неба пачынае накрапваць дождж. Колькі часу тупаем моўчкі, нарэшце ленінградзец перарывае маўчанне:

— А што, п’яніца, які чырвонага чалавека бачыў, у вар’ятню патрапіў?

Пляменнік, відаць, распытаў цётку пра тутэйшыя жахі. Тая і напляла абы-чаго.

— Патрапіў. Фельчарка казала, у яго белая гарачка была. Але чырвоную патарочу не толькі адзін Марштрупа бачыў. Яшчэ некалькі бедачын з ёй сутыкнуліся. І ўсе потым хварэлі. А адзін прыезджы нат памёр, — пра прыезджага я, вядома, загнуў, і суразмоўца пасля такіх слоў зусім заняпаў духам.

— А што з сябе чырвоны чалавек уяўляе? — суразмоўца паспрабаваў надаць голасу бадзёрыя ноткі.

— Галава агнём гарыць, і дым з вушэй ідзе. Сам з ім пазнаёмішся, калі пашанцуе. Дарма гітару не прыхапіў — збацаў бы яму «Прапажу», — выгляд у суразмоўцы быў панылы, вось з мяне і паперла красамоўства.

Ленінградзец спатыкнуўся на роўным месцы, плаксіва прашаптаў: «Ідыёцтва».

Неба зацягнутае хмарамі, і ў густой цемры царква глядзіцца велічна і таямніча. Там, дзе быў уваход, зеўрае вялізны пралом, з якога павявае чорная вусціш. Мне і самому, нават ведаючы, што ўнутры прытаіўся сябрук, страшнавата туды заходзіць. Калісьці, малым падшыванцам, паспрачаўся з Мішкам, што зайду ноччу ў царкву. І дагэтуль памятаю, як дрыжэлі пальцы, кранаючыся халодных сцен, як парывіста білася сэрца, глуха адбіваючыся ў вушах, і як яно сцялася, калі з пад ног вылецеў голуб. Я тады застыў на месцы і, што дзіўна, страх вомігам знік. Выліўся ў штаны, цёплым цурком казытнуўшы калені. Пасля таго я стаў мачыць прасціны, і маці вадзіла мяне ў суседнюю вёску Балбекі да Хадорыхі — шаптухі, якая загаворвала пуд ды нейкую рожу.

Спыняемся ля пралому. Ленінградзец, прыклаўшы да рота далоні, на ўсе застаўкі крычыць, і дзесьці пад купалам нараджаецца працяглае рэха.

— Не крычы, а то яго абудзіш.

— Каго? — пытаецца ленінградзец.

— Мішк… э-э-э… чырвонага чалавека.

Гарадскі задавака з цяжкасцю глытае асцу.

— Слухай, а можа разам зойдзем?

— Куды? У царкву?! — мяне нават перасмыкнула ад гэтай прапановы. — У нас такой парой і за грошы ніхто не ўвой-

дзе, — я спрабую праглынуць халодны камяк, што захрас у горле. — Ён ужо, відаць, сочыць за намі.

— Ну тады і я не пайду, — задышліва гамзае ленінградзец.

Надаўшы голасу Мішкаву інтанацыю, сіплю:

— Сцыш?

— Хто, я?! — з жарсцю прамаўляе суразмоўца і, плюнуўшы, як перад бойкай, на далонь, ідзе да царквы.

Каля праломіны задавака спыняецца, зазірае ў чорную зеўру, і цюпае — павольна, на цырлах, водзячы рукамі, быццам спрабуючы злавіць некага ў цемры.

На ўсякі выпадак адыходжу метраў на дзесяць, і ў гэты момант у царкве штосьці грукоча, нехта з глухім рэхам вохкае, і ўсе зыкі пакрывае капытлівы тупат. Вылецеўшы з пралому, ленінградзец неяк дзіўна на мяне зыркае, нібыта ўпершыню ўбачыўшы, і, ні слова не сказаўшы, бяжыць па бальшаку ў бок Азярышча. Неўзабаве з праломіны выкульваецца сябрук. Ён дыбае сагнуўшыся, цiснучы да лабешніка скамечаны піянерскі гальштук.

— Што з табой? — мармычу, угледзеўшы на Мішкавай шчацэ рухавую кроплю крыві.

— Камень шпурнуў. З перапуду.

Небарака выцірае гальштукам разбітую лабаціну. Сябар і сапраўды падобны на чырвонага чалавека. Увесь твар у крыві.

— Дзе ён? — небарака сплёўвае крывавую асцу.

— У Азярышча пабег, праз паўгадзіны будзе на месцы, — спрабую я жартаваць (да райцэнтра амаль дваццаць кіламетраў), — а ўбачыўшы чорную рану, уражана прысвістваю: — Добра пачаставаў. Трэба па фельчарку бегчы. Так што ідзі да амбулаторыі, а я яе зараз прывяду. — І ўжо здалёк крычу: «А дзе ліхтарык?» «У царкве застаўся!» — адгукаецца сябар, і я дакорліва крыўлю вусны.

Раніцай, як толькі маці ідзе даіць карову, выслізгваю з хаты і подбегам шыбую па вільготнай пасля дажджу, спрэс пакрэсленай даўгімі ценямі вуліцы. Ранішняе сонца адбірае вочы, і ў царкве, куды, задыханы, прыбягаю, пануе ўрачыстая ціша, і ўсё наўкол працятае святлом. Міжволі заміраю,

задзіраю голаў і ўтаропліваюся на барадатага святога з аблупленым носам. Той з дакорам глядзіць некуды паўзверх маёй галавы, пагрозліва выставіўшы ўгору два пальцы. «Ёсць нагода дакараць, — думаю, чухаючы патыліцу, — трэба было адгаварыць Мішку і не лезці сюды пасярод ночы».

Ліхтарык ляжыць на кучы друзу. Шкло, зразумела, пабітае. Зморана, аж водгулле пайшло, аддзімаюся, гляджу на святога, і на сцятых вуснах ягоных адбіваецца кволая ўсмешка.

У самай бліжняй да царквы хаце жыве знакамітая на ўсю акругу звяга — цётка Вараніха. На двары шостая раніцы, а да яе ўжо прыбегла з навінамі загадчыца клуба Мандрычыха.

— Дык ідзі ж сюды! — гракае Мандрычыха, наваліўшыся грудзямі на паркан.

Мяркуючы па інтанацыі, загадчыца клуба намерваецца паведаміць нешта надзвычайнае.

— Мішка-бязбацькавіч, пракуда гэты, прыбег ноччу ў амбулаторыю — і галава ўся разбітая, — гукае Мандрычыха. — Вараніха, разявіўшы рот, клыгае да паркана. — А Авадзішын пляменнік — ну той… з Ленінграда прыехаўшы, — уваліўся ў хату, як палатно збялелы. І слова сказаць не можа. Трасецца ўвесь. Авадзіха і вадой замоўленай пырскала, і свечку грамнічную ставіла. А потым да Ваські Бохана пабегла, каб той на трактары ў Балбекі ехаў ды Хадорыху прывёз — пуд загаворваць. А Васька звечара напіўся, так што і з ложка не паднялі.

— Дык і Хадорыха ўжо, кажуць, не падымаецца. Дзевяноста гадоў агорала. Куды ёй на трактары ехаць, — задыхана азываецца Вараніха, і я прыспешваю хаду.

«І падкаснуў нячысцік людзей пужаць. Зараз бы спаў на гарышчы, бяды не ведаючы. І ў Мішкі галава была б цэлая, і пяюн не перапудзіўся, і ў ліхтарыка шкло не трэснула», — думаю я і бязгучна прамаўляю: «А як і сапраўды ашалее? І што тады будзе?»

Я наведаў сябра адвячоркам. Удзень не пайшоў. Не хацеў сустракацца з Мішкавай маці. Бо тая б адразу ўсчала роспыт: дзе мы ўчора цягаліся, і хто Мішку лабешнік рассадзіў. А ўвечары маці ў хаце няма — на ферме завіхаецца.

Напачатку не пазнаў сябра. Галава забінтаваная, а левае вока дарэшты заплыла і не раскрывалася.

— Вось так, — з уздыхам прамовіў сябрук, хацеў парукацца, але я спалохана сцяўся: за спінай рыпнулі завесы, і пачуўся ваяўнічы голас Мішкавай маці:

— Ну… кажы… дзе вы ўчора цягаліся?

Я шморгнуў носам, зірнуў, шукаючы падтрымкі, на сябра, і той няўцямна прабубніў:

— Ды яго там не было.

— Заўтра ж на ранішняй малакавозцы ў Азярышча паедзеш. Хай у бальніцы правераць — што там у цябе. Мо страсенне мазгоў.

— Не паеду, — сябар, па маім прыкладзе, таксама шморгнуў носам.

— Паедзеш, Мішанька, паедзеш, — азвалася з-за перабойкі Нюрка, і маці, падвысіўшы голас, выдыхнула:

— А ты хаця б посуд памыла. Талерак гара стаіць! — Мішкава маці ўсхліпнула, выцерла ражком выцвілай хусткі вочы: — Быў бы бацька, даў бы сечкі — і аднаму, і другому…

Дзверы пад роспачныя ўсхліпы зачыніліся, завісла гнятлівая цішыня і, падалося, нават ходзікі на сценцы сцішыліся і затахкалі напаўсілы.

Нюрка наліла вады ў чыгун.

— Скончыліся, Нюра, канцэрты, — прасіпеў Мішка, — пяюн, як той Марштрупа, заікам стаў. «Што м-мне д-дзелать с-ссс табой і с-ссаб-бой н-наканец…»

Нюрка бразнула вядром, выбегла следам за маці на падворак.

Мы доўга сядзелі моўчкі, напераменку ўздыхалі, урэшце сябар, ні слова не кажучы, кіўнуў на разнасцежанае вакно. Пытаўся такім чынам: ці чуў я што пра ленінградца?

— А як папраўдзе пачне заікацца? — прамовіў я, разглядаючы апухлае Мішкава вока.

— Заіканне — лухта. Яно лёгка лекуецца. Дастаткова даць кулаком між лапатак — і ўсё стане на месца. Вось каб зусім не звар’яцеў, — Мішка знянацку наструньваецца, уздымае, як барадаты святы, два пальцы ўгору.

Знадворку, ля Авадзішынай хаты, засмяяліся, ударылі па струнах, дрогкім голасам заспявалі.

Жывы! Здаровы! І, відаць, не звар'яцелы!

— Бесконечной тоски обрывается пряжа, — спявае госць з Піцера, мы з Мішкам вытыркаемся па пояс з вакна і, не згаворваючыся, на ўсе застаўкі падпяваем: — Як цябе адшука-аць, дарагая прапажа?!

# ХАЛХІНГОЛКА

Прымацаваўшы падшлемнік, Кастан нацубіў каску на галаву, падышоў да люстра і не пазнаў сябе. На яго глядзеў істапраўны эсэсавец. Дарма, што замест чорнага мундзіра на ім была саколка з выявай Мікі Маўса. Адкінуўшыся крыху назад, Кастан пстрыкнуў пальцам па металу і пачуў глухі зык. Штальхельм М-40. Шэсцьдзясят гадоў на гарышчы адваляўся. Працёр шчаўевай кіслатой — і стаў як навюткі. Можна было не фарбаваць.

Кастан задаволена пацёр рукі, паставіў «штальхельм» на паліцу, поруч з шыхтом адноўленых нямецкіх касак, і злёгку спахмурнеў. Трэба выпраўляцца ў Маскву, а ехаць не хацелася. Свойчас каскі сплаўлялі на «Беларусьфільм». Грошы там плацілі невялікія, затое не трэба за свет перціся. Але цяпер кінастудыя фільмы пра партызан не здымала, таму і даводзілася збываць адрэстаўраваны рыштунак у Маскве ды Піцеры.

У кішэні перапэцканых фарбай і прапаленых кіслатой штаноў казытліва зумкнуў мабільнік. Хтосьці «кідаў глушца» — набіраў нумар і адразу ж адключаўся. Кастан дастаў тэлефон, зірнуў на асветлены экран. Зрэшты, ён і так ведаў: званілі мальцы з Ясіновікаў.

— Ты, Дадон? — параселым голасам выгукнуў Кастан і адкерхаўся. — Ну, што там, дакладвай.

— Шэф, Сява нямецкі крыж падняў, — ясіновікаўцы мелі звычку называць Кастана шэфам, — у жалезным футарале.

— Першага ці другога класа?

— … яго ведае, — мацюкнуўся ў адказ Дадон і пасля паўзы дадаў: — А я медаль падняў. Здаецца, срэбны.

— І што на ім напісана?

— Штосьці па-нямецку… не разабраць. А на самім медалі нейкія вароты, ці нешта такое…

— Відаць, «За ўзяцце Парыжа», — прамармытаў шэф.

— Учора гузікаў дзясятак паднялі, пару жэтонаў…

— Ладна, не па тэлефоне, — абарваў шэф суразмоўцу. — Папярэдзь Сяву: у нядзелю аб адзінаццатай буду ў вас.

Адкапаным у зямлі хломаздам Кастан займаўся на пару з братам. Братан насіў дзіўнае імя Лаўрысцін і быў інвалідам: служыў у Афгане, і на самым пачатку службы ўзбіўся на душманскую міну. Небараку адарвала ступак на правай назе, і дахаты ён вярнуўся на мыліцах. Добра яшчэ, бацька іхны працаваў інжынерам на гадзіннікавым заводзе. Уладкаваў у свой цэх гравёрам. Там Лаўрык і набіў руку, і пасля таго як завод загавеў душою, зладзіў у бацькавым гаражы саматужную майстэрню. Рамантаваў гадзіннікі, літаваў старыя мядніцы, даводзілася нават царкоўнае начынне рэстаўраваць. А аднойчы ехалі на машыне і ўбачылі ў прыдарожнай канаве ржавую нямецкую каску. Кастан яе і прыхапіў, прапанаваўшы брату давесці да ладу. Лаўрык спачатку адмахнуўся, але потым знайшоў пацёхканы атлас з намаляванымі каскамі ды ўзяўся за працу. Першы «штальхельм» атрымаўся — вачэй не адвесці. Як новы. З падшлемнікам, рэменем і эсэсаўскай познамкай на баку. Здалі аднаму паляку за добрыя бабкі. А наступным днём, ад самай раніцы, Кастан завёў свой «Мерседэс» і паехаў па навакольных вёсках шукаць тыя самыя каскі. Набываў у дзятвы за шакаладзіну, ці ў мужыкоў за пляшку «чарніла». А неўзабаве падбіў мясцовых п’яніц на «археалогію» — здзірванелыя траншэі ды нямецкія могілкі раскопваць. Братан тым часам налаўчыўся варожыя рэгаліі аднаўляць, а затым і падробкі стаў гнаць: падрабляў алюмініевыя спражкі. І так спраўна, што адмыслоўцы не маглі падкапацца. Толькі на Ізмайлаўскім кірмашы падышоў адзін сівагаловы дзядзька, глянуў праз павелічальнае шкло на спражку і з уздыхам прамовіў: «Фуфло».

«Пад сядлом» у іх было пяць чорных капальнікаў. Сява з Дадонам, якія жылі ў вёсцы Ясіновікі, самыя актыўныя. У трох кіламетрах ад Ясіновікаў ваеннай парой месціўся нямецкі палявы лазарэт, поруч пахаванні, так што мальцам было дзе разгарнуцца. Сява з Дадонам за пляшку гарэлкі гатовыя ўвесь Азярышчанскі раён перакапаць. Надоечы ля руінаў царквы папоркаліся. Раскапалі сярод ночы магілу святара і срэбны крыж паднялі. Сярэдзіна дзевятнаццатага стагоддзя! А галоўнае, выдатна захаваўся. Эмаль, праўда, сям-там аблупілася. Звычайна Кастан усе знаходкі аддаваў Лаўрыку, а вось крыж вырашыў занікаць. Такія рэчы ў Маскве і без рэстаўрацыі возьмуць.

Менавіта пра крыж і думаў Кастан, едучы нядзельным ранкам у Ясіновікі. А яшчэ маракаваў — ці не занікаць заадно і Жалезны крыж, які знайшлі ясіновіцкія «археолагі». Калі ў добрым стане, можна таксама без рэстаўрацыі здаць. Праўда, кошты на іх апошнім часам збілі: фуфлагоны налаўчыліся, падрабляюць.

Кастан быў у гуморы, і толькі адно псавала настрой: яго абганялі нат нямоглыя «Жыгулі». Ды і не дзіва: дабіў машыну на вясковых праселіцах, і з яе больш за дзевяноста кіламетраў не выціснеш.

«“Бабкі” за крыж дадому не павязу. Пакладу ў маскоўскі банк. На чорны дзень», — падумаў Кастан якраз у той момант, калі звонку паўстаў дарожны ўказальнік з надпісам «Ясіновікі 5». «Мерс» скаціўся з асфальту, наехаў з разгону на калдабан, і летуценныя думкі вылецелі з галавы.

У саму вёску заязджаць не стаў: загнаў машыну ў прыдарожныя кусты. Не хацелася лішні раз патрапляць на вочы вяскоўцам.

Па старой завядзёнцы ён сустракаўся з «падначаленымі» на ўскраіне вёскі — каля лазні крайняй ясіновіцкай хаты. Разгоністым крокам Кастан рушыў у бок лазні і здалёк убачыў Дадона — мядзведжага выгляду боўдзілу з гламаздаватым, бобрыкам стрыжаным кумпалам. Аднак ягонага напарніка Сявы — хударлявага, з даўгімі папоўскімі пэцаламі, — не было бачна. Кастан называў яго айцом Яўлампіем — у го-

нар папа, якому Лаўрык зрабіў кадзіла, і які замест таго, каб заплаціць за працу, перахрысціў майстра і гамзата праспяваў: «И воздастся нам за грехи наши».

— Дзе Сява? — запытаўся шэф, калі яны парукаліся. — Зноў напіўся?

Дадон вінавата шморгнуў носам.

— Ну а дзе тавар? — у голасе Кастанавым прагучалі ноткі незадавальнення.

Кампаньён з задуменнай павольнасцю, нібыта шукаючы сярод травы той самы тавар, панурыў буркалы, не зусім цвяроза пралепятаў:

— Нічога няма, шэф. Учора ўсё здалі.

— Здалі? Каму? — гэтым разам у голасе шэфавым гучала лёгкая паніка.

— Каму-каму… бандосам, — паныла азваўся суразмоўца. — Прыехалі на джыпе з маскоўскімі нумарамі. У іх, відаць, і пісталеты за пазухай. Як тут не здасі.

Галава ў Кастана закружылася, а ў вушах нарадзіўся замарачны шум.

— А як на вас выйшлі?

— Ды Сява патэлефанаваў па аб’яве. Аб’ява была ў газеце: «Набываем старыя рэчы». А на тэлефоне іхны чалавек сядзеў. Вось і заявіліся.

— Хана табе, айцец Яўлампій! — Кастан выцяў кулаком па далоні, і Дадон, азірнуўшыся, сцішана прамармытаў:

— Яшчэ невядома, каму хана. Сява ім пра крыж расказаў. Ну… які ля царквы адкапалі. Так што і табой зацікавіліся. Зараз па раёне гойсаюць. Цяпер у Азярышча паехалі некага трэсці.

Заклаўшы рукі за спіну, шэф нервовым крокам, як Ленін у кастрычніку, прайшоўся да лазні і вярнуўся назад. Надарылася тое, чаго яны з братам заўсёды баяліся: расейскія бандосы вырашылі накласці лапу на іх бізнес.

— І што, усё забралі? — спытаў, нарэшце, Кастан, прычым проста так, каб нечым заняць самлелы язык.

— Халхінголка засталася. У маёй цёткі на печцы ляжыць. Даўно хачу аддаць, ды ўсё забываю.

Халхінголка, даваенная, падобная на пажарную, каска з грэбенем на макаўцы, сустракалася даволі рэдка. Сталь тонкая, іржа раз'ядала яе хутка. Толькі адну і знайшлі. Старая бабця ў ёй герань гадавала. Аніяк не хацела аддаваць. Гэта ўжо калі гаршчок прывезлі з дэкаратыўным кашпо, — тады аддала.

Кастан шыбаваў як ветрам гнаны, ловячы ліхаманкавым позіркам рухавыя мыскі сваіх зношаных чаравікаў і маракуючы — як адбіцца ад масквічоў.

— Гэта ўсё Сява, — прабачальным тонам мармытаў Дадон, паспяваючы за шэфам. — Цэлы год скуголіў, што ты нам не даплачваеш.

— Ну а бандосіны хоць заплацілі?

— Заплацілі! Далярамі! — жвава адгукнуўся Дадон.

— Заплаці-ілі… даля-арамі… — перадражніў суразмоўцу Кастан. — Замятуць каля абменніка, тады мяне згадаеце. Баксы, няйначай, фальшывыя.

— Ды я ніжэй травы… Сява шукае прыгод. Кажу яму: сядзім ціха, а то і папраўдзе замятуць за тыя раскопкі. Днямі ўчастковы з Азярышча прыязджаў. Пытаўся — хто ля царквы поркаўся.

Дадонава балбатня не давала засяродзіцца на ўласных думках, таму шэф скрывеліўся, і далей ішлі моўчкі.

Хата, у якую ўбіліся, была беднай і цёмнай. Гаспадыня — сухарлявая, падобная на мумію, бабуля — ляжала на ложку і нават не зварухнулася, пабачыўшы гасцей.

— Восемдзесят сем стукнула, — паведаміў пляменнік, кіўнуўшы на цётку. — Мой бацька маладзейшы, а немаведама калі памёр, а гэтая ўсё вохкае ды свет смуродзіць.

Госць дакорліва перакрывіўся, маўляў, не варта казаць такое пра родных людзей, і суразмоўнік з вясёлым смяшком патлумачыў:

— Ды яна як пень глухая. Нездарма Цяцеркай клічуць. Чуе толькі, як у вуха гракнеш.

Узлезшы на ўслон, Дадон пашнарыў рукой на печы і выцягнуў прапыленую каску. Дзьмухнуў на яе, чхнуў і стаў хуценька мыць пад рукамыйнікам.

Халхінголка лагодзіла позірк. Нават падшлемнік захаваўся. Адно тканіна спарахнела. Кастан правёў мезенцам па грэбені — фарба ў тым месцы крыху аблезла.

— З вайны на печы валяецца, — кампаньён пачухаў стрыжаную макаўку ў спадзеўцы адразу ж атрымаць грошы за тавар.

— А хто яе туды паклаў?

Дадон перахапіў каску, падышоў да ложка і, пастукаўшы па халхінголцы косткамі пальцаў, крыкнуў цётухне на вуха:

— Тут чалавек прыйшоў. Пытаецца — хто каску на печку закінуў?

Цётухна адарвала галаву ад падушкі, улякнута глянула на госця.

— Йоп… каска, кажу… — пляменнік пхнуў халхінголку цётухне пад нос, — адкуль узялася?

— Дык гэта ж шапка такая жалезная. Салдаты насілі, — зацкавана азвалася старая.

— А хто яе вам даў? — гракнуў плямяш, ды так, што ў Кастана зазвінела ўвушшу.

— Галапупенка. Акружэнец. Аднекуль з Украіны. Прыбіўся да маткі. Амаль два гады ў нас жыў. А потым ноччу партызаны прыйшлі. Кажуць: альбо ідзеш з намі, альбо мы цябе прыстрэлім. Ну і пайшоў. Матка па ім усю ноч галасіла. І шапку жалезную ўсё жыццё берагла, думала, прымак вернецца.

— А як ён да вас прыбіўся? — запытаўся госць, і Дадон гучна паўтарыў пытанне.

— Ды як… вайна пачалася, міма нашай хаты салдаты ішлі… чырвонаармейцы. Страшныя, галодныя… Галапупенка гэты да нас і забег. Есці папрасіў. Матка ўзялася яму абед гатаваць, а той як стаяў, так і грымнуў на падлогу. Думалі, памёр. А ён ад знямогі паваліўся. І як стаў храпці! Аж саганы загулі на чарэні. Мы і тармасілі, і вадой у твар пырскалі — ані ў знак. А недзе пад вечар матацыкл пад вокнамі залескатаў. Тут ён і прыхапіўся. Кінуўся да вакна, а на двары, ля калодзежа, немцы мыюцца. Памыліся і, па пояс голыя, да хаты пасунулі.

А Галапупенка з перапуду ў падмосце сігануў. Заўжды потым там хаваўся, як немцы прыязджалі.

— Ну а што немцы? — разам выдыхнулі кампаньёны.

— Хадзілі з кута ў кут, усё рукамі мацалі ды галовамі ківалі. І матцы ўсё нешта паказвалі. Б'юць пальцамі па кулаку, гергечуць, а мы стаім, да смерці перапужаныя, і анічога не разумеем. Аказваецца, прасілі ў печы запаліць ды вады нагрэць — пагаліцца хацелі. Матка ім чыгунок і нагрэла. Пагаліліся, значыцца, з'елі па бляшанцы тушонкі і гарбату сталі піць. І такое ў іх было смакоцце пад гарбату! Топленае масла з мёдам перамяшанае. І нам далі пакаштаваць… — старая відавочна ўзрадавалася, што знайшліся ахвочыя паслухаць ейныя байкі, таму, перавёўшы дых, працягвала. — А праз месяц другі салдат прыбіўся. Прозвішча ўжо і не памятаю. Дужа спрытна на гармоніку граў. Дзеўкі на вячоркі з усяго наваколля збіраліся паслухаць. Гарманіст, праўда, у нас нядоўга жыў. Прыйшлі партызаны і таксама загадалі з імі ісці, а той адмовіўся. Яны яго і застрэлілі. І гармонік забралі…

«Ну і ваякі, — падумаў Кастан, слухаючы старэчую балбатню, — адзін у падвале сядзеў, другі на гармоніку пілікаў».

За тонкай перабойкай, якая аддзяляла кухню ад святліцы, засквірчэла яечня. Дадон завіхаўся, даючы зразумець, што закусон ужо гатуецца, а грошай на бутэльку дагэтуль не атрымаў.

Кастан агледзеў халхінголку з усіх бакоў. Каска нагадвала нямецкую. Нездарма ў дзяцінстве, калі глядзелі «кіны», знятыя падчас вайны ў Алма-Аце, увесь час спрачаліся — каго паказваюць на экране: нашых ці немцаў. Бо ў «нашых» на галовах былі халхінголкі. Уздыхнуўшы, ляпнуў далонямі па сцёгнах, згадваючы, у якой кішэні ляжалі грошы, ды так і замёр у нерухомасці. Пад вакном, узняўшы воблака пылу, спыніўся серабрысты «Чэрокі», з якога выйшлі тры бамбізы ў скуранках.

— Яны! — выдыхнуў Дадон, і шэф рашуча, нібыта рыхтуючыся да бою, насунуў на голаў каску.

Кастан матлянуўся да парога, але быў схоплены за рукаво.

— Позна, — пралепятаў Дадон.

Сагнаўшы нагой даматканую дарожку, кампаньён з задышлівым краканнем узняў люк.

— Сюды!

Папярочына лесвіцы глуха трэснула, і Кастан паляцеў долу, стукнуўшыся патыліцай аб штосьці цаглянае. І хаця на галаве была каска, яго добра-такі аглушыла. Сэрца парывіста білася, глухім звонам адбіваючыся ў вушах. У падмосці панавала апраметная цемра, пранізліва пахла гнілой бульбай і не хапала паветра. Тым часам рыпнулі масніцы — па іх нехта капытліва прайшоўся. Галасы гучалі глуха, няўцямна, і немагчыма было разабраць аніводнага слова.

«Сяджу тут, як Галапупенка, — Кастан рашуча заміргаў вачыма: веі ад вільгаці заліпалі быццам на марозе, — той ад акупантаў хаваўся, цяпер і мне давялося. А гэтыя акупанты страшней ад нямецкіх. Бач ты… гойсаюць нібыта ў сябе дома. Хахлы б ім даўно далі выспятку, а нашы людзі і пікнуць баяцца», — халодны страх у душы паволі саступаў месца палкаму абурэнню.

Грукатлівыя крокі аціхлі. Кастан наструніўся, спадзеючыся, што люк адчыніцца, ды той не адчыняўся.

«Але ж як яны на мяне выйшлі?» — мільганула гарачкавая думка, і ў свядомасці ўзнік кудлаты Сява.

— Яшчэ з табой, кудла, сустрэнемся, — уголас прасіпеў Кастан, і люк з гнятлівым рыпам прыўзняўся.

— Сказаў, што ты да машыны пабег, — выдаў Дадон, дапамагаючы шэфу выбрацца са спрату.

Хвіліну шэф парывіста дыхаў, рушыў да дзвярэй, а ўзяўшыся за клямку, схамянуўся, запусціў руку ў кішэнь і, скамячыўшы колькі цупкіх паперак, тыцнуў іх у Дадонаву далонь.

Кастан бег, убіўшы, як падчас артабстрэлу, галаву ў плечы, а падляцеўшы да машыны, пастукаў нагой па колах — бандосы маглі пракалоць скаты. Зморана налёг на стырно і толькі тады адчуў на макаўцы цяжар. Ён зняў каску, кінуў на сядзенне, крутнуў нягнуткімі пальцамі ключ запальвання. Нага рашуча прытапіла понаж газу, «Мерс» тузануўся, выехаў на дарогу, і ў тое ж імгненне з-за прыдарожных кустоў яму

напярэймы вынырнуў серабрысты джып. Сэрца абарвалася, і рука машынальна паляпала па цёплай паверхні «халхінгоркі». Маўляў, не хвалюйся, прарвёмся.

Першым з джыпа выскачыў Сява. Той і сапраўды быў падобны на айца Яўлампія. І прыпадаў, як поп, на левую нагу. Кастан ізноў паляпаў па касцы, і з усведамленнем таго, што яго зараз будуць біць, вылез з машыны.

# ЦІТАВЕЦ

— Сляпая, гнятлівая цемра апанавала Бялград. Места як вымерла, і толькі на пляцы Тэразіе, дзе гарыць адзіны на ўвесь горад ліхтар, ды ля галоўнага вакзала ківаюцца постаці амерыканскіх ваяк. Янкі ледзь трымаюцца на нагах, гарлаюць п’яныя песні, і бялградскія паліцэйскія, пабачыўшы заакіянскіх гуляк, лісліва выструньваюцца і прыкладаюць далоні да скроняў…

Напорлівы, па-восеньскаму каляны халадок струменіў праз незакітаванае вакно, казытліва свідруючы стрыжаную патыліцу. Макар шморгаў носам, абдымаў грубку і прыслухоўваўся: адным вухам да гуду ў коміне, а другім да гугнявага голасу, што вырываўся з рэпрадуктара. Надарваная, а таму і гугнявая папяровая талерка голасам дыктаркі Вольгі Высоцкай апавядала пра югаслаўскіх фашыстаў і амерыканскіх жаўнераў, якія, упіўшыся «Кока-колай», блукалі па бялградскіх вуліцах у пошуку самадаек. Скавытанне ветру і аповеды пра цітаўцаў — кожнага разу, пачуўшы слова «цітавец», Макар уздрыгваў — мярцвілі дух і вярэдзілі сэрца.

— У-у-ых, — гуў вецер у коміне. — Та-та-та, — ляскатала шыберная засланка. — Што ж сабой уяўляе бялградская кліка? Што за людзі згуртаваліся вакол Ціта? — азывалася Вольга Высоцкая, і сэрца ад тых слоў і зыкаў штохвілі спынялася, а потым білася ўпоравень з дробным ляcканнем юшкі.

Гусцеў змрок. Трэба распальваць керагаз, грэць гарбату, але Макар не варушыўся. Стаяў, абхапіўшы рукамі печ, слухаў радыёкропку і з хваравітай зацятасцю, каторым ужо разам, мадэляваў у свядомасці свой візіт у міліцыю.

— Адной з самых каларытных асобаў цітаўскага атачэння з'яўляецца, безумоўна, Мілаван Джылас. Гэты прайдзісвет са студэнцкіх часінаў аказваў паслугі каралеўскай паліцыі. Сын жандарскага капітана, ён часцяком бегаў у бліжэйшы пастарунак са спісамі нядобранадзейных студэнтаў, ну а сёння, убіўшыся на службу да Ціта, займеў лаўры югаслаўскага Гебельса. Зрэшты, перад гаспадаром наваспечаны Гебельс бегае на цырлах, аднак баіцца ён не толькі гаспадара, але і Ранкавіча. А ўсё з-за сваёй жонкі, Мітры Мітравіч, якая гэтак жа спрытна падманвае мужа, як Мілаван падманвае югаслаўскі народ, і якую колькі разоў бачылі ў ранкавіцкіх абдымках…

Начальнік пашпартнага стала ўяўляўся плячыстым, гладка паголеным, суворым з выгляду мужчынам з чырвонымі і жоўтымі лычкамі ранення на кіцелі. Міліцэйскі начальнік выплываў аднекуль з сутонлівых глыбінь, клаў на Макараву спіну цяжкую далонь і, паведаміўшы, што ён, Макар, нагадвае яму забітага на вайне сына, прапаноўваў узяць сваё прозвішча. Стоячы з заплюшчанымі вачыма, Макар, здавалася, адчуваў цяжар начальніцкай рукі, і ў носе свярбела ад млявага паху «Шыпру», якім — так, прынамсі, лічыў Макар — мусіў асвяжаць твар міліцэйскі начальнік.

У паветры запахла цырульняй. Макар размежыў павекі, спрабуючы ўцяміць, адкуль з'явіўся гэты пах, — доўга, з ашклянелай зацятасцю, глядзеў на маленькага мураша, які поўз па грубцы перад самым носам, а калі на калідоры затупалі, павярнуў галаву і спалохана глянуў на дзверы…

У манастырскай келлі, дзе ён жыў на пару з капітанам медслужбы Івановым, таксама стаяла грубка. Толькі не круглая, а квадратная, выкладзеная дыхтоўнай зялёнай кахляй. Палілася яна з іншага пакоя, дзе быў кабінет начальніка шпіталя, і з ранку яе націплялі так, што даводзілася адчыняць фортку, і ў келлю белай аблачынкай убіваўся мароз. Звечара печ астывала, і яны круціліся з Івановым на лежаках, чакаючы, калі за сценкай рыпнуць масніцы і на падлогу з сонным грукатам упадзе абярэмак дроваў. За тонкай, збітай з сасновых аполкаў

перагародкай, такім часам завіхалася зямлячка Ія — маленькая, непрыгожая з твару дзяўчына. Ія звычайна дзяжурыла ў ноч, і прыканцы дзяжурства, дакладна а пятай гадзіне, распальвала грубку.

Сонны грукат і рыпенне масніц уеліся ў памяць, не давалі спакою, і да гэтай пары Макар часта прачынаўся сярод ночы і доўга не мог заснуць, а калі ўрэшце засынаў, дык ізноў вяртаўся ў халодную келлю, і слых поўніўся знаёмымі зыкамі: грукатам палення, цяжкім сапеннем суседа па келлі, шумам ветру, і суворы Хрыстос, чыё аблічча прабілася скрозь пабелку, паглядаў з прыцемку, сцвярджаючы, што Ён ёсць, што Ён заўсёды быў, хай і замазаны да часу слоем шарага тынку.

Пасля таго, як Ія запаляла ў печы, яшчэ гадзінку можна было спаць, і сон прыходзіў светлы і ціхамірны, прыпраўлены салодкай асцою, якая забягала ў вушы. І не чуў Макар, як на калідоры стукалі мыліцы — першыя раненыя ўжо ішлі на перавязку, — як Ія, па старой звычцы, ляпала ў дзверы далонню, і абуджаўся толькі тады, як Іваноў, кашлянуўшы спрасонку, сцягваў з яго коўдру і гучна прамаўляў:

— Уставайце, сір, вас чакаюць вялікія справы!

Яны спехам, пацепваючыся ад халадэчы, адзяваліся, пырскалі на твары сцюдзёнай вадой з цэбра, і начальнік шпіталя, сівагаловы дзядок Прыбышэўскі, гукаў з-за дашчанай перабойкі:

— Не расплюхвайце, уначы спатрэбіцца.

— Хутка ў труну, а ўсё жартуе, — сцішана выдыхаў капітан і насупліваў бровы: калі на станцыю прыбываў цягнік з раненымі, хірургі мусілі дзень да ночы стаяць ля аперацыйных сталоў і, каб пазбыцца соннай замарачы, раз-пораз панурвалі галовы ў цэбар з халадзёнкай.

Капітана Іванова перакінулі да іх у кастрычніку сорак чацвёртага, з Сарапульскага шпіталя. Гэта быў ладны, заўжды шчыгульна паголены мужчына сарака гадоў, якога адразу ж пакахалі маладыя медсёстры, і пра якога сталі апавядаць розныя неверагодныя рэчы. Казалі, прыкладам, што ён зарэзаў падчас аперацыі нейкага палкоўніка. І не выпадкова, а наўмысна: палкоўнік, па чутках, кінуў на полі бою палёвы

шпіталь, і раненыя зазналі страшную смерць пад гусеніцамі нямецкіх танкаў. Медсёстры ж пляткарылі, што ад капітана на Керчанскім плацдарме зацяжаралі дзве санінструктаршы, і ад штрафбату яго, нібыта, ўратаваў акадэмік Бурдэнка.

Сам капітан пра свае франтавыя прыгоды ніколі не расказваў, і толькі аднойчы, калі яны, тры хірургі ды пяцёра фельчараў, абмывалі вызваленне Лодзі, згадаў, як выносіў з акружэння свайго параненага сябра, з якім працаваў да вайны ў нейрахірургічным інстытуце. Пачуўшы такое, усе пераглянуліся: інстытутам кіраваў той самы акадэмік, і плёткі пра знаёмства капітана з Галоўным хірургам Чырвонай Арміі былі падобныя да праўды.

Спецыялістам Іваноў быў фаховым. Рабіў самыя складаныя аперацыі, прычым уласным інструментам, які прывёз з Сарапула. І калі са стала бясследна знік скальпель — трафейны, з цёмнай золінгенаўскай сталі, — цэлы тыдзень хадзіў пануры і ні з кім не размаўляў. А яшчэ любіў чытаць. Увечары, падсунуўшы пад вуха цьмяную газніцу, разгортваў «Ваенна-медыцынскі часопіс» і так, з часопісам у руках, засынаў. Час ад часу, пасля цяжкіх аперацый, сусед штосьці пісаў у сшытку, і калі Макар пацікавіўся — пра што той піша, пакаёвец з неахвотаю прабурчаў:

— Бульбатамію распрацоўваем.

— Што-небудзь наконт бульбы? — перапытаў Макар, і капітан, які дагэтуль рэдка ўсміхаўся, разняволена зарагатаў:

— Не крыўдуй, калега, але бульбай тут і не пахне. Бульбатамія — медычны тэрмін, які азначае аперацыю ў верхнім аддзеле спіннога мозгу.

Макар не крыўдаваў. Ды ён і не мог крыўдаваць, бо капітан уяўляўся яму чалавекам з іншага, дарэшты загадкавага свету, і, казелячы вокам на суседа, прагнуў вывучыцца на хірурга, заняцца распрацоўкай бульбатаміі, лавіць закаханыя погляды медсясцёр і называць фельчараў паблажлівым словам «калегі».

Аднойчы, напачатку траўня, яны глынулі спірытусу, прабалбаталі да рання, і капітан перад тым, як кульнуцца на бок, прамовіў:

— Колькі людзей пабіла… Страшна падумаць. А ўсё з чаго? З таго, што генералы Сталіна і яго загадаў баяцца. «Узяць горад на 1 траўня!» Вось і кідаюць салдат на забой.

Макар, уражаны такімі словамі, зацкавана паглядзеў на Хрыста. І Збаўца, ледзь бачны ў ранішнім змроку, пагрозліва зварухнуў узнятым пальцам. Страхотлівыя думкі заварушыліся ў галаве. Макар перавёў позірк на дашчаную перабойку і замёр без дыху. Яму здалося, што там, пад столлю, у дзірцы ад выбітага сучка, міргнула чыёсьці пукатае вока.

На наступным тыдні суседа арыштавалі. Тае ночы Макар ездзіў на станцыю, прымаў санітарны цягнік з фронту, а калі вярнуўся, стрэў на манастырскім ганку ўстурбаванага Прыбышэўскага і спалатнелую зямлячку.

— Цябе пытаюцца…— прамармытаў дзядок Прыбышэўскі і, не ведаючы, чым заняць дрогкія рукі, стаў праціраць шкельцы акуляраў.

У келлі панаваў вэрхал. Капітанава тумбачка стаяла расчыненая, тут жа валялася фібравая валіза, у якой капітан захоўваў хірургічны інструмент, а падлога была засыпана саламянай пацярухай з парэзаных сеннікоў.

На ягоным тапчане сядзеў, прыхінуўшыся спінай да сцяны, нехта ў даўгім шынялі і штосьці пісаў у блакноце.

— Вашае прозвішча, імя, імя па бацьку…

Чалавек у шынялі задаваў пытанні, не адрываючыся ад пісаніны, і толькі спытаўшы — ці не даваў Іваноў якой літаратуры, — сувора зыркнуў на Макара.

З келлі Макар выйшаў, не адчуваючы пад сабой ног. Выпіў нагбом мензурку брому, якую падала Ія, і цэлы дзень ляжаў хворы. І ў гарачкавым трызненні яму мроіўся Хрыстос з узнятым угору пальцам, і капітан Іваноў, які, бліскаючы бельмамі вачэй, пхаў яму за пазуху страхотліва-чорныя кнігі…

Барак скалануўся ад тупату: гэта вярнуліся з працы суседзі з дзявятага пакоя. «Трэба нагрэць гарбаты», — Макар пашукаў вачамі чайнік, але ад грубкі так і не адкаснуўся. Папяровая талерка тым часам загаварыла голасам Юрыя Левітана.

— Вакол Ціта сабралася шмат рознай свалаты, але ўсе яны выглядаюць сапраўднымі анёламі ў параўнанні з Ранкавічам. Гэты кат югаслаўскага народа з 1935 года знаходзіўся на ўтрыманні каралеўскай паліцыі і гэта пры дапамозе Ранкавіча паліцыі ўдалося знішчыць блізу ста партыйных кіраўнікоў. Ну а калі краіну акупавалі гітлераўцы, гэты палітычны правакатар стаў служыць гестапа. Менавіта гестапаўцы арганізавалі ўлетку 1941 года ўцёкі Ранкавіча з бялградскай турэмнай бальніцы. Накіраваўшы свайго паслугача ў цітаўскі штаб, немцы спадзяваліся мець там свайго чалавека, але пралічыліся. У самы прыпар вайны Ранкавіч апынуўся ў Егіпце, і калі югаслаўскі народ праліваў кроў у змаганні з фашыстоўскай навалай, піў чэры-брэндзі са сваімі новымі гаспадарамі — агентамі англа-амерыканскай выведкі…

Уваходныя дзверы зноўку бразнулі, пачуліся асцярожныя крокі, і Макар адхінуўся ад печы. Ішла жанчына, бо падлога не рыпела пад нагамі і рэха крокаў згасала, не паспеўшы нарадзіцца. «Да Серады», — падумаў Макар і плюхнуў вады ў чайнік…

Вада на керагазе хутка закіпела, і пакарабачаны, знойдзены на пажарышчы і адшараваны да металёвага бляску чайнік далучыў сваё аднастайнае сіпенне да дзяржаўнага левітанаўскага барытону.

— Эдуард Кардэль шмат ведае пра гаспадара — пэўны час яны з Ціта нават спалі на адной кашме, — і ў той жа час страшэнна яго баіцца. Гэты дэгенерат добра ведае расейскую мову: да вайны пару гадоў жыў у Маскве, куды яго паслаў трацкіст Горкіч, былы сакратар югаслаўскай кампартыі.

У вайну быў сувязным начальніка гестапа Славенскага Прымор’я, дапамог немцам выявіць і знішчыць тры партызанскія штабы на тэрыторыі Славеніі. Па сваіх перакананнях Кардэль анарха-сіндыкаліст і палкі прыхільнік Ніцшэ.

Вятрыска ўдарыў у шыбу, загуў на розныя лады, грукатліва пракаціўся па даху. Чайнік пакінуў сіпець, з дакучлівай жарсцю заляскатаў накрыўкай, а Макар, які кагадзе сцепануўся ад любога зыку, сядзеў на краю ўслона — скурчаны, прыгаломшаны, сціснуты з усіх бакоў барачнымі сценамі, —

невідушча пазіраў на парны струмень, які са свістам свідраваў панылы прыцемак, і ў посвісце тым яму мроіўся голас трацкіста Горкіча:

— Давай, Макарка, едзь у Маскву. Абжывіся, убіся ў давер да Дзімітрава. Нічым сябе не выяўляй і, галоўнае, вывучай расейскую мову. Хутка ты нам спатрэбішся.

«Навошта ж яе вывучаць? І так добра ведаю», — хацеў сказаць Макар, ды ў гэты момант у пакой уваліліся Лазюк з Каландзёнкам.

Лазюк бліснуў касаватым вокам — выпіў, відаць, у сталоўцы кухаль піва, — выцер аб мокрую анучу, якая ляжала ля парога, брудныя кірзачы і, наструніўшы слых, кіўнуў у бок рэпрадуктара:

— Чуеш, цітавец? Пра тваіх расказваюць.

— У імперыялістычную вайну — гугніў рэпрадуктар, — фюрэр югаслаўскіх фашыстаў ваяваў на Карпацкім фронце, але, ратуючы сваю шкуру, дэзерціраваў з аўстрыйскага войска і атабарыўся ў Заходняй Сібіры. У Сібіры ён спакусіў рускую дзяўчыну, потым збег у Маскву, дзе знюхаўся з трацкістам Бела Кунам і пачаў падрыўную працу ў Камінтэрне…

— Ну і сволач, — мовіў Лазюк, дастаўшы папяросы.

— Першае, што ён зрабіў, калі вярнуўся ў Югаславію — паведаміў дыктатару Франка пра параплаў з добраахвотнікамі, які ішоў у Гішпанію і які, дзякуючы здрадніцтву Ціта, патапіла фашыстоўская авіяцыя.

— Ну і сволач, — паўтарыў Лазюк і пстрыкнуў запалкай. — Патрапіў бы мне гэты фашысцюга, я б яму ўраз кішкі выпусціў.

— Хутчэй пераапранайся, а то спознімся, — прабурчаў Каландзёнак, скінуўшы бахілы, і Макар успомніў: сёння субота, і суседзі па пакоі, не піўшы гарбаты, пабягуць у клуб імя Варашылава, дзе будзе кіно, а потым танцы.

— Больш за ўсё на свеце Ціта любіць віно і жанчын. Прычым, дзеля сваіх уцех ён абірае кабет з буржуазнага асяродку. Так, ягоная апошняя каханка Вольга Нінчыч — дачка былога югаслаўскага міністра Мамчылы Нінчыча. Каб па-

дабацца жанчынам, Ціта шмат увагі надае свайму выгляду і штораніцы выскубвае пінцэтам бялявыя бровы…

— Чуеш, ляпіла, з кім ты звязаўся? — Лазюк плюхнуўся на ложак, узняў правую нагу: — Цягні!

Кроў ударыла ў скроні. Макар парывіста ўстаў, схапіўся за бот рашчаперанымі пальцамі, сцягнуў з лазюковай нагі і перакрывіўся ад смуроду прэлых ануч.

— Другі, — Лазюк падняў другую нагу. Макар паспрабаваў сцягнуць бот, далікатна ўзяўшы халяву шасцю пальцамі, Лазюк пыхнуў папяросай і скрозь зубы працадзіў: — Ручкамі, ручкамі давай…

У жніўні сорак пятага, убіўшыся ў вагон санітарнага цягніка, Макар Цітавец ехаў на Радзіму. За вокнамі плылі бясконцыя слупы і грывасты паравозны дым засціў пераспелае і не надта гарачае сонца. Макар глядзеў на віхурыстыя пасмы, на сонечныя бліскі, якія ляцелі па правадах, і ў свядомасці, як тая кроў у скронях, пульсавала адна і тая ж думка: пачынаецца новае жыццё. І жыццё ўяўлялася вясёлым і бесклапотным.

Наперадзе з трывожным надрывам гуў паравоз, на твар набягаў рухавы цень ад паравознага дыму, і Макар, уздыхнуўшы, успомніў капітана Іванова.

За што ўзялі капітана — ніхто так і не ўведаў. Магчыма, згадалі гісторыю з зарэзаным палкоўнікам, а мо хто з санінструктарш, нарадзіўшы дзіцё, сказала — хто бацька. Зрэшты, арыштоўвалі чэкісты, а тыя займаліся куды больш сур'ёзнымі справамі. Падчас начнога дзяжурства Ія паведаміла пад страшным сакрэтам, што капітан нямецкі шпег, і што на гарышчы знайшлі загорнутую ў прасціну рацыю. Напачатку ў душы пасмяяўся з тых плётак, але ноччу, сотым разам крутнуўшыся з боку на бок, прымроіў капітана, які сядзеў на гарышчы, поруч з расколатым звонам, і спехам адбіваў марзянку. Пры гэтым на рацыі зацята міргала зялёная лямпачка, раз-пораз асвятляючы голенае падбароддзе, і Макар, уражаны такой уявай, прыўзняўся на ложку.

А неўзабаве па шпіталі пайшла пагалоска: хірургаў ды лекараў перакінуць у Чыту, а фельчараў і абслугу адпусцяць па

хатах. Ён не даваў таму веры, ды раптам, падчас ранішняга абходу, дзядок Прыбышэўскі ляпнуў па плячы і з зайздрасцю ў голасе выдыхнуў:

— Усё, Цітавец, можаш выпраўляцца дадому.

І вось, бялёсым жнівеньскім днём сорак пятага, пхнуўшы каму трэба пляшку спірытусу, ён сеў у раздзяўбаны санітарны цягнік і з лёгкай душой выправіўся дахаты. Макару тады падалося — варта адсюль з'ехаць, і на яго ўсе забудуцца. Але, пазіраючы на цень ад паравознага дыму, які ляцеў па кустах, зразумеў: капітанавы цень будзе заўсёды ляцець следам, і сэрца будзе балюча трымцець ад поціску яжовых рукавіц.

Цягнік ішоў да самага Берліна; у Воршы ён мусіў сыходзіць, але праспаў і прачнуўся ўжо калі за вокнамі, паныла і павольна, плылі закурадымленыя менскія руіны.

Была раніца. Налётны ветрык гуляў паперкамі, гнаў па пероне цагляны пыл, бухаў дзвярыма прывакзальнай чайной. Макар завітаў у чайную, выпіў кухаль піва, потым узяў яшчэ два: адзін сабе, другі — аднарукаму інваліду, які стаяў поруч ды горка ўздыхаў. Інвалід, выпіўшы кухаль без перадыху, здаволена выцер вусы:

— Куды едзем?

— У Воршу… думаю сястру адшукаць, — без ахвоты адказаў Макар, — жыла… непадалёку ад вакзала.

— Ці знойдзеш каго, — інвалід скручваў пальцамі адной рукі тоўстую суслу, — там, ля вакзала, каменя на камені не засталося, — і Макар, зразумеўшы, што адным півам іхняя размова не скончыцца, дастаў з рэчмяшка пляшку шпітальнага спірту.

З чайной выкуліліся блізу абеду, і аднарукі танкіст, віснучы на Макаравай шыі, прапанаваў завітаць да свайго брата. Брат працаваў лекарам у медпункце аўтарамонтнага завода.

— Пасля кантузіі рукі дрыжаць — укол зрабіць не можа. Пойдзеш напарнікам, — паведаміў былы танкіст, і калі Макар пачаў казаць нешта пра штатны расклад, інвалід махнуў ацалелай рукой і смачна мацюкнуўся.

На будоўлю аўтарамзавода дабраліся пад вечар, зайшлі ў вялізны намёт, дзе месціўся медпункт, і пачулі незадаволены мужчынскі голас:

— І не прасі — не дам! Ужо інструмент вадой праціраю…

— Ды не плач ты, йоп… Са сваім прыйшлі, — гракнуў у адказ інвалід, і Макар, скінуўшы з пляча рэчмяшок, выцягнуў пляшку спірту, якую збіраўся прыхаваць на чорны дзень.

Такіх пахмурых людзей Макару не даводзілася бачыць. Пакуль распівалі пляшку, інвалідаў брат не сказаў ні слова: сядзеў, утуліўшы голаў у плечы, лыпаў вільготнымі вачыма і раз за разам скручваў самакруткі. Затое былы танкіст гаманіў без супыну: пра тое, як бралі Віцебск, як захраслі на танку ў балоце, і як камандуючы 11-й гвардзейскай арміі пачаставаў яго, простага сяржанта, папяросай.

— Ну што ты, сапраўды, сядзіш як кантужаны, — выгукнуў танкіст, плюснуўшы ў братаву конаўку. — Раскажы чалавеку, як пад Керчу з катэра змыла.

— У Крыму ваявалі? — пацікавіўся Макар.

— Шпіталь там разгортвалі, ды не паспелі… немцы накрылі, — прамовіў сугней, адвёўшы ўбок вочы.

— А вы такога капітана Іванова ведалі? — ляпнуў, не падумаўшы, Макар, і сугней падхапіўся на ногі.

— Лёшу?! Аляксея Іванавіча?! Дзе ты яго бачыў?

Макар уздыхнуў.

— Забралі… у траўні сёлета.

Сугней змарнеў, сплюнуў махорачныя крыхі і разам з пякучым дымам выдыхнуў: «С-сукі».

Назаўтра, пакутуючы з пахмелля, Макар ужо завіхаўся на медпункце: бінтаваў галаву нямецкаму ваеннапалоннаму, якога ахоўнікі ўкінулі, па п’янцы, у бетонамяшалку, і рабіў прышчэпкі прысланым на будоўлю рамеснікам.

Грукнуўшы юхтовым ботам, аж парахня сыпанула з гары, Лазюк зашпіліў палітон, нацубіў на вушы абвіслы капялюш, з натхненнем абвясціў:

— Ну, бляха, гульнём сёння.

Ягоны сябручок Каландзёнак нацягнуў на плечы ватоўку — прыстойнай вопраткай так і не разжыўся, — насунуў на левае вуха кепурку-шасціклінку.

— Гульнёш тут. Вецер з ног валіць, — з парогу буркнуў Каландзёнак і, папляваўшы на далонь, ускудлаціў віхор, які выбіваўся з-пад кепкі.

Макар выключыў радыё, падбег да дзвярэй, убіў кручок у прабой і застыў у нерухомасці.

— Божухна, ну калі гэта скончыцца? — вырвалася з Макаравай грудзіны, і халодны, адчувальны на дотык скразняк, што вырываўся з дзвярной шчыліны, казытнуў пасівелую скронь.

Шэрым восеньскім адвячоркам, прыціснуўшыся лбом да дзвярэй, амаль нябачны сярод брудных ватовак, якія важка віселі на цвіках, стаяў Макар Цітавец і ціха ды журботна паўтараў: «Ну калі… калі гэта скончыцца?»

Два месяцы таму, апошнім летнім днём, у бараку зладзілі бяседу. Нават не бяседу, а так… невялічкую гулянку з нагоды ад’езду Сёмкі Мазурына. Сёмка быў камандзіраваны з Горкаўскага аўтазавода — наладжваў абсталяванне ў цэху зборкі, — і вяртаўся дахаты, праставіўшы на развітанне тры пляшкі «Маскоўскай». Трыма пляшкамі бяседа не абмежавалася. Падышоў інжынер Серада з нейкай грудастай кабетай, падаспелі мальцы з сумежнага пакоя, і давялося бегчы ў краму.

На вакзал рушылі ўсім кагалам, і грудастая кабета, пад вясёлыя воклічы хлопцаў і самога Серады, абдымалася з Сёмкам на пероне і скрозь п’яныя слёзы абяцала прыехаць у Горкі.

Назад ішлі з песнямі. Яны спявалі на пару з інжынерам раманс з кінафільма «Першая пальчатка», грудастая кабета ім бязладна падпявала, і Макару ніколі не было так добра, як тым вечарам.

Дахаты прыбіліся а другой гадзіне ночы, і Каландзёнак, хлопец, з якім разам жылі, доўга не мог патрапіць ключом у

замочную шчыліну, а калі патрапіў і паспрабаваў адчыніць дзверы, дык яны аказаліся незамкнутымі.

— Дзіўна… зачыняў, здаецца, — буркнуў Каландзёнак, чыркнуў запалкай, і Макар са здзіўленнем убачыў, што на ягоным ложку нехта спіць.

Відаць, новы жылец. Але чаму заняў чужы ложак?

— Эй, таварыш, — гукнуў Макар, тыцнуў таварыша ў драбы, ды той не прачнуўся.

«Чорт з ім… заўтра разбяромся», — падумаў Макар.

Наступнай раніцай ён прачнуўся з пахмельнай сечкай у галаве і, адпаведна, у кепскім настроі. І абудзіў яго не капытлівы тупат, а брыдкі пах, ад якога, здавалася, дрыжэла паветра. Макар крутнуўся — спаў без сенніка, на голай сетцы, — павёў носам і ўцяміў: гэта смярдзяць ногі новага пастаяльца. Ногі вытыркаліся з-пад коўдры, ля самай яго макушкі, і левая нага з утрапеннем чухала правую.

— У нас, між іншым, на чужыя ложкі не ўзбіваюцца. Кладуцца на свабодныя, — заўважыў Макар, ашчадна дыхаючы адной наздрынай.

Незнаёмец кінуў чухацца і, вытрымаўшы паўзу, запытаўся:

— Дзе — у нас?

Незнаёмец, мяркуючы па голасе, быў маладым, да таго ж прамаўляў з вясковым акцэнтам. Макар прыўзняўшыся на локці:

— Дзе-дзе… у нас, у бараку.

— Я Лазюк! — адрэкамендаваўся незнаёмец, і гэткая парсючыная годнасць развесяліла Макара.

— Як-як? Лазюк? А мы думалі Сталін, — рагатнуў Макар і, шукаючы падтрымкі, зыркнуў на Каландзёнка. Сябрук толькі што прачнуўся і з асавелай няўцямнасцю цёр буркалы.

Лазюк таксама прыўзняўся на локці, наставіўшы на Макара цыганаваты, пабіты воспінамі твар.

— А чым табе, уласна кажучы, не падабаецца Сталін?

Пытанне завісла ў паветры, і Макару падалося на імгненне, што на яго глядзіць не васпаваты сусед па пакоі, а той самы чэкіст, што сядзеў у келлі.

Лазюк падышоў да вешака.

— Твой кліфт?

Макар ляжаў, як халадзёнкай абліты, з дзіўным утрапеннем назіраючы, як новы жылец залез у кішэнь ягонага пінжака і выцягнуў адтуль медычнае пасведчанне ды заводскі пропуск.

— Цітавец, — прачытаў Лазюк з націскам на першым складзе, і Макар неспакойным голасам паправіў: — Цітавец!

— Вось яно як… Аказваецца, у нашым калектыве з'явіліся цітаўцы, а мы і не ведалі, — выдаў новы пакаёўца, вывучаючы Макараву ксіву.

— Якія цітаўцы? Пакладзі назад дакументы! — Макар ускочыў на ногі, але, пачуўшы злавеснае: — Сядзе-эць! — плюхнуўся на ложак.

— Не рыпайся, цітавец… Твае словы пра Сталіна чуў не я адзін, — Лазюк кіўнуў Каландзёнку, і той, улякнута нацягнуўшы на сябе коўдру, лыпнуў буркаламі.

У вочы ўдарыла зыркая яснасць, і Макар ачуўся. Стрэлкі ходзікаў, што віселі на сценцы, выпрасталіся ў струнку. Гэтай парой у барак давалі святло.

Апанаваны ўспамінамі, ён скалеў на лядзяк і да печы ішоў на нягнуткіх нагах. Макар доўга, аж пакуль не закружылася галава, раздзімаў шэры прысак, а ўкінуўшы ў печ тры сукаватыя палены, так і застаўся стаяць на кукішках, слухаючы, як страляюць бярозавыя дровы і як шалее знадворку вятрыска.

Вецер пазбаўляў спакою. Вось і цяпер падумалася, што разам з ветрам у шыбу стукаецца бяда, што ўначы падвей выдушыць шкло, уварвецца ў пакой і на парозе паўстануць яны — людзі ў шэрых шынялях. Прадчуванні ніколі яго не падманвалі, і Макар прыцiснуўся лбом да ледзь цёплай грубкі, зварухнуў пасінелымі вуснамі: «Хутчэй бы».

Ён заплюшчыў вочы, і перад ім паўсталі заводскі клуб, людскія галовы, цьмянае святло над сталом прэзідыума і квадратная постаць чалавека ў кіцелі.

— Такога сквапнага і ўладалюбівага дзеяча, таварышы, цяжка знайсці нават на Дзікім Захадзе, — квадратны чалавек абцягнуў канцы форменнага кіцелю. — Дзеля захавання ўла-

ды Ціта гатовы пайсці на ўсё. Гэта ён са сваімі падручнымі забіў адданага сына югаслаўскага народа Арсо Ёванавіча, гэта ён кінуў тысячы югаслаўскіх патрыётаў у турмы і канцлагеры, гэта ён, Ціта, патапіў у крыві народную рэвалюцыю і зрабіў югаславаў рабамі англа-амерыканскага імперыялізму…

Прамоўца зноў перапыніўся, зірнуў на Газіна — заводскага партарга, — і партарг, праліваючы ваду з букача, стаў поўніць шклянку.

— Няма сумневу, — працягваў прамоўца, глынуўшы вады, — што цітаўцы паспрабуюць разгарнуць сваю агентуру ў суседніх краінах народнай дэмакратыі і, не выключана, у Савецкім Саюзе. І хаця такія спробы загадзя асуджаныя па правал, мы павінны быць пільнымі, — прамоўца чарговым разам перарваўся і агледзеў залу. — Калі хто з вас пачуе падрыўныя размовы ці ўбачыць варожую літаратуру, мусіце неадкладна звязацца з намі…

У тую хвіліну ногі зрабіліся ватнымі і Макар налёг плечуком на вушак уваходных дзвярэй. Ён спазніўся на лекцыю і стаяў ля ўваходу, поруч з рэдактарам заводскай шматтыражкі. «Млосна стала?» — прашаптаў рэдактар, але Макар анічога не чуў і не бачыў, апроч Лазюка, які сядзеў у трэцім радзе і круціў галавой, вышукваючы некага. Позіркі іх сустрэліся, і ён спінай наперад падаўся з клуба.

«Як я раней не здагадаўся, — працяла глузды жахлівая думка, — Лазюка падаслала да яго МГБ». Ужо непрытомны, намацаў драўляную лаўку, што стаяла на клубным ганку.

— Ад задухі, — пачуў як скрозь сон. Рэдактар шматтыражкі паляпаў яго па твары, сумеўся, дастаў з кішэні пачак «Казбеку». — Нічога, зараз пройдзе, — рэдактар пастукаў па старой афіцэрскай звычцы папяросінай па пачку.

Шум у вушах сціх, і слых напоўніўся прыглушаным драўлянымі сценамі воклічам: — Хопіць з Цітам валэндацца?! Кінуць туды пару дывізіяў — і гамон фашыстам! — апошняе слова патанула ў бязладным гуле, якое заглушыла шыпенне сярнічкі. Рэдактар прыпаліў «казбечыну».

— Слухай, а чаму цябе цітаўцам завуць?

Драўляны клуб здрыгануўся, людзі гаманкім натоўпам рушылі на падворак, а рэдактар усё стаяў і чакаў адказу, і ў зрэнках ягоных злавесным агнём мільгацела жарынка папяросы.

Нечакана, як ад штуршка, Макар схамянуўся. Падняўся на ногі, пацёр здранцвелыя калені.

На калідоры палахлівым рэхам лунalі далікатныя крокі: жанчына, якая заходзіла да Серады, намагалася неўпрыкмет выслізнуць на двор. «Ці не тая… грудастая?», — Макар з п'янлівай палёгкай адчуў, што вецер знянацку суняўся і па даху зашамацеў нудны восеньскі дождж. Яму раптам да змогі, да свербу пад дыхніцай закарцела пагаманіць з Серадой і, падуладны такому жаданню, нерашучай хадою выйшаў з пакоя.

Серада займаў невялічкую бакоўку; жыў ён адзін і надта захапляўся жанчынамі. З тае нагоды пра інжынера хадзіла шмат розных паказак.

Макар стукнуў косткамі пальцаў па вушаку, інжынер адгукнуўся кароткім «Ая!», і ў гэтым воклічы чулася стома.

— А-а… сусед… заходзь… якраз на гарбату паспеў, — інжынер зняў з пліткі парны чайнік.

Апошні раз заходзіў да Серады на мінулым тыдні — пазычаў солі. Тады, памятаецца, каля сценкі стаяла трафейная шафа з моранага дубу. Цяпер на тым месцы гаргарылася чарцёжнае прыстасаванне, а да пляскатай дошкі быў прышпілены ватман з намаляваным аўтамабільным колам.

— Удасканальваем шасі, — патлумачыў інжынер, — на працы часу бракуе.

Гаспадар пакоя паставіў на стол два кубкі, падсунуў пад іх сподкі і стаў прабіваць нажом бляшанку са згушчаным малаком. Яшчэ ленд-лізаўскім. Макар сто гадоў не каштаваў такой смакошы, таму без лішніх запрашэнняў прысеў да стала.

— Хлеба, праўда, няма, — выгукнуў гаспадар, наліваючы кіпень.

Цягуткі струмок заварушыўся на донцы кубка, і Макар, не ведаючы, як яго перарваць, лізнуў край бляшанкі.

— Лі болей, не шкадуй, — Серада размяў папяросу, але згінаць у гармонік не стаў: дзьмухнуў ды ўкінуў у рот.

— Даўно хачу спытаць… Чаму ты ўвесь час такі прыгнечаны? Усё вайну перажываеш, ці як?

Пытанне ўстрывожыла Макара. Хвіліну ён маўчаў, утаропіўшыся на кубак, і, сам таго не жадаючы, прамармытаў:

— Прозвішча хачу памяняць.

Сусед стрымана кашлянуў.

— Дзіўнае жаданне. Хаця… — Серада зацягнуўся пякучым дымам. — У нас на курсе вучыўся адзін… па прозвішчы Бліадухо. Ну, вядома ж, пацвельвалі мальца. Смяяліся: у цябе і жонка Бліадухай будзе? Перад самай вайной прозвішча змяніў. Стаў Калініным — у гонар усесаюзнага старасты. Ну дык то Бліадухо… гучыць не надта мілагучна. А тваё як? Цітавец? У нас у палку маёр Цітавец быў. Кампанейскі мужык. Са Слуцка родам.

— А дзе ён зараз? — спытаў Макар, і суразмоўца, сціснуўшы зубамі папяросу, падышоў да вакна.

— Загінуў пад Інстэрбургам.

Плячыстая, злёгку прыгорбленая інжынерава постаць нагадала Макару капітана Іванова. Капітан гэтак жа любіў стаяць ля вакна і смаліць самакруткі.

— А якія ў цябе праблемы… з прозвішчам? — Серада прыдушыў недапалак у кансерваваў бляшанцы.

— Вы ж, напэўна, чулі… — Макар не пазнаваў уласнага голасу, — цітаўцам называюць.

— Хто называе? Ці не Лазюк? Я да гэтага слімака даўно прыглядаюся.

— Ды не… ён нічога, — прамямліў Макар і, каб перавесці размову на іншую тэму, спытаў: — А дзе тая жанчына?.. Ну, якая з Мазурыным абдымалася.

Інжынер хмыкнуў.

— Ленка Якуніна? Спадабалася? Баба унікум. І цыцкі пад самы падбародак.

Лямпачка над іхнымі галовамі зменшыла напал і заміргала.

— Штосьці ранавата адключаюць, — Серада выставіў на стол газніцу і ўздыхнуў: — На Далёкі Усход з’ехала. Па аргнаборы. Абяцала ліста напісаць, ды так і не напісала.

Яны пілі, пры цьмяным святле газніцы, гарбату, Серада распавядаў пра страшныя баі ва Усходняй Прусіі, пра тое, як яго, параненага, выцягнулі з поля бою санітарныя сабакі; Макар безуважна слухаў, зрэдзьчасу ківаў, але ў думках быў там — на Далёкім Усходзе.

«Як усё проста, — думаў ён, мружачыся на агеньчык лямпы, — завербавацца на які карабель, паплыць на край зямлі і згубіцца ў акіянскім бязмежжы». І калі вярнуўся ў свой пакой і кульнуўся на ложак, падлога з ложкам пайшлі ўніз, а потым узняліся, не раўнуючы як карабельная палуба падчас шторму.

«Пачну жыццё спачатку, уступлю ў партыю, буду працаваць па пятнаццаць… не — па сямнаццаць гадзін у суткі», — віравалі ў галаве бязладныя мроі, а вусны малітоўна шапталі адну і тую ж фразу: «Толькі б яны не прыйшлі».

Думкі зноў апанавала вайна. Згадалася, як улетку сорак першага валачыўся ў натоўпе ўцекачоў па маскоўскай шашы, як на станцыі Вязьма выцягваў з палаючага вагона дзятву, і як там жа, у Вязьме, зямлячку Ію, якая ішла з ім ад самай Воршы, згвалцілі нейкія апалчэнцы.

Слёзы беглі па шчоках, і душа, пазбыўшыся, нарэшце, пякельнага цяжару, бязважкім камяком зварухнулася ў грудзіне.

Апоўначы ўваліліся пакаёўцы. Адразу ж брыкнуліся на ложкі і вомігам захраплі — Лазюк з залівістым прысвістам, Каландзёнак са здушаным клекатаннем, — і ў тым храпенні Макару чуліся нечыя невыразныя галасы. Галасоў было некалькі; галасы мацнелі, убіраліся ў сілу, знянацку аціхлі, і цішыню прарэзаў дзіцячы лямант. Ён рынуў у задымлены вагон і там, у куце, убачыў хлапчыну, на галаве якога гарэла белая панамка. Макар здрыгануўся.

На ходзіках без пятнаццаці дзесяць. Лазюк з Каландзёнкам ужо адзяваліся. Неўзабаве яны пайшлі ў чайную пахмяляцца, і наўкол стала ціха — нават ходзікі пакінулі лічыць час і бязгучна матлялі ківачом. Можна было крыху паспаць, і Макар звёў свярблівыя, нібыта пяском зацярушаныя, павекі.

Яго абудзілі незнаёмыя крокі. Незнаёмцы прайшліся па калідоры, спыніліся ля дзвярэй.

* * *

Тым ранкам у барак рашучай хадой увайшлі інспектары пажарнага нагляду — два маладыя хлопцы ў вайсковых шынялях. Надоечы ва ўніверсітэцкім інтэрнаце ўчадзеў упіты студэнт, і цяпер інспектары мусілі хадзіць па выхадных, калі жыхары былі дома, ды правяраць пячную цягу.

Кожная грубка грэла два сумежныя пакоі, і трэба было вызначыць — куды выходзяць пячныя дзверцы.

— Тут, — адзін з хлопцаў і пастукаў па бляшаным суконіку з літарай «8».

На стук ніхто не азваўся.

Інспектар яшчэ раз пастукаў, хацеў ісці далей, ды знячэўку рыпнулі завесы, у вузкай пройме мільгануў збялелы твар, і жылістыя пальцы, якія абхапілі вушак, паволі спаўзлі долу.

— Эй, што з вамі? — выдыхнуў хлопец, памкнуўся падняць чалавека, ды напарнік схапіў за хлясцік.

Інспектары, намагаючыся не рабіць шуму, выйшлі з барака, перавялі дыханне.

— Не дай бог памёр — па міліцыях зацягаюць, — прамовіў той, які цягнуў сябра за хлясцік.

— А мо ўчадзеў? — запытаўся напарнік.

— Ды кінь ты… самлеў з галадухі, — буркнуў інспектар і нягнуткімі пальцамі расшпіліў верхнія гузікі шыняля.

# ДОМ ТВОРЧАСЦІ

За вокнамі з урачыстай павольнасцю праплылі гарадскія ўскраіны, аўтобус з’ехаў з магістралі і, страсянуўшыся на калдабане, пакаціў па гравійцы. Паабапал дарогі паўстаў непраглядны лес, і ў салоне стала прыцемна.

Юрась паправіў гальштук, скасіў вока на вадзілу. Рабацiністы малец у кудлатай, як у басмача, вушанцы, трымаўся адной рукой за стырно, безуважна пазіраючы на дарогу, і гэтак жа безуважна смактаў папяросу, пускаючы на кожнай ухабіне струмень шызага дыму. Сядаючы ў аўтобус, дамовіўся з вадзілам, што той спыніцца ў патрэбным месцы, і цяпер хваляваўся — ці не забыўся рабацень на ўгавор.

Лес між тым рабіўся ўсё гусцей, хвоі за вакном засцілі неба, і даводзілася толькі дзівіцца, што побач з горадам, можна сказаць, на яго ўскраіне, захавалася дрымотная пушча.

Юрась пазяхнуў, заплюшчыў вочы і адчуў сябе як вусень у кокане. Усё наўкол аддалілася: і бразгат пустой каністры пад сядзеннем, і занудлівы гуд аўтобуса, і такі ж нудлівы голас цёткі. Цётка сядзела за спінай і апавядала некаму пра свае хваробы. Яму прымроіўся шкляны палац —- менавіта такім уяўляўся Дом творчасці, — і ўбачыў самога сябе нібыта збоку. Ён, Юрась, стаяў пасярод залітай зыркім святлом залі і чытаў паэму, якую скончыў на мінулым тыдні. Прымроіліся інтэлігентныя, засяроджаныя на паэзіі твары калег-літаратараў, і рукі міжволі сціснулі саквояж, у якім ляжала тэчка з паэмай. Літаратары ўяўляліся надзвычайнымі людзьмі, апанаваныя не толькі літаратурай, але і лёсам роднай мовы, якой слугавалі. Дзівіла, аднак, што літаратары не падавалі галасоў у яе

абарону. Колькі ні слухаў пісьменніцкіх выступаў па радыё і тэлебачанні, аніхто на гэтую тэму не заікнуўся. Таму і прагнуў пагаманіць з творцамі перш-наперш наконт беларускіх школ і нават збіраўся падбіць напісаць калектыўнага ліста ў Маскву з патрабаваннем іх адкрыцця. У сонных думках пачаў той ліст пісаць і наехаў грудзінай на білу сядзення.

— Каму ў Дом творчасці? — выгукнуў вадзіла, і Юрась спалохана падскочыў.

З аўтобуса выкуліўся яшчэ адзін пасажыр. У таго ў руцэ таксама быў саквояж і, як бачна, цяжкі, бо металёвая дуга, да якой мацавалася ручка, ладна прагіналася. Пасажыр выглядаў нізенькім, каржакаватым, з адвіслымі пашчэнкамі ды з носам бульбінай. Гэта рабіла яго падобным на акцёра Яўгена Лявонава.

— У «Камарышчавічы»? — запытаўся спадарожнік.

Юрась моўчкі кіўнуў.

Спадарожнік паставіў між ног валізу, прыпаліў цыгарэту, запытальна лыпнуў рэдкімі, бялявымі як у маладога парсюка вейкамі.

— На колькі пуцёўка?

— На тыдзень, — азваўся Юрась, зябка торгнуўшы плечукамі. — Ветрык, які дыхнуў з лясной прасекі, навылёт праняў ліхенькі гэдээраўскі палітон.

— Во сволачы… самі тут цэлае лета сядзяць, а людзям на тыдзень выпісваюць. Ды яшчэ напачатку снежня, — «Лявонаў» абурана свіснуў цыгарэтным дымам, зірнуў на прысыпаную снежнай пярхотай праселіцу.

— Пачатковец?

— Пачатковец. На абласным літаратурным конкурсе першае месца заняў. Вось… прэміравалі паездкай у Дом творчасці. Еду розуму набрацца, з сапраўднымі паэтамі пазнаёміцца.

— Знайшоў з кім знаёміцца, — незадаволена прамармытаў «Лявонаў», падняўшы саквояж. У саквояжы штосьці глуха бразнула.

— А вы прафесійны літаратар? — нясмела пацікавіўся пачатковец, і той, да каго звяртаўся, з пакутай скрывеліўся:

— Ну, карацей, член… Саюза. Дарэчы, маё прозвішча Падгурскі. Можа, чулі?

Прозвішча гэтае Юрась чуў упершыню, але тым не менш торгнуў нюхаўкай. Маўляў, як не ведаць такога знанага аўтара.

Падгурскі на прафесійнага літаратара быў не надта падобны. Правае вока члена Саюза пазначаў зеленаваты, тыднёвай даўніны «ліхтар», а на плячах боўталася гаматная, дарэшты зацяганая куртка. І гаварыў па-расейску.

Дарога ішла лесам. Снегу выпала мала, а тут, у засені магутных елак, яго не было зусім, і ў твар патыхала прэлай ігліцай. Праселіца ўвесь час забірала праваруч, лес нечакана скончыўся і наперадзе, у смузе згасальнага снежаньскага дня, намаляваўся мост праз раку і пахілая постаць. Нехта стаяў на мосце, наваліўшыся на парэнчы. Калі ўзышлі на масток, чалавек (яму было далёка за семдзясят) мелькам азірнуўся і зноў утаропіўся на раку, па якой плыў шарош. Позірк з-пад кусцістых броваў падаўся знаёмым.

— Хто гэта? — пацікавіўся пачатковец, прамінуўшы масток. — Пад нагамі ўжо была не праселіца, а асфальтавы ходнік — прыкмета таго, што Дом творчасці дзесьці побач.

Падгурскі назваў прозвішча, ды Юрась не пачуў.

— Яго па вайне да Якуба Коласа прыставілі. Фіксаваў — з кім той сустракаецца, што кажа… А цяпер з тэлестудыі не выпаўзае. Распавядае люду паспалітаму пра песняра. «Сабраліся мы ў дзядзькі Якуба, — знянацку, са старэчай інтанацыяй, выдаў Падгурскі, — як кажуць, было што выпіць, было чым закусіць». Было, вядома. Людзі з галадухі пухлі, а гэты дзядзьку Якуба аб’ядаў, ды так, што аж нос угінаўся.

Колкі халадок забіўся Юрасю пад каўнер, халоднымі дрыжыкамі прабег па хрыбеціне і, на астачу, крануўся душы.

«Няўжо той чалавек на мосце сапраўды сачыў за Якубам Коласам?» — Юрась прыцішыў хаду. Відаць, і ў Доме творчасці ёсць віжы. Прапусціўшы спадарожніка наперад, пераможца абласнога конкурсу з трывогай перавёў дых.

Член Саюза меў «танкісцкі» рост і глядзеўся драбнаватым. Адно грудзіна неверагодным чынам выпіналася пад

курткай. Куртка выглядала не толькі зношанай, але й спрэс пакамечанай. Стваралася ўражанне, што яе доўга жавалі-шкуматалі, а затым выплюнулі.

«А можа, гэта і не пісьменнік? Можа, той самы віж?» — падумаў паэт-пачатковец, прыстасоўваючы крок да мернага бразгату ў саквяжы.

Яны зноў ішлі лесам. Дрэвы стаялі рэдка, і ў прасвецці таўшчэзных ялін мільганула шэрая двухпавярховая будыніна. Спадарожнік кіўнуў, маўляў, гэта і ёсць «Камарышчавічы», і Юрась у адказ прысвіснуў. Прагнуў убачыць навачасны будынак са шкла і бетону, а тут сярод вячыстых ялін паўстаў шэры рублены двухпавярховік — з верандай на двух узроўнях, з адмысловымі шалёўкамі на вокнах і невялічкім гаўбцом над уваходам. Было ў спарудзе штосьці нетутэйшае.

— Палонныя немцы будавалі, — патлумачыў спадарожнік, нібыта падслухаўшы Юрасёвы думкі.

На ганку на хвілю спыніліся — Падгурскі дапальваў цыгарэту.

— Дзіўная назва — «Камарышчавічы», — Юрась памацаў драўляную, ужо ладна збуцвелую калону ля ўваходу.

— Назва адпаведная, — Падгурскі шпурнуў недапалак у сметніцу. — Ты ўлетку прыедзь. Камарышчы з кулак велічынёй. З ног збіваюць, — з гэтымі словамі член Саюза пацягнуў рыпучыя дзверы.

Не паспелі пераступіць парог, як прыцемны хол скаланулі радасныя воклічы:

— О! Нарэшце!

Некалькі чалавек, што стаялі вакол більярду, кінуліся насустрач. Нейкі лысы імпэтным рухам схапіў саквяж.

— Ого, важкая паэтычная кайстра!

— Ледзь дацягнуў, — зморана аддзьмуўся Падгурскі і тузануў «маланку» на куртцы. — І за пазуху тры пляшкі запхнуў.

Перадаўшы пляшкі, спадарожнік загаварыў па-беларуску.

— Сустракайце. Папаўненне прыбыла.

Юрась пацісну сухія далоні.

— Паэт ці празаік? — «босая галава» задаволена страсянула саквояж.

— Паэт, — адказаў за Юрася Падгурскі, — пераможца абласнога літаратурнага конкурсу.

— Конкурс, няйначай, на вытворчую тэматыку? — спытаў лысы і, не чакаючы адказу, патупаў да разнасцежаных дзвярэй пакоя.

Едучы сюды, Юрась маракаваў, што атабарыцца ў двухмесным нумары, а агледзеўшы апартаменты, зніякавеў: пакой быў спрэс, як у студэнцкім інтэрнаце, застаўлены ложкамі, а ў дальнім канцы туліўся парэпанага выгляду стол.

— Не бяда. Дзе цесна, там пацешна, — прамовіў лысы, угледзеўшы панылую Юрасёву гімору. — Ён тут, відаць, верхаводзіў. — Займай вунь Дадулінскі тапчан. Дадуля ўжо не з'явіцца. Прыбіўся ў суседняй вёсцы да маладзіцы.

Лысы і папраўдзе быў за галоўнага, бо адразу стаў даваць даручэнні. Аднаму загадаў схадзіць у сталоўку ды ўзяць штонебудзь «на зуб», другому — заслаць газетамі стол, а сам, сеўшы на ложак, узяўся выстаўляць на падлогу бутэлькі таннага, пазначанага мутнымі этыкеткамі віна.

Юрась патрапіў у пакой — на вушаку была выбітая лічба «2», — дзе жылі апівуды. Сам ён хоць і выпіваў, але зрэдку. У маладосці перахварэў на жаўтуху, і з пахмелля цягнула на ваніты. Таму і пазіраў з утрапеннем на батарэю бутэлек. Можна было, зрэшты, знайсці некага з адміністрацыі і папрасіцца ў іншае месца. Ды дзе яе, тую адміністрацыю, шукаць. Дый няёмка збягаць ад людзей, якія табе паціснулі руку і прапанавалі вольны ложак.

— Чаго засумаваў? — запытаўся Падгурскі. — Давай пуцёўку. Якраз пайду да Вераб'іхі, пасцельныя рэчы прынясу.

Уздыхнуўшы, новы пастаялец выцягнуў з нутраной кішэні пінжака складзеную ў столку карталюшку.

Лысы верхавод тым часам запхнуў бутэлькі пад ложак, задаволена пляснуў далонямі, наставіў на Юрася вадзяністыя, акварэльнага адцення вочы. Яны зусім не пасавалі круглявому і азызламу твару.

— Зборнік падрыхтаваў?

Юрась перасмыкнуў плечукамі.

— Ты гэтую справу не зацягвай. Рыхтуй зборнік і вязі ў выдавецтва. Пакуль у тэмплан паставяць, шмат часу праміне. Некаторыя па дзесяць гадоў кніжак чакаюць. А ўсё праз тых мярзотнікаў. Пакуль сваю лухту не надрукуюць — анікога не пусцяць.

Пасля такіх слоў верхавод наструніўся, тыцнуў пальцам угору.

— Чуеш? Грукаюць, сволачы.

На другім паверсе гучала музыка, тупалі, і адна дошка на столі злёгку зыбалася. Як зразумеў Юрась, на доле жылі тыя, хто не даваў лысаму друкавацца.

Збіраючыся ў Дом творчасці, Юрась прыхапіў з сабой пляшку «Белавежскай». Хацеў пасядзець увечары з якім сталым творцам, пагутарыць за літаратуру, за мову, за жыццё. А тут давялося далучыцца да п’янкі і пад ухвальныя воклічы пісьменніцкай сябрыны выставіць «Белавежскую» на сярэдзіну стала.

— «Коласаўца» сустрэлі, — паведаміў Падгурскі, поўнячы шклянкі. — Нават не павітаўся, паскуда.

— Не да вас. Новую плётку пра дзядзьку Якуба прыдумляе, — заўважыў лысы верхавод і прыслухаўся. — На гары, падобна, ладзілі бяседу, бо там бязладна гаманілі і хтосьці басавіта спяваў: «Из-за острова на стрежень, на простор речной волны…»

— Казалі, да Машэрава на прыём запісаўся, ды той не прыняў, — падаў голас бяседнік, які сядзеў поруч з Юрасём.

— Так яго і прымуць, — верхавод двума глыкамі асушыў шклянку. — Да Машэрава толькі Манякін з Маскалёнкам доступ маюць. Маскалёнак днямі сваю п’есу насіў на прачытанне. А Пятру Міронавічу яна, нібыта, не спадабалася.

— А Манякін з Маскалёнкам тут адпачываюць? — спытаў у сваю чаргу новы пастаялец, які прагнуў убачыць жывых класікаў.

Лысы наставіў на Юрася акварэльныя буркалы.

— Цягні… бачыш, калегі чакаюць.

За сталом сядзела сем чалавек, і шклянак на ўсіх не хапала.

«Чарніла», якое пілі творцы, агідна смярдзела. Сцяўшы павекі і душачыся, Юрась пракаўтнуў трунак, прыціснуў цэўку рукі да вуснаў. Трунак з цяжкасцю прайшоў у шлунак.

— Маскалёнак з Манякіным адпачываюць у іншых мясцінах.

Лысы смактануў «беламорыну», пусціў струмок шызага дыму, — муштук папяросы верхавод не камячыў, ад чаго грыбастыя вусны выцягваліся як для пацалунку.

— Ялта, Дубулты, Піцунда… чуў пра такія дамы творчасці? Там іх і пашукай, — лысы ўскудлаціў рашчаперанай пяцярнёй дрымучыя, антрацытнай водцені валасы. — І п’юць пяцізорачны «Арарат», а не гэтае паскудства.

Верхавод падслепавата агледзеў налепку на пляшцы:

— «А-ра-ма-ты-за-ва-нае» — прачытаў па складах. — Смярдзіць так, што ў глытку не лезе. Лепшага не было?

Лысы пазглядзеў на Падгурскага, але той, нічога не сказаўшы, навярнуў шклянку, з грукатам паставіў на стол, ды так, што ўсе страпянуліся.

Запанавала няёмкая цішыня, і верхавод пакоя № 2, звяртаючыся да Падгурскага, сіпла працадзіў:

— Наступным разам будуць дзяліць кватэры, прыйду на паседжанне праўлення, і калі табе не дадуць трохпакаёўку, перадушу ўсіх вось гэтымі рукамі, — верхавод злавесна патрос кулакамі.

Кулакі былі пудовымі. Юрась яшчэ падумаў: гэткімі ручышчамі не вершы трэба пісаць, а бярвёны на тартаку варочаць.

Слухаючы п’яную гаману, Юрась чакаў, што творцы пачнуць размову пра літаратуру, пра родную мову і адсутнасць беларускіх школ, але тыя гаманілі пра рыбалку, пра кабет, пра размеркаванне кватэр, пра творчыя камандзіроўкі, пра выступы на радыё ў перадачы «Пісьменнік ля мікрафона» і пра тое, што праўленне пісьменніцкага Саюза распа-

раджаецца дзяржаўнымі грашыма нібыта сваімі ўласнымі. Асобнага пытлю бяседнікі давалі калегам з другога паверха, што захапілі ў праўленні камандныя пасады і бязлітасна выкрэслівалі з тэмпланаў кнігі сумленных аўтараў. Пісьменнікі, мяркуючы па размовах, былі падзеленыя на два, а мо і болей суполак, якія варагавалі міжсобку.

Пасля трэцяй шклянкі закружылася галава і млосць падступіла да горла. Юрась ціхенька падняўся, зняў з вешаку палітон і шапку.

На дварэ панаваў прыцемак і бралася на мароз. Ён збег па прыступках, пацёр, ратуючыся ад хмельнай чмуры, лабешнік і скроні.

Вокны дома гарэлі жоўтым святлом, і толькі веранды, што туліліся да будыніны з двух бакоў, зеўралі цемрай. У прастакутніках вакон мільгалі людскія цені, чуліся няўцямныя галасы, а з адчыненай форткі вырываўся на прасцяг пералівісты жаночы смех.

Вакол стаяў вячысты яловы лес, а пад падэшвамі шамацела прыхопленая марозам ігліца.

Хмель на дзіва хутка выпетрыўся, глухім болем азваўся ў патыліцы. Ён дыбаў між старых дрэў, ляпаў далонню па шурпатых стаўбурах і штораз азіраўся, пазіраючы на агні Дома творчасці, якія то знікалі, прыхаваныя дрэвамі, то зноў свяціліся, злёгку прытушаныя яловымі лапамі. Неўзабаве стала зусім цёмна. Юрась прыпаліў і, звёўшы вочы да пераносся, назіраў, як з кожнай зацяжкай жарынка цыгарэты кволай барвай кранала пальцы.

Сустрэча з пісьменнікамі, да якой так доўга рыхтаваўся, збіла з панталыку. Падчас п’янкі пару разоў спрабаваў усчаць гаворку пра лёс роднай мовы, але творцы вомігам пераводзілі гутарку на іншыя тэмы.

«І гэтыя жлукты называюць сябе літаратарамі, — Юрась да кашлю зацягнуўся цыгарэтай, — ці трэба дзівіцца, што народ гідзіцца браць у рукі беларускую кніжку».

Ногі намацалі тупкую сцяжыну. Ён рушыў па ёй, з кожным крокам адчуваючы, што тая павольі спускаецца долу. Лес

хутка скончыўся, саступіўшы месца вербалозу. Непадалёк ціха плёскалася і шумела густым шарашом рака. Да вады не пайшоў. Задзёр галаву і зірнуў на неба. Тут, на адкрытай мясціне, неба ўжо не было такім чорным, як у лесе, і квола дымілася святлом. Пастаяў трохі, адкінуў недапалак і павярнуў назад.

Вецер, які дзьмуў ад самай раніцы, раптам суняўся, яліны ўжо не шумелі як раней, і шамаценне ігліцы пад нагамі стоеным рэхам азывалася ў наваколлі. Знянацку непадалёку нарадзіліся новыя зыкі. Мерныя і шаргатлівыя. Час ад часу яны перарываліся, зноў узнікалі, і чым бліжэй падыходзіў да Дома творчасці, тым гучней і выразней рабіліся.

Назад ішоў іншай дарогай, і неўзабаве ўзбіўся на невялічкі, выкладзены сілікатнай цэглай дамок з жалезным комінам над дахам. Гэта была кацельня. Над уваходам вісеў самотны ліхтар, і ў коле зыбкага святла завіхаўся нехта ў вайсковым бушлаце і з шуфлем у руках. Скаланаючы прастору рытмічным шоргатам, чалавек набіраў вугаль у пакарабачанае вядро і заносіў у кацельню.

— Ну, цёпла ў вас там? — чалавек мелькам глянуў на Юрася.

— Цёпла, — Юрась пацёр скарчанелыя рукі і, памаўчаўшы, дадаў: — дзякуй.

— Пісьменнік?

— Паэт-пачатковец, — адказаў Юрась. — Ён адчуў сорам за тое, што кацельшчык мусіць цэлую ноч махаць шуфлем, тым часам як п’яныя літаратары будуць храпці ў цёплых пасцелях.

— Я ў кацельні дваццаты год працую. Шмат пісак пабачыў.

— А Васіль Быкаў сюды наведваецца?

— Вельмі рэдка. Семінар які ладзяць, тады прыязджае, — кацельшчык напоўніў вядро вугалем, абапёрся на шуфель. — Васілю Уладзіміравічу наогул не патрэбныя ніякія кампаніі і пісьменніцкія саюзы. Гэта розная шэрасць збіваецца да кучы, а сапраўдны пісьменнік заўжды адзін-адненькі. Як колас на ржышчы.

Юрась стаяў, уражаны. Звычайны апальшчык казаў рэчы, сугучныя ягоным уласным думкам.

— Да мяне часцяком людзі падыходзяць. Цыгарэтамі частуюць, жыццём цікавяцца. Спытаеш: а вы хто? Адказвае, грудзіну выставіўшы: празаік! Думаеш — які ж ты празаік, калі твае кнігі толькі рэдактар з карэктарам чытаюць.

— А размаўляюць хоць па-беларуску? — Юрась нервова пачухаў рукі. — Хвіліну таму рукі курчыліся ад холаду, і раптам сталі гарачымі і свярблівымі.

— Хто як. Падап'юць, дык і на расейскую збіваюцца, — кацельшчык падхапіў вядро з шуфлем, знік у цёмнай пройме дзвярэй.

«Прысмакталіся да беларускай мовы — і маюць з таго харч нязводны», — са скрухай падумаў паэт-пачатковец, хацеў яшчэ нешта спытаць, але суразмоўца, вытыркнуўшыся з кацельні, махнуў шуфлем:

— Вячэра пачынаецца. Не спазніцеся.

Сапраўды, з Дома творчасці раз за разам выкульваліся людзі, шыбавалі міма асветленых вокнаў і знікалі за рогам веранды. Толькі цяпер адчуў страшэнны голад. З учорашняга вечара нічога не еў, калі не лічыць кавалка чэрствага хлеба, якім закусваў «чарніла».

Ядальня, прысадзістая, падобная на вясковы клуб будыніна, стаяла зводдаль, напалову прыхаваная густымі кустамі. Новы пастаялец нерашучым крокам увайшоў у залу і пачуў знаёмы голас:

— Эй, пачатковец, давай сюды!

Лысы сядзеў за крайнім столікам. Хоць і выпіў шмат, але выгляд меў цалкам цвярозага чалавека. Адно на шчоках ружавеў нездароўчы румянец. Юрась прысеў за стол.

Стравы пад вясёлыя пісьменніцкія жарты разносіла ўвішная кельнерка.

— Ну як вы сёння… добра ўзялі? — гукнулі з-за суседняга століка.

Лысы насупіўся. Мяркуючы па ўсім, за суседнім сталом сядзелі пісарчукі з другога паверха.

— З вас бяром прыклад, — азваўся, не павярнуўшы галавы.

— Глядзіце, пад’едзе Іван Іванавіч — дасць фаеру, — са смяшком прамовілі суседзі.

Босагаловы зірнуў у іх бок, збіраючыся, як бачна, годна адказаць на кпіны, але тут кельнерка паставіла талерку з едзівам, і ён толькі сцішана мацюкнуўся. Пра Івана Іванавіча згадвалі і падчас бяседы. Гэта быў якісь партыйны начальнік, які зрэдзьчасу наведваўся ў Дом творчасці, і тады творцы хавалі пустыя бутэлькі і цэлы дзень хадзілі цвярозымі.

Кармілі пісучую сябрыну як завязаць. Юрась праглынуў салату, з’еў два секунцы з таўканіцай; кельнерка, пабачыўшы, што на новага пастаяльца напала прогліца, прынесла дабаўкі, і пастаялец у рэшце рэшт з цяжкасцю падняўся з-за стала.

У разлеглым холе вочы апанавала карціна, якую не прыкмеціў удзень. Даволі вялікая, у шэрай, пабітай шашалем асадзе, яна вісела на сцяне насупраць уваходу. Падышоў бліжэй і прачытаў на цэтліку: «Беларускія пісьменнікі ў Янкі Купалы. Масква. 1942 год».

«Купала… Броўка… Глебка… Куляшоў…» — бязгучна прашапталі вусны. З усіх намаляваных не пазнаў аднаго. Той сядзеў на крэсле, закінуўшы нага на нагу, дэманструючы свету шырозныя калошы з манжэтамі. Юрась наблізіў твар усутыч да малявідла, каб лепей разгледзець незнаёмца, і ўбачыў: пісьменніцкі азадак наскрозь прапалены цыгарэтай.

— Ілля Гурскі, — прамовілі за спінай.

Двое цыблакаватых мужчын гулялі ў більярд, ганяючы шары па зялёным сукне. У двух месцах сукно было падзёртае кіямі.

— Усе глядзяць, і ніхто яго не ведае, — выдаў адзін з гульцоў, хвацка загнаўшы шар у лузу: мужчына меў вялізны, з гарбінкай, нос. — Графаман, якіх пашукаць. Але ж у класікі выбіўся. Вуліцу назвалі і мемарыяльную шыльду на доме прымацавалі, — гулец з жарсцю торкнуў кіем у шар, ды гэтым разам спудлаваў.

Над Янкам Купалам, які задуменна паліў папяросу, вісеў партрэт, на якім з цяжкасцю можна было пазнаць Леніна. Так неахайна, грубымі мазкамі, намалявалі.

— Спачатку там Сталін быў, а потым на Леніна перарабілі, — патлумачыў гарбаносы. — Мастак пры мне завіхаўся. Усё, памятаю, лаяўся, што за перамалёўку не даюць ні капейкі. Таму і перамаляваў абы-як.

Да апошняга часу Юрась глядзеў на літаратурных класікаў з пашанотай, цяпер жа зыркаў на карціну з маркотай уваччу: «Гэтаксама, відаць, за ганарары грызліся і спаборнічалі — хто лепш вялікага правадыра ўславіць».

У пакоі, куды зайшоў праз хвіліну, панавалі цяжкі дух і мернае храпенне: небарака Падгурскі ўжо спаў, скінуўшы левую нагу на падлогу.

— Ну а зараз — культурная праграма, — абвясціў верхавод, шарганУўшы пальцам па калодзе зашмальцаваных карт.

Новы пастаялец ужо ведаў, што гульня па вечарах у падкіднога — тутэйшая завядзёнка. Гулялі не проста так. Хто атрымліваў больш «дурняў», мусіў назаўтра ад ранку ехаць у горад па «чарніла». Пры гэтым ганец нацягваў на плечы гаматную апранаху, у кішэні якой лезла шэсць пляшак. Творцы жартам называлі яе «п’янь-куртка».

Пастаяльцы пакоя № 2 паселі за стол, махнулі Юрасю, але той страсянуў галавой. Галава кружылася і вушы ўсё адно як пазакладала ватай. Седзячы на ложку, налёг патыліцай на сценку, заплюшчыў павекі. Магчыма, ён бы і заснуў, ды пад бокам хроп на ўсе застаўкі Падгурскі, і гэта збівала са сну.

— Штурхніце там храпуна! — са смехам крыкнуў верхавод, і Юрась пхнуў храпуна нагой.

Храпун на момант аціх, памыліў вуснамі, захроп яшчэ натужлівей.

Сонная замарач усё ж такі ўзяла сваё. Гэта быў нават не сон, а нейкі чорны вецер падхапіў і панёс немаведама куды. Скрозь сон да вушэй даляталі бязладныя воклічы: «Звонкі козыры… ніжнікам бей… атрымай… з трыма пагонамі!», да тых воклічаў далучаліся немы храп, ляскатанне карт і тупа-

ценне на галавою. Нечакана на гары грымнула як мае быць, Юрась прачнуўся, прыспана ўтаропіўся на столь.

— Паваліўся нехта, — лысы адарваў зіркачы ад карт. — Трэці дзень прэмію абмываюць.

У гэты момант дзверы расчыніліся і хтосьці з панікай у голасе гракнуў:

— Праграма «Час»!

Гульцы кінулі карты, гамузам прыхапіліся, паспрабавалі раскатурхаць храпуна, але марна.

— Падымайся, пачатковец, ідзем падвышаць ідэйна-палітычны ўзровень, — выгукнуў лысы. — Цвярозы ты ці п'яны, а праграму «Час» мусіш глядзець абавязковым парадкам.

«Ці не загад Івана Іванавіча?» — з гэтай думкай Юрась падняўся на ногі.

У фае другога паверха стаяў тэлевізар, ля яго сядзелі пастаяльцы, сярод якіх пракідваліся і жанчыны. Некаторым не хапіла месца, і яны стаялі ўздоўж сцяны — рыхтык як у вясковым клубе, калі круцілі «Фантамаса».

Юрась пацёрся крыху аб драўляны парапет лесвіцы, а пачуўшы абрыдлыя абертоны дыктара Ігара Кірылава, ціхенька, нікім не заўважаны, спусціўся па лесвіцы.

Спехам распрануўшыся, абрынуў на ложак і адразу ж заснуў. Яму прысніўся той самы мастак, які замалёўваў Сталіна на карціне «Беларускія пісьменнікі ў Янкі Купалы». Майстар пэндзлю быў падобным да верхавода: з такой жа «босай галавой» і з такімі ж вадзяністымі вачыма. Ён, Юрась, трымаў ва ўзнятай руцэ палітру, а мастак, стоячы на драбінах, падмалёўваў Сталіну ленінскую бародку, прычым, не пэндзлем, а малярскім квачом. Жывапісец хіснуўся, схапіў яго за плячук. «Уставай!» — выдыхнуў на вуха, і Юрась прачнуўся.

Панавала глухая ноч, і цяжкое паветра скаланала грымотнае храпенне.

— Чаго разлёгся? Тут я сплю.

Гэта быў, відаць, Дадуля.

Знямелыя рукі нацягнулі штаны, згарнулі ў ахапак падушку з коўдрай, накінулі на голаў прасціну.

Па фае гуляла пройма. Беспрытульнік пацепнуўся, пацёр нагу аб нагу, — выбег жа басанож, — пабег на дыбачках па прыступках. На другім паверсе, як ён прыкмеціў, стаяла вялізная канапа.

— Ай, ратуйце! — віскліва крыкнулі, калі начны беспрытульнік узняўся на лесвіцы.

Мажная кабета, якая сядзела на канапе і паліла, спалоханай птушкай зляцела на падлогу. Навокал панавала цемра, і накрытага прасцінай Юрася кабета прыняла за патарочу.

— Хто вы? — азвалася кабеціна ўжо лагодным тонам.

— Пачатковец. Заняў ложак, а тут чалавек вярнуўся, які раней на ім спаў.

— Гэтыя п’янюгі адмыслова пачаткоўцаў да сябе ладкуюць. Ведаюць, што тыя з гарэлкай прыязджаюць, — кабеціна тужліва ўздыхнула. — Трэба было да Вераб’іхі звярнуцца. Цэлы пакой пусты стаіць. — Вераб’іха, выглядала, была тутэйшай ахмістрыняй.

Суразмоўніца пусціла струмень пахкага дыму.

— Ну а цяпер куды?

Беспрытульнік кіўнуў на канапу.

— Змерзнеце. З долу халадэчай цягне — не ўгрэцца, — кабета зрабіла тры крокі і спынілася. — Добра, пойдзем да мяне. Я з дзіцячай паэткай жыву. Дык яна толькі перад снеданкам з’яўляецца, — кабета сказала гэта з незадаволенасцю і нават з крыўдай у голасе. — Але ж глядзіце, без фокусаў.

Беспрытульнік разаслаў на ложку прасціну, паўзверх пакрывала, і па самую макаўку накрыўся коўдрай. Калі ж, зтомораны ад задухі, вынырнуў з-пад коўдры і хапануў паветра, слых праняла кароткая фраза:

— Божа, які паскуднік.

Юрась прыўзняў галаву: кабета ляжала, да самага падбароддзя нацягнуўшы коўдру.

— Гэта я не вам, — пралепятала суседка, адчуўшы ягоны позірк.

— А хто такі… лысы… у другім пакоі верхаводзіць? — няcмела прашаптаў Юрась.

— Стагурскі… рэдактарам у аддзеле паэзіі працуе. Спіўся на голую бэлю. Хутка выганяць з рэдакцыі. Яму такія як вы пачаткоўцы вершы прыносяць, а потым у рэстаран вядуць, ці гусак самагонкі прывозяць. Ён іх і друкуе. Дык друкаваў бы што добрае, а то дае розную графаманшчыну. Вядома: таленавітае надрукуеш — сабе канкурэнцыю створыш.

— А гэты… з «ліхтаром» пад вокам?

— Падгурскі? Гэты ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры атабарыўся. Там усе спіліся. Ездзяць па калгасах, у клубах выступаюць, іх тамака самагонкай пояць, — кабета, прыкрываючы рот рукою, пазяхнула. — Кагадзе з адным нарысістам пабіўся. Той прэмію абмываў, ну і ўзяліся «леткуенку» скакаць — ды так, што на першым паверсе са столі парахня пасыпалася, Падгурскаму вочы зацерушыла. Цвярозы быў, не ў гуморы. А яшчэ з кватэрай надоечы пракацілі. Вось і кінуўся разбірацца, — кабета павярнулася тварам да сценкі, дэманструючы, што размова скончана.

Гэтым разам сон не ішоў. Мо таму, што побач спала кабета, а мо ад неадчэпных думак, якія апанавалі свядомасць.

«Дарма тут улёгся, — думаў Юрась, — заўтра апівуды пачнуць распытваць — дзе начаваў, што там ды як». — Ён уявіў агідныя ўсмешкі выпівак і з адчаем крутнуўся на бок.

Зацятыя думкі не давалі спакою. Зразумела, чаму народ адвярнуўся ад беларускай мовы. Праз такіх вось творцаў у сцаных портках. Якая там родная мова, якое нацыянальнае адраджэнне. Кватэры, прэміі, пуцёўкі, ганарары — усё астатняе літаратараў мала цікавіць. І на якую халеру дзяржава гэтую пісучую грамаду ўтрымлівае? Бо ж ніхто іх кніжак не чытае.

На калідоры гучна застукалі жаночыя туфлі. Стукат аціх, і дзверы з ціхім рыпам адчыніліся.

— Люда, спіш? — нейкая маладуха нячутна праслізнула ў пакой, і ў нос дало пахам парфумы.

— Ты не ўяўляеш — які гэта падлюга, — загаварыла маладуха па-расейску дрогкім ад абурэння голасам. — Кажу: падаруй мне залаты ланцужок…

— Цішэй ты… — прыспана прагугніла Люда, і Юрась узняў галаў.

— У цябе мужчына?! — у голасе маладухі чулася паніка.

— Які там мужчына… гэта пачатковец. Спаць няма дзе, дык я яго да нас запрасіла, — выдыхнула сяброўка.

Давялося такі плюхнуцца на прадушаную канапу. Ляжаць на ёй была адна пакута, бо азадак правальваўся, а ногі ўздымаліся ўгору. Да таго ж, наўкол гулялі халодныя праймы, і даводзілася скручвацца абаранкам.

Раніцою, з адрузлым ад недасыпу тварам, ён брыў на сняданак. У галаве не было ніякіх думак і, відаць, з тае прычыны яна была бязважкай. Сёння ўпершыню за апошні тыдзень з-за хмар выслізнула сонца. Пяшчотна кранула левую шчаку, кальнула вострымі промнямі заспаныя вочы. Тут, у лесе, добра дыхалася, і паветра было салодкім і п’янлівым. Юрась спыніўся, дыхнуў на поўную грудзіну, прыслухаўся да ціўкання сініц і пачуў суладную тупаніну. Па асфальтавай дарожцы шыбавалі на сняданак пастаяльцы пакоя № 2. Наперадзе чаканіў крок лысы камандзір.

— Ну як, пачатковец, дзе начаваў? — грымнуў камандзір, па-сяброўску ляпнуўшы Юрася па спіне. — Штосьці ты пакамечаны. Ці не з Людкай ноч бавіў? — рагатнуў лысы. — Мы яе тут «хуткай дапамогай» называем, — камандзір зноўку рагатнуў, а згледзеўшы невясёлы твар суразмоўніка, ляпнуў таго па плячы. — Не сумуй. Хто ж ведаў, што Дадуля сярод ночы прыпрэцца.

Пабачыўшы, што суразмоўнік не толькі не павесялеў, але яшчэ больш спахмурнеў, камандзір змяніў тон са смяшлівага на суворы:

— Дык у чым праблема? Нешта не падабаецца?

— Вы не падабаецеся, — прамармытаў Юрась.

— Я-а?! — выдыхнула «босая галава», і ўся кампанія наструнілася.

— І не вы адны… Я, наіўняк, думаў, пісьменнікі — авангард нацыі, хварэюць душой за лёс мовы, маюць ідэалы і перакананні, прагнуць, урэшце, ісціны, а аказалася, што вас апроч ганарараў…

— Ну-ну, працягвай, — перабіў лысы, — цікава паслухаць маладых ды неаб’езджаных. Сам быў такім калісьці.

— Вы сваёй бяздарнасцю, п’янкамі і звычайным халуйствам давялі літаратуру да ціхага скону, — успыхнуў Юрась, забыўшыся скончыць папярэднюю фразу.

— Малады надта, каб старэйшым указваць, — заступіўся за камандзіра Падгурскі, — калі такі ідэйны, дык чаго сунешся на дармовы сняданак? Ды ў кампаніі літаратурных прыстасаванцаў.

— А я магу і не ісці, — выпаліў неаб’езджаны паэт-пачатковец і рашуча, як жаўнер на пляцы, крутнуўся на абцасах.

Да Дома творчасці шыбаваў подбегам, а на ганку траха не збіў з ног старога коласаўца, якога сустрэў на мосце.

— Паснедалі? — запытаўся коласавец. — Чым сёння кормяць?

— Было што выпіць, было чым закусіць! — крыкнуў Юрась, грукнуўшы дзвярыма.

У тым жа тэмпе, дыхаючы як загнаны жарабок, прабег знаёмай дарогай да моста і толькі тады запаволіў бег. Сэрца шалёна калацілася — упоравень са стукатам дзятла. Юрась перавёў дых, глянуў угору, спрабуючы ўгледзець стракатуна. З вершаліны выноснай хвоі падала долу дробная парахня.

«Як са столі ў пакоі № 2, калі на гары «летку-енку» скакалі», — падумаў Юрась і ўжо млявай хадой рушыў па дарозе.

Яму пашанцавала. Не паспеў выйсці на скрыжаванне, як з-за павароткі паказаўся знаёмы, белы з чырвоным пасам, рэйсавы аўтобус.

— Сёння ты за ганца? — вясёлым голасам спытаў той самы рабацініствы вадзіла. — Вадзіла, выглядала, ужо не першы год абслугоўваў гэты маршрут.

Юрась плюхнуўся на сядзенне, прыціснуўся скронню да халоднай шыбы.

За ноч крыху падсыпала снегу, і ён калюча іскрыўся на сонцы. Наперадзе была новая зіма.

«Усё ж такі добра, што з’ехаў з тых чортавых Камарышчавічаў. Заўтра выйду на працу. А можа, пару дзён пагуляю. Адпачынак жа ўзяў да наступнага панядзелка», — думкі павольна, як млыновыя жорны, круціліся ў глуздах, потым

некуды зніклі, і калі ён расплюшчыў павекі, дык убачыў за мутнай шыбай будынак чыгуначнага вакзала.

Перш, чым узяць квіт на электравік, — дахаты трэба было ехаць чыгункаю, а затым дванаццаць кэмэ на аўтобусе, — Юрась завітаў у вакзальны буфет, узяў бутэльку піва ды пару сінюшных буфетных секунцоў. Падхапіўшы пляшку з секунцамі, падзячыў прадавачцы на роднай мове, і тая адказала недаверлівай усмешкай. Там, за сталом з недаедкамі, да якога прытуліўся, у Юрася і ўзнікла ідэя: заўсёды размаўляць па-беларуску. І яшчэ пачаць збор подпісаў пад патрабаваннем адкрыцця ў іх горадзе калі не школы, дык хаця б беларускамоўнага класа. Гэтым самым хацеў уцерці нос кан’юнктуршчыкам, якія бразгалі малянкоўскімі шклянкамі ў Доме творчасці.

У электравіку было халадна і нешматлюдна. Зрэшты, ён не адчуваў холаду, бо ўвесь час маракаваў — што напіша пад петыцыяй і каго з сяброў далучыць да сваёй ініцыятывы. Пальцы ўжо зараз праглі схапіць самапіску, і не ведаючы, чым іх заняць, ён вылушчыў з пачка цыгарэту і выйшаў у тамбур.

У тамбуры стаялі два курцы — ягонага веку маладзёны. Юрась папрасіў прыпаліць, па-беларуску, зразумела, і адзін з маладзёнаў — той, які быў у дэрмацінавым плашчы, — лена пстрыкнуў запальнічкай.

— З усімі на калгаснай мове херачыш?

— Не на калгаснай, а на беларускай, — паправіў Юрась, пусціўшы дым да столі.

— Ты, чувак, не даганяеш. Цябе папрасілі размаўляць з белымі людзьмі на нармальнай мове, — падключыўся да размовы напарнік, хаця дагэтуль ні аб чым не прасіў.

— Я на сваёй зямлі і размаўляю на сваёй мове, — з годнасцю выдыхнуў Юрась. — Голас ягоны непрыемна здрыгануўся.

— Чувак не даганяе, — з робленым уздыхам працадзіў «дэрмацін», — трэба дапамагчы.

Вагон гайданула, цягнік рэзка запаволіў ходу, брынкнуў сваімі расхістанымі суставамі. Дзверы з цяжкім скрыгатам падаліся, і ў вагон з вохканнем увайшла абцяжараная торбамі

бабуля. Юрась напачатку не зразумеў — што наогул дзеецца. Проста адчуў штуршок у спіну і ўбачыў заінелую платформу, якая ляцела насустрач. Падаючы, ён балюча выцяў калена. Боль працяў такі, што яго пачало нудзіць. Следам з вагона вылецела шапка, і электравік з зацятым выццём стаў набіраць хуткасць, дыхнуўшы народжанай коламі замятухай і зводзячы ў невараць саквояж з вершамі.

— Во напіўся чалавек. З вагона куляецца, — прабубніла цётка, што выйшла з цягніка.

Юрась нацубіў на голаў шапку, з кракaннем падняўся і, прыпадаючы на правую нагу, пайшоў уздоўж прыцярушанай снегам платформы.

# У ВІЛЬНІ

Пасля трэцяй «пары» Мішку перахапіў на інстытуцкім калідоры куратар і папрасіў адведаць аднагрупніка, які не прыходзіў на заняткі. І хаця хлопец меў іншыя планы, аднак мусіў, не заходзячы дадому, ехаць у перапоўненым аўтобусе на другі канец горада. Лёшка Рындзюк, так звалі аднагрупніка, здымаў пакой у прыватным сектары. Некалі Мішка да яго заходзіў, але даўно, на першым курсе. Адно і запомніў, што на хаце былі сінія аканіцы. Па тых аканіцах і знайшоў Лёшкава жытло, тры ці нават чатыры разы абышоўшы 3-ці Савецкі завулак. Да весніц была прыбітая пакарабачаная бляха з выявай сабакі. Мішка з насцярогай увайшоў у разлеглы, пасыпаны бітай цэглай двор, але сабака не падаваў знаку. Можа, акалеў, а можа, яго тут ніколі і не было.

Дзверы адчыніў рудавалосы падшпарак, відаць, сын гаспадароў. Пачуўшы, што госцю патрэбны Аляксей Рындзюк, ён моўчкі тузануў чупрынай.

Аляксей Рындзюк ляжаў у бакавым пакойчыку на ложку з панцырнай сеткай і гучна хроп. Пад ложкам была разасланая газета, на якой сушыліся, рассыпаныя дробнымі камякамі, піўныя дрожджы.

«Дзе ён іх бярэ?» — паспеў падумаць Мішка, перш чым кашлянуць у жменю.

Жалезны ложак рыпнуў, Лёшка пацягнуўся і толькі тады заўважыў госця.

— О! Каго я бачу! — выгукнуў Рындзюк пасля адчайдушнага позеху. — Ці не Эдуард Ягуаравіч прыслаў?

— Хто ж яшчэ, — буркнуў Мішка. Іхнага куратара звалі Эдуардам Януаравічам, але студэнты крыху падкарэктавалі імя па бацьку.

— Захварэў? — запытаўся Мішка.

— Не зусім. Цяжкая паездка выдалася.

— Паездка? Куды?

— Табе скажы, а ты Ягуаравічу настукаеш.

Мішка пакрыўджана замаўчаў, памкнуўся да дзвярэй, а ўзяўшыся за дзвярную ручку, спытаў:

— А дрожджы дзе купляеце?

Убачыўшы, што аднагрупнік пакрыўдзіўся, Рыдзюк звесіў з ложка жылістыя лыткі, дастаў з кішэні штаноў пачак нетутэйшых цыгарэт, працягнуў госцю. Яны зрабілі па зацяжцы, і Лёха разам з дымам выдыхнуў:

— Літоўскія. У Вільнюс па дрожджы ездзіў.

Мішкава маці па святах пякла булкі з абаранкамі. Ды закінула гэтую справу: не было дражджэй. Іх цяпер днём са свечкай не знойдзеш. «Усё з-за самагоншчыкаў. Усе дрожджы скупілі», — казала маці. Згадаўшы матчыны словы, госць спахмурнеў.

— Самагонку гоніш?

— Нат не ўяўляю — як яе гнаць, — Лёшка, не выпускаючы з зубоў цыгарэты, насунуў на азадак порткі.

— А што вы з дражджамі робіце?

— Гаспадыня прадае. Цішком, вядома.

— Спекуляцыя? — у голасе Мішкавым нарадзіліся пагрозлівыя ноткі.

— А ты хацеў, каб мы тавар за светам набылі, на сваім гарбе, ад міліцыі хаваючыся, прывезлі, і прадалі за тое, за што купілі? — Рындзюк з жарсцю раздушыў у бляшанцы з-пад халвы недапалак. — У цябе, дарэчы, бацькі ёсць?

— Ёсць. А прычым тут гэта? — госць таксама здушыў цыгарэту.

— А пры тым. Ты ў сваёй хаце на ўсім гатовым раскашуеш. А я без бацькі рос. І матка раз на месяц пяцёрку прышле, а бывае і не прышле. На першым курсе галадаваць давялося. І дрожджы не я, а гаспадыня прадае. Ёй мараль пачытай.

Мішка пацёр лабаціну. Дарма ён, сапраўды, згадаў пра спекуляцыю. Аднагрупніку не пазайздросціш. Бацька на цаліне загінуў. Ехаў на трактары праз замерзлую раку, а лёд трэснуў. А маці, нібыта, на інвалідную пенсію жыве.

— І за пакой не плаціш? — спытаў Мішка. Спытаў проста так, каб улагодзіць сітуацыю.

— Ясны пень, не плачу. Апошнім часам наогул на грошы ўзбіўся. Глянь, — Лёха кіўнуў у бок вакна.

На падаконні стаяў транзістар з выцягнутай амаль да столі антэнай.

— Ух ты, — з ліслівымі ноткамі мовіў госць, узяўшы прымач у рукі. Мішка і сам прагнуў такі набыць, але маці не давала грошай, ды і ў продажы іх не было.

— «ВЭФ-Спідола-10». Экспартны варыянт, — паведаміў Лёшка, прыпаліўшы новую цыгарэціну.

Госць агледзеў транзістар з усіх бакоў. Пра экспартны варыянт Рындзюк, зразумела, загнуў. Але рэч файная.

— У Вільнюсе купіў?

— Вядома.

— Шкада, далёка ехаць да таго Вільнюса, — Мішка ўключыў прымач. Гучала перадача з цыклу «Ленінскі ўніверсітэт мільёнаў».

— Далёка? У суботу звечара залазіш у цягнік, раніцай ужо на месцы. Удзень ходзіш па крамах, а сёмай лезеш у вагон і дасвеццем убіваешся ў хату. Сёрбнуў гарбаты — і на заняткі выправіўся.

— А чаму цябе два дні не было? — Мішка ссунуў і зноў выцягнуў антэну.

— Гаспадыня папрасіла сыну куртку купіць. Усю ноч на вакзале кантаваўся, а зранку на кірмаш пабег. Ён у іх там а пятай гадзіне адчыняецца. Толькі па-цёмнаму і прадаюць. А прымяраюць апранахі, дык газеты паляць. І азіраюцца, бо можа міліцыя наляцець. Так што, лічы, двое сутак не спаў.

Мішка крутнуў ручку настройкі. Загучала перадача «Распавядаюць ветэраны».

— А ты хоць быў у Вільнюсе?

— Не даводзілася, — уздыхнуў госць.

— Дзіўны горад. Касцёл на касцёле. І навошта ім столькі? — Лёшка спехам дасмактаў цыгарэту. — Што ты слухаеш, далібог, — узяўшы прымач, Рындзюк пераключыў дыяпазоны, і прастора напоўнілася зычным голасам нейкай польскай спявачкі. Песня была тэмпавая і запрашала пусціцца ў скокі.

— Хелена Майданец. Заўсёды Варшаву слухаю, — паведаміў шчаслівы ўладальнік «Спідолы» і, прачыніўшы дзверы, крыкнуў: — Пеця!

У дзвярной пройме ўзнік той самы рудавалосы, стрыжаны пад бобрык хлопец.

— Куртка пасуе? — Лёшка нацягнуў праз галаў кашулю.

— Пасуе, — адказаў падшпарак.

— А што больш за ўсё ў Літве спадабалася?

— Лядай! — гракнуў Пеця ўжо адбягаючы ад дзвярэй.

— Сын гаспадыні. Увішны хлопец. Цэлы год прасіў, каб я яго ў Вільнюс узяў. Нарэшце, улетку з'ездзілі.

— А што за «лядай»? — Мішка прыцішыў галасістую польку.

— Марозіва па-літоўску.

— А ты ведаеш літоўскую мову? — у Мішкавым голасе прагучала лёгкая паніка.

— Ведаць — не ведаю, але прадавачцы сказаць сёе-тое магу. Літоўцы расейцаў не надта любяць, таму даводзіцца па-іхнаму шпрэхаць.

— А як да беларусаў ставяцца? — перабіў Мішка.

— Для іх ці расеец, ці беларус — адна халера. Але варта пару словаў завярнуць на іхняй мове — і да цябе ўжо іншае стаўленне. Дражджэй у рукі дваццаць пачак даюць. А мне трэба мінімум шэсцьдзясят. Скажаш: «Прашаў мелес. Трысдяшымт пакяту». Яна і сыпане. Гадзінку паблукаеш, яшчэ трыццаць пачак дасць. А некаторым нашым, якія другім разам чаргу займаюць, могуць і не даць. Там адны бульбашы таўпехаюцца. Толькі аднойчы літоўца бачыў. Ён і напісаў на цыгарэтным пачку — як трэба звярнуцца да прадавачкі.

— Цяжкавата, відаць, перці.

— А ты думаў… Пачкі, праўда, не такія вялікія, як у нас, ды ўсё адно: валачэш, і рукі адрываюцца. І пруся з гарадской ускраіны. Там у іх дражджавы завод, а пры ім крама.

Транзістар каротка затрашчаў, заспяваў прыемным барытонам.

— Ежы Паломскі, — Лёха паддаў гучнасці. Ён, падобна, ведаў па галасах усіх польскіх выканаўцаў. — Наступным заездам магу і цябе ўзяць.

Лёшка, нібыта нешта прыгадаўшы, выставіў палец: — Зараз чымсьці пачастую, — Рындзюк выбег з пакоя і сейміга паўстаў са скібкай чорнага хлеба ў руцэ.

— Я не галодны, — прагугніў госць.

— Смаката! Літоўскі хлеб. У нас такога зроду не выпекуць. Хоць і еду нагружаны, абавязкова бохан прыхопліваю.

Хлеб і папраўдзе смакаваў. І галавакружна пах кменам.

— Ну, едзем? Ці ты Ягуаравіча баішся?

Пытанне збянтэжыла госця. Той перастаў жаваць, але, падумаўшы, працягнуў аднагрупніку руку, і Лёха ляпнуў па ёй далонню.

Людзей у вагоне як завязаць.

— Па каўбасу едуць, — прашаптаў Лёшка, прабіраючыся па праходзе. Прабіўшыся ў канец вагона, з краканнем узлезлі на верхнія паліцы. Мішка хацеў узяць пасцель, ды спадарожнік паведаміў, што студэнты мусяць спаць на голых дошках. Лёшка зняў швэдар, скамячыў і, паклаўшы пад клуб, тут жа засоп, тыцнуўшыся носам у перабойку. Прызвычаіўся спаць без сенніка. Мішка таксама павярнуўся тварам да перабойкі і адчуў, што задыхаецца. Ён кульнуўся на спіну, расшпіліў гузікі на кашулі, суцішыўся ў паставе нябожчыка. Вагонныя дзверы сюд-туд адчыняліся, краналіся пяткі і, дыхнуўшы смуродам прыбіральні, з грукатам зачыняліся.

«Дарма назваў Рындзюка спекулём, — Мішка памружыўся на лямпачку, якая кволілася на століі, — пакуль да Вільнюса даедзеш — памерці можна ад задухі».

Цягнік скрануўся з месца, набраў хуткасць, і дыхаць стала лягчэй. Але ўзнікла новая праблема: з ваконнай шчыліны

пачаў дзьмуць струмок халоднага паветра, і давялося прыціснуць да шчыліны палітон.

На доле дзве пасажыркі нявызначанага веку суцішна перамаўляліся. У адной быў голас па-старэчы шапялявы, а ў другой па-маладому гамзаты, і размаўляла яна на трасянцы.

— А «Доктарская» ў іх прадаецца?

— Прадаецца. І «Доктарская», і «Кракаўская», і мясныя рулеты выкідваюць. Але што прыдумалі: ад раніцы крыху прададуць, а потым здымаюць з прылаўкаў. А ўвечары, як мы з'язджаем, зноў прадаюць. Для сваіх.

— Што робяць, паскуды. Жывуць за наш кошт і ад нас жа каўбасу хаваюць.

— Страшэнныя нацыяналісты. Прадаўшчыцы што скажы, а яна табе па-літоўску адказвае. А спытаеш на вуліцы — як прайсці да вакзала? — у другі бок пакажуць. У Вільнюсе, дзякуй богу, нашых многа. А заедзь у Каўнас — рускага слова не пачуеш. З маёй працы туды ездзілі, так нічога і не купілі.

«А чаго прэшся да тых нацыяналістаў? Вунь, літоўцы да нас не ездзяць і выдатна сябе пачуваюць», — з гэтаю думкаю Мішка заплюшчыў павекі, намагаючыся заснуць, але як заснеш, калі вагонныя дзверы безупынку грукалі, ды так, што дрыжэла перабойка.

Тужліва тахкалі колы, квола свяціла лямпачка пад столлю, панылыя думкі лезлі ў галаву. Мішка згадаў, як летась маці ездзіла ў Вільнюс — у іх на заводзе арганізавалі выправу па славутых вільнюскіх мясцінах. Увечары мусіў сустрэць аўтобус, каб дапамагчы данесці торбы, бо маці мерылася прывезці з літоўскай сталіцы харчоў. А дзявятай гадзіне блакітны «Лаз» спыніўся каля будынка заводакіраўніцтва. Мішка падбег да пярэдніх дзвярэй, але тыя толькі крыху прачыніліся. Відаць, іх нехта трымаў. За пыльнымі аўтобуснымі шыбамі варушыліся цёмныя постаці, чуліся жаночы віскат і глухія мужчынскія мацюгі. Неўзабаве дзверы адчыніліся напоўніцу, з іх спачатку пасыпаліся бутэлькі, а потым выкуліўся ўпіты дзяхан. Згубіўшы капронавы капялюх, ён прабег па інерцыі некалькі метраў і зарыўся лысай галавой у кветнік. Следам за ім з аўтобуса пнуўся выйсці чарнавалосы мацак у падзё-

ртай на пупе нейлонавай кашулі. Мацака трымалі за шыю, а той, барвовы ад натугі, вырываўся, і слаў праклёны на адрас лысага дзядзькі.

«Нап'юцца, тады біцца пачынаюць», — прамовіла маці, калі вылезла з аўтобуса. Біліся, як высветлілася, майстар механічнага цэха з начальнікам аддзела тэхнічнага кантролю. Надоечы ў цэху адбыўся партсход, на якім абмяркоўвалі заяву майстра на ўступленне ў партыю, а начальнік АТК заявіў, што майстар развёўся з жонкай і не выпісваў газет, таму заяву адклалі. Вось пакрыўджаны майстар і даў волю эмоцыям.

Дома Мішка з бацькам разбіралі хатулі з прысмакамі. Ніякіх славутых мясцінаў экскурсанты не наведвалі. Увесь час снавалі па крамах ды лаяліся з іншымі пакупнікамі. Пры гэтым матчына сяброўка, з якой разам працавалі, атрымала пустой сумкай па карку. «Маня ўсю ноч фрызуру рабіла, а выйшла з крамы ўскудлачаная як баба Каргота», — са смяшком выдала маці. «А навошта бохан хлеба везла?» — спытаў бацька. «Пакаштуй, і ўсе пытанні знікнуць», — матчын голас, які гучаў у свядомасці, заглушыў басавіты гудок цеплавоза. Вагон пачало кідаць у бакі, і Мішка схапіўся рукой за край паліцы. Гаваркія пасажыркі аціхлі, адно дзверы па-ранейшаму грукалі, і пах прыбіральні па-ранейшаму казытаў нюхаўку.

«Білася Маня, падобна, не з літоўкай, а з такой жа экскурсанткай», — падумаў Мішка, прыслухоўваючыся да перастуку вагонных колаў. Перастук рабіўся ўсё больш павольным. Цягнік пад'язджаў да станцыі. Што думаюць беларусы пра літоўцаў, растлумачыла пасажырка з ніжняй паліцы. А што думаюць літоўцы пра беларусаў? А што яны могуць думаць, убачыўшы расхлістаных цётак у чарзе па каўбасу. А зрабі літоўка заўвагу — адразу нацыяналісткай назавуць. У нас затое аніводнага нацыяналіста. Адно называемся беларусамі, а беларускага — анічога за душой. У школе родную літаратуру вывучалі. Па хрэстаматыі, якую нейкія сволачы складалі. Напхалі туды твораў, ад якіх млосна робіцца. Прачытае вучань Глебку з Лыньковым — і да скону дзён сваіх не возьме ў рукі беларускую кніжку. І Рындзюк роднага слова гідзіцца. Кажа, што гэта мова затурканых сялян і яе не варта адра-

джаць. І што калі ў інстытуце і з’явіцца сапраўдны беларус, яго вомігам на ўлік паставяць. Нездарма ж на курсе стукач ёсць. Вучыцца ў паралельнай групе.

Пройма ад вакна напорліва лезла за каршэнь. Небарака скурчыўся, накрыўся палітонам, а на голаў уздзеў палатняную торбу, якую ўзяў у дарогу.

— Ну як, спекулянт, выспаўся? — запытаўся Лёшка, калі дарэшты акалелы напарнік споўз з паліцы.

Напарнік у адказ памацаў правы клуб.

— Косткі баляць? Я швэдар пад клуб падкладаю.

Пасажыркі на доле здалі пасцелі і пілі гарбату. У вагоне гарэла святло, а за вокнамі панаваў шары прыцемак. Мішка збіраўся замовіць шклянку гарбаты, але Мішка сказаў, што падсілкуюцца ў вакзальным буфеце.

… У буфеце ўзялі па тры сасіскі з гарчыцай і па кубку кавы з трыма тонкімі пляйстрамі сыру.

— Бачыш розніцу? Кава ў кубку, і кубак на сподку. Як у лепшых дамах Ландону. А на мінскім вакзале замест кавы жалудовую бурду падаюць у мутнай шклянцы.

«У нас кубкі адразу ж скрадуць. Разам са сподкамі», — з гэтаю думкаю Мішка налёг на сасіскі. Тыя папросту раставалі ў роце. Даўно такіх не каштаваў. Кава гэтаксама смакавала і, галоўнае, надта прыемна пахла.

А вось будынак вакзала не ўразіў. Лёха казаў, што ў Вільнюсе ўсё старое ды забытковае, а перад вачыма паўстала тыповая савецкая спаруда. Хацеў сказаць пра тое напарніку, аднак Лёха ўжо бег да тралейбуса, які стаяў на прывакзальным пляцы.

У тралейбусе, як і ў вагоне, поўна народу. Але тут лунаюць зусім іншыя пахі: танных духоў, тытунёвага дыму і гарэлачнага перагару. «Як і ў нас», — падумаў Мішка, але ў гэты момант з дынаміку пачулася: — Кітас «Летува», — і госць з Беларусі ўвабраў голаў у плечы. Усё ж такі нязвыкла і нават страшнавата чуць незнаёмую гаворку. Дзве кабеты за спінай аб нечым гучна перамаўляліся па-свойму. Мішка думаў, што яны гамоняць па-літоўску, а аказалася — па-польску. Гэтую

мову ён трохі ведаў: набываў у шапіку часопіс «Пшыязьнь» і чытаў са слоўнікам. Адна з кабет, ад якой перла часныком, распавядала сяброўцы, як да яе прыязджаў стрыечны брат з Беластока і, купіўшы пяць залатых пярсцёнкаў, прас і стабілізатар для тэлевізара, таго ж дня з'ехаў дадому.

За шыбай у ранішнім паўзмроку ўзнікла штосьці падобнае на кардонку з-пад абутку з кароткім надпісам «Lietuva» на фасадзе. З выгляду кінатэатр. Мішка зацята глядзеў у вокны ў памкненні пабачыць старыя будынкі, аднак шыбы запатнелі і праз іх немагчыма было анічога ўгледзець.

Ехалі даволі доўга. У празрыстых пісягах, якія пакрэслілі шыбы, мільгацелі каменныя дамы, потым драўляныя — з абавязковым мезанінам, — нарэшце паплылі стаўбуры прыземістых хвояў, што стаялі ля дарогі.

Яны вылезлі з тралю на канцавым прыпынку, і Лёшка са скрухай прамармытаў:

— Ужо стаяць, гады.

Наперадзе, у мышастым прыцемку, дыміў жалезным комінам завод, а перад ім, прыляпіўшыся да цаглянага мура, кволілася нехлямяжая будова з вузкім, як амбразура, вакном. Пад вакном чарнеў людскі збой. Людзі, праўда, не стаялі, а сядзелі. Мішка спачатку не зразумеў — на чым яны сядзяць, а калі падышлі бліжэй, угледзеў пад азадкамі счарнелыя піўныя скрыні. Чарга нагадвала тую, якая звычайна стаяла ля пункта здачы шклатары. У Мішкавым двары быў такі пункт, і там ад самага ранку народ сядзеў на такіх жа хісткіх скрынях.

Чарга гаманіла па-расейску. Лёшка ўкінуў у рот цыгарэту, і тут яго нехта аклікнуў. Высокі чувак у целагрэйцы стаяў перад самым акенцам і махаў рукой. Лёшка падышоў да знаёмца, парукаўся, прапанаваў цыгарэту. Неўзабаве вярнуўся ў канец чаргі.

— З Маладзечна малец. Каторы раз сустракаю. Тут усе нашы. Аніводнага тутэйшага.

Землякі, што туліліся на хісткіх скрынях, пажадліва пазіраючы на ваконца, выклікалі ў Мішкі глухое спачуванне. І як ім не паспачуваць, калі бедалагі прыехалі з-за свету набыць пару кіло дражджэй. Аднак спачуванне змянілася палкім

абурэннем. Уласна, хто тыя людзі? Спекулі. Прададуць дэфіцыт у тры разы даражэй.

— Слухай, а з чаго робяць дрожджы? — спытаў нечакана для самога сябе Мішка.

— З адыходаў цукровай вытворчасці, — кампаньён з неспакоем зыркнуў на гадзіннік. Крама павінна ўжо працаваць, а вакенца ўсё не адчынялася.

— А чаму іх няма ў продажы?

— Каб самагонку не гналі. Пачнуць гнаць, і хто будзе «чарніла» жлукціць? Дзяржава вялікіх грошай не далічыцца.

Чым падабаўся Мішку напарнік, дык гэта тым, што меў просты адказ на любое звышскладанае пытанне.

— А чаму ў Літве прадаюць?

— Літва калісьці мела незалежнасць, і дражджэй там было пад завязку. Не дай іх літоўцам — пачнуць думаць: як аднавіць… — каго літоўцы захочуць аднавіць Лёшка сказаць не паспеў, бо вакенца адчынілася і ўсе ўскочылі на ногі. Лёха пайшоў наперад, зірнуў паўзверх людскіх галоў, выглядаючы прадавачку.

— Літоўка! — з панікай выдыхнуў Рындзюк праз хвілю. Ён сцішыў голас. — Па дваццаць пачак даюць. Мінулы раз полька прадавала. Станеш другім удругарадзь — і возьмеш колькі душа пажадае. А гэтая ніколі не дасць. «Вас ушэ обслушывала», — перадражніў Лёшка прадавачку і смачна плюнуў пад ногі.

Чарга выглядала даволі вялікай і рухалася павольі, бо пакупнікі атрымлівалі сваю норму, прасілі дабавіць, а нічога не атрымаўшы, адыходзілі ўбок і лаялі літоўцаў.

— Двідзяшымт, — прамовіў Мішка — тое мудрагелістае слова падказаў напарнік, — і даўганосая, з фрызурай, падобнай на атамны грыб, прадавачка з уздыхам сыпанула ў торбу дваццаць пачкаў. Пачкі былі маленькія, па сто грамаў вагі.

Мішка хуценька адышоў ад акенца і толькі краем вуха чуў, як сябар штосьці тарабарыў па-літоўску, а прадавачка трэсла атамным грыбам і гукала: «Следуюшчый». Кроў апаліла твар. Мішку стала раптам сорамна — і за сябе, і за землякоў. Нават пашкадаваў, што прыпёрся ў Вільнюс.

Тыя, хто атаварыўся, збіліся ў кучу. «Сволачы, няшчасных дражджэй шкадуюць», — гучала ў натоўпе.

— Дрэнь справа, — здалёк выгукнуў Лёшка, трымаючы сумку мезенцам, — мне трэба тры разы па столькі.

Хлопцы ўкінулі ў рот па цыгарэце, выпусцілі дым у кірунку людскога збою. Народу ў чарзе паменела, але пакуль палілі, новая партыя жанчын з неабсяжнымі торбамі выкулілася з тралейбуса ды кінулася за дэфіцытам. Ім насустрач, да тралейбуснага прыпынку, клыпаў, прыпадаючы на левую нагу, сівенькі дзядок. Параўняўшыся з хлопцамі, дзядок правёў кулаком па далоні, просячы агню, і Лёшка з імпэтам чыркнуў запалкай.

— А вы тутэйшы?

Дзядок кіўнуў, рушыў да тралейбуса, і Рындзюк схапіў таго за рукаво. Так і шлі, пад ручку, метраў пяцьдзясят. Лёха нешта казаў, а дзядок адмоўна, як тая прадавачка, трос галавой ды паказваў рукой на траль. Урэшце Рындзюк дастаў з кішэні грошы, — і жыхар тутэйшых мясцін, павагаўшыся, павярнуў назад.

…Хвілін праз пятнаццаць дзядок з Лёшкам адвалілі ад акенца, і тутэйшы жыхар з адчаем ляпнуў далонямі па клубах. Ад прыпынку ад’язджаў тралейбус.

— Не хвалюйцеся, зараз яшчэ пад’едзе, — задышліва прамармытаў Лёшка, цягнучы сваю пацяжэлую ношку.

— У мяне нумарок у паліклініку, а я з вамі важдаюся, — пасля такіх слоў Лёха запабежліва тыцнуў дзеду пачак гродзенскіх цыгарэт.

— А вы беларусы? — вільняк гаманіў з ледзь прыкметным акцэнтам.

— Беларусы, — з годнасцю выдаў Мішка, прыўзняўшы грудзіну.

— У нас шмат беларусаў жыве, — дзядок прыпаліў ад падстаўленай Лёшкам запалкі. — Дзіўны народ. Дома па-просту гавораць, моладзь і польскай мовы не ведае, а ў пашпартах скрозь палякамі запісаліся. У Вільнюсе беларусамі быць не надта прэстыжна. Ведаеце, як вас да вайны называлі? Гудасы! А «гуда» па-нашаму «пудзіла». Перад самай вайной, калі нас

Масква захапіла, Палецкіс прапанаваў казаць не «гудас», а «балтарусіс», каб беларусы не крыўдавалі.

— А вы, літоўцы, бачыце розніцу паміж намі ды расейцамі? — пацікавіўся Мішка.

— Як жа… бачым. Беларусы — белыя, бо адранку мыюцца, а русы нямытыя ходзяць.

Кампаньёны пераглянуліся. Показка ім не спадабалася.

— І даўно тут жывяце? — змяніў Лёшка тэму гаворкі.

— Даўнавата. Раней у цэнтры жыў, на Вакечу. Зараз у той кватэры сын з сям'ёй атабарыўся. Цяпер вось тутака, у старой габрэйскай хаце век дажываю. Сам я з Біржаю. У мяне вятрак быў і вялікая гаспадарка. А ў саракавым годзе кінуў усё, наладаваў два вазы майна і ў Вільнюс падаўся.

За спінамі зашамацеў коламі тралейбус. Дзед адкінуў недапалак, валюхаста патупаў на прыпынак.

— Колькі на лапу даў? — пацікавіўся Мішка, залазячы ў траль.

— Юбілейны рубель. Будзе хоць з чым дахаты ехаць, — сябрук страсянуў цяжкой сумкай.

Хлопцы плюхнуліся на задняе сядзенне.

— Чуў, якія показкі пра беларусаў распавядаюць? — прасіпеў Мішка.

— Цішэй абурайся, — такім жа незадаволеным сіпам адказаў напарнік, — ну мыемся раніцою… з чаго тут крыўдаваць? Да таго ж, не яны да нас прыехалі, а мы да іх. Думаеш, прыемна лабусам у чэргах з бульбашамі таўпехацца.

Тралейбус ізноў прывёз іх на вакзал.

— Можа, табе трошкі адсыпаць? — спытаў Лёха, пхнуўшы сумку ў ячэйку вакзальнай багажні.

— Мне хопіць, — прамармытнуў Мішка. — Усё адно маці прадаваць дрожджы не будзе. Пакіне сабе колькі, а астатняе суседкам раздасць.

— І мая матка ніколі спекуляцыяй не займалася, — Лёшка бразнуў дзверцамі ячэйкі. — Нажывацца такім чынам — не ў традыцыях беларусаў. І жабраваць не наша традыцыя, — Лёшка знянацку загаварыў напышлівай мовай. — Я пазалетась ва Украіну ездзіў, дык там не паспееш на вуліцу выйсці,

як тут жа пабірахі рукі цягнуць: «Да-айтэ копійочку. Дытына голодна». Так што і ў нас ёсць дадатныя рысы характару.

Мішка наставіў на сябра цікаўныя вочы:

— А дзе твая гаспадыня дрожджы прадае?

— Не на кірмашы, ясны перац. Заганяе прафесійным самагоншчыкам.

— А чаму самагоншчыкі самі сюды не едуць?

— Ага. Так ім і сказалі — дзе дэфіцыт дастаём.

Скочыўшы з вакзальных прыступак, пайшлі няспешным крокам па вуліцы, якая бегла ўздоўж чыгункі, затым павярнулі налева. Брукаванка збягала долу, а ўсутыч да яе падступалі шэрыя камяніцы. Горад, які ўяўляўся прывідам з размытымі відарысамі, набыў дакладнасць ліній. Мішку здавён вабіла даўніна, а ў Вільнюсе яна паўстала ва ўсёй сваёй веліччы. Праходзячы міма старога, дарэшты пашарпанага мура, Мішка міжволі правёў па ім пальцамі, адчуваючы, што кожная цагліна — маленькі фрагмент вялікай гісторыі. Лёха між тым ішоў па бруку з грымасай стомленага заўсёдніка на твары, усім сваім выглядам дэманструючы, што ўсё тут, пачынаючы ад дамоў і заканчваючы выбітым каменем у брукаванцы, яму да болю знаёма.

— А вунь Вострая Брама, — Лёшка спатыкнуўся на выбоіне і ціха вылаяўся.

У канцы вуліцы жаўцела спаруда з шырокай брамай.

— Там усярэдзіне ікона выстаўлена. Старая вельмі. Бабулі вакол яе вокраччу поўзаюць.

Яны ўвайшлі ў атвор брамы, і Мішка ўбачыў бабцю, якая, укленчыўшы, цалавала мур. Сэрца крануў лёгкі халадок.

— Пайшлі, і не тое пабачыш, — Лёшка падштурхнуў сябра ў спіну.

Калі прамінулі браму, праваруч намалявалася высокая галерэя. Вялізныя лукаватыя атворы прымушалі задзерці галаву, каб іх агледзець, а ля падножжа, на бруку, сядзелі жабракі ўперамешку з гандляркамі, якія прадавалі абразкі ды мініяцюрныя ўкрыжаванні. Хлопцы з насцярогай зыркнулі на касцельныя дзверы. Маладжавая вулічная гандлярка

звярнулася да іх па-польску, а заўважыўшы непаразуменне на хлапечых тварах, прамовіла па-расейску:

— Можаце зайсці, якраз імша заканчваецца.

У касцёле панаваў лёгкі змрок, і дзесьці ў глыбіні цьмяна бліскалі агеньчыкі. Мішка глянуў угору — і сэрца схаладнела. Адтуль, з вышыні, на яго пагрозліва глядзелі святыя апосталы. Падлога пад нагамі загула, а потым задрыжэла. Гэта зайграў арган. Грымотны гук, здавалася, ішоў аднекуль з долу, з глухіх касцельных лёхаў. Усе наўкол, і старыя, і маладыя, укленчылі, і нашы героі, увабраўшы галовы ў плечы, сталі прабірацца да выхаду.

Выкуліўшыся з касцёла, хлопцы прагна ўдыхнулі паветра, агледзеліся, і Мішка набыў у гандляркі, якая запрашала зайсці ў касцёл, алавянае ўкрыжаванне.

— На памяць пра Вільнюс, — стоена прашаптаў ён сябру.

Падэшвы чаравікаў прыемна шорхалі па бруку.

— У царкве пару разоў быў, а ў касцёле ўпершыню, — Мішка ўважліва, падсунуўшы да самага носу, разглядаў Хрыста.

— Тут побач і царква ёсць. Можам зазірнуць.

На царкоўным цвінтары таксама сядзелі жабрачкі, і нейкая цётухна ў чорных апранахах — відаць, манашка, — на чыстай расейскай мове апавядала дзвюм па-моднаму апраненым дзяўчынёхам:

— Апошнім умярцвілі Яўстафія — павесілі на тым жа дубе, што і Антонія з Іаанам.

— Пра каго гэта яна? — ускінуў брыво Мішка.

— Пра царкоўных пакутнікаў. Пацярпелі, немаведама ў якім стагоддзі, за веру. Тады ўсе былі паганцамі, а гэтыя прынялі хрысціянства — паганцы іх і павесілі.

Мішка ўжо ўзыходзіў на аточаны жабракамі ганак, але сябар дыхнуў у спіну:

— У царкву не пайду. Там напаўзвар’яцелыя цёткі адразу прычэпяцца: «Чаго ты тут ходзіш?.. Чаму нос задзёр?»

Мішка глянуў на жоўтыя, злёгку падрапаныя сцены, і пабег за сябрам, сюд-туд азіраючыся. Ад модных дзяўчынёх цяжка было адвесці вочы.

Пакручастая вуліца вывела на невялічкі пляц, на якім лагодзіў вока яшчэ адзін касцёл, яго высокія крыжы сягалі да неба. У касцёле якраз абудзіўся арган, і Мішку карцела паглядзець канец імшы, бо першым разам нічога не ўбачыў, ды Лёшка пстрыкнуў пальцам па гадзінніку.

— Пачнем бегаць па касцёлах — каўбасень скончыцца. Цэлы цягнік каўбаснікаў прыехаў. Так што варушыся. Аж за рэчку пойдзем. Ведаю адну крамку — там нашых дакладна не будзе.

Народу па каўбасень, аднак, сабралася болей, чым па дрожджы. Тут таўкліся і бульбашы, і лабусы, і ў краме ўвесь час усчыналіся сваркі. Паперадзе стаялі дзве літоўкі. Яны ўголас — то па-свойму, то па-расейску, — каментавалі сітуацыю. Нечакана да літовак падсунулася цыбатая кабета з ускудлачанымі валасамі і, убіўшы між імі руку, абаперлася на вітрыну. «Жэншчына, уйдітэ», — гамузам выдалі літоўкі, і цыба рашуча парыравала: «Я занімала вочараць». Мішка па голасе пазнаў кабету, якая ехала ў іхным купэ.

— Яшчэ трохі, і мяне б умярцвілі, як Яўстафія, — Лёшка пхнуў у палатняную торбу дручок доктарскай каўбасы. Бедалагі адстаялі ў чарзе амаль гадзіну.

Пасля крамнай задухі добра дыхалася. Мішка шырокім крокам шыбаваў па Горкіо гатве, круціў галавой, і кожнага разу позірк ягоны натыкаўся на вежу з цёмна-чырвонай цэглы.

— Вежа Гедзіміна, — патлумачыў сябрук, але Мішка і без яго ведаў — што гэта за будова. Шмат разоў бачыў на фотаздымках.

— А наверх пускаюць?

— Пускаюць. За ўваход плаціць трэба.

— Цікава б глянуць з верхатуры на горад.

— Збіраешся з каўбасой на вежу перціся?

— І папруся, — гарачліва выпаліў Мішка, і цяпер ужо Лёшку давялося подскакам бегчы за сябрам.

Панарама горада ўражвала: спічакі касцёлаў, што праціналі шэрае неба; цёмныя хрыбеціны дахаў, якія тое неба трымалі; маленькая, бурай водцені рачулка, якая вужакай агінала

Замкавую гару, і шырокая рака, у якую тая ўпадала — усё лагодзіла зрок.

— Класна… — пралепятаў Мішка, зірнуўшы на спадарожніка. Той не адказаў. Быў незадаволены, што прайшлося ўзняцца на вежу і плаціць дзесяць капеек.

— У цэнтры аніводнага сучаснага будынка, — Мішка паспрабаваў разгаварыць сябра. — Толькі на беразе ракі штосьці будуюць.

— Палац спорту, — буркнуў Лёшка.

— Уяўляеш, калі б Вільнюс стаў нашым абласным цэнтрам?

— Уяўляю, — адгукнуўся, памаўчаўшы, Лёшка, — гістарычны цэнтр бы знеслі і забудавалі пяціпавярховікамі з сілікатнай цэглы.

— Я і кажу — чаму ў нас усё не так, як у літоўцаў?

— А што не так?

— Ды хаця б тое, што літоўцы размаўляюць на сваёй мове, а мы альбо па-расейску гамонім, альбо на трасянцы лупім.

— Таму што яны нацыя, а мы… — Лёшка задумаўся, вызначаючы — хто такія беларусы і, не знайшоўшы прыдатнага азначэння, паведаміў: папросту людзі, якія жывуць у Беларусі. Як, скажам, кубанцы на Кубані. Мая гаспадыня родам з Краснадара. Спытай — хто яна? — і тая адкажа, рукі ў бакі ўзяўшы: «Казачка!» А падап’е, па-свойму балаболіць. Не ўцяміць — украінская мова ці расейская.

— Ну гэта Кубань. Вобласць Расеі. А ў нас жа асобная рэспубліка.

— Стварылі здуру тую рэспубліку, а зараз пакутуюць, ствараючы наяўнасць нацыянальнай культуры і мовы. Дыктар на тэлевізіі навіны па-беларуску прачытаў, выйшаў са студыі — і адразу на мову забыўся. Актор спектакль адыграў, за кулісы ступіў — і тут жа загаварыў па-расейску. І так паўсюдна.

— А я, насуперак дыктарам ды акцёрам, буду на ёй размаўляць. І на кулісах, і за кулісамі. Падвучу толькі крышку.

— А навошта жылы цягнуць. Пачынай зараз, — хмыкнуў Лёшка, — але ўлічы — займееш праблемы. Сам веда-

еш — на курсе стукач завёўся. А мо і не адзін. Адсочваюць настроі ў студэнцкім асяродку. Партыя стварае гістарычную супольнасць — савецкі народ. А ты вырашыў беларускую мову вярнуць? У нас не Літва — хуценька па грыбах дадуць.

— А я ўсё адно буду размаўляць, — з упартасцю прамовіў Мішка. — Трэба даказаць тым жа літоўцам, што беларусы не толькі ў чэргах могуць ціскацца, але і на штосьці іншае здольныя.

— На што, напрыклад?

Мішка прамаўчаў.

— Як надумаеш — скажаш, — з усмешкай працадзіў Рындзюк і дакорліва ўздыхнуў.

Са столі вакзальнай пачакальні цадзілася кволая яснасць, ад якой цягнула на сон. Паветра навылёт працінаў пах кавы, — у дальнім канцы пачакальні месціўся буфет, — і цяжкі каўбасны смурод. Нацягаўшыся за дзень, кампаньёны сядзелі на мулкіх лавах, жавалі чорны хлеб, які раз-пораз адломвалі ад боханаў, і слухалі дзвюх цётак. Цёткі займалі суседнюю лаву і трасяначнай мовай абгаворвалі агульную знаёмую, якая з’ездзіла ў Вільню, зрабіла сабе андуляцыю (хлопцы так і не зразумелі, што гэта такое), і цяпер хадзіла па Лынтупах, нос задзёршы. Тым часам цёткі таксама задзерлі насы, а вызначыўшы, скуль пахне кавай, падаліся да буфета. На іх месцы селі два старых фацэты ў шыкоўных, заходняга крою капелюшах з высокім верхам. У гэткіх капелюшах хадзілі шпіёны, якіх паказвалі ў кіно, і дружбакі міжволі настуніліся. «Шпіёны» былі падобныя адзін на аднаго, няйначай, браты, і гаманілі па-польску. Прычым, адзін з іх гаварыў зразумелай мовай, а што казаў другі, цяжка было зразумець.

— Якая гадзіна? — спытаў Мішка па-беларуску, ушчыкнуўшы каліва мякішу.

Знянацку паляк, які гаманіў незразумелай мовай, працяў яго дапытлівым позіркам:

— Беларусы? — фацэт зняў фетравы капялюш, агаліўшы чырвоны плех.

— Беларусы! — разам выдалі хлопцы.

— Першы раз сустракаю ў Вільні маладзёнаў, якія не забыліся на родную мову, — паляк прамаўляў па-беларуску з нейкім дзіўным акцэнтам і, згадваючы штосьці, пamружыўся на цьмяны кандэлябр на стале: — «Я мужык-беларус, — пан сахі і касы; цёмен сам, белы вус, пядзі дзве валасы».

— А вы з Беларусі? — пацікавіўся Мішка.

Лысы дзядзька ўсміхнуўся.

— Не, братка, ва Уроцлаве векавую.

— А адкуль беларускую мову ведаеце?

— Нарадзіўся непадалёку, і адну зіму ў беларускую школку хадзіў, — апавядальнік упрыкмет пажвавеў. — Жылі каля літоўскай мяжы, і бацька панадзіўся пшэмыт праз мяжу перакідваць, — дзядзька пакасіўся на брата: — Як «пшэмыт» па-беларуску? — Кантрабанда, — прашаптаў братан. — Вось-вось… панадзіўся кантрабанду ў Літву перакідваць. Памежнік быў знаёмы, аднагодак з суседняй вёскі. З яго дапамогай тавараабмен і наладзілі. Што літоўцам перадавалі — і не згадаю, а з літоўскага боку мяшкі мультану кідалі. Памятаеш, бацька па святах турэцкі мультан паліў? — мімаходзь запытаўся ўроцлавец у братана, і той моўчкі кіўнуў. — Карацей, абабіў бацька на пшэмыце залатоўку і купіў хату на Антокалі. Цяпер у ёй літоўцы жывуць, — дзядзька аціх, і Мішка заўважыў суворую складку між броваў. Жыхар Уроцлава вылаяўся па-польску на адрас літоўцаў, і братан тыцнуў яго локцем пад драбы.

Пад столлю загуло, і прастору прарэзаў голас вакзальнай дыспетчаркі, якая — спачатку па-літоўску, затым па-расейску — абвясціла: «Хуткі цягнік Ленінград — Варшава прыязджае на другую каляіну першай платформы».

Старыя фацэты падняліся на ногі.

— Ну, бывайце, беларусы, — гаваркі дзядзька нацубіў капялюш на самыя бровы. — А на развітанне скажу так: нічагуткі з беларускай мовы не атрымаецца. А калі нешта пачне атрымлівацца — адразу ж прыдушаць.

— Чуў, што сказаў разумны чалавек? — Лёшка кіўнуў у бок уроцлаўца, які з паважным выглядам, следам за братам, выходзіў з пачакальні.

Мішка нічога не адказаў. Сядзеў, анямелы, і думаў пра сваё.

Неадольныя думкі не адпускалі Мішку і пазней, у цягніку, калі ляжаў на верхняй паліцы. Хлопцу падалося, што свет навокал стаў іншым, і ўсё ў ім, нават цемра за вакном, напоўнілася таемным сэнсам. Скронь казытала халодная дуйка, вагон кідала ў бакі, дзынкала лыжка ў шклянцы з недапітай гарбатай, але Мішка ўсяго гэтага не заўважаў. Там, на мулкай паліцы, была перагорнутая першая старонка жыцця. Вачам адкрылася новая старонка, у сэрцы нарадзіліся новыя надзеі, і новыя песні апанавалі слых. З чаго пачаць новую старонку? Відаць, з таго, што прачытае ўсю беларускую класіку. Потым… — маракуючы — што ён зробіць потым, Мішка крутнуўся на бок. Нешта муляла драбы. Хлопец пхнуў руку ў кішэнь пінжака і намацаў укрыжаванне. Мішка паставіў алавянага Хрыста на палічку для ручніка і заплюшчыў вочы. Цягнік набліжаўся да станцыі, і па купэ папаўзлі, спачатку хутка, затым паволі, квадраты асветленага вакна. Святло краналася ўкрыжавання, рабіла яго жывым, і мажная кабета, якая прабіралася да выхаду, пабачыўшы Хрыста, выпусціла з рук валізу і павольна і не да месца ўрачыста перахрысцілася.

# ТАЙНА ПРОНІНАЙ САЖАЛКІ

## I

Душным летнім вечарам, прыкладна а 19-й гадзіне, з піўбара «Эрыдан», што сціпла прыляпіўся да ўскрайку гарадскога парку, выйшлі двое мужчынаў. Адзін з іх, маленькі, чарнявы, апрануты ў пакамечаную вятроўку ды мышастага колеру нагавіцы, быў ніхто іншы, як намеснік галоўнага рэдактара мясцовай газеты «Мандрыкаўскі веснік» Рыгор Налівайка. Другі — высокі, бялявы, з вялізным носам, які рабіў яго падобным да генерала дэ Голя, — працаваў інспектарам пажарнага нагляду і меў нетутэйшае (татарскае, відаць) прозвішча Муслін.

Завярнуўшы ў паркавыя прысады, мужчыны запалілі папяросы — цыгарэт яны не любілі, — і журналіст, выцершы рукавом вятроўкі ўзмакрэлы лоб, нецвяроза і не да месца сувора запытаў:

— Ты думаеш пісаць заяву?

Пытанне прагучала няўцямна, правакавала на стрэчнае пытанне: «Куды?» — але Муслін у адказ адно ўздыхнуў і таксама прывёў рукой па лабаціне.

Кожнага разу, выкуліўшыся з піўбара, сябрукі гаманілі пра літаратуру, і Налівайка, зацягнуўшыся папяросай і адрыгнуўшы піўным духам, штораз заклікаў інспектара падаваць заяву на ўступленне ў Саюз пісьменнікаў. Муслін, як ужо чытачы зразумелі, пісаў вершы. Былі яны бясконца далёкія ад дасканаласці, аднак «Мандрыкаўскі веснік» іх зрэдзьча-

су друкаваў, і, вядома ж, пасля кожнай публікацыі аўтар вёў намесніка галоўнага рэдактара ў «Эрыдан».

У душы Налівайка пацвельваў з уладальніка татарскага прозвішча і ягоных «паэтычных пердлаў», да таго ж аднойчы злапаў паэта на плагіяце, але, кульнуўшы тры кухлі «Жыгулёўскага», са шчырай дрыготкай у голасе заклікаў творцу падаць заяву ў пісьменніцкі звяз, а агораўшы чацвёрты, здушана-ўрачыстым голасам, траха не са слязінай на вачох, прасіў сябра прачытаць што-небудзь з ненадрукаванага. Сёння дружбакі выпілі па тры кухлі — у Мусліна на большае не хапіла грошай.

Мужчыны дайшлі да канца ліпавых прысадаў, і паэт змучана працадзіў:

— А калі не прымуць?

Налівайка спыніўся, прыпаліў прытухлую папяросу, хацеў штосьці сказаць, ды тут за спінаю пачулася непрыемнае, падобнае да віскату цыркуляркі, зумканне. Сябрукі азірнуліся і спалохана прыселі: па-над іхнымі галовамі, поўнячы слых каляным звонам і дыхнуўшы ў твары лёгкім ветрыкам, праляцеў… Зрэшты, хто праляцеў над галовамі, не здолеў бы адказаць і самы фаховы энтамолаг. Памерамі лятун быў з добрага шпака, а з выгляду нагадваў звычайнага камара: такая ж доўгая дзюбіна, мехаваты, у шэрую палоску пузень, дзве цыбатыя, задзёртых угору лапы. На імгненне камарышча прыцішыў лёт, завіс над інспектарам, а потым, зумкнуўшы на астачу, пераляцеў кусты і знік у паркавых нетрах.

У Налівайкі ад нечаканасці з рота выпала папяроса, і ён, падхапіўшы яе з-пад ног, тыцнуў беламорыну гарачым канцом у ніжнюю, уражана адвіслую вусну.

— Хто гэта быў? — прастагнаў журналіст, аблізваючы прыпечанае месца.

— Камар… — няўпэўнена прамармытаў Муслін.

— Дзе ты бачыў такога камара? Гэтая пачвара з ног саб’е, як у лоб пацэліць, — супрацоўнік раённай газеты дагэтуль стаяў паўсагнутым і толькі цяпер выпрастаў хрыбеціну.

Уражаныя сябрукі пашыліся ў кусты, доўга слухалі шапаценне струмка і засоплена аддзімаліся. На твары

Налівайкавым тым часам адбіўся цень засяроджанасці, магчыма, нават турботы, а ў гарачай галаве замітусіліся бязладныя думкі ды абрыўкі газетных рэляцый: «Неверагодная сенсацыя!.. Камар-мутант шукае спажывы!.. Увага навуковай грамадскасці прыкутая да гарпасёлка Мандрыкаўка!.. Першы, хто паведаміў пра небяспечнага мутанта, быў журналіст Рыгор Налівайка!»

— Чуеш?! — журналіст абабіў апошнія кроплі. — Мы з табой сталі сведкамі надзвычайнай падзеі, і я, як сумленны і адказны грамадзянін, — Налівайка гаварыў без іроніі, — мушу паведаміць свету…

— Мяркую, варта памаўчаць, — перапыніў яго Муслін, вылазячы з кустоў на сцяжыну. — Нячысцік яго ведае, што там паляцела.

— Не-э, братка… «Не магу маўчаць», як пісаў класік. Ты мне дасі невялічкае інтэрв'ю. На гэтай справе — Налівайка дзьмухнуў у муштук папяросы — мы зможам абабіць ладную капейчыну. За мяжою, думаю, гэты факт шмат каго зацікавіць, а інфармацыя ў наш час каштуе вялікіх «бабак».

— Вазьмі інтэрв'ю яшчэ ў каго… Не хапала, каб мяне ў дурку выправілі. Разам з табою.

Журналіст абурана ікнуў.

— Ага-а… (ік!) чужыя вершы дзерці можа (ік!). А даць маленькае інтэрв'ю не мае ахвоты…

Ікнуўшы тры разы запар, Налівайка мацюкнуўся, а суразмоўнік нервовым рухам пацёр нюхаўку і сарамліва адвёў позірк.

Калісьці, падпіўшы з нагоды чарговай публікацыі, паэт запрасіў Налівайку да сябе ў хату — працягнуць банкет. І калі гаспадар пабег у краму за другой бутэлькай, госць выпадкова ўбачыў на стале пажоўклую тэчку з газетнымі выцінкамі. Гэта былі вершы са шматтыражкі хрушчоўскай пары. Як зразумеў журналіст, Муслін іх акуратна перапісваў і выдаваў за свае.

— Ну дык што, Гамер, прычыняем тваю гамэрню?.. Колькі можна плагіятам займацца… — супрацоўнік раёнкі ляпнуў інспектара па спіне і ўжо прымірэнчым тонам заўважыў: —

Ды не хвалюйся ты. Я і прозвішча называць не буду. «Наш чытач М., работнік пажарнай інспекцыі…» Ды і сябе згадаю. Разам жа бачылі…

— Зашыфраваў… У нас на ўсю Мандрыкаўку два інспектары, — прагугніў Муслін і таксама ікнуў — залівіста і гулка.

Пакуль бег да хаты, зноў прыперла адліць, таму ад самага парогу, адсунуўшы плечуком жонку, Налівайка рынуў у прыбіральню.

— Ізноў дзюбнуўшы… Хоць бы дзверы прычыняў, паскуда… — выдыхнула Капіталіна, ды голас яе, на шчасце, заглушыла вясёлае цурчанне.

— Увесь унітаз засцаў… выцірай кожны раз ягоныя сцулі, — пад жончына бурчанне, не сказаўшы ні слова ў адказ — на тое бракавала часу — Налівайка скінуў вятроўку, зазірнуў у даччын пакой.

Люська, сямнаццацігадовая цыбатая дзяўчына, сядзела пры камп'ютары і вывучала шлюбныя абвесткі.

— Давай… згортвай сваю музыку… набярэш невялічкі тэкст.

— Хай табе твая Клаўка набірае, да якой ты цягаўся, — з жарсцю прамовіла жонка, узялася ў бакі, хацела дадаць пару словаў на адрас рэдакцыйнай машыністкі, але, угледзеўшы шалёны бляск у мужавых вачах, увабрала голаў у плечы і ўжо апалым тонам пралепятала: — Здарылася што?

— Здарылася, — буркнуў муж і, закінуўшы рукі за спіну, стаў мераць пакой асцярожлівым, як у ката, крокам.

Думкі блыталіся. Хвілін пяць Налівайка сноўдаўся па пакойчыку, нарэшце, памружыўся на нізкую, пазначаную плямамі прыдушаных камароў столь, кашлянуў у жменю.

— Пішы: «Неверагоднае здарэнне ў гарадскім парку».

Дачка іранічна хмыкнула, заляпала па клавіятуры.

— «Сведкамі дзіўнай з'явы сталі мінулай серады інспектар пажарнага нагляду Браніслаў Эм…»

— Ці не той гэта п'яніца, які вершы піша? — азвалася з кухні Капіталіна. — Стрымліваючы пякучы гнеў, Налівайка

сціснуў кулакі, пачаў мерац пакой крокам уладным і беразважна-рашучым.

— «…і адзін з супрацоўнікаў нашай газеты… Прагульваючыся надвячоркам па цяністых прысадах, яны раптам убачылі камара». Напісала? «Камар, аднак, быў велічынёй з вераб'я…»

— Во дапіліся, — падала голас жонка, і муж, не стрываўшы, з такім імпэтам прычыніў дзверы пакоя, што пад ногі паляцела тынкоўка, а трохражковая люстра, вясельны цёшчын падарунак, хітнулася пад столлю і гучна абрынулася на падлогу.

Назаўтра, азызлы, прыспаны — спаць давялося на раскладанцы, — Налівайка ўвайшоў у рэдактарскі кабінет, з цяжкасцю апусціўся ў крэсла.

Іван Пятровіч Жох, рэдактар «Мандрыкаўскага весніка», акінуў падначаленага дапытлівым позіркам.

— Ну, як вы тут… без мяне? — два апошніх тыдні Жох быў на семінары ідэалагічных работнікаў і на працы з'явіўся толькі сёння. — Працавалі, бачу, без перапынку на абед і асабістыя патрэбы. Аж пыса апухла…

Налівайка рэдактаравых жарцікаў як і не чуў. Дрогкай рукой выцягнуў з кішэні складзены ў дзве столкі аркуш:

— У заўтрашні нумар!

— Глядзі, Рыгор, — рэдактар уважліва вывучаў апухлую і пасінелую вусну падначаленага, — дап'ешся.

Жох разгарнуў аркушык, насунуў на нос акуляры, і вочы ягоныя адбіткамі акварыумных рыбак паплылі за шкельцамі. Напачатку рэдактар пасміхаўся, затым ураз пасур'ёзнеў, дастаў з пачка цыгарэту.

— Слухай, у мяне ў вобласці знаёмы нарколаг ёсць. Прафесар Сушчэня. Пазваню… дамоўлюся. Наступным тыднем і выпраўляйся. Сушчэня і не такіх ставіць на ногі.

— Ды я таго камара сам бачыў! — Налівайка грукнуў кулаком у грудзіну. — І не я адзін… Муслін таксама.

— Гэта той паэт? — Жох падцягнуў газетную падшыўку. — Як я ў камандзіроўку, ты гэтага вершаплёта ставіш. Уся

Мандрыкаўка смяецца. Карацей, ад сённяшняга дня вершы ідуць выключна з маёй візай. Уцяміў?

Жох зацягнуўся цыгарэтай, разагнаў рукой шызы дым.

— Што вы там пілі? Можа якой дрэні навярнулі, вось і пачаліся глюкі.

— Мы маем шанц першымі паведаміць аб прыроднай анамаліі. «Мандрыкаўскі веснік» можа патрапіць у гістарычныя аналы.

— У анальную адтуліну яна патрапіць, Рыгорка. Я дваццаты год у рэдактарскім крэсле і маю пэўны досвед журналісцкай працы. Ну, засведчыў ты з'яўленне камарынай анамаліі… ну, сфатаграфаваў ты таго камара… Усё адно мы павінны гэтую інфармацыю ўзгадніць. А раптам тут прысутнічае дзяржаўная тайна? А можа, гэта вынік сакрэтнага генетычнага эксперыменту? То ж бо то… Карацей, кідай дурыкі, бяры праграму семінара ідэалагічных работнікаў, якую я прывёз, ды ідзі рыхтаваць матэрыял. На першую паласу ставім.

Выкуліўшыся ад рэдактара, Рыгор зморана вохнуў.

— Вам што, Рыгор Іванавіч, нядужыцца?

Рэдакцыйная сакратарка Клава, не старая, прышчаватая з твару кабеціна, павярнулася на офіс-крэсле, зморана пераняла дух. Працы ў сакратаркі з каптуром. Журналісты пісалі матэрыялы ад рукі, і ёй даводзілася потым іх набіраць на камп'ютары.

— Клава… да заўтра, — прастагнаў Рыгор Іванавіч, і тая, да каго ён звяртаўся, пацягнулася да кайстры.

Пазычаных грошай хапіла на бутэльку таннага «чарніла». Налівайка збіраўся тут жа, з рыльца, агораць пляшку ды закінуць за плот, але згадаў пра сябра і рушыў на вуліцу Луначарскага, дзе месцілася пажарная частка.

Мусліна ён сустрэў па дарозе. Той, ціснучы да грудзіны пульхнатую тэчку, шыбаваў насустрач.

— О! Па кім звоняць, таго чорт гоніць, — пажартаваў Рыгор, і сябрук, угледзеўшы пукаціну на Налівайкавым пінжаку, затрос чупрынай.

— Не магу… служба… іду інспектаваць стан пячнога ацяплення.

— Ды што ты як дзіцё. Ад пляшкі «чырвонага» і камар не захмялее.

Пачуўшы пра камара, Муслін азірнуўся, перакінуў з левай пахі ў правую пацёхканую тэчку.

— Ну, напісаў у газету?

— Пачакаем крыху. Неабходна сабраць дадатковыя факты, — Налівайка сышоў з дарогі, сеў на бервяно ля плота.

Мусліна такая вестка ўзрадавала. Ён нават рукі пацёр ад захаплення, і спешна, рухам фаховага фокусніка, выцягнуў кубак-складанец, які, па старой завядзёнцы, насіў у кішэні.

Сябры выпілі па першай, прыхінуліся да плоту, дзьмухнулі ў папяросіны.

— А чаго ты так усхадзіўся? — выдыхнуў разам з дымам інспектар пажнагляду. — Ну адгадаваўся той камар, ну набыў паўкіло жывой вагі, ну паляцеў… Ці варта ў званы біць? Вунь… — Муслін тыцнуў папяросінай у бок вароны — тая сядзела на плоце і чысціла дзюбу — птушкі лётаюць… і нікому няма бяды.

— Ты прыкідваешся ці насамрэч такі дурны? — Налівайка ад абурэння закашляўся і лінуў віна міма кубка. — З’яўленне крылатай пачвары — трывожны званок чалавецтву. Сведчанне таго, што ў прыродзе пачаліся генетычныя змены з самымі непажаданымі наступствамі. Сёння вылупіўся камар велічынёю з варону, заўтра з’явіцца варона памерам са слана, — адчуўшы, што прамаўляе газетнай мовай, Налівайка з гіморай агіды на твары прыклаўся да кубка.

— Калі гэта будзе, — нясмела вымавіў Муслін. — Мы ж з табою не зменімся. Як-небудзь дацягнем да пенсіі. Ты ў сваім «Весніку», я ў «пажарцы»…

— Разважаеш, як Пятровіч, — Налівайка вытрусіў з бутэлькі апошнія кроплі. — Таму хоць свет згары, абы крэсла пад сракай не хісталася. А ты ўяўляеш, колькі такі камарышча можа за раз крыві высмактаць? Во, — Налівайка прыўзняў кубачак, — цэлую шклянку!

— То ж маленькі неўпрыкмет кроў смокча. А гэты вялікі… яго адразу адчуеш, — без упэўненасці ў голасе парыраваў Муслін.

— А як заснеш дзе, упіты. Памятаеш, Лёшка Кабякоў заснуў на рыбалцы, дык месяц хадзіў апухлы.

Кульнуўшы па апошняй, доўга маўчалі, думаючы кожны пра сваё, неўзабаве іхныя думкі зліліся ў агул, Налівайка патрабавальна глянуў Музліну ў вочы, і той, кракнуўшы, стаў мацаць кішэні, шукаючы грошы.

Другую пляшку пілі ў парку, поруч з «Эрыданам». Селі ў цяньку, пад разложыстай ліпай. Рыгор зняў вятроўку, прытуліўся макаўкай да гладкага стаўбура.

У паветры галавакружна пахла ліпавым кветам. Відаць, ад таго галава й сапраўды закружылася, павекі міжволі заплюшчыліся, і здалося на міг, што дрэва злёгку дрыжыць ад пчалінага гуду.

Муслін апавядаў пра пажары, пра загадчыцу мэблевай крамы Барановіч, якая ўчадзела ад дыму; пра тое, што ў пажарнай каланчы падгнілі палі і яна вось-вось абрыне долу, але Рыгор нічагуткі не чуў. Сядзеў з заплюшчанымі вачыма, і на душы было суцішна і лагодна. Адна з пчолак загула ля вуха, тыцнулася ў скронь, і дзесьці непадалёку зарагаталі. Нехта таксама пашыўся ў парк расціснуць паўлітру.

— Вы зараз смеяцеся… — дакорліва гучаў за кустамі нечы непракерханы бас, і Рыгор пазнаў па голасе свайго даўняга прыяцеля, галоўнага бухгалтара прамкамбіната Лёшку Кабякова. — Падыходжу да Пронінай сажалкі і раптам… ляціць… вось такіх памераў! — узрушана выдаў Кабякоў, і словы апавядальніка пакрыў дружны рогат. — Ты, Лёша, наступным разам акуляры здымай, а то яны ў цябе па п’янцы павялічваюць, — гамзата азваўся нехта незнаёмы, і новы выбух рогату скалануў наваколле.

Рыгор падскочыў як пчалою ўцяты.

— Куды ты? — улякнута запытаўся інспектар.

Рыгор не адказаў. Глынуў з рыльца сваю долю, падхапіў вятроўку і, матлянуўшы галавой, маўляў, пасядзі тут, я зараз,

пабег па тупкай, спрэс засмечанай поліэтыленавымі коркамі сцяжыне.

Гарпасёлак, дзе надарыліся гэтыя жарсці, быў спрэс забудаваны прыватнымі хацінамі, і толькі ў цэнтры, поруч з будынкам раённай «вертыкалі» стаяў пяток нехлямяжых камяніц ды на ўскраіне апошнім часам паўстала некалькі пяціпавярховікаў. У адным з іх і жыў наш герой.

Рыгор Налівайка правёў у Мандрыкаўцы, лічы, усё жыццё, і хвілінамі душэўнага одуму дзесьці ўнутры, у раёне хворай пячонкі, нараджалася палкая нянавісць да гэтай мясціны і яе насельнікаў. Ён марыў з'ехаць у сталіцу ці ў які іншы вялікі горад, дыхнуць там на поўныя грудзі задымленага гарадскога паветра, даць разгону свайму журналісцкаму імпэту. І вось, шыбуючы подбегам па галоўнай мандрыкаўскай вуліцы, адчуў на спацелым твары халаднаваты подых блізкіх пераменаў і, даўшы выспятка гарластаму пеўню, што перабягаў дарогу, гарачымі вуснамі выдаў тэкст, які неўзабаве павінен быў з'явіцца ў сталічных выданнях: «Журналіст Рыгор Налівайка першым паведаміў чалавецтву пра смяротную небяспеку».

Дачка Люська сядзела ў сваім пакоі і гуляла ў камп'ютарныя гульні. Іншым разам бацька пачаў бы ўшчуваць дачку («Цэлымі днямі лынды абівае. Хаця б падлогу памыла»), але зараз, аддыхаўшыся, нічога такога не сказаў, адно з нецярплівасцю крутнуў пальцамі, мадэлюючы рух, якім укручваюць лямпачкі.

— Ці можаш павесіць інфармацыю… у гэтым… як яго? — Рыгор зноў крутнуў пальцамі.

— У інтэрнэце?

— Во-во, — пажвавеў Рыгор, неадрыўна пазіраючы на экран камп'ютара.

— Якую інфармацыю? Пра камароў? — дачка з агідаю павяла кірпатым носам: — Ну, бацька, і смярдзіш…

Калі віно выходзіла потам, цела заўсёды смярдзела. Раней Налівайка не звяртаў на тое ўвагі, але сёння, надыктаваўшы тэкст, пайшоў у ванную, распрануўся па пояс і абліўся халоднай вадою з-пад крана. І, расціраючы ручніком друзлае

чэрава, падумаў, што гэта было сімвалічнае абмыванне перад пачаткам новага жыцця.

Абліўся Рыгор халоднай вадою і ўвечары. Навярнуў на карак халадзёнкі, кракнуў ды мусіў, не выціраючыся, бегчы ў святліцу, бо Люська нема загарлала:

— Бацька, хутчэй сюды! Пра тваіх камароў распавядаюць!

Па тэлевізары ішла «Панарама». Неахайна стрыжаная дыктарка з іранічнай усмешкай на вуснах зачытвала паведамленне Шведскай інфармацыйнай агенцыі. Рыгор пачуў толькі пару сказаў:

«… Выяўленыя ў раёне пасёлка Мандрыкаўка камары маюць, нібыта, гіганцкія памеры. Сведкі параўноўваюць іх са шпакамі, ці нават з варонамі. Мясцовыя ўлады адмаўляюцца даваць на гэты конт нейкія каментарыі».

Рыгор пераступіў з нагі на нагу, прыбраў мокрыя валасы з лабаціны, а дыктарка, задаволена ўсміхнуўшыся, звярнулася да суразмоўніка, які сядзеў у студыі:

— Мы запрасілі вядомага навукоўцу, спецыяліста ў галіне энтамалогіі Фартуната Казіміравіча Падбайлу. Фартунат Казіміравіч, што вы можаце сказаць наконт пачутага?

Навуковец, ружавашчокі таўстун у пакамечаным пінжаку, паглядзеў некуды ў бок, стрымана кашлянуў.

— Прагныя да танных сенсацый заходнія пісакі і дагэтуль паведамлялі шмат такога, што з пункта гледжання здаровага сэнсу можна назваць недарэчнасцю, а то і проста лухтой. Паведамленне пра з’яўленне ў ваколіцах Мандрыкаўкі гіганцкіх камароў — з таго шэрагу…

Рыгор дагледзеў «Панараму» да канца, патупаў у ванную, ды тут, нецярпліва і трывожна, зазваніў тэлефон.

— Ну як… чуў? — гракнуў на другім канцы дроту Жох. — Займелі б праблем, калі б тваю нататку надрукавалі, — Жох зацокаў языком, і слухаўка азвалася кароткімі гудкамі.

Хвіліну Рыгор стаяў у непаразуменні, трымаючы ля грудзіны гудлівую слухаўку, і ў такім стане яго і заспела жонка.

— Адкуль вада на падлозе? — ад парогу выбухнула Капіталіна, прычыніўшы дзверы азадкам.

Убачыўшы мокрага Рыгора, Капіталіна злавесна ўсміхнулася:

— Ты што, з выцвярэзніку збег?

Муж скрыгатнуў зубамі і пасунуўся ў ванную выціраць мокрыя валасы.

У пятніцу па абедзе заўсёды цягне на сон. Плынь думак абрываецца, галава хіліцца долу і ўваччу пачынаюць брыніць няўклюдныя патарочы, жоўтыя сцены, палымніца лясных пажараў і жонка Капіталіна, якая стаіць звычайна на тле жоўтай сцяны і не сваім голасам прамаўляе: «Рыгор, ты мусіш пайсці ў “Эрыдан” і выпіць кухаль піва!» Пасля тых словаў Налівайка прыхопліваецца, змахвае з вуснаў цягуткую асцу, і праз імгненне гламаздаватая галава зноў навісае над рэдакцыйным сталом.

Гэтым разам таксама прымроілася жоўтая сцяна, і дым пажарышча закрыў на момант бляклае сонца, і Капіталіна ўжо гатовая была раскрыць шчарбаты рот, ды тут пранізліва дзынкнуў тэлефон і Рыгор ачуўся.

— Гэта я, Муслін, — казытнуў вуха ўсхваляваны голас. — Прыходзь да мяне. Адзін наш агульны знаёмы камара бачыў.

«З Кабяковым выпіваюць», — падумаў Рыгор і, гукнуўшы Жоху: — Я зараз! — падаўся з рэдакцыі.

Сябрук жыў у драўлянай хаціне з мансардай. Выцяўшы нагой па коле службовага «казла», які стаяў ля весніц, — інспектар пажнагляду ездзіў на ім па раёне, — Рыгор увайшоў у хату і пачуў натужлівае краканне. Муслін з Кабяковым стаялі на хісткіх услонах, успіраючы на печ саракалітровы бідон з-пад малака.

— Пляменнік жэніцца, бражкі паставіў, — патлумачыў Муслін, абабіваючы форменныя штаны.

Рыгор паціснуў шурпатую Кабякову далонь.

— Ад ранку пайшоў на карасёў… — галоўны бухгалтар гаварыў шапялява, ляскаючы штучнай сківіцай, — …гляджу: ляціць!

— Хто, камар? — перапытаў Рыгор, выцягваючы нягнуткімі пальцамі цыгарэту з прапанаванага Кабяковым пачка.

— Не камар, а камарынае страшыдла!

— Дзе — там?

— На Пронінай сажалцы, — уставіў слова Муслін, кіўком галавы заклікаючы Кабякова працягваць аповед.

— Праляцеў нада мной з рэактыўным гудам. Падышоў да сажалкі — ужо пяты год там карасёў лаўлю, — бачу, на вадзе нешта віхляецца. Глянуў, а гэта чарвяк плыве… ну… з якога камар вылупліваецца. Нават, не плыве, а хуценька, усім целам, згінаецца-разгінаецца. Бачылі камарыныя лічынкі? У бочках з гнілою вадой вядуцца.

— Бачылі, — буркнуў Налівайка, хаця і не надта цяміў, пра што гаворка.

— У звычайнага камара лічынку ледзь бачна, а гэтая дык з ладную сасіску.

— Трэба туды з’ездзіць, — з інтанацыяй турботы прамармытаў Рыгор, зыркнуў на інспектара, і не паспеў той раскрыць рот, каб паведаміць пра адсутнасць бензіну, як журналіст ляпнуў дружбака па спіне і ўжо з ганку па-камандзірску рашуча загадаў: — За мной!

Проніна сажалка знаходзілася ў трох кіламетрах ад пасёлка. Некалі, да вайны, тут бралі гліну для цагельні, кар’ер з цягам часу запоўніўся вадою, берагі пазарасталі кустамі ды чаротам, і штучны вадаём ператварыўся ў сапраўдны карасёвы гадавальнік.

— Карасі пайшлі кілаграмы па тры, а мо і болей, — прамаўляў Кабякоў, ляскаючы сківіцай. — Кабаны, а не карасі.

«Казёл» падкідвала і трэсла, бо ехалі па ўтравелай раллі. Ужо каля сажалкі Муслін паддаў газу, наехаў на калдабан, і машыну так страсянула, што Налівайка стукнуўся барадой аб бардачок, а Кабякоў — ён сядзеў ззаду — згубіў сківіцу разам з акулярамі і, мацюкаючыся, шукаў іх пад нагамі.

Тузануўшыся на астачу, «казёл» спыніўся.

— Не дай бог, падвеска ляснулася, — інспектар выкуліўся з кабінкі, палез пад машыну, а Налівайка, высалапіўшы прыкушаны язык, агледзеў наваколле.

— Шкада, не ўзяў вуды, пакасаў бы вам — якая тут лыба! — галоўбух уставіў сківіцу на месца, але няўдала, таму і шапялявіў.

— Нам, браце, не да рыбы, — адказаў Налівайка. — У падтрымку такіх словаў побач затрашчаў хломазд і з кустоў выкуліліся два падшыванцы з вудамі ў руках.

— Дзя… дзядзькі… мы… вось такога… бачылі! — навыперадкі загарлалі падшыванцы.

Налівайка махнуў рукой, заклікаючы крыкуноў аціхнуць і распавесці ўсё добрым ладам, ды тут з-за кустоў вылецеў велізарны камарышча і, не раўнуючы НЛА, растаў у паветры.

Налівайка з Кабяковым пераглянуліся, асцярожна, на паўсагнутых, рушылі да сажалкі. Ужо ля самага берага пад нагой трэснула сухая галіна, і сябрукі пужліва здрыгануліся. Далей не пайшлі. Вырашылі пачакаць Мусліна.

Інспектар між тым гукнуў падшыванцам: — Бяжыце адсюль, а то камар джгане! — і нырцануў у хмызы, на хаду смокчучы згаслую папяросу.

Ступіўшы на бераг, усе трое з насцярогай і ўтрапеннем сталі ўглядацца ў ваду. Вада была як вада. Па ёй снаўдалі вадамеркі, з глыбіні пускалі дробныя бурбалкі маляўкі-печкуры, а недзе ў чаратах заклапочана крахтала качка. І ўсё ж падсвядомая трывога лунала ў паветры, штосьці злавеснае і патаемнае хавалася ў цёмнай вадзе. Налівайку нават здалося: вось зараз, ля берагу, заварушыцца твань, пачуецца злавесны рык, і з сажалкі ўздымецца, бліснуўшы на сонцы зубчастай хрыбецінай, агідная пачвара. Яму нават падалося, што твань і папраўдзе зварухнулася, і ўлякнуўся ад немага воклічу Кабякова.

— Вунь яна, зараза! — гракнуў галоўбух, запусціўшы руку ў ваду.

Зрабіў ён гэта з такой рашучасцю, што ўваліўся ў сажалку. Муслін схапіў бухгалтара за пінжак, дапамог выбрацца на бераг, выцягнуў з вады згубленыя небаракам акуляры.

У руцэ Кабяковай білася жывая сасіска. Сасіска ляснула галоўбуху па шчацэ, выслізнула з рукі і была прыдушаная бязлітасным інспектарскім ботам.

— Ну і паскудства, — мовіў Налівайка, утаропіўшыся ў расціснутую, падобную да кавалка мокрай гліны лічынку, і толькі тады заўважыў, што спадарожнікі ўжо прадзіраліся скрозь кусты да машыны.

Наступным днём у Мандрыкаўцы не было іншых размоў, як пра гіганцкую камарэчу. Папаўзлі вусцішныя чуткі пра тое, што камары выпілі кроў у немаўляці, якога маці пакінула спаць у вазку; пра тое, што адзін з камарышчаў заехаў з усяго лёту ў лоб кіраўніку раённай «вертыкалі» Цацоху, збіўшы таго з ног; што крылатыя нягоднікі закусалі да смерці двух рыбакоў, якія, сёрбнуўшы юшкі, заснулі на беразе Пронінай сажалкі. Пайшла таксама пагалоска, што ў далёкай сталіцы камарэча пасела гамузам на дах юрыдычнай управы прэзідэнцкай адміністрацыі, і дах, не вытрымаўшы цяжару, абрынуўся.

Рыгор Налівайка, зразумела, гэтым плёткам не даваў веры. Аднак лёгкі неспакой варушыўся на дне душы, і адно пытанне не давала патолі: ці не было сярод тых двух рыбакоў Кабякова?

Ад раніцы Рыгор пазваніў у прамкамбінат, але галоўбуха на месцы не было. А калі ўсхваляваны намеснік рэдактара патэлефанаваў таму дахаты, жонка сварлівым голасам выдала: «Пайшоў з вечара на рыбу і не вярнуўся. Каб яго, падлюгу, камары з’елі!»

Трывога за лёс сябра апанавала і Мусліна, з якім Налівайка сустрэўся па абедзе ў «Эрыдане». Трэці кухаль інспектар піў без ахвоты і ўздыхаў пасля кожнага глыку.

— Дзе ж ён можа быць? — Налівайка здзьмухнуў густую пену. — Я ўжо і жонцы званіў…

Муслін чарговым разам уздыхнуў:

— З ёю лепш не размаўляць. Закусае да смерці, не раўнуючы як той камар.

Налівайка, глынуўшы піва, змяніў тэму: — У Мандрыкаўцы толькі і размоў пра камарэчу, а ў друку — ані слова! Далібог, звольнюся з газеты! Паверыш, як пабачу Жоха, плакаць хочацца.

Налівайка пацёр стомленыя павекі, змучана, са стогнам, керхануў і ў гэтую хвілю Жох хваравітым прывідам паўстаў у дзвярной пройме.

— Ты, Рыгорка, хутка ў піўную рэдакцыйны стол перацягнеш, — гракнуў рэдактар ад парогу.

Рыгор дакорліва перасмыкнуў плячыма. Рэдакцыйныя разборкі ў прысутнасці чужых людзей выглядалі недарэчнымі, але ўстурбаваныя Жохавыя буркалы і злавесныя словы: — Пайшлі, цябе шукаюць! — зрабілі тлумнай галаву, і Рыгор рушыў за рэдактарам, нават не апаражніўшы кухля.

— Пятровіч, дык хто там прыехаў? — пытаўся Налівайка, дыбаючы на ватных нагах за Жохам. — Рыгор пнуўся выглядаць спакойным, аднак голас клекатаў і зрываўся.

— Нічога не ведаю, — буркнуў Жох. — Пазванілі адтуль, — рэдактар узняў палец угору, паказваючы, што тэлефанавалі з раённай «вертыкалі», — сказалі тэрмінова зайсці ў кабінет загадчыка агульнага аддзела.

Рыгору канчаткова заняло духі. «І падбіў нячысцік звязацца з тым інтэрнэтам», — падумаў бедалага, сунімаючы сардэчную клякотку ў горле.

У кабінеце загадчыка агульнага аддзела сядзела чалавек дзесяць. Сярод іх — Налівайка нават упрэў ад здзіўлення — быў і Кабякоў. На плячах ягоных вісеў нехлямяжы, пазначаны рыбінай лускою плашч, і гэта сведчыла, што галоўбуха даставілі сюды непасрэдна з рыбалкі.

— Заходзьце, заходзьце, — сіпата выдыхнуў загадчык аддзела Абакуновіч. Прысутныя ўважліва глядзелі на даўгалыгага, інтэлігентнага выгляду мужчыну. Уладкаваўшы адну кумпячыну на падаконне, мужчына трымаў у руцэ планшэт з малюнкам камара. Інтэлігент штосьці апавядаў прысутным.

— Калегі, з усяго пачутага, а пачуў я, шчыра скажу, няшмат, можна меркаваць, што мы маем справу з гіганцкім chironomidae, — інтэлігент адкашляўся, паправіў акуляры. — Магчыма, мы пачуем новыя падрабязнасці, — апавядальнік пакасіўся на Мусліна з Налівайкам і зноўку паправіў акуля-

ры. — Пагатоў, як мяне праінфармавалі, nematocera села некаму з вас, таварышы, на галаву.

Рыгор з Муслінам кіўнулі насамі, і ў гэты міг у супрацьлеглым канцы кабінета рыпнулі крэслам, незадаволена выдыхнулі:

— Леанід Сяргеевіч, пакіньце тэрміналогію для навуковага кангрэсу.

Круглявы, з віслым чэравам дзядзька, падняўся з месца, прыбраў пяцярнёй пасму непаслухмяных валасоў з лабаціны.

— Тут, апроч нас, сабраліся людзі, далёкія ад праблем энтамалогіі, а таму хачу папулярна растлумачыць, што мы спрабуем высветліць — ці гэта бяскрыўдны камар-званец, ці крывасмок culex pipiens…

Усе наўкол зашумелі, заварушыліся, і гамэрню спыніў уладны голас:

— Мы, калегі, вядома ж, з'ездзім на тую сажалку, пашнарым сачком па дне, апытаем тамтэйшых жыхароў… Але ўся гэтая гісторыя з камарамі мае не энтамалагічны, а псіхіятрычны аспект…

Неўзабаве з крэсла падняўся ружавашчокі таўстун з сівымі скронямі і дэпутацкім значком на штрыфлі пінжака. Таўстун са сталінскай павольнасцю распаліў люльку, напоўніўшы кабінет пахкім дымам.

«Дзе я бачыў гэтага фацэта?» — Налівайка задуменна прымружыўся і згадаў: на тэлебачанні. Гэта быў той самы энтамолаг, які ганіў ласых да сенсацый заходніх журналюг.

Ніхто з калегаў таўстуну не запярэчыў. Распальваючы люльку, ён пайшоў да адчыненай форткі, і даўгалыгі інтэлігент хуценька злез з падаконня.

— Людзі шмат што бачаць: чорта з рагамі, карову на месяцы, святых угоднікаў са свечкамі. І калі мы, навукоўцы, пасля кожнай такой відзежы будзем ладзіць навуковыя экспедыцыі…

Нечакана таўстун змоўк. Пры гэтым бельмы ягоныя з'ехалі да пераносся, кароткая шыя выцягнулася, а люлька, якую трымаў у зубах, азвалася смаркатлівым зыкам. На фортцы, у

квадраце пахмурнага неба, сядзеў камар памерам з вераб'я і вадзіў у бакі даўжэзным носам.

## II

Па абедзе сонца добра-такі прыпякло, і дыхаць стала зусім цяжка. Уедлівы пах нафты, які струменіў з прачыненага бакавога акна, праймаў да слёз, казытаў у носе. Налівайка ўвесь час цягнуў носам паветра, глядзеў, прыпадаючы да ветравога шкла, на сонца, але чхнуць на ўсе застаўкі так і даў рады.

— Глянь… яшчэ двое, — Муслін націснуў на сігнал.

Наперадзе, па дарозе, ішлі два жаўнеры з пляскатымі каністрамі на спінах. Правай рукой яны тузалі вагар помпы, а левай трымалі канец шланга, з якога вясёлкавай аблачынкай пырскала нафта.

Муслін пасігналіў удругарадзь, і жаўнеры, не азіраючыся, сышлі на ўзбочыну.

— Што ж гэта будзе? — уздыхнуў інспектар. — Дзятва чыркне запалкай — згарым за паўгадзіны. Мінулым годам з верталёта тушылі. Я на тых пажарах трое штаноў прапаліў. Але ж летась нафту не лілі. А зараз зірні, — Муслін кіўнуў у бок балацявіны.

Балацявіна, што ляжала праваруч ад дарогі, была залітая нафтай і нагадвала вялікую выжарыну.

— На чорта яе ліюць? Няўжо камары атруцяцца?

Заняты сваімі думкамі, Налівайка тарганух носам.

— Няўжо, кажу, камары ад нафты перадохнуць? Колькі там праехалі, а ўжо чацвёра ў шкло пляснуліся.

— Камары не перадохнуць, а лічынкі дакладна акалеюць, — буркнуў, думаючы пра сваё, Налівайка. — Нафтавая плеўка забівае ў іх дыхальныя трубкі.

— Хутчэй, Рыгор, мы з табой акалеем, — Муслін пераключыў перадачу. — «Сітуацыя пад кантролем», «Салаўі над Мандрыкаўкай»… пішаце ў сваёй газеціне розную лухту. Напісалі б лепей, як мы будзем жыць… у нафтавым балоце.

Журналіст нічога не адказаў, адно пачухаў свярблівую насіну.

Налівайку не ішла з галавы ўчорашняя размова з Кабяковым. Адвячоркам яны выправіліся ў складзе добраахвотнай дружыны дзяжурыць у навакольны лес — глядзелі, каб хто з падшыванцаў не распаліў вогнішча, — і Кабякоў, калі прыселі пад хваінай перакусіць ды агараць прыхопленую з дому пляшку, распавёў пра васьмідзесяцігадовага дзеда. Дзед жыў на хутары каля Пронінай сажалкі, і, нягледзячы на сталы ўзрост і хваробы, рэгулярна хадзіў на рыбалку. Аднойчы, яшчэ да з'яўлення камарэчы, Кабякоў пачаставаў старога чаркай, яны разгаварыліся, і дзед, захмялеўшы, сказаў, што летась, пасярод ночы, у сажалку бухнулі самаскід нейкай халеры. Пасля таго і пайшлі карасі, якія ў вядро не лезлі. Бухгалтар згубіў сківіцу, гаманіў няўцямна; Налівайка два разы перапытаў — як клічуць дзеда? — аж пакуль не занатаваў у блакноце: «Яўхім. Хутар Хвашчавік».

І вось, дастаўшы блакнот, Налівайка ляпнуў ім па каленцы і загадаў Мусліну спыніцца. Сябар ехаў у вобласць выбіваць новыя шлангі, а па дарозе завярнуў да Пронінай сажалкі.

Налівайка праводзіў вачыма легкавік, удыхнуў густое паветра і пасунуўся да трактара-кустарэзу, што вуркатаў непадалёку. Сёння яму, юха з носу, трэба зрабіць матэрыял пра гераічныя будні меліяратараў, што завіхаліся ў раёне Пронінай сажалкі.

— Дзе ваш брыгадзір?! — звярнуўся Рыгор да русявага хлопца, які з мацюкамі на вуснах забіваў кувалдай шпень у гусеніцу.

— У горад паехаў, па запчасткі, — буркнуў хлопец, і Рыгор, прыклаўшы далонь да броваў, зірнуў у той бок, дзе, прыхаваная за разложыстымі дрэвамі, тулілася дзедава хаціна.

Сажалка патыхала нафтай і балацянікам. Да берагу прыбіла густую нафтавую твань, на паверхні пукаціліся вялізныя бурбалкі, дохлая рыба дэманстравала небу белыя чэравы, а між ніцых чарацін кратаўся, перапэцканы чорнай каланіцай, бедачына-качар. Паглядзеўшы на ўсё гэта, Налівайка дрыжачымі пальцамі крутнуў пальцамі «беламорыну». Але паліць у «камарынай зоне» было нельга, і ён здушыў папяросу ў кулаку.

Напачатку здавалася, што да хутара пару кіламетраў, а тупаў паўгадзіны, ды ўсё ўгору. Урэшце, з заўсёднаю думкаю: «Трэба кідаць паліць!» — перавёў дых, адчыніў весніцы, і яго сустрэлі сабачы брэх ды абураны жаночы лямант:

— А людцы, а што ж гэта робіцца! Уся вада карасінай прасмярдзела!

Старая бабця, відаць, дзедава жонка, выцягвала вядро з калодзежа, зыркаючы на госця такімі вачыма, нібыта той атруціў калодзежную ваду.

— Я з гэтай нагоды і прыйшоў, — Налівайка цыкнуў на брахлівага цюцьку.

Бабця бразнула вядром, крыкнула сабаку: — Ну до табе, до! — і Налівайка, калі кудлаты цюцька на хвілю аціх, патлумачыў: — Журналіст я, экалагічныя праблемы даследую. Хачу з вашым мужам пагутарыць.

— У хаце ён, з унукам займаецца, — прамовіла старая, так і не зразумеўшы, што за чалавек да іх прыцёгся.

Дзед з унукам, шыракаплечым боўдзілам, які размяняў трэці дзясятак, сядзелі на кухні і гулялі ў падкіднога.

— Добры дзень у хату! — зычна выдаў Рыгор.

Стары кіўнуў у адказ, а ўнук — той сядзеў спінай да дзвярэй — нават не павярнуў стрыжанай галавы.

Такія паводзіны гаспадароў госця не збянтэжылі.

— Раздавай трэцяму! — госць падцягнуў да стала хісткі, з фігурнай дзіркай на седале, услон.

— Та-к… казырныя звонкі… — раздумваючы, з чаго пачаць гаворку, госць расклаў карты веерам, буркнуў: — У мяне шасцёрка, — і ляснуў віновай дзясяткай.

— Мы ж ужо ўсё расказалі… Прыязджаў тут… тоўсты такі… з піпкаю ў зубах. Пра камароў пытаўся.

«Фартунат наведваўся», — Рыгор аблаяў у думках свяцілу энтамалогіі, падкінуў унуку казырную дзясятку.

— Ды я не пра камароў, — госць узяў з калоды прыкуп. — Ты, дзеду, казаў, што ў сажалку нешта такое скінулі. Дык можа ведаеш прозвішча шафёра?

Стары зірнуў на свае карты.

— А вы, чалавеча, адкуль будзеце?

— З Мандрыкаўкі я… журналіст.

Запанавала маўчанне, і госць, кіўнуўшы на вакно, запытаў:

— На хаду? — Пад вакном стаяў запылены матацыкл.

— Вядома, на хаду, — боўдзіла адбіў пятую карту, і Налівайка суняў ягоны імпэт казырнай краляй.

— Давай у бліжэйшую краму, — госць кінуў паўзверх карт грошы. — Пляшку белай і што-небудзь на зуб.

Унук пажвавеў, схапіў грошы, блытана загаварыў:

— Ды Васька Лунёў пад’язджаў, з Агароднікаў. Вёска такая… недалёка. Я там… у капе… дзявулю ціскаў, ну і ўбачыў, як ён тыя мяхі ў сажалку бухнуў.

— А што ў мяхах?

— Парсючыная падкормка. З фермы прывёз. Мяхі пад дождж патрапілі… ну і спісалі…

— А чаму ноччу вывез, а не ўдзень?

Стрыжаны боўдзіла пацюснуў плячыма, і госць, пляснуўшы на стол казырнага туза з трыма «пагонамі», выпаліў:

— Паехалі!

Да Агароднікаў даляцелі з ветрыкам. Газанулі па асфальтаванай вуліцы, разагналі курэй, пасігналілі цыбатай дзявулі — гэта яе, як высветлілася, боўдзіла ціскаў у капе, — і неўзабаве прыпыніліся насупраць крамы. Узялі пляшку «белай» і дзве бутэлькі віна, спыталі вясковых кабет — як знайсці Ваську Лунёва, — і неўзабаве развіталіся: матацыклісту сустракацца з Васькам было не з рукі. Надоечы пабіліся з-за цыбы.

У Агародніках месціўся самы буйны ў раёне свінакомплекс. Раней Налівайка часцяком сюды наведваўся. Браў інтэрв’ю ў дырэктара комплексу Аляхновіча, пару разоў нават з ім выпіваў. Але апошнім часам хоць і казаў Жоху, што едзе на комплекс, але нікуды не ехаў. Усе патрэбныя звесткі атрымліваў па тэлефоне.

Васьчын «газон» ён адшукаў ля камбікормавага цэху. Сам вадзіла, бразгаючы жалеззем, ляжаў пад машынай, і звонку тырчалі толькі збітыя кірзачы. Рыгор стукнуў мыском чаравіка вадзілу па халяве, і той здушана прамовіў:

— Усё… скончыўся камбікорм… і так ужо міліцыя прыязджала.

— Ды я не па камбікорм…

Пачуўшы незнаёмы голас, Васька зварухнуў азадкам, вылез з-пад машыны.

— Крадзем народнае дабро? — Рыгор з прафесійным журналісцкім нахабствам адчыніў дзверцы, залез у кабінку.

— Мы хто… мы парабкі, — вадзіла выцер рукі завэдзганай вяхоткай. — Гэта Аляхновіч сабе трохпавярховую фазэнду збудаваў… і дачку ў Францыю выправіў. Яго і пытайцеся…

Налівайка хітнуў галавой, выцягнуў з «бардачка» мутную шклянку.

— Карацей, я з міліцыі. Расказвай — што ты ў Проніну сажалку ўкінуў.

Васька спахмурнеў, але, пабачыўшы паўнюткую шклянку, адным махам глынуў трунак, бадзёра хакнуў у жменю.

— Мне сказалі — я адвёз. Усе пытанні да Аляхновіча.

— І ўсё ж…

Суразмоўца спешна, як хамяк, зжаваў кіслую папяроўку — знайшлася ў «бардачку», — прыпаліў цыгарэту.

— Падкормку давалі. Замежную. Ляжала пад дзіравай паветкай, сапсавалася. Дажджом змачыла — стала як камень. Аляхновіч і загадаў вывезці. На могільнік.

— А чаму сярод ночы павёз?

— Звечара загрузіліся, па дарозе заруліў… да адной бабы. Вяртаўся позна, ну і-і… — хлопец махнуў рукой, дэманструючы, як ён скідваў падкормку, і падхапіў напоўненую шклянку.

— А скуль ведаеш, што падкормка замежная? Што-небудзь на мяхах было напісана?

— Надпісу не бачыў, але мех дакладна не наш. Я адзін прыхапіў, ляжыць у адрыне. Магу падараваць. Хацеў парсюка падкарміць, але бабы з комплексу адгаварылі.

Слухаючы вадзілу, Рыгор дастаў нататнік, задуменна куснуў асадку, нязграбнымі літарамі накрамзоліў: «Яўхімавы ўнук — бутэлька “белай”; Васька Лунёў — дзве пляшкі віна». Выдаткі раслі, а грошай у кішэні небагата.

Увечары, падпіты (з Васькам Лунёвым агоралі тры бутэлькі), з мехам на карку, Рыгор убіўся ў хату. Жонкі, на шчасце, дома не было, і ніхто на вуха не звягаў. Не разуваючыся,

зайшоў у пакой, кулём паваліўся на тахту. Ляжаў з закрытымі вачыма, а адчуўшы, што тахта круціцца пад ім, размежыў павекі і ўтаропіўся ў нізкую столь. На столі, як на экране, узнік смяшлівы твар Ваські Лунёва. Твар задрыжэў, расплыўся, ператварыўся ў парсючыную пысу: вялізную, нахабную, з жоўтай біркай на вуху. Свіння рохкнула, загаварыла жончыным голасам: «Во паскуда, я поўзаю вокрач, падлогу мыю, а гэты ў гаўнадавах на тахту ўспёрся! І мех нейкі прыпёр… дзверы не адчыніць… Чуеш?! Уставай, п’янюга!» Але Рыгор спаў, шырока разявіўшы рот, уражаны тым, што свінні, якіх кармілі замежным канцэнтратам, пачалі размаўляць жончыным голасам.

Назаўтра балела галава і было моташна на душы. Да таго ж, Капіталіна ад самай раніцы напяла нервы, і Рыгор выправіўся на працу, нават не сёрбнуўшы гарбаты. Матэрыял пра гераічныя будні меліяратараў так і не быў напісаны, таму, сцярожка зазірнуўшы да Клавы, ён запытальна таргануў падбароддзем і з палёгкаю ўздыхнуў. Жох пайшоў на сустрэчу з энтамолагамі (яны ехалі ў Мандрыкаўку цэлымі дэлегацыямі) і мусіў вярнуцца па абедзе.

Сеўшы за стол, Налівайка абхапіў далонямі балесныя скроні. «Трэба ехаць на мясакамбінат», — з гэтаю думкаю ўзяў са стосу чысты аркуш, збіраючыся пісаць матэрыял пра меліяратараў, і застыў, не даючы рады прыдумаць назву артыкулу.

Учора Васька Лунёў, жонка якога працуе на комплексе, апавёў цікавыя рэчы. Замежны канцэнтрат, як вынікала, прызначаўся не ўсяму пагалоўю, а толькі тузіну падсвінкаў нетутэйшай пароды ландрас. Трымалі іх у асобнай загарадцы і пазначалі адмысловымі біркамі, якія вешалі на вушы. Сутачныя прывагі сягалі трох кілаграмаў, што ў шэсць разоў перавышала звычайныя нормы. Канцэнтрату давалі паўвядра на содні; аднаго разу забыліся выцягнуць мех з загарадцы, дык адзін з кныроў абжорся ды падох. І, што цікава, адгадаваных такім чынам свіней вазілі на Азярышчанскі мясакамбінат паасобку, не блытаючы з астатнімі.

Каб пазбыцца дакучлівых думак, Налівайка ўзяў асадку.

«Непазнавальна змянілася ваколіцы Пронінай сажалкі. Цішу дрымотнага балота абудзіла магутная тэхніка…» — напісаўшы так, Налівайка задумаўся, адсопся і з жарсцю падзёр напісанае. Жоху не падабаліся лірычныя пачаткі, таму, падхапіўшы новага ліста, Рыгор насупіў бровы і зноў улёг у пісаніну.

«З пачуццём глыбокага задавальнення ўспрынялі жыхары Мандрыкаўшчыны мудрае рашэнне ўрада распачаць працу па асушэнні балотнага масіву. Праца разгарнулася шырокім фронтам: адразу дзве перасоўныя механізаваныя калоны прыбылі на мінулым тыдні ў раён вядомай сёння на ўсю краіну Пронінай сажалкі», — вочы перачыталі тэкст, пальцы яшчэ больш рашуча сціснулі асадку, ды тут жа абмяклі…

— Ай, людцы, ратуйце! — галёкнула за сценкай сакратарка Клава.

Храбуснуўшы асадкай, — скацілася са стала, — Налівайка выбег з кабінета. Па прымальні, матляючыся ў бакі і б’ючыся ў манітор камп’ютара, лётаў аграмадны камарышча.

— Ратуйце! — крычала Клава. Сакратарка сядзела над сталом, захінаючыся ад мутанта газетнай падшыўкай.

Рыгор выхапіў падшыўку, прыгнуў голаў, з усяго маху ляснуў па зумклівай пачвары.

— Баюся я іх, — сакратарка не адводзіла вачэй ад мокрай плямы на сценцы.

Клавіна спадніца небяспечна задзерлася, і гэта не абмінула Рыгоравай увагі.

— На адну хвілінку адчыніла, — сакратарка ўскочыла, абцягнула спадніцу, прычыніла разнасцежанае вакно.

— І чаго вы іх так баіцеся? — намеснік рэдактара падняў перакуленае крэсла. — Мінулай ночы пракурорава жонка загаласіла — жыве пада мной. Увесь дом падняла на ногі. Прыбеглі: што такое?! Аказалася, камарышча ў фортку заляцеў.

— І скуль гэтая зараза ўзялася? — Клава падхапіла люстэрка, паправіла кучаравістую грыўку на лбе.

Клава была развядзёнка. Муж паехаў колісь на заробкі ў Ніжневартаўск, ды там і застаўся. Развядзёнка мела зграбную постаць, але з твару была прышчаватай, і мужчыны заляцаліся да яе толькі па п'янцы. Неяк пасля навагодняй рэдакцыйнай гулянкі Рыгор і сам завітаў да сакратаркі «на каву», балазе, жыла яна ў суседнім пад'ездзе. Пра тую прыгоду даведалася Капіталіна, і потым траха не зжыла мужа са свету.

— Я, між іншым, выведаў… сёе-тое, — Рыгор прыпаліў папяросу, першую ад рання, выглянуў у калідор. У рэдакцыйных пакоях панавала ціша. Жоха не было, і ўсе разбегліся па сваіх справах. — На Агароднiцкі комплекс нейкую халеру прывезлі. Канцэнтрат для адкорму свіней. Некалькі мяхоў сапсавалася, і іх у Пронiну сажалку ўкінулі. Камары і нажэрліся.

— І што… паелі канцэнтрату… і сталі з кулак велічынёй? — Клава з вясёлай усмешкай падхапіла анучку, стала выціраць пляму на сценцы. — Для гэткіх пераўтварэнняў неабходныя змены генетычнага коду.

Клавіна ўсмешка ўпікнула Рыгорава самалюбства. Прышчавая развядзёнка будзе яго вучыць… Яго, работніка друку са шматгадовым стажам, які пра тыя ж генна-мадыфікаваныя арганізмы свойчас напісаў праблемны артыкул…

— Канцэнтрат давалі не ўсім. Адабралі тузін падсвінкаў, на вушы біркі пачапілі — ім і сыпалі. І на мясакамбінат вазілі паасобку, — голас Налівайкавы гучаў задужа рэзка.

— Рыгор Іванавіч… ну што вы так расхваляваліся. Ну бракавала на ўсіх канцэнтрату… — знадворку затупалі, і Клава закалаціла наманікюранымі пальцамі па клавіятуры.

«Пацягнуў чорт за язык, — намеснік рэдактара нервовым крокам рушыў у свой кабінет, — цяпер пачне балабоніць: «Грышка канчаткова здурнеў… камароў канцэнтратам карміць». Аблаяўшы прышчаватую дурніцу і яе новага хахаля, загадчыка сельгасаддзела Варыводу (гэта ён тупаў па калідоры), Налівайка сеў дапісваць артыкул.

## III

Сонца паліла па-чорнаму. У Рыгора, пакуль чакаў на азярышчанскі аўтобус, нават чорныя плямы паплылі ўваччу.

Віснучы на цёплай ад чалавечых рук біле, камандзіраваны стоена пазяхаў, слухаў краем вуха ўскудлачаных (у аўтобус сядалі з боем і лямантам) цётак. Усе размовы так ці іначай круціліся вакол камароў-мутантаў.

— Усенькі агарод нафтаю залілі, — бедавала цётка, якая сядзела паперадзе, трымаючы на каленях кош з малінамі.

— Люська, нявестка Пракопаўны, нарадзіла раней часу, — казала ў адказ суседка, пасажырка ў капронавай хустцы. — Пайшла пераймаць карову, а камарышча пад спадніцу ўбіўся. Крычыць гвалт, скача, а ніхто нічога не разумее. Тамака, у полі, і разрадзілася.

— Ці жывое ж дзіцё? — спытала суседка.

— Жывое. У рэанімацыі ляжыць.

— Гэта ўсё Амерыка. Спачатку нам каларады падкінула, цяпер во камарышчаў напусціла, — прагугнілі за спінай, і той жа голас, ужо не так гучна, удакладніў: — На комплекс амерыканскі канцэнтрат прывозілі. Свінням даеш — за месяц сто кілаграмаў важаць. Во як!

— Хутка і мы ад таго мяса будзем як сланы, — выдала цётухна ў капронавай сукенцы, — камандзіраваны наструніў слых, але аўтобус страсянула і пасажыркі загаманілі пра меліяратараў, якія абрабавалі вясковую краму, скралі ў Пракопаўны гусака, а потым зваліліся на трактары ў рэчку.

Рука да болю ў суставах сціснула цёплую білу. Наіўны чалавек! Ён меркаваў, што першым зведаў тайну парсючынага канцэнтрату, а пра гэта ведала кожная вясковая цётка. Што ж… заставалася высветліць — куды накіроўвалася мяса ландрасаў. Дзеля гэтага Налівайка і ехаў у Азярышча.

Як ён выбіваў камандзіроўку — пра гэта трэба пісаць асобны раздзел. Выбіваў тры дні, слухаючы занудныя Жохавы аргументы: «За межы раёну не пасылаем… Пазвані па тэлефоне… Тэма неактуальная, мы пра свінакомплекс шматкроць пісалі… Цябе адпусці — на голую бэлю прап’ешся». Урэшце,

Жох, дзівуючыся настырнасці падначаленага, якога цяжка было кудысьці выправіць, хукнуў на пячатку і пазначыў ёю камандзіровачнае пасведчанне.

Скочыўшы з аўтобуса, Налівайка выцер насоўкай упрэлы лоб, хацеў спытаць, у якім баку мясакамбінат, — ды нечакана порсткі ветрык дыхнуў у твар агідным смуродам, паказваючы патрэбны кірунак.

Ён тупаў пыльнай вуліцай, моршчыўся ад смуроду, а пачуўшы немае каровіна рыканне, нават падупаў духам. За ўсё жыццё Рыгор курыцы не засек, а тут сотні няшчасных жывёл ішло пад нож разніка.

Камбінат смярдзеў на цэлы свет і дыміў высокім комінам на гарадской ускраіне. Пакуль журналіст датупаў да прахадной, траха не задыхнуўся ад пылу. Пылюка ляцела з-пад колаў рэфрыжэратараў, засціла вочы, трашчала на зубах, і таму, пабачыўшы ля прахадной воданапорную калонку, герой нашага аповеду зняў кашулю і з адчайным рыкам убіўся пад ледзяны струмень.

Кучаравая, чымсьці падобная да Клавы сакратарка, скоса глянула на мокрага наведніка, а торкнуўшы нос у карэспандэнцкае пасведчанне, паведаміла, што дырэктар у адпачынку, галоўны інжынер у камандзіроўцы і з начальства на працы толькі тэхнолаг. Да яго Налівайка і накіраваўся.

Тэхнолаг, плячысты дзядзька з бліскучым плехам, сустрэў наведніка пахмурна.

— З якой вы газеты? — мрукнуў, не ўздымаючы вачэй, а пачуўшы пра Мандрыкаўку ўраз пажвавеў. — Ну, як там вашы камары? Лютуюць? Да нас, дзякуй богу, не даляцелі.

Наведнік састроіў блазнаватую гімору, не ведаючы, што сказаць, і гаспадар кабінета загаварыў пра іншае.

— Добра, што вы прыехалі, — пляшак выцягнуў са стальніцы жмутак папераў. — Мы Аляхновічу ўжо тры рэкламацыі накіравалі — ніякага водгуку…

Гартаючы паперы, тэхнолаг выцягнуў з пачка цыгарэту, і наведнік пстрыкнуў запальнічкай.

— Забойная вага не вытрымліваецца, тэхналогія адкорму парушаецца, падскурнага тлушчу — да 45 адсоткаў… — пляшак пусціў аблачыну шызага дыму, прымружыў левае вока. — Зірніце… даныя апошніх замераў… Таўшчыня сала супраць шостай рабрыны сягае васьмі сантыметраў. Пры норме дватры. Вы занатоўваеце?

— Занатоўваю… — Рыгор дзеля прыліку стаў крэмзаць асадкай у нататніку.

Тэхнолаг добрых паўгадзіны распавядаў пра хібы беконнага адкорму на Агародніцкім свінакомплексе, нарэшце карэспандэнт, чыркануўшы ў нататніку, запытаў:

— А па ландрасах ёсць заўвагі?

Суразмоўнік прыкметна захваляваўся, укінуў у рот новую цыгарэту.

— Пра гэта пісаць не варта, але калі вы цікавіцеся, магу сказаць, што не так даўно ў нас пачалася праца па ўкараненні высокапрадукцыйнай пароды ландрас, — у інтанацыі суразмоўніка нарадзіўся неспакой. — Гэта тыповая беконная парода, выведзеная напачатку XX стагоддзя ў Даніі. Кныры важаць да 300 кіло, маткі — 200–250… На кілаграм прывагі ідзе ў сярэднім 3,9 кармавых адзінкі…

«Чмуту пускае. Відаць, папярэдзілі, каб лішняга не балбатаў», — Налівайка адгарнуў старонку нататніка.

— А якім чынам рэалізуецца мяса?

На пукатай лысіне суразмоўцы цьмяна бліснулі кропелькі поту.

— Я, выбачайце, рэалізацыяй прадукцыі не займаюся. У панядзелак з’явіцца дырэктар камбіната — да яго і звяртайцеся з падобнымі пытаннямі.

Гаспадар кабінета замітусіўся, пхнуў паперы ў шуфляду стала і, на знак заканчэння размовы, падняўся з крэсла.

— Газету надашліце! — крыкнуў тэхнолаг услед наведніку, і той у адказ грукнуў дзвярыма.

Пару хвілінаў Налівайка стаяў у цяньку, на ганку камбінатаўскай прахадной, дасмоктваў папяросу.

Дарма ён засвяціўся, спытаўшы пра рэалізацыю. Пляшак, няйначай, — Рыгор з глухім свістам выпусціў дым — пачне званіць начальству, ліслівым фальцэтам дакладваць: мандрыкаўскі журналіст цікавіцца ландрасамі. Толькі цяпер уцяміў Рыгор, у якую небяспечную справу ўбіўся і, дасмаліўшы папяросіну, з зайздроснай дакладнасцю шпурнуў недапалак у сметніцу, якая лена дымілася на ганку. Трэба было не да тэхнолага цягнуцца, а распытаць кіроўцаў рэфрыжэратараў. Тыя нікому тэлефанаваць не будуць.

Адзін з рэфрыжэратараў выязджаў з заводскіх брамаў, і Налівайка ў два скокі збег з высокага ганку.

— Падкінь да аўтастанцыі! — крыкнуў маладому, па пояс голаму кіроўцу.

Дэрмацін сядзення прыпёк азадак так, што Рыгор нават войкнуў.

— Спёка ў вас, — журналіст прыўзнімаў па чарзе то правую, то левую кумпячыны.

Кіроўца торгнуў носам на знак згоды і, зірнуўшы па баках, выехаў на бальшак. Хлопец, падобна, быў негаваркі. Між тым да аўтастанцыі недалёка, і Рыгор пачаў размову без прэамбул.

— Ландрасаў даводзілася вазіць?

Вадзіла, паддаўшы газу, наставіў на пасажыра цікаўныя вочы:

— Якіх ландрасаў?

— Свіней… з жоўтымі біркамі на вушах.

Кіроўца працёр анучкай запыленую шыбу.

— Я жывых свіней не ваджу. Адны тушы.

— А куды возяць тушы… ну гэтых… з жоўтымі біркамі на вушах?

— А чорт іх ведае, — вылаяўся хлопец, абмінаючы цётухну, што дыбала па дарозе, і больш не прамовіў ні слова. А калі пасажыр ужо выбіраўся з кабінкі, з разважнасцю ў голасе зазначыў: — А сапраўды, ландрасаў у агульную кучу не кідалі. Мішка Бахар, мой зменшчык, загрузіўся аднойчы… ужо і за брамы выехаў, дык дагналі, загадалі тушы выгрузіць, а замест іх новыя ўкінулі. Быццам не адзін чорт — якое дурням мяса есці.

— Якім дурням?
— Ну гэтым… з Кашынскай псіхушкі.
— І далёка да псіхушкі?
— Трыццаць кіламетраў. Якраз у той бок еду.
Налівайка, які ўжо стаяў адной нагой на прыступцы, плюснуўся на сядзенне:
— Едзем да псіхаў!

Кашынская псіхушка займала старасвецкую двухпавярховую будыніну з калонамі каля галоўнага ўвахода. Атачалі будынак выгоністыя дрэвы, на вяршалінах якіх гарлалі вароны, і Налівайка, выглядаючы варон сярод буйнага зяленіва, прашаптаў: «Як на могілках».
З расчыненага вакна на другім паверсе тырчала жаночая галава ў белым лекарскім каўпаку. Кабета смаліла цыгарэту.
— А дзе хворыя? — гукнуў Рыгор, і кабеціна, выкінуўшы недакурак, каротка патлумачыла: «Ціхі час».
Сцены доўгага калідора былі пафарбаваныя атрутна-зялёнай фарбай, на дзвярах віселі дыхтоўныя клямкі, і крокі гулкім рэхам адбіваліся ў вушах. Калі шукаў у прыцемку шыльду з надпісам «Галоўны лекар», з'явілася адчуванне, што ён патрапіў у вязніцу.
Галоўным лекарам аказалася тая самая кабета, якая вытыркалася з вакна.
Гэтым разам Налівайка вырашыў не паказваць пасведчання. Адрэкамендаваўся карэспандэнтам абласной газеты і спраўным рухам разгарнуў нататнік.
— Да нас паступіў сігнал, што хворыя не атрымліваюць належнага харчавання. У прыватнасці, заніжана норма спажывання мясных прадуктаў.
Лекарка лыпнула фарбаванымі вейкамі і, па прыкладзе лысага тэхнолага, палезла ў стальніцу.
— Цікава, хто вам падае такія сігналы, — лекарка з імпэтам стала перабіраць паперы, і каўпак з'ехаў з патыліцы на бровы, — але гэта патэнцыйна наш кліент. — Ранейшым часам мы адчувалі недахоп мясных прадуктаў, пра што неаднаразова інфармавалі абласную ўправу аховы здароўя. Сёлета

ж, я нават не ведаю, з якой прычыны, атрымліваем свініны ў пяць разоў больш за норму. Вось, можаце азнаёміцца з накладнымі.

На твары галоўнай лекаркі, як ружовае віно на сурвэтцы, праступіў хваравіты румянец.

«Крадзе. Вунь як усхвалявалася. Ну нічога. Вылезе табе гэтае мяса не з таго месца», — апанаваны такімі развагамі, Налівайка чыркнуў у нататніку: «У пяць разоў перавысілі норму» — і, дэманструючы журналісцкую турботу, тарганаў галавой.

— Ну, а як з медычным даглядам?

Лекарка паправіла каўпак.

— Стан здароўя пацыентаў знаходзіцца пад пільным кантролем. Якраз учора рабілі забор крыві…

Пад рукой у лекаркі абудзіўся тэлефон, і яна, кінуўшы: — Прабачце, — падхапіла слухаўку.

Слухаўка зумкнула, лекарка, зыркнуўшы на наведніка, прамовіла: — Так, у мяне… — Шчыльна прыціснутая да вуха зумкала аціхла, і кабета, працяўшы наведніка падазроным позіркам, пралепятала: — Я ўсё зразумела.

— На жаль, больш не маю часу, — галоўная лекарка адсунула тэлефон, — зараз у нас агляд хворых.

«За мною ўжо сочаць», — непрыемная здагадка кранула душу, калі Рыгор ішоў цёмным калідорам да выхаду. Лекарцы — яна тупала ззаду — відочна патэлефанавалі, загадаўшы не даваць аніякай інфармацыі.

Ад зыркага сонца, што асляпіла вочы, ён нават згубіў арыентацыю. Лекарка падхапіла Рыгора пад руку, паказала, у які бок рухацца. Ён ужо заварочваў за рог будынка, як аднекуль з-за тоўстых сцен здушана выгукнулі: — Паведаміце на волю: мяне тут трымаюць пяты год! Я цалкам здаровы! Маё прозвішча… — Бедачына назваў прозвішча, але Налівайка дакладна не разабраў. Ён павярнуў галаў, і лекарка свідранула пальцам скронь.

У Азярышча вярнуўся шарай гадзінай. Аўтобусы на Мандрыкаўку ўжо не хадзілі, таму ўладкаваўся ў гасцініцу.

Там ён пазнаёміўся з нейкімі камандзіраванымі, піў з імі два дні, і грошы на дарогу давялося пазычаць у калегаў з азярышчанскай газеты. Падчас начной п'янкі на яго найшло творчае натхненне. Адсунуўшы ў бок пустыя бутэлькі, Рыгор накрэмзаў інтэрв'ю з тэхнолагам мясакамбіната і заявіўся да Жоха не з пустымі рукамі.

Крывелячыся ад перагарнага духу, рэдактар прагледзеў няроўным почыркам спісаную старонку, узняў цікаўныя вочы:

— Кажуць, Рыгорка, ты пінкертонаўшчынай заняўся. Гойсаеш па вобласці, нейкі кампрамат збіраеш.

— Ужо сабраў, — выпаліў, як адрэзаў, падначалены, і Жох, прамармытаўшы: — На бадавень лезеш, — загадаў усё адкласці ды ісці а дванаццатай гадзіне на пасяджэнне камісіі па ліквідацыі камара-мутанта.

Балела і кружылася галава, у роце як насцалі, а тут цягніся на паседжанне… Налівайка ўвалістым крокам абышоў стол, памацаў гарачую макаўку, і ў вачах ягоных бліснула вогненная яска. Рыгор плюхнуўся ў крэсла, схапіў аркуш, размашыста напісаў: «Чальцам надзвычайнай камісіі па ліквідацыі камара-мутанта ад намесніка галоўнага рэдактара газеты «Мандрыкаўскі веснік» Налівайкі Р. І… — у гэтым месцы намеснік рэдактара спыніў пісаніну, прыкусіў асадку, друкаванымі літарамі вывеў: «ЗАЯВА».

Як на добры лад, трэба было высветліць — якая фірма прадукавала канцэнтрат і хто даў дазвол на правядзенне вар'яцкага эксперыменту над жывымі людзьмі. Налівайка так і напісаў у заяве: «вар'яцкага эксперыменту». Аднак шукаць прадукароў не ягоная справа, дый рукі для гэтага кароткія.

«Відавочна, — пісаў Налівайка, — што канцэнтрат, ад якога свінні тлусцеюць як на дражджах, выраблены за мяжою, і што для эксперыменту па засваяльнасці падазронага ва ўсіх дачыненнях мяса былі абраныя самыя безабаронныя і няшчасныя людзі — пацыенты псіхіятрычнай лякарні. Ну і, вядома, тут не абышлося без хабару чыноўнікам самага высокага рангу».

Пры канцы, падумаўшы, Налівайка пазначыў рэквізіты апытаных ім сведак, а ў пастскрыптуме пазначыў суму вы-

даткаў, змарнаваных падчас пошукаў, прыплюсаваўшы туды і грошы, прапітыя ў Азярышчанскім гатэлі. Уклаўшы аркушык у капэрту, лізнуў цупкі ражок, правёў па ражку краем далоні і, на знак заканчэння вялікай працы, бэцнуў па капэрце кулаком.

Тае ночы Налівайка доўга не мог заснуць. Было душна, у паветры вісеў густы пах нафты, ад якога млела сэрца, смылелі пяткі і карцела некуды бегчы, а яшчэ бурчэў пусты жывот і хацелася есці. Жонка з Люськай з'ехалі на пагасціны да цешчы, таму перабіваўся кухлем піва ды сухой рыбай, вязанку якой прынёс Лёшка Кабякоў.

Тыдзень прамінуў, як ён падаў заяву ў камісію, але адказу дагэтуль не дачакаўся. І перадаў жа надзейнаму чалавеку — Леаніду Сяргеевічу, таму самаму даўгалыгаму навукоўцу, які з адсутнасці таўстуна Фартуната старшыняваў у камісіі.

Кожнае ночы, закінуўшы рукі за патыліцу, Налівайка ўяўляў сябе героем газетных артыкулаў і тэлевізійных рэпартажаў: сціплы супрацоўнік мясцовай газеты… разгадаў тайну з'яўлення мутантаў… наступіў на хвост уладным хабарнікам… папярэдзіў свет аб наступствах укаранення кармоў, якія выклікаюць змену генетычнага коду.

Вось і цяпер ляжаў у такой паставе, але зараз глузды поўніліся нядобрымі прадчуваннямі.

«А мо і праўда, як казаў Жох, не варта лезці на бадавень? Ліха яго ведае, каму там давалі хабар. Магчыма, нейкім высокім урадоўцам. Расціснуць, як таго камара».

Сёння ён мусіў адбываць радоўку ў добраахвотнай пажарнай дружыне, але не пайшоў. Прыемна блукаць па лесе, падсілкаваўшыся. А галодны небарака ад аднаго паху нафты з ног валіцца.

Налівайка адчайна, з пакутлівым сіпам у грудзёх, уздыхнуў, і чуйны нос казытнуў пах гары. Нос з шумам уабраў паветра, але нічога, апроч нафтавага смуроду, не ўнюхаў.

Надоечы навакольны лес ужо займаўся агнём. Небарака Муслін, ліквідуючы пажар, нават спаліў бровы. Гарэла, праўда, далёка, ці не ля самай Пронінай сажалкі.

— Не дай бог — загарыцца паблізу, — уголас падумаў бяссоннік, і ўжо на поўныя ноздры пачуў пах гару. Колькі часу ляжаў, стоена лыпаючы павекамі, а калі знадворку загарлалі, кінуўся да вакна.

З суседняга пад'езда, на хаду зашпільваючы порткі, выбег ягоны калега Варывода.

«Ад Клаўкі», — мільганула ў галаве. Вытыркнуўшыся з вакна па пояс, Налівайка гракнуў:

— Што здарылася?

— Дрывотні гарацьˆ… на Луначарскага, — Варывода крыкнуў яшчэ нешта, ды Налівайка не дачуў: па вуліцы, надрыўна скуголячы рухавіком, ляцела пажарная машына.

Покуль, бразгаючы эмаліраваным вядром, бег на Луначарку, пажар увабраўся ў сілу і палымніца злавесным ззяннем закалыхалася па небе.

— Што вы ўсе з вёдрамі?! Сякеры нясіце! — гракнулі наперадзе, і Налівайка пазнаў Муслінаў голас.

Дрывотні стаялі за дамамі, усутыч да лесу, і трэба было ламаць платы, каб праехала пажарная машына. Зачапіўшыся за шланг, Налівайка выпусціў вядро, аберуч схапіўся за штыкеціну. Валілі плот у восем рук. Нарэшце, пад аглушальны трэск сухога дрэва, павалілі, і Налівайка ледзь паспеў адпаўзці, бо адразу ж на павалены плот з натужлівым рокатам уз'ехала «пажарка».

— А куды ж вы на градкі едзеце! — закрычала нейкая бабуля ды аціхла, бо ў гэты момант дах бліжэйшай ад іх дрывотні абваліўся, пусціўшы ў неба слуп вогнепырскіх ясак.

Налівайка нават застыў на імгненне, пазіраючы на вогненную феерыю, і новы крык скалануў прастору:

— Лес гарыць!

Машына пайшла на разварот, пажарныя забегалі вакол шлангаў, і вогненнае нутро пажару здрыганулася, у неба ўзляцелі зыркія вужакі, і пажарныя, утуліўшы галовы ў плечы, кінуліся прэч. Па пракапаным уздоўж агароду раўчуку ручаілася вогненная лава.

— Бочка… бочка выбухнула! — гракнулі адразу некалькі глотак.

«Якая бочка?» — Налівайка захінуў твар ад нясцерпнага жару, і тут жа ўцяміў. Бочка з нафтаю… хтосьці гаспадарлівы сцягнуў ды прыхаваў у дрывотні.

Лава разлілася па агародзе, і ў пажарнай машыны загарэліся заднія колы. Машына тузанулася, спрабуючы ад'ехаць убок, але, не здолеўшы праехаць і пару метраў, спынілася.

— Людзі добрыя, а што ж гэта робіц-ца-а?! — залямантавала бабця — тая самая, што бедавала за градкі, — і пад ногі Налівайку з віскатам выкаціўся ўвішны падсвінак.

Ратуючыся ад агню, Налівайка пабег уздоўж вуліцы, і адурэлы ад людскога вэрхалу падсвінак тыцкаўся яму лычом у пяткі.

У рэдакцыі гарэла святло, а ў жоўтым прастакутніку вакна краталася прыгорбленая Жохава постаць.

— Гал-ло! Гал-ло! Гал-ло, йопп… — абзывалася на калідоры гулкае рэха.

Заляцеўшы ў кабінет, Налівайка зморана аддзьмуўся.

— Ну… як там? — усхапіўся рэдактар.

— Луначарка гарыць. У сараі бочка з нафтаю выбухнула. Адразу тры хаты агнём заняліся. І пажарная машына згарэла…

Жох спрабаваў кудысьці датэлефанавацца, нарэшце плюнуў з адчаю і падаўся з рэдакцыі. Налівайка пабег следам.

Пажар разгараўся як мае быць. Ужо не толькі Луначарка, але і суседнія завулкі палалі барвовым полымем, і ад задушлівай гары было не прадыхнуць.

Жох узбег па гранітных прыступках будынка раённай «вертыкалі».

«Вось яно, нутро чынадрала, — Налівайка прасвідраваў бязлітасным зіркам пахілую Жохаву спіну, — без дырэктывы і ўласны дом тушыць не стане».

Выканкамаўскія калідоры гулі і грымелі ад народу. З расчыненых дзвярэй вырываліся непрыхаваныя мацюкі і адчайдушныя патрабаванні абудзіць некага. Каля прыёмнай стар-

шыні райвыканкама Цацохі таўкліся людзі. І хаця ўсе маўчалі і цягнулі шыі, слухаючы тэлефонныя перамовы Цацохі з начальствам, загадчык агульнага аддзела Абакуновіч, які стаяў ля дзвярэй, трос кулакамі і злавесна сыкаў: — Ціха! Ціха!..

— Ужо выехалі?! — сіпла гарлаў Цацоха. — Колькі?… Гэтага мала. Патрэбна як мінімум пяць машын, — гаворка ішла пра «пажаркі». — Няма чым дыхаць, гарыць навакольны лес. Якія будуць указанні? Часовая эвакуацыя? Так… Зразумеў… Жанчын і дзяцей? Неадкладна прыступаем.

— Усе чулі?! — гракнуў кіраўнік «вертыкалі» з кабінетных лёхаў. — Зараз жа ідзіце па хатах, збірайце жанчын і дзяцей.

Налівайка выбег з будынка і вяклівa керхануў. Ядучы гар перацяў дыханне, выціснуў з вачэй палыновую слязіну. Краем слязлівага вока ўгледзеў: па пляцы, з бусаком на плячы, бег нехта з завязаным марляй ротам. Не спыняючы хады, Налівайка сцягнуў кашулю, потым майку, каб намачыць вадой, і чалавек з бусаком, які гэтаксама падбег да калонкі, задыхана параіў:

— Пасцы на майку. Тады не задыхнешся.

Налівайка падставіў карак пад струмень, страсянуўся як цюцька, і замёр, уражаны. У канцы вуліцы гарэла, страляючы шыбамі, пажарная частка.

Луначарка згарэла цалкам. Папялішчы дыхалі малочным дымам, і сям-там пажарныя машыны яшчэ залівалі агонь з брандспойтаў.

Муслін стаяў ля свайго дома, дакладней, каля белага коміна, што ўздымаўся пасярод счарнелага, агнём пакарабачанага скарбу. У руках утаймавальнік агню трымаў абгарэлы сцяг пажарнай каманды. Верх форменнай Муслінаўскай фуражкі згарэў, і чырвоная лысіна злёгку дымілася.

— Во яно як… — ціха прамовіў Муслін.

Налівайка парываўся сказаць нейкія прачулыя словы, нават злёгку застагнаў, збіраючыся з думкамі, але нічога не надумаў, адно спачувальна ляпнуў сябра па плячы.

У суворым маўчанні яны стаялі ля папялішча. Інспектар дрогкімі пальцамі крануўся аксаміту напалову згарэлага сцяга.

— Вынес… з пажарнай часткі.

У горле Налівайкавым захрас даўкі камяк.

«Дамо ў газету… з абгарэлым сцягам», — маракуючы, які подпіс даць пад фотаздымкам, Налівайка заплюшчыў вочы, бязгучнымі вуснамі прашаптаў: «Ён першы ступіў у агонь».

Хтосьці кашлянуў. Не азіраючыся, сябры пазналі Лёшку Кабякова. Лёшка ціхенька, не раўнуючы, як кот, падышоў, стаў поруч. Галоўбух быў у светлых, не кранутыя пажарам, портках, і Налівайка незадаволена падумаў: «Хаваўся недзе».

— Я ўжо дадому забег, пераапрануўся. А то ў штанах калашына згарэла, — Лёшка не шапялявіў. — Шукаў новыя штаны і сківіцу знайшоў. Пад ложак завалілася, — паведаміў галоўбух. — Налівайка перавёў дух, зразумеўшы, што Лёшка цудоўны чалавек і сапраўдны сябар.

Пару хвілін маўчалі, потым усе разам паглядзелі на закураны бідон, які стаяў на печы. Не згаворваючыся, Налівайка з Кабяковым рушылі па прыску, асцярожна, выбіраючы, дзе стаць, прабраліся да печы.

Бідон быў цёплы, амаль гарачы.

— Калі ўскіпеў, дык градусаў не засталося, — Муслін выглядаў на папялішчы якую пасудзіну.

Бідон да калонкі цягнулі з крахтаннем і частай зменай рук.

Пад халодным струменем бражка хутка астыла. Інспектар на правах гаспадара адкінуў накрыўку. У нос ударыла ядранахмельным духам.

Селі тут жа, пры дарозе. Гаспадар пачарпнуў з бідона пакарабачанай конаўкай. Бражка добра ўстаялася: ад выпітага ў Налівайкі ўвушшу ўдарылі званы.

— Вось як яно атрымалася… — са стогнам вымавіў пагарэлец, выціраючы лоб брудным рукавом. — Збіраўся пляменніка жаніць… бражкі паставіў… а тут… і вяселле разладзілася, і хата згарэла.

Налівайка з Кабяковым уздыхнулі, а Муслін, набраўшы поўную конаўку, змахнуў няпрошаную слязу.

— Як пажар тушылі, верш склаў.

— Прачытай, — прамовіў, змагаючыся з халодным камяком у горле, Налівайка, і самадзейны паэт пранікнёна залыпаў абпаленымі вейкамі.

— «Бывай, мая Мандрыкаўка, бывай…», — прадэклямаваў Муслін, і голас ягоны асекся. — Вялізны камарышча завіс над перапэцканым інспектаравым носам і, даўшы кругаля вакол дымнай галавы, сеў на край пакарабачанай конаўкі.

— Ай ты, бл-ляха! — не ведаючы, чым хвастануць камарышчу, Муслін сцягнуў з галавы абгарэлую фуражку, ды Налівайка затрымаў ягоную руку.

— Не чапай, хай сёрбне.

Камарышча панурыў нос у конаўку, хітнуўся, загуў на нізкіх частотах і, стукнуўшыся аб Кабяковы лабешнік, паляцеў вінтом у бок абгарэлага хмызняку.

— Наш чалавек, — выдыхнуў Муслін, а Кабякоў, паціраючы лабешнік, прашапялявіў: — Палову Мандрыкаўкі спалілі, нафтаю ўвесь раён запаскудзілі, а зараза як лётала, так і лётае. І скуль узялася?

— Усё з-за канцэнтрату, — Налівайка прыклаўся да конаўкі, і сябрукі, на момант працверазеўшы, утаропіліся на журналіста.

Няспешна, раз-пораз сёрбаючы бражку, Налівайка распавёў пра канцэнтрат, згадаў свае паездкі ў Кашына, і Муслін, адкінуўшы згарэлую фуражку, прасіпеў:

— Што робяць, гады!

— А чаму ў Афрыку канцэнтрат не павезлі? Тамака можна не толькі свіней, але і людзей ім карміць, — пацікавіўся галоўны бухгалтар.

— Афрыка далёка. А тут усё побач. Думаю, нам тую дрэнь з Расеі падкінулі. Хабар некаму далі. І не малы.

Муслін тым часам дарэшты сп’янеў, але думку выказаў цвярозую:

— Дарма ты, Рыгор, ва ўсё гэта палез. Могуць і па шыі накласці.

— Дык што, і далей у дзве сапёлкі свістаць? — Налівайка бразнуў конаўкай па бідоне. — Вы зірніце наўкол. Бачыце, што робіцца?

Сябрукі п’янавата агледзеліся.

Усё патанала ў дыме, і ў смузе размытымі патарочамі краталіся людскія постаці. Выяўна была бачна толькі скур-

чаная бабуля. Старая блукала непадалёку, поркаючыся сукаватым друком у папялішчы. Уначы дзяцей і жанок вывезлі з Мандрыкаўкі, але бабуля чамусьці не з'ехала.

— Нарабілі бяды, — прастагнаў Муслін, а перахапіўшы ўмольны погляд Налівайкі — той прасіў прачытаць верш, — ускінуў чупрыну, засяроджана паглядзеў на дарогу.

Па дарозе, аб'язджаючы павалены слуп з «барадой» пераблытанага дроту, ехала «Хуткая дапамога». Побач з кіроўцам сядзеў Жох. Пад'ехаўшы бліжэй, Жох апусціў шыбу, з нецярплівасцю крыкнуў:

— Сядай, даўно цябе шукаем!

Налівайка не здзівіўся, калі яго запрасілі ў машыну. Бянтэжыла толькі, што гэта была «Хуткая дапамога». З таго самага моманту, як падаў заяву, ён чакаў прыезду суворых следчых. Тых самых, якія павінны былі разабрацца ва ўсёй гэтай гісторыі і вывесці на чыстую ваду хабарнікаў. І вось ён едзе да следчых у кампаніі зусім маладога хлопца — вадзілы «Хуткай».

За вакном праплыла куча дымнага хломазду — усё, што засталося ад «Эрыдану», — і Налівайка звёў павекі. Хлопец пытаўся пра пажар, пра камароў-мутантаў, але гаварыць не хацелася. Налівайка пралапатаў штосьці, спытаў — ці не ў сталіцу едзем? — а калі вадзіла кіўнуў, уздыхнуў і прытуліў карак да спінкі сядзення. Ён паспрабаваў абдумаць — што скажа следчым, але стома ды бражны хмель заблыталі і сцялі язык. Вадзіла нешта пытаўся, але Налівайка ўжо мерна соп, бязвольна матляючы галавой на паваротах.

Спаў ён цэлую гадзіну. Сюд-туд схамянаўся, асавела пазіраў на дарогу, потым зноў абрынаўся ў сон, і толькі злавіўшы заспанымі вачыма паказальнік: «Кашына», — абудзіўся:

— Чаму з бальшака звярнулі?

— Спачатку ў Кашына заедзем, — вадзіла прытапіў понаж газу.

«Следчая група перш-наперш наведала Кашынскую псіхіятрычную бальніцу. Ды яно і зразумела. Менавіта тут псіхічна хворых небарак кармілі атрутным мясам. Адсюль і трэба

пачынаць раскручваць злачынны клубок», — у свядомасці складаліся радкі выкрывальніцкага артыкула.

Наперадзе зялёнай сцяной паўсталі высозныя ліпы, мільганула між стаўбуроў сцяна Кашынскай псіхушкі, і тутэйшыя вароны, перакрыўшы рокат легкавіка, віталі Налівайку бязладным граем.

* * *

Яго абудзілі галасы знадворку, і Налівайка борзда скаціўся з ложка. На каленях, са звязанымі за спінай рукамі, падаўся да закратаванага вакна.

— Людзі, усе, хто мяне чуе! Я Рыгор Налівайка, журналіст, маю сур’ёзную інфармацыю!

Галасы знадворку аціхлі, нехта рагатнуў, і галоўная лекарка — Налівайка пазнаў сіплавата-пракураны кантральта, — прамовіла:

— Новы пацыент. Прывезлі нядаўна. Шызафрэнія параноіднай формы.

Лекарка назвала нейкія медычныя тэрміны, галасы аддаліліся, Налівайка стукнуўся ў адчаі лбом аб жалезныя краты і зноўку прыслухаўся.

— Гляньце, вунь ён! А вунь яшчэ ляцяць… а якія вялікія! — закрычалі знадворку, і на бяскроўных вуснах новага пацыента адбілася злавесная ўсмешка.

# ПАГАСЦІНЫ

Цэнтрабежная сіла пачала адсоўваць яго ўбок — цягнік стаў закладваць дугу. Лёнік прыціснуў скронь да закуранай паравозным дымам шыбы і ўбачыў той самы паравоз. Ільсняна-чорны, падобны на жука-гнаевіка, ён мерна выпускаў пару з-пад колаў і засціў навакольныя кусты грывастым дымам. Цётка ў форменным шынялі стаяла наўзбоч каляіны, трымаючы ў руках разгорнуты сцяжок. Сцяжок калыхаўся на ветры, загадваючы машыністу скінуць і без таго павольную хуткасць.

— Якая станцыя? — спыталі за перабойкай.

— Невель, — адказала правадніца, адчыніўшы дзверы ў тамбур.

Пасажыраў было няшмат. За перабойкай ехалі дзед з унукам — Лёнік з імі пазнаёміўся падчас пасадкі, — у сярэдзіне вагона рэзаліся ў «дурня» два хлопцы ягонага веку, а ў дальнім канцы ехала жанчына з дзіцём, якое несупынна румзала.

Невель выглядаў горадам невялічкім, раскіданым па крутых пагорках. Адзінай адметнасцю краявіду былі ўтравелыя чыгуначныя насыпы з рэшткамі каменных мастоў, — сведчанне таго, што тут некалі віраваў інтэнсіўны рух, а цяпер чыгунка заняпала і рэйкі разабралі.

Вакзальны будынак у Невелі таксама заняпаў. Усе вокны, апроч двух, дзе была каса, пазабівалі дошкамі.

— Стаянка пятнаццаць хвілін! — крыкнула з тамбура правадніца.

Лёнік хацеў выйсці папаліць, але пашарпаная будыніна, якая глядзела на свет двума не забітымі вакенцамі, разахвоціла выходзіць з вагона.

За Невелем цягнік пайшоў больш жвава, і леваруч адкрыўся шырокі краявід, упрыгожаны маляўнічым возерам. Лёнік нават выцягнуў шыю, аглядаючы азёрны прасцяг.

Дзед з унукам падышлі да супрацьлеглага вакна.

— Возера Вялікі Іван, — дзед прылашчыў далонямі рэшткі сівых валасоў. — Зараз будзе станцыя Апухлікі. Я там калісьці ў санаторыі адпачываў. Не столькі адпачываў, колькі рыбу лавіў. Трох вугроў выцягнуў.

Пазяхнуўшы, Лёнік выцягнуўся на лежаку.

На пачатку лета ў Лёніка памерла бабуля. Нічым асабліва не хварэла, і раптам чыркнула запалкай на кухні, войкнула і павалілася на падлогу. На паховіны прыехала шмат крэўных, у тым ліку і цётка Моця — родная матчына сястра. Цётка жыла ў Піцеры, і пасля хаўтур запрасіла нябожа ў госці. «Зусім ты нас, Лёнік, забыў. Прыехаў бы на які тыдзень, па музеях пахадзіў, у крамы зазірнуў», — плаксіва, смаркаючыся ў насоўку, выдыхнула цётухна. «А можа, сапраўды, узяць ды з’ездзіць? Вунь і адпачынак хутка, — падумаў нябож, чухаючы патыліцу, — да таго ж, цягнік ходзіць “Полацк — Ленінград”. Так што трэба выпраўляцца».

У Піцер ён ездзіў толькі аднойчы, калі вучыўся ў шостым класе. Ездзілі яны туды з маці і хутка вярнуліся. А ўсё праз Мішку, цётчынага сына. Стрыечны братан быў на год старэйшы і наведваў секцыю вольнай барацьбы. І не паспелі парукацца, як Мішка, яшчэ ў калідоры, пачаў дэманстраваць барацьбітныя прыёмы. Пры гэтым сіпеў: «Ды не хапайся ты!», — а грукнуўшы братана на падлогу, здаволена пацёр рукі. Калі ж цётка стала крычаць: «Мішка, што ты робіш?!» — той рашуча адказаў: «Ды я яго прыёмам навучаю. А то вырасце цельпуком, не зможа за сябе пастаяць». Словы гэтыя, падобна, Мішка чуў ад трэнера. Наступным ранкам яны выйшлі на двор, і братан прадэманстраваў прыём «сядло». Лёнік ляснуўся хвастцом аб нешта цвёрдае, і давялося выклікаць «Хуткую» ды рабіць рэнтген. А наступным днём яны з’ехалі дахаты. «Расце без бацькі бандзюком», — з уздыхам казала маці і раз-пораз пыталася — ці баліць спіна?

Прамінула доўгіх дзесяць гадоў, і вось Лёнік ізноў едзе ў Ленінград, з трывогаю прыслухоўваючыся да перастуку вагонных колаў. Перастук між тым запаволіўся, цягнік, гайдануўшыся на стрэлках, спыніўся, і ў вагон убіліся дзве кабеты — адна мажная, другая хударлявая, — з неабдымнымі валізамі ў руках. Мяркуючы па ўсім, адпачывалі ў санаторыі і цяпер ехалі дадому.

— Божухна, якая тут камарэча! — дуэтам паведамілі кабеты, калі правадніца прыйшла па квіткі.

Адна з кабет, прыцішыўшы голас, пачала распавядаць пра мужа, які ёй смяротна абрыдзеў і якога яна называла Рудым Прусаком, Лёнік пазяхнуў, ізноў лёг на мулкі ляжак і адразу ж заснуў. Яму нават штосьці прыснілася, і сярод соннага мроіва гулкім рэхам прагучала: «Станцыя Вялікія Лукі».

Калі скочыў на платформу, па ёй ужо хадзілі кабеты з суседняга купэ. Прыхаваўшы далонямі вусны, яны нешта палка казалі адна адной і пырскалі смехам. Няйначай, распавядалі пра санаторныя любошчы.

Асфальт на платформе зеўраў выбоінамі, драўляныя лаўкі, што туліліся ля будынка вакзала, былі спрэс пашарпаныя, непадалёку стаяла вадавежа з зялёным чубком травы на даху, ды і сам вакзал, як бачна, даўно не рамантаваўся, прыхаваўшы аварыйны гзымс выцвілым лозунгам «1975 — рашаючы год Пяцігодкі!». Цягнік стаяў дваццаць хвілін, і Лёнік хацеў зайсці ў вакзальны буфет, але вырашыў прыберагчы грошы для Піцера, а таму шпурнуў недапалак пад вагонныя колы і схапіўся за поручні.

Цягнік з панылай павольнасцю ехаў насустрач ночы. Міма плылі чорныя тэлеграфныя слупы, белыя стваліны бярэзін, збуцвелыя, немаведама калі збудаваныя чыгуначныя станцыі. Пацямнелыя ад часу, яны нагадвалі кіношныя дэкарацыі, і паравоз, які раз-пораз паказваўся з-за павароту чыгункі, выглядаў часткаю тых дэкарацый. Толькі зараз, прыціснуўшы нос да закуранай шыбы, зразумеў Лёнік, якая вялікая Расея і якая яна занядбаная ды пустэльная. На многія кіламетры аніводнай вёскі. Адны кусты ды купы высокага, у чалавечы

рост, чарнобылю — пазнака таго, што ў гэтых мясцінах калісьці жылі людзі.

Ён збіраўся класціся на бакавую і разаслаў пасцель, ды тут за вакном бліснула, адбіваючы вечаровую палымніцу, вялізнае возера. Чырвоны далягляд быў пакроены палосамі чорных хмараў, і цяжка было зразумець — дзе заканчваецца воднае люстра і дзе пачынаецца ахопленае згасальным пажарам неба.

— Селігер, — дзядок за перабойкай надрыўна кашлянуў.

У гэтай назве чулася штосьці старадаўняе. Цягнік доўга поўз вакол возера, і Лёнік неадрыўна, прытуліўшы лоб да шыбы, паглядаў на бясконцы абшар, аж пакуль цёмныя кусты не прыхавалі ад вачэй кранутае барвай азёрнае бязмежжа.

Выходзячы з вагона, Лёнік зірнуў на гадзіннік. Стрэлкі паказвалі палову на шостую.

«З іншых гарадоў прыязджаюць спрыяльным часам, а з Полацка тады, калі яшчэ метро не працуе», — падумалася той хвіляй.

— Малады чалавек, дапамажыце выйсці, — крыкнулі за спінай.

Мажная цётка з суседняга купэ прасіла дапамагчы вынесці валізы. Пакуль выносіў іх у тамбур, да вагона нехта падбег.

— Як заўсёды спазніўся, — незадаволена прабубніла таўстуха і, скочыўшы з прыступкі, кінулася на шыю задыханаму даўгялу. — Так сумавала, так сумавала, што хацела з'ехаць датэрмінова, — кабета з неахвотаю падставіла шчаку для пацалунку і жартам тузанула даўгялу за чупрыну. Валасы ў небаракі мелі агніста-рыжую водцень. Відаць, гэта і быў той самы Руды Прусак.

— А вам куды ехаць? — звярнулася да Лёніка таўстуха.

— Праспект Марыса Тарэза.

— Дык нам амаль па дарозе. Можам падвезці.

— Таксама з санаторыя? — Прусак акінуў Лёніка падазроным позіркам.

— З Полацка еду, — адказаў Лёнік, і Прусак задуменна прамармытаў:

— Полацк… Полацк… знаёмая назва… не магу згадаць — дзе чуў. Гэта не ў вас там полаўцы жылі?

— Ды пайшлі ўжо, — таўстуха ляпнула Прусака па спіне, і той падхапіў валізу.

Другую валізу даручылі цягнуць Лёніку, а хударлявая кабета ўзяла ягоны саквяж.

Па Піцеры ехалі на «Жыгулях» першай мадэлі. Вуліцы былі пустэльныя, і святлафоры зацята міргалі сваімі жоўтымі вачыма. Лёнік апантана паглядаў ва ўсе бакі, а пабачыўшы ўдалечыні залаты спічак Петрапаўлаўскага сабора і шэрую аграмадзіну «Аўроры», нават рот разявіў.

— Каб ты ведаў — што гэта за цягнік, — абуралася таўстуха, седзячы на пярэднім сядзенні. — Паравоз цягне! Я іх ужо гадоў дзесяць не бачыла. І спыняўся каля кожнага слупа.

— Затое пасля Балагога — і пёр, і пёр, і пёр. Амаль без прыпынкаў, — падала голас хударлявая сяброўка. Яна сядзела поруч з Лёнікам.

Прусак, аднак, тых захопленых аповедаў як і не чуў. Неадрыўна глядзеў на дарогу і нечакана, крутнуўшы галавой, запытаўся:

— А Полацк дзе знаходзіцца?

— У Беларусі.

— А-а-а, — у голасе вадзілы чулася ці то спагада, ці то няўклюднае спачуванне. — А я думаў — недзе ў стэпу. Дзе полаўцы жылі.

Легкавушка спыніліся на круглым пляцы, і Прусак кіўком галавы паказаў направа.

— Давай, полавец, ідзі гэтай вуліцай. Там леваруч парк будзе. Сасноўкай называецца. І поруч праспект Тарэза з дванаццаціпавярховымі дамамі. Мы яго па старой памяці Стара-Паргалаўскім называем.

Жыццё на вуліцах пакрысе ажывала. Спавітае смугою сонца бліскала на шыбах першых трамваяў, а на прыпынках ужо стаялі купкі людзей. Лёнік ішоў, задаволена шоргаючы туфлямі, — маці адмыслова купіла для паездкі ў Піцер, — і прагна ўдыхаў ранішняе, яшчэ не атручанае машынамі паветра. І здавалася, што скурчаная правінцыйная душа ягоная

пазбаўляецца кайданоў, выпростваецца і ляціць насустрач засмужанаму піцерскаму сонцу.

Перад тым, як націснуць гузік званка, Лёнік зірнуў на паперку з напісаным адрасам і перавёў дых. Ціскануў гузік раз, потым, ладна пачакаўшы, другім разам. Нарэшце рыпнуў ключ, і дзверы расчыніліся. Цётка Моця паўстала ў дзвярной пройме ўскудлачаная, у зацяганым, накінутым на начную кашулю халаце.

— Ты, Лёнік? — прыспана пралепятала цётухна, і калі нябож пераступіў парог, скасавурылася і патрэсла кулакамі. — Міша спіць…

З глыбіні кватэры вырываўся на калідорны прасцяг пералівісты храп.

— Заходзь на кухню, — прашаптала цётка Моця.

На кухонным стале грувасціліся пустая бутэлька з-пад гарэлкі, дзве шклянкі і попельніца з грудком недапалкаў.

— Выпівае, — шморгнула носам цётка, высыпаючы ў сметніцу недапалкі. — Учора з нейкім сябрам з кінастудыі да цёмнага сядзелі.

«Вось дык навіна, — страсянуў чупрынай нябож, — на паховінах ні слова пра Мішкавы п’янкі не казала».

Лёнік выцягнуў з сакваяжа крышталёвую вазу.

— Маці перадала. Падарунак.

Цётухна цмокнула нябожа ў скронь, плаксіва шморгнула носам.

— Кожны ж дзянёчак п’яненькі… — прыбраўшы стол, цётка паставіла на пліту чайнік, наструнілася, а пачуўшы немае храпенне, запытала: — Ты хоць не п’еш?

Лёнік няўцямна перасмыкнуў плячыма.

— Мішка пачне грошай прасіць — не давай. Прап’е і не верне.

Чайнік засвістаў, цётка падхапілася на ногі і, быццам гэта жывая істота, выдыхнула:

— Ды суніміся ты, свістун няшчасны!

Ён ляжаў у цётчынай, яшчэ цёплай пасцелі, доўга глядзеў на высокую столь і шкадаваў, што прыпёрся ў Піцер. Нарэшце змежыў павекі, і слых напоўніўся тахканнем колаў, а ўваччу паўстаў бязмежны азёрны прасцяг.

Абудзіў яго непракерханы голас з кухні:

— Хто гэта?

На кухні бразнулі талеркі.

— Лёнік, стрыечны брат твой.

— Ну прасіў жа: нікога да нас не запрашаць, — сіпата выбухнуў Мішка, і Лёнік скаціўся з ложка.

— І на якую халеру, сапраўды, прыпёрся, — прамармытаў госць, спехам нацягваючы порткі.

Ён прачыніў кухонныя дзверы. Мішка сядзеў за сталом і еў сасіскі з гарчыцай. Пры гэтым пякельна крывіўся і здушана хекаў. Гарчыца была ядучай.

— Добры дзень, — прамовіў Лёнік дрыготкімі вуснамі.

Мішка ўскінуў бровы, з роблена-плаксівым здзіўленнем запытаў:

— І адкуль такія маладыя ды зялёныя?

— З Полацка, — з баязлівай усмешкай на твары адказаў госць.

— А гэта горад ці вёска? — хмыкнуў Мішка і хапануў ротам паветра. — Гарчыца была не проста ядучай, а пякельнай.

Палачанін азірнуўся, выглядаючы — куды кінуў свой саквояж. Хацеў падацца на вакзал, каб не слухаць абразлівыя кпіны, ды цётка паставіла на стол талерку з ружовымі сасіскамі.

— Паеш, Лёнік. Не слухай Мішку. Ён з пахмелля не ў гуморы.

Магчыма, Лёнік і збег бы на вакзал, але на яго напала прогліца, і палачанін, удыхнуўшы пах ружовага далікатэсу, прысеў за стол.

Сасіскі былі смачныя. У Полацку іх ужо даўно не прадавалі. Адзін Лёнікавы знаёмы працаваў на мясцовым мясакамбінаце, дык казаў там ледзь не кожнага дня ў Ленінград выпраўлялі фуру каўбас ды сасісак. Каб вось такія хамулы, як Мішка, сядзелі і жэрлі. Мазнуўшы сасіску гарчыцай, Лёнік прыслухаўся. Мішка еў на два бакі, пры гэтым вушы ягоныя варушыліся і, як падалося, злёгку трашчалі.

Паснедаўшы, Лёнік зайшоў у святліцу, сеў на прадушаную канапу і агледзеўся. Абсталюнак кватэры выглядаў даволі бедным. «Ды скуль узяцца багаццю, калі братан, падобна, усе грошы прапівае», — падумаў госць, паглядаючы на

плакат з выявай нейкага фільма. Братан, па чутках, працаваў на «Ленфільме» — ці то асвятляльнікам, ці то дэкаратарам.

Мішка, змучана аддзімаючыся як пасля цяжкай працы, хадзіў па святліцы і не звяртаў на госця аніякай увагі. Нарэшце падышоў да трумо, прыўзняў падбароддзе і тонам распешчанага жыццём сібарыта прастагнаў:

— Прыгожы, як алімпійскі бог!

Потым памаўчаў, наблізіў твар да люстра і з адчаем выдыхнуў:

— Толькі нос усё псуе.

Нос Мішкавы і сапраўды не пасаваў твару. Быў як у баксёра крывым і як у п’яніцы барвовым.

— Чаго сядзіш? — гаспадар глянуў на госця не азіраючыся, праз люстра, — схадзіў бы за півам, ці што…

— Куды ты яго пасылаеш? Ён тут нічога не ведае! — азвалася з кухні цётка Моця.

— Ды памаўчы ты, далібог, — плаксіва скрывіўся Мішка, пасля чаго прайшоўся, як той Фантамас — напяўшы грудзіну і махаючы рукамі, — па пакоі, і зноў спыніўся ля трумо.

— Ален Дэлон, — выдаў Мішка, матляючы рукамі, і замармытаў нешта зусім няўцямнае: — Хто ў вас едзе ў Жэневу? Вось, аддзел прапануе Аляб’ева. Гэта высокі такі? Юрам, здаецца, клічуць? Юры Мікалаевіч. Юры-ы Мікалаеві-іч, — расцягваючы зыкі, працадзіў Мішка. — Братан, падобна, дэкламаваў нейкі тэатральны маналог. — Ну, якія за ім подзвігі? Пісаць можа? Можа! Ну і, затым, дзве мовы…

Дэкламатар зморана перавёў дых.

— Першая серыя «Журналіста». Мой улюбёны фільм. З яго і пачалася мая дарога ў кінематограф.

Фільм «Журналіст» Лёнік некалі глядзеў, але запомніў толькі, што дзея адбывалася спачатку на Урале, а затым у Парыжы.

— А другую серыю чаму не ўпадабаў?

Мішка з агідай перакрывіўся:

— Каб пяяць оды Парыжу, трэба ў ім нарадзіцца, — кінематаграфіст хацеў яшчэ нешта сказаць, ды махнуў рукой: — Божухна, каму я ўсё гэта расказваю.

«Ганарысты гусак, палкай носа не дастанеш», — Лёнік адкінуўся на прыслон канапы, і ў канапным нутры штосьці трэснула.

— Чуў я, ты ў кінематографе лямпы запаляеш.

Кінематаграфіст кінуўся на кухню.

— Ну прасілі ж яе не лезці ў мае справы. Ля-ампы запаляеш… Я ўжо два месяцы асістэнтам рэжысёра працую! — гракнуў, звяртаючыся да маці, кінематаграфіст і тут жа вярнуўся ў пакой.

— А чым асістэнт займаецца? Рэжысёру за півам бегае? — са смяшком запытаўся Лёнік і спалохана сцяўся. — Невядома, як на тое зрэагуе кінематаграфіст. Можа, пачне прыёмы паказваць?

Мішка прапусціў жарцік міма вушэй, палагаднеў тварам.

— Слухай, ці можаш пазычыць пяцёрку? Заўтра аддам.

Госць уздыхнуў, згадаўшы цётчыну просьбу, палез у кішэню, дастаў пакамечаны трульнік.

— Ты ж глядзі, не пі! — крыкнула цётка Моця, калі Мішка стаў насоўваць туфлі.

Мішка адно мацюкнуўся ў адказ.

— Як убіўся ў «Ленфільм», так і не прасыхае, — усё з той жа змучанай інтанацыяй прамовіла цётка. — Не ведаю нат, колькі ён там атрымлівае. Усё ж прапівае. Кожны дзень грошы просіць. Надоечы паклала яму на ашчадкніжку сто рублёў. Думаю, назбіраю на вяселле. А на мінулым тыдні пайшла ў касу, глянула, а на рахунку нуль. Ужо згуляў вяселле.

Выціраючы нос бруднаватай насоўкай, цётка стала апавядаць пра сынавы гулі, пра тое, што Мішка панадзіўся хадзіць да саракагадовай развядзёнкі і што нядаўна патрапіў у выцвярэзнік: давялося даваць хабар міліцыянтам, каб тыя не паведамлялі на працу.

Нябож слухаў цётчыны нараканні і мацаў знямелымі пальцамі грошы, якія ляжалі ў кішэні штаноў, адчуваючы, што трыма рублямі ад Мішкі не адкруціцца.

Па абедзе Лёнік сядзеў на канапе і глядзеў футбол. Сёння была субота, і матч пачаўся а трэцяй гадзіне. Ленінградскі

«Зеніт» гуляў з «Лакаматывам». Футбалісты абедзвюх дружын спорным трушком бегалі па полі, час ад часу кідаліся ў атаку і тут жа адкідвалі мячык назад. За дзесяць хвілін да заканчэння матча грукнулі ўваходныя дзверы, і ў святліцу ўваліўся Мішка.

— Футбол, — зморана, з кіслай гіморай на твары, выдаў кінематаграфіст, — які я далёкі ад усяго гэтага!

Хаця Мішка і сказаў, што футбол яму не цікавы, тым не менш стаяў нерухома і, склаўшы вусны ў трубачку, зыркаў на экран.

— Які лік?

— Адзін нуль на карысць «Лакаматыву». Голубеў сам сабе гол забіў.

— Голубева даўно трэба гнаць з поля! — Мішка абурана бліснуў п'янаватымі вірламі — відаць, кульнуў піва.

Неўзабаве аматар піва стаў, паспяваючы за мячыкам, рухаць галавой, потым рукамі, урэшце ўсім целам.

— Ды бі ўжо! Бі! — выдаў далёкі ад футболу кінематаграфіст і дакорліва прастагнаў: — Куды ты?!

— Чаму туфлі не здымаеш? Учора падлогу памыла, — гукнула маці.

— Направа, Казачонку адкінь! — загадна выдаў у адказ футбольны заўзятар, а калі мячык паляцеў налева, з адчаем пляснуў у далоні.

— Ты ж казаў — футболам не цікавішся, — з усмешкай заўважыў Лёнік, і братан з такой рашучасцю ад яго адмахнуўся, што Лёнік адчуў на твары подых ветру.

— Будзеш ты мне тут… — прасіпеў заўзятар, і ў гэты момант прагучаў фінальны свісток.

— Не, ну каму прадзьмулі… смярдзючаму паравозу, — Мішка пачаў матляцца з кута ў кут, гучна бухаючы абцасамі скараходаўскіх, на высокай платформе, туфель. — Во даў бог каманду.

Наматляўшыся ўволю, заўзятар «Зеніту» спыніўся ля трумо і застыў, закрыўшы павекі. Стаяў ён так даволі доўга, урэшце ачуўся, крутнуў гадавой.

— Ты хоць чуў пра аўтатрэнінг?

Пра аўтатрэнінг Лёнік чуў краем вуха, але што гэта такое, дакладна не ўяўляў.

Мішка махнуў рукой, аддзьмуўся і зірнуў на госця так, нібыта ўпершыню сустрэў.

— Уставай.

— Навошта? Аўтатрэнінгу вучыцца?

— Ды не, пакажу табе Піцер.

— Мішка… — з інтанацыяй абарванага плачу клікнула цётка.

— Ну я Мішка, — сувора азваўся сын. — Трэба ж мне твайму пляменніку горад паказаць. Ці ён так і будзе сядзець на канапе?

Праспект Марыса Тарэза скаланаўся ад гуду машын. Лёнік памкнуўся быў да аўтобуснага прыпынку, але братан схапіў за локаць, выбег на ўзбочыну дарогі і, выкінуўшы наперад руку, як тое рабілі кінагероі, гучна гракнуў: «Матор!» Салатавага колеру «Волга», віскнуўшы гамульцамі, спынілася ля бардзюра.

— На Петраградскую, — выгукнуў Мішка, плюхнуўся на пярэдняе сядзенне і паведаміў прыгаломшанаму брату: — У суботу вечарам на грамадскім транспарце лепш не ездзіць. Прыдушаць у цісканіне.

У прадчуванні сустрэчы з Зімовым палацам, Неўскім праспектам ды іншымі піцерскімі славутасцямі Лёнік глядзеў у вакно, намагаючыся пабачыць знаёмыя па кніжках і кінафільмах краявіды, але там мільгалі шарыя будынкі сталінскай пабудовы. Таксоўка ўз’ехала на мост.

— Гэта Нява? — запытаўся Лёнік. Рака, якую праміналі, выглядала не на шмат шырэйшай ад Дзвіны.

— Усяго толькі Неўка, — патлумачыў кіроўца і, памаўчаўшы, спытаў: — Адкуль прыехалі?

— З Беларусі, — паныла выдыхнуў пасажыр.

Лёнік чакаў паблажлівай усмешкі і зыркнуў у люстэрка, якое вісела ўгары і ў якім адбіваўся бульбоністы вадзілавы нос, але таксіст, мелькам азірнуўшыся, выгукнуў:

— О! Зямляк! У мяне бацька з Віцебска. Усё хачу туды з’ездзіць. Ды як з’ездзіш з-за гэтай працы, — сказаўшы так, таксіст выцяў кулаком па стырну. — Я ў Купчыне жыву. Там у нас процьма беларусаў.

«Вось чалавек! Не саромеецца продкаў. Не тое, што Мішка. Той як пачуе слова “Беларусь”, так гімору крывіць», — падумаў Лёнік, раз за разам пазіраючы то на стрыжаную патыліцу кіроўцы, то на кудлатую Мішкаву галаву.

— Тут я працую, — тарганууўся Мішка, калі праязджалі міма будынка з надпісам «Ленфільм» на франтоне. — Братан, выглядала, надта ганарыўся сваёй далучанасцю да кінематографа.

Таксоўка праехала яшчэ метраў трыста, і кінематаграфіст скрозь зубы працадзіў:

— Спыняй.

Лёнік заплаціў за праезд, вылез з машыны і пабачыў шкляны куб рэстарана. Са шклянога нутра вырывалася прыглушаная вулічным шумам музыка.

— Для пачатку неабходна ўзбадзёрыцца, — сказаўшы так, Мішка борзда пашыбаваў да рэстарана. — У цябе, дарэчы, жалезнага рубля не знойдзецца?

Лёнік пашнарыў па кішэнях, намацаў юбілейны рубель з выявай правадыра.

Ля дзвярэй тоўкся невялічкі натоўп. Мішка, задзёршы падбародак, адсунуў некалькі чалавек, пастукаў па шкле жалезным рублём, і дзверы прачыніліся.

— Гэты са мной, — буркнуў Мішка, і калі Лёнік захрас на ўваходзе, сціснуты з абодвух бакоў прагнымі патрапіць у рэстаран, схапіў братана за крысо пінжака і пацягнуў за сабой.

Мішка, падобна, быў у рэстарацыі сваім чалавекам, бо адразу ж парукаўся з кельнерам, і той паказаў некуды ў канец залы.

Абапёршыся локцямі на столік, госць паўночнай сталіцы абхапіў рукамі галаў, прыкідваючы — колькі яму будзе каштаваць рэстаранная вячэра.

— У прыстойных мясцінах локці на стол не ўспіраюць. Сядзець трэба так, — Мішка абапёрся на край стала цэўка-

мі рук, дастаў з кішэні пачак цыгарэт «Апола-Саюз», зацягнуўся духмяным дымам і, успёршыся локцямі на стол, стаў аглядаць залу.

— А сам чаго не па правілах сядзіш? — усміхнуўся Лёнік.

— Мне можна, — мовіў Мішка і з невядомай прычыны затросся ад смеху.

Хвілін праз пяць да іх, махаючы белым ручнікам, падляцеў кельнер.

— Так, бутэлечку малдаўскага каньяку, два лангеты з зялёным гарошкам… Ну, вядома, салацік… чырвоная рыбка, — прамовіў рэстаранны заўсёднік, нават не зірнуўшы ў меню, а калі ўвішны кельнер кінуўся да суседняга стала, схапіў таго за рукаво: — На рыбу хай цытрынавага соку ціскануць.

Лёнік знерухомеў як певень пасля кукарэку. У кішэні было семдзясят рублёў. Чырвонец на адваротную дарогу, шэсцьдзясят рублёў на справункі: маці прасіла набыць халат і махровы ручнік. А Мішка, як бачна, набраў пітва ды едзіва на два чырвонцы.

— Ну што засумаваў? — гракнуў Мішка, калі прынеслі каньяк.

Яны чокнуліся. Рукі Лёнікавы дрыжэлі, і пітво пралілася на пальцы. Малдаўскі каньяк патыхаў самагонкай.

Лёнік пасправабаваў распалавініць лангет відэльцам і пачуў:

— Нож вазьмі. І відэлец перакладзі ў левую руку!

Пасля другой чаркі Мішка наваліўся каркам на спінку крэсла, са смакам адрыгнуў і тут жа падхапіўся:

— Стас! Кам ту мі!

Да іх падышоў падхорцісты тыпус у скураным пінжаку, цёмных акулярах і з даўгімі, да плячэй, патламі. Відаць, таксама кінематаграфіст.

— Пазнаёмся, мой брат з Беларусі, — тузануў Мішка нявголеным падбароддзем.

Тыпус з паблажлівай усмешкай пацiснуў беларусу руку.

— У цябе, я чуў, праблемы, — Мішка наліў Стасу «малдаваніна», і не ў кілішак, а ў фужэр.

Стас выпіў нагбом, насупіў густыя бровы.

— Прыходжу, карацей, у павільён, гляджу — стаіць… манументальны, як Александрыйскі слуп. «Вы зноў у нецвярозым стане. Адхіляю ад здымкаў». Уяўляеш?

— Не хвалюйся ты так. Не першы раз адхіляе, — Мішка махнуў рукой кельнеру: — Славік, лангет і бутэлечку гарэлкі!

Мішка напоўніў чаркі.

— Памятаеш словы рэдактара ў «Журналісце»? «Колькі алкаголікаў я не сустракаў, усе падводзілі, так бы мовіць, тэарэтычную базу, блытаючы пры гэтым прычыны і наступствы. У тым сэнсе, што спачатку ўсё ж такі бывае гарэліца, а потым ужо размаітыя наступствы».

— Стаміў ты сваім «Журналістам».

— Не кажы… там шмат арыгінальных знаходак. Скажам, чаго вартая падмена музыкі выпадковымі шумамі.

— Ды гэты прыём галівудаўцы яшчэ да вайны ўжывалі, — гарачліва вымавіў Стас і нечакана аціх.

За суседні столік сядалі, дыхнуўшы парфумай, дзве фацэтныя дзеўкі — у шырозных штанах, фарбаваныя пергідролем і з выскубенымі бровамі. Мішка з карыфанам пераглянуліся. Адна з дзевак дастала з сумачкі пачак цыгарэт «Winston», Стас імпэтным рухам нахіліўся, пстрыкнуў запальнічкай — раз, другі, ды тая не запальвалася, — і бялянка, адхіліўшы ягоную руку, чыркнула запалкай.

— Аблом дык абло-ом, — з сяброўскім падколам праспяваў Мішка.

Стас ціхенька мацюкнуўся, укінуў у рот цыгарэту і зноўку пстрыкнуў запальнічкай. Гэтым разам яна спрацавала, дрогкім агеньчыкам матлянуўшыся перад гузаватым носам.

— Летась мая Катрын турыстычную пуцёўку ўзяла: аўтобусная вандроўка па Прыбалтыцы і Беларусі, — Стась дыхнуў на Лёніка густым дымам. — Праехалі Талін, Рыгу, Вільнюс, завярнулі на Мінск, а ў аўтобусе загарлалі: «Едзем дахаты!». Так вашу Беларусь толкам і не пабачылі.

— А на што там глядзець? На бульбяныя палеткі? — рагатнуў Мішка, разліваючы па чарках рэшткі каньяку.

«Затое ў вас у Расеі і бульбяных палеткаў не бачна. Ад Невеля да Піцера ўсё чарнобылем зарасло», — Лёнік пацёр

скроні. У хлопца пачала кружыцца галава, і ён вырашыў больш не піць.

Кельнер прынёс запацелую пляшку гарэлкі і круглую тацу, на якой ляжалі нарэзаныя тонкімі скрылямі каўбаса, ружавелі скрылі вяндліны, чырванелі і чарнелі плямы ікры, а пасярэдзіне тацы ляжала нейкая экзатычная зеляніна.

Рэстаранны ансамбль зайграў блюз, кінематаграфісты падняліся з крэслаў і запрасілі пергідрольных дзевак на танец.

«Заўтра ж задам лататы. Мішка пойдзе на працу, у яго здымачны дзень, а я схаплю саквояж — і на вакзал. Бо яшчэ адзін дзень гасцявання — і не застанецца грошай на зваротны квіт», — такія думкі наведалі Лёніка, калі ён назіраў, як Мішка, элегантна хістаючыся, танчыў з бялянкай.

Пасля танца дзеўкі селі за іхны стол, ссунуўшы два крэслы.

— Без шампана тут не абыдзецца, — ленфільмавец уладным жэстам паклікаў кельнера:

— Славік, дзве пляшкі шампуні… і абавязкова ў вядзерцы.

— А вы папраўдзе кіно здымаеце? — запыталася кірпатая дзеўка, што села поруч з Лёнікам.

— Мы здымаем не толькі кіно, але і каралеў прыгажосці, — няўклюдна пажартаваў Стас.

— А гэта хто з вамі? — дзеўка зыркнула на суседа.

— Пазнаёмцеся. Лепшы сцэнарыст «Ленфільма». Вельмі сціплы творца, — патлумачыў Мішка. — Атрымаў сёння буйны ганарар… прастаўляе…

— А чаму не ў «Асторыі» гуляеце? — не сунімалася кірпа.

— Забыліся гальштукі завязаць, — патлумачыў Стас.

Кельнер прынёс шампан у драўляным вядзерцы, на баку якога боўталася срэбнае кольца, паклаў на стол карталюшку.

— Таварыш сцэнарыст, можна вас на хвілінку, — Мішка падняўся на ногі, і яны адышлі ад стала.

На карталюшцы было штосьці нечытэльна напісана. Выразна выглядалі толькі лічбы: 38 руб. 48 кап.

— Давай капусту, — прасіпеў Мішка, зыркаючы на бакі.

— У мяне столькі няма, — шморгнуў носам Лёнік.

— Ты хочаш, каб нас у мянтоўку забралі?

— А Стас?

— Стас, як заўсёды, галяк.

Дрыжачымі пальцамі Лёнік адлічыў сорак рублёў, і Мішка са злосцю выдзер цупкія чырвонцы.

— Ды не трасіся ты, далібог. Ужо людзі азіраюцца. З палучкі аддам.

Калі ішоў па прыступках, да горла падступіла агорклая крыўда, і ён пачаў задыхацца. Швейцар не хацеў адчыняць дзверы, але наведнік сказаў, што ў яго хворае сэрца і трэба неадкладна дыхнуць свежага паветра. Выгляд у наведніка быў хваравіты, таму прыдзвернік бразнуў клямкай.

Галава злёгку кружылася. Лёнік захлынуўся паветрам і закашляўся. Побач, дыхнуўшы з твар выхлапным смуродам, спынілася таксоўка, з якой вылезлі хлопцы-каўказцы. Лёнік падбег да машыны, хуткагаворкай пралепятаў:

— Шэф, да Марыса Тарэза падкінеш?

Машына рашуча сарвалася з месца, і пасажыра прыціснула да дзверцы.

«А навошта перціся на Тарэза?» — у думках задаў сабе пытанне пасажыр. «Забраць саквояж з кашуляй і шкарпэткамі? Хай іх Мішка носіць. Ды і цётка пачне румзаць ды прасіць, каб ён пагасцяваў пару дзён. Не, зараз жа ганю на вакзал. Прыеду ў Віцебск і пазваню з тэлефоннай станцыі. Маўляў, выклікалі на працу, мушу тэрмінова выехаць дахаты».

Пасажыр заклапочана азірнуўся.

— А цягнікі на Віцебск з якога вакзала ходзяць?

— З Віцебскага, вядома, — адказаў вадзіла, і пасажыр, пачухаўшы за вухам, рашуча, як Мішка, скамандаваў:

— На Віцебскі!

Ён маракаваў, што да білетных кас, я і ў рэстаран, будзе не прабіцца, але людзей там аказалася няшмат. Калі ж торкнуўся ў вакенца касы, дык пачуў: квітоў да Віцебска ні купэйных, ні плацкартных, ні агульных, — няма. Лёнік адышоў ад касы, пакутліва ўздыхнуў.

— Эй! — гукнулі з-за спіны, — чаго невясёлы?

Лёнік узняў вочы і ўбачыў хлопца сваіх гадоў — у квяцістай кашулі, запэцканых у пабелку штанах і такіх жа перапэцканых, дарэшты разбітых чаравіках.

— Квітоў няма.

— У мяне такая ж праблема.

Як высветлілася, незнаёмец рамантаваў лецішча нейкаму ленінградскаму прафесару і ехаў дадому па харчы.

— Паспрабуем праз правадніцу сесці, — прамовіў хлопец, — якраз днепрапятроўскі цягнік падалі.

Лёнік стаяў на платформе і без асаблівай надзеі назіраў, як хлопец падбягаў то да адной, то да другой правадніцы, і кожная паказвала рукой у канец платформы. Неўзабаве ён прыхаваўся ў натоўпе, і тут жа ўзнік, шырокім крокам шыбуючы ўздоўж вагонаў.

— Дамовіўся. Плацкарт. Кошт праезду і трульнік наверх. Такі варыянт падыходзіць?

Лёнік гатовы быў цэлы чырвонец кінуць наверх, толькі б выехаць з гэтага чортавага Піцера.

— Глядзіце, па вагоне не сноўдайце, — па-змоўніцку ціха папярэдзіла правадніца ў цёмным тамбуры.

Лёнік і не збіраўся нідзе сноўдаць. Ён хуценька скінуў туфлі, залез на верхнюю паліцу і, зрабіўшы з пінжака падабізну падушкі, прыціснуўся да яе вухам. На суседняй паліцы ўладкаваўся спадарожнік. Хлопец нешта спытаў, але Лёнік адно бязгучна памыліў вуснамі.

Яму зноў прыснілася вялізнае возера. І там, у сне, пад тужлівы грукат колаў, Лёнік адчуў сябе зняважаным і прыніжаным, і яшчэ больш скурчыўся і прыкрыў далонню вочы, ратуючыся ад дрымотнага святла лямпачкі, якая гарэла пад столлю.

Ён прачнуўся знянацку, з цяжкой галавой, і напачатку нават не зразумеў — што яго абудзіла. Але адразу ўцяміў: трэба адліць. Купэ працінала ранішняе сонца, а на супрацьлеглай паліцы — там, дзе спаў спадарожнік, — ляжала, накрыўшыся прасцінай, нейкая жанчына.

Лёнік саслізнуў долу, пашнарыў па падлозе рукою. Туфель нідзе не было. Замест іх стаялі, акуратна ссунуўшыся адно да другога, разбітыя, перапэцканыя ў пабелку чаравікі.

На ніжняй бакавой паліцы ляжаў дзядок і ўважліва на яго паглядаў.

— Не скажаце, куды падзеўся хлопец, які спаў насупраць мяне?

— Злез у Новасакольніках, — прамовіў дзядок, і Лёнік па гаворцы пазнаў земляка.

— Скралі?

Лёнік асуджана кіўнуў.

— Э-э-э, малец, абутак трэба берагчы. Мае апоркі хоць і збітыя, а прыхоўваю, — дзядок прыўзняў край сенніка, дзе стаялі апоркі. — Скрасці ўначы новыя туфлі — святая справа. Некаторыя на перон у адных шкарпэтках выходзяць. І не толькі ўлетку, але і ўзімку. Табе, браток, пашанцавала — свае чувякі пакінуў.

Стары яшчэ штосьці казаў, а Лёнік, насунуўшы чувякі, ужо ішоў, хапаючыся за поручні, па вагоне. У прыбіральні было расчынена вакно, і вушы заклала ад бязладнага грукату.

Лёнік доўга стаяў, безуважна пaглядаючы пад ногі, і ўяўляў — як ён з'явіцца да маці. Без грошай, без саквяжа і без выхадных туфель. Небарака ледзь не па пояс вытыркнуўся ў вакно. У скронь ударыла пругкае паветра, і міма праляцеў брунатнага колеру будынак з шыльдай «Езярышча» на франтоне. «Родная зямля», — прашапталі сасмяглыя вусны, і вецер змахнуў няпрошаную слязіну.

# МЕЛІЯРАЦЫЯ З АЛЬБЭРАМ КАМЮ

З нізкага, колеру сілікатнага клею неба церусіць панылая імжа. Мая ватоўка змокла, дакучлівым цяжарам вісіць на плячах і не дае як след размахнуцца сякерай. Мы на пару з Лёнькам Свірыдавым высякаем калы. Сякеры тупыя, і даводзіцца замахвацца аж з-за спіны. У лоб даволі балюча ляскае шурпатая трэска, і я, паціраючы лабаціну, пераводжу дых.

— Давай! — крычаць, нібыта з-пад зямлі, з катлавану.

Лёнька мацюкаецца, набірае абярэмак калоў, спускаецца ў катлаван. Неўзабаве адтуль далятае кароткі лямант, шоргат колля, штосьці важка бухае ў ваду і паветра скаланае дружны рогат. Лёнька, відаць, ізноў паслізнуўся на схіле і скаціўся ў меліярацыйны канал. Навокал спрэс адна гліна, схілы слізкія, таму паслізнуцца вельмі лёгка.

— Яшчэ і смяюцца, гады, — выдыхае напарнік, вокраччу вылазячы з яміны.

У катлаване завіхаюцца чатыры чалавекі — забіваюць кувалдамі калы з абодвух бакоў раўчука. Забіваем іх праз паўметра, а потым аплятаем лазовымі дубцамі. Працуем трыма «брыгадамі»: двое высякаюць калы, столькі ж нарыхтоўваюць лазу і пяцёра забіваюць калы на дне канала. Яшчэ адзін «меліяратар», Мішка Прахаронак, дапамагае трактарысту наразаць і падвозіць дзірван, якім абкладаем схілы каналу.

— Нічога, заўтра яны будуць у ваду скочвацца, — мармычу я, прыкусваючы вусну. — На Лёньку без смеху немагчыма глядзець: ён наскрозь мокры і завэдзганы, нават нос перапэцканы ў гліну. Заўтра наша чарга завіхацца з кувалдамі.

— Манаў я тую меліярацыю, — Лёнька выцірае нос, сплёўвае твань з языка, хапае сякеру і з такой сілай стукае, што кол вырываецца з рук і ляціць у мой бок.

— Асцярожней ты… з сякерай, — кажу, выцягваючы пачак «Прымы». — Мой бацька калісьці вось так секанўў, траха без нагі не застаўся.

Прыпальваю цыгарэту, хаваючы яе ад імжы ў кулаку, і згадваю палатняны бацькавы твар. Бацька з сякерай у руцэ скача на адной назе, махае рукой. Я нічога не разумею і раптам заўважаю, што з узнятай нагі на белае паленне крапае чорная кроў.

— Заснуў? — Лёнька стрыжэ пальцамі, просіць цыгарэту.

У катлаване таксама перакур, бо зямля не здрыгаецца ад удараў кувалды.

— Хачу ў бібліятэку завітаць, — Лёнька са злавесным свістам выпускае цыгарэтны дым. — Пайшлі разам.

Двум нашым ужо заехалі ў лабешнік каля крамы. Так што па адным лепш па вёсцы не хадзіць.

Напаўвуха слухаю сябра, тупа пазіраю навокал.

Наваколле здратавана трактарамі. Тоўстыя дрэвы, кустоўе, пласты брунатнага торфу — усё бязладна перамяшанае і ляжыць у грудах. На бліжэйшым ад нас грудзе кволіцца пацямнелы ад імжакі бусел і, як і я, маркотна паглядае на мясціны, дзе летам лавіў жаб і якія дарэшты здратавалі меліяратары. Бачыў гэтага бусла і ўчора. Кволіўся на тым жа месцы. Можа, там стаяла дрэва з буслянкай?

— І моцна секанўў?

Я няўцямна трасу галавой.

— Бацька моцна нагу секанўў? — перапытвае Лёнька.

— Ніштавата. Я малы быў, гадоў шэсць ад сілы. Перапудзіўся, пабег на дарогу, каб якую машыну спыніць, і ледзь пад колы не патрапіў. Кіроўца, які бацьку ў бальніцу завозіў, пад'ехаў увечары. Бедаваў, што крывёю кабінку запэцкаў. Маці яму бутэльку «Маскоўскай» дала і бляшанку «Пячонка траскі» на закуску. Зараз такой кансервы са свечкай не знойдзеш, а тады ад яе крамныя паліцы трашчалі.

— Давай! — галёкаюць з катлавану.

А што даваць, калі аніводнага кала не абчасалі, і мы з Лёнькам, зрабіўшы апошнюю зацяжку, падхопліваемся на ногі.

Перад тым, як ад'ехаць «на бульбу», у інстытуцкім двары ладзілі мітынг. Я тоўкся са сваёй групай, пазяхаў у жменю і знянацку пачуў зычны вокліч: «Хто хоча заробіць?!» Крычаў Лёнька Свірыдаў з паралельнай групы. Лёнька стаяў на кодабе «газону» з аркушам і ўжо запісваў першага добраахвотніка. Ля «газону» вомігам сабраўся народ, і давялося, склаўшы далоні рупарам, гойкнуць: «Лёнь!»

— Дзесяць чалавек набіраем. Абяцаюць добрыя заробкі, — паведаміў Свірыдаў, калі, склаўшы спіс, скочыў з кодабу.

— А што рабіць будзем? — сарвалася з маіх вуснаў, і Лёнька, ужо ўбіўшыся ў натоўп, крыкнуў:

— Меліярацыя!

Што такое меліярацыя, тады не надта ўяўляў. У свядомасці нараджаліся нейкія керамічныя трубы. А тут, аказалася, трэба, стоячы па калена ў вадзе, калы забіваць. Юзік — трактарыст, які да нас прымацаваны, — кажа, што нічога не заробім. Каб зарабіць капейчыну, неабходна за змену дзвесце метраў каналу ўладкаваць. А мы за дзень толькі пяцьдзясят праходзім, а то і меней. Такія працы, як сказаў Юзік, трэба ўлетку весці, калі канал сухі. А цяпер, калі дажджы прайшлі, няма ахвочых у вадзе боўтацца. Сюды студэнтаў і кінулі.

Спім у «фінскім» дамку. Там месціцца пээмкоўская кантора, а сушымся каля самаробнага «казла». Да вялікай азбеставай трубы прымацаваныя алюмініевыя ножкі, а сама труба спавітая тоўстай спіраллю — вось і ўвесь абагравальнік. У першы ж дзень нацягнулі ад сцяны да сцяны вяроўкі і на іх развесілі ватнікі ды мокрыя порткі. Пээмкоўскі майстар, што нас сюды засяляў, наказаў, каб сачылі за апранахамі. «Вокам не паспееце міргнуць, як адзежа агнём зоймецца». Майстар меў рацыю: на раніцу ў Мішкі Прахаронка, майго аднагрупніка, спартовыя штаны згарэлі.

Вешаю ватнік бліжэй да «казла», стаю хвіліну і заўважаю, як з яго ўздымаецца лёгкая пара. Следам за мной развешва-

юць апранахі іншыя гора-меліяратары, і пакой поўніцца прэлым духам.

— Ну, пойдзем у бібку? — Лёнька Свірыдаў паспеў пераапрануцца ў сухое.

Я плюхаюся на ложак, і мне неахвота нікуды ісці. Рукі і ногі гудуць пасля працы, і злёгку кружыцца галава. Аднак паветра робіцца ўсё больш цяжкім — ля «казла» развесілі не толькі ватоўкі, але і анучы са шкарпэткамі, — і ўрэшце скідваю на падлогу гудлівыя ногі.

З Лёнькам Свірыдавым, якога аднагрупнікі і знаёмыя завуць Мастаком, хаўруснічаем з першага курса. Лёнька выдатна малюе, і пасля школы збіраўся падавацца ў Ленінград, у Мухінскую вучэльню. Матка адгаварыла. Сказала, што мастакі ўсе скрозь п’яніцы і праз аднаго канчаюць жыццё пад плотам. Давялося небараку паступаць у ненавісны політэхнічны інстытут. Седзячы ў аўдыторыі, Лёнька не канспекты піша, а малюе выкладчыкаў, што лекцыі чытаюць. Ён і мой партрэт намаляваў. У выглядзе ангельскага дэндзі — з матылём на шыі, з чырвонай ружай у штрыфлі смокінга і на тле лонданскага Біг-Бэну. Малюнак я прымацаваў над сталом, і кожны, хто завітвае ў кватэру, дрогкім голасам пытаецца: ты быў у Лондане? Свірыдаў учора сказаў пад сакрэтам, што калі не здасць «хвост» — іспыт па тэарэтычнай механіцы, — дык з радасцю кіне інстытут і налета паедзе паступаць у Мухінку. Калі да таго часу ў войска не забрыюць. У мяне таксама «хвост». Але не па механіцы, а па супрамату. Узяў з сабой канспект — пачытаць вольнай хвілінай.

— А ты дакладна ведаеш, што бібка адчынена? — кажу я, калі мы ўзбіліся на лукаваты, абсаджаны старымі бярозамі бальшак. Бярозы шумелі пад ветрам, і ў іх зялёныя кроны ўжо ўбілася жоўтая сівізна. — Бібліятэкарка, можа, даўно ў горад збегла.

Лёнька маўчыць, насуплівае кусцістыя, як у каўказца, бровы і, падумаўшы, выдыхае:

— Я на пошту хадзіў, ліста бацькам напісаў. І там чувіху сустрэў. Дачка тутэйшага старшыні. Вельмі нават небла-

гая. Белатварая, валасы распушчаныя. У бібліятэцы працуе. Запрашала заходзіць.

Цяпер зразумела — чаго Мастак прэцца ў бібку. Хоча тую чувіху закадрыць. Ну і мяне прыхапіў за кампанію.

Клуб — дашчаная, пакрытая сіняй фарбай будыніна, стаіць у дальнім канцы вёскі. Вясковай вуліцай ідзём пад пільнымі позіркамі старых цётак. Яны стаяць каля завешаных бульбяным націннем парканаў. Пачуваеш сябе ніякавата, калі на цябе гэтак глядзяць, таму прыспешваем крок, неадрыўна пазіраючы на сіні будынак з прылепленай да тарца кінабудкай. Мы ўжо тут былі. У першы вечар, як прыехалі. Напіліся, вядома, і пайшлі шукаць клуб. Думалі, на танцы патрапім. Клуб знайшлі, але на дзвярах вісеў вялізны замок.

Уваход у бібліятэку з дальняга канца. Заварочваем за рог і бачым двух чувакоў нашага веку. Сядзяць на матацыклах, прычым на задніх сядзеннях, наваліўшыся грудзінамі на бензабакі. Калі тут тырчаць мальцы, значыць, бібліятэка працуе. З гэтай думкаю пхаю пашарпаныя дзверы, вочы апаноўвае мяккі помрак, а ноздры казыча кніжны пыл.

— Зноў сунецеся? — чуецца незадаволены дзявочы воклік. — Боты выцірайце!

— Чаму зноў?! — Лёнька гучна тупае па гнуткіх масніцах.

Мы ўваходзім у бібку. Дзве дзяўчыны, глянуўшы нас, пырскаюць у далоні.

— Падумалі — латышы пруцца, — паведамляе адна з дзяўчын — бялявая, з даўгімі разбэрсанымі валасамі. Відаць, гэта тая чувіха, якую ўпадабаў Свірыдаў.

— А ці далёка ад вас Латвія? — пытаецца сябар.

— Чатыры кіламетры, — падае голас другая — высокая і даўганосая, з тоўстай касой на плячы.

— А яны па-латышску размаўляюць? — пытаюся ў даўганосай.

— Як жа… па-латышску… Ды там да самага Дзвінска аніводнага латыша не сустрэнеш.

Мы знаёмімся. Бялявую завуць Люсяй, а сяброўку Данай — на пошце працуе.

Лёнька, абапёршыся азадкам на стол, пачынае апавядаць розныя студэнцкія показкі, а я іду да стэлажа, пазначанага цэтлікам «Замежная літаратура». Іду, прыхоўваючы іранічную ўсмешку. Ну што цікавага можна знайсці ў затурканай вясковай бібліятэцы — і нечакана заміраю. Белы карэньчык з надпісам «Альбэр Камю»… навюткая, дагэтуль не чытаная кніга. Ліхаманкава гартаю старонкі. «Чужаніца», «Чума», «Падзенне». З'явілася свету ў 1969 годзе. Чатыры гады прастаяла на пыльнай паліцы. Выглядае, я першы чытач, які яе разгарнуў.

Пра Альбэра Камю ўпершыню пачуў ад стрыечнага брата. Жыве ў Піцеры. Летась прыехаў у горад над вольнай Нявой, і братан узяў мяне на дзень народзінаў да аднакурсніцы, з якой разам вучыўся. «Пойдзем да прафесарскай дачкі. У Парыжы была, французскую мову ведае. Так што лішняга не балбачы. Сядзі ціха». Я сядзеў ціха і, развесіўшы вушы, слухаў бязладную гаману. Госці сабраліся прыстойныя: харэограф; памочнік маладзёвага тэатра — з такім жа матылём, як на маім партрэце; бармен круізнага цеплахода; барадаты геолаг, які надоечы прыехаў з Байкала; фотамастачка і яшчэ пару такіх жа экзатычных асобаў. Сябрына піла «Алазанскую даліну», заядала пляйстрамі тонка нарэзанага сыру і слухала імянінніцу. Раскінуўшыся ў фатэлі, закінуўшы нага на нагу, імянінніца паліла цыгарэты «Фэміна» без фільтру і паміж глыбокімі зацяжкамі распавядала пра Парыж. Дакладней, пра тое, як яна зламала, ідучы па Манмартры, абцас чэшскіх туфель. Нарэшце паднялася на ногі і выцягнула з кніжнай шафы кнігу ў глянцавай супервокладцы: «Альбэр Камю. З Парыжа прывезла». Кніга была на французскай мове і, як паведаміла прафесарская дачка, яна прачытала яе ў вагонным купэ па дарозе ў Піцер. Кнігу пачалі перадаваць з рук у рукі, некаторыя нюхалі, намагаючыся адчуць пах парыжскіх фіялак, пасля чаго гамузам зірнулі на гаспадыню кватэры. Тая глынула віна з фужэра, дапаліла цыгарэту і тэатральным голасам загаварыла. «Найбольш уразіла "Чужаніца". І, перш за ўсё, сваім стылем. Усё дарэшты лаканічна і зразумела. І ніякай лірыкі, ніякага апісальніцтва. Ну і сама фабула — гэта

штосьці. Толькі дзякуючы Камю ўсведамляеш, што жыццё — гэта бясконцая чарада выпадковасцей». «Ды ведаю, што ты скажаш, — перабіў прафесарскую дачку барадаты геолаг, — што герой дыстанцаваўся ад соцыума, а соцыуму гэта не спадабалася; што герою былі незразумелыя ўсе тыя сацыяльныя клішэ і прыярытэты. А я скажу прасцей: Мёрсо звычайны псіхапат». Запанавала няёмкая ціша, падчас якой імянінніца прыпаліла чарговую цыгарэту і незадаволена выдыхнула: «Любіш ты, Жоржык, усё сапсаваць». Выглядала, што імянінніца была з геолагам у блізкіх адносінах. Потым яна дастала з шафы прывезены з Парыжа, але выдадзены ў Маскве мастацкі альбом, і ўсе разам загаманілі пра мастака Глазунова.

З тае пары ў душы ўгняздзілася мроя: пачытаць таго самага Камю. Ды як пачытаеш. Французскай мовы не ведаю, а калі б і ведаў, дзе б тую кнігу набыў. А тут, аказваецца, Камю даўно пераклалі і выдалі. Піцерская фіфа папросту выпендрывалася, кажучы, што чытала ў арыгінале. А насамрэч чытанула пераклад — той самы, які я трымаю ў руках.

— Чаго заціх? — падае голас Свірыдаў.

— Кніжкі праглядаю, — гукаю я з бібліятэчных нетраў.

— Пачакай праглядаць. Магчыма, нам іх і не выдадуць, — паўжартам азываецца сябрук.

— Чужым кніжкі не выдаём. Але калі не будзеце сябе паводзіць так, як латышы, можам і выдаць, — таксама паўжартам адказвае бібліятэкарка.

— Нагледзелі што? — Люся працягвае бібліятэчны фармуляр.

Высалапіўшы язык, запісваю ў фармуляр імя і прозвішча.

— Чапляюцца? — пытаецца Лёнька, маючы на ўвеце латышоў.

— Чапляюцца — гэта што. Яблыні латошаць, з нашымі мальцамі б'юцца, — падключаецца да размовы Дана. — Улетку да Люсі брат прыязджаў на пагасціны. Падумалі, гэта яе кавалер, і так збілі, што ў рэанімацыю патрапіў. Прыязджаў участковы, распытваў. Але што ён зробіць. Матацыклісты ў Латвіі жывуць, і наша міліцыя іх дастаць не можа.

— Вы з імі асцярожней, — з уздыхам папярэджвае Люся, распісаўшыся ў фармуляры. — Асабліва асцерагайцеся рабога. У танкісцкім шлеме гойсае. Ён у іх там галоўны. Фінку ў кішэні носіць.

— Ну а танцы ў вас хоць бываюць? — роблена бадзёрым голасам пытаецца Лёнька.

— На танцы ўлетку прыязджайце. Ледзь не штодня ладзім. А зараз амаль усе раз’ехаліся, — Люся піша штосьці на адваротным баку вокладкі. — Паслязаўтра ў нас субота. Калі так прагнеце, можам арганізаваць. Толькі мальцаў у нас няшмат. А тыя, што ёсць, наўрад ці прыйдуць. Латышоў баяцца.

— А на якую халеру нам мальцы? Нам дзевак давай. І пабалей, — няўдала жартуе Свірыдаў, і, ачуўшыся, папраўляецца, — дакладней, дзвюх хопіць… самых прыгожых у акрузе. Як іх імёны? — жартам пытаецца ў мяне сябрук.

— Люся і Дана, — мармычу я і падаюся да дзвярэй.

У цёмным калідоры запіхваю кнігу за пояс штаноў. На вуліцы імжа, да таго ж, рукі павінны быць вольныя. Чорт іх ведае, тых латышоў. Могуць і накінуцца.

Ступаем на ганак, і адзін з матацыклістаў — рабаціністы бугай у танкісцкім шлеме, — заводзіць свой «Іж» і, паддаўшы газу, наязджае колам на прыступку ганку.

— Пагамонім? — звяртаецца рабацень да Лёнькі.

Сябар прыпальвае «прыміну», пускае дым у бок рабаценя.

— Іншым разам. Зараз няма часу.

— А калі з’явіцца? — латыш накручвае ручку газу, ды так, што з клёну, які стаіць непадалёку, падае жоўты ліст.

— Паслязаўтра танцы. Збірай сваю брыгаду.

Латыш недаверліва хітае галавой, вырульвае «Іж» на бальшак і з такім імпэтам газуе, што пярэдняе кола адрываецца ад зямлі. У напарніка матацыкл сходу не заводзіцца, і ён доўга яго разганяе, цяжка тупаючы кірзачамі.

Мы з сябрам ідзём па бальшаку, але не тупаем. Шыбуем разважліва, абыходзячы лужыны. Імжа больш не халадзіць твару, а на захадзе неба праяснела, і з-за краю барвовых хмар вось-вось павінен вытыркнуцца чырвоны дыск сонца.

— Гэтыя танцы могуць кепска скончыцца, — я пераскокваю праз калюгу, але няўдала і, паслізнуўшыся, плюхаюся азадкам на мокрую дарогу.

Думаў, Лёнька зарагоча, выгаліўшы свае вялікія конскія зубы, ды той нат не ўсміхнуўся.

— Аб чым ты? — Лёнька зацягваецца цыгарэтай, сплёўвае тытунёвыя крыхі.

— Аб тым, што можна атрымаць «пяром» у пячонку.

— Сцыш? — з глухім прыдыханнем выдае Свірыдаў.

Колькі часу маўчу і, пасля паўзы, з такім жа глухім прыдыханнем мармычу:

— Цябе, Мастак, стала заносіць. Так што асцярожней… на паваротах.

Доўга шыбуем моўчкі, урэшце зварочваем з бальшака, і я падаю голас:

— Падрыхтавацца трэба.

— Якраз пра гэта і маракую, — Свірыдаў дасмоктвае «прыміну», адкідвае недапалак. — Іх чалавек восем пад’едзе, не болей. Нас дзевяць. Сілы прыкладна роўныя.

— Нас дзесяць, — папраўляю я.

— Прахаронка ля «казла» пакінем. З яго ўсё адно ніякай карысці.

Мастак расхваляваўся, бо зноў чыркае запалкай.

— А калі іх болей прыедзе?

— Дзе столькі матацыклаў возьмуць? Чувакі, як бачна, вясковыя. Жывуць дзе-небудзь на хутарах. Так што вялікую брыгаду не збярэш. Да таго ж, у нашых шыхтах Хведзька Суравец.

Хведзька, мой аднагрупнік, ходзіць на секцыю бокса і летам ездзіў на рэспубліканскія спаборніцтвы.

— У нас Суравец, а ў іх фінка. А можа і не адна.

Лёнька лезе ў нутраную кішэнь, выцягвае алюмініевы грабянец з даўгім дзержаком і пачынае прычэсвацца. Прычэсваецца доўга, на прабор, заціснуўшы ў зубах цыгарэціну і зыркаючы хітраватым вокам.

— Танцы паслязаўтра. Ранавата чапурышся.

Лёнька выхоплівае з рота цыгарэту, з жарсцю дзьмухае на зубцы грабянца.

— Ты хоць цяміш, што гэта такое?

— У агульных рысах ведаю, — гугняўлю, вывучаючы няроўны прабор Лёньчынай фрызуры.

— Для неабазнанай публікі звычайны грабянец, а для абазнанай — халодная зброя. Другі год з сабой нашу. На ўсякі пажарны. Памацай, як завострана.

Мацаю мезенцам канец даўгога і вузкага дзержака. Ён востры як іголка.

— Уваходзіць у сэрца не горай за фінку. Майго суседа ўжо ім пырнулі. Ледзь ачуняў.

Ад нечаканасці прыпыняю хаду.

— А ты сапраўды здольны забіць чалавека?

— Ну, гэта, хутчэй, псіхалагічная зброя. Скажам, твой супарат дастае «пяро» і ляскае лязом па далоні, а ты дастаеш алюмініевую штуку і праводзіш пальцамі па дзержаку, ачышчаючы ад махры. Карацей, на понт бярэш. Пасля таго супарат паставіцца да цябе больш лагодна.

Замiраю, усведамляючы пачутае, і сябар ляпае па плячы.

— Якую кнігу прыхапіў?

— Альбэр Камю, — я з лёгкім спалохам назіраю, як сябар пхае грабянец за пазуху.

Быў упэўнены, што сябар не ведае такога пісьменніка, але той, пасур’ёзнеўшы, выдае:

— Класны аўтар. Эк…зіс…тэн…цыяліст. Трэба будзе чытануць.

— А ты ў гэтым цяміш?

— У чым? У экзістэн…цыялізме? — сябар знарок ламае язык, дэманструючы, што філасофскія навароты — гэта не для яго. — Карацей, экзістэнцыялісты лічаць, што жыццё не мае сэнсу. Скажам, сёння часалі калы, заўтра будзем тыя калы ў зямлю заганяць, паслязаўтра пойдзем лазу дзерці, потым ізноў станем часаць калы аж пакуль не памрэм, з каструбаватым калом у абдымку.

— І якія іх прапановы?

— Перш-наперш спазнаць саміх сябе, вызначыць сабе цану.

— Якім чынам?

— А вось якім… апынаешся ў крытычнай сітуацыі, калі трэба нешта рабіць і калі няма часу на роздум. Прыкладам, ідзеш з Данай і сустракаеш рабога латыша. А ў таго фінка ў руцэ. Што рабіць? Прыняць бой? Прасіць літасці? У кусты кінуцца? Тут і высветліцца — хто ты. Кавалак гаўна ці сапраўдны чалавек.

Ля ганку пээмкоўскай канторы ўкапаная ў зямлю металёвая пласціна — здзіраць з падэшваў наліплы бруд. Сябар шоргае па ёй чаравікамі, і я з зайздрасцю і адначасова з зачараваннем свідрую вачыма Лёньчыну спіну. Я пра экзістэнцыялізм толькі краем вуха чуў, а сябрук выклаў у папулярнай форме ўсю філасофскую канцэпцыю. Шчыра кажучы, мне такая філасофія падабаецца. Так што займуся Альбэрам Камю ўшчыльную. Я выцягваю са штаноў кнігу і з такім жа замілаваннем, як і на Лёньчыну спіну, гляджу на вокладку. Яна шэрая, з чорным квадратам пасярэдзіне, ад якога ў два канцы разыходзяцца раўналежныя лініі. Можа, гэта графічны сімвал экзістэнцыялізму? Пераводжу дыханне і саскрэбваю з падэшваў ліпучую гразь.

У пакоі па-ранейшаму пануе смурод. Усе ляжаць, накрыўшыся да падбародкаў коўдрамі, і адно Мішка Прахаронак сядзіць ля вакна і круціць ва ўсе бакі антэну ВЭФа. Чуецца замарачны шум, праз які прарываюцца поклічы перадачы «Гледзячы з Лондана». Дома я часцяком настройваюся на бібісійную хвалю.

— Так, хлопчыкі, у суботу ў клубе скокі, — урачыста абвяшчае Лёнька Свірыдаў.

— З кім ты скакаць будзеш? У вёсцы адны старыя цёткі засталіся, — гукае са свайго кута Хведзька Суравец.

— З суседніх вёсак падцягнуцца, — Лёнька плюхаецца на ложак, закідвае рукі за голаў: — І латышы абяцалі пад’ехаць.

— Якія латышы? — вырываецца адразу з некалькіх глотак.

Не мяняючы паставы, зацята пазіраючы ў столь, Мастак распавядае пра тое, што латышы гойсаюць па наваколлі на матацыклах, а ў іхняга верхавода ў кішэні фінка.

— Фінка?! — Хведзька куляецца з ложка. — А здаровы лось?

— Там не лось, а бугай. І на голаў танкісцкі шлем насунуты, — Лёнька падбівае падушку.

— Шлем прыкладна ў два разы змякчае ўдар. Лоб і сківіца абароненыя. А выкруціць фінку можна толькі паваліўшы суперніка на зямлю, — задуменна гугніць Хведзька. — Баксёр разважлівым крокам ходзіць між ложкаў, ляпаючы кулаком па далоні.

— Адным ударам не зваліш? — пытаецца Лёнька.

— Звалю ці не звалю — гэта залежыць ад шэрагу фактараў, — Хведзьку, падобна, на секцыі чытаюць адпаведныя лекцыі, вось ён і загаварыў мудрагелістай мовай. — І галоўны фактар — які ў яго вестыбулярны апарат.

— А ў цябе ён у норме? — азываюцца з дальняга канца пакоя.

— Дзякуй богу, з дзяцінства мацую, — Хведзька з такім адчаем б'е па далоні, што ўсе ўздрыгваюць.

— А як мацуеш? — падае голас Прахаронак.

— Ну як… кручуся вакол сваёй восі, шыю распрацоўваю, — Хведзька сашчэплівае пальцы на патыліцы, паказваючы, як трэба распрацоўваць шыю.

— А пры чым шыя да вестыбулярнага апарата? — хмыкае Свірыдаў.

— А пры тым. Пры ўдары галава рэзка адкідваецца і ты ў стане грогі. А калі шыя моцная, кумпал пры ўдары амаль не рухаецца. Сказаўшы так, Хведзька махае рукой. — Ты, Мастак, лепш скажы — колькі іх прыедзе?

— Чалавек восем, — у Лёньчыным голасе няма ўпэўненасці.

— Значыць, дыспазіцыя такая: нас дзевяць, іх восем, — уголас разважае Суравец, і развагі тыя перабівае Прахаронак:

— Дзесяць, а не дзевяць!

— Некаму трэба хату пільнаваць. У нас жа тут майно, пашпарты. Ды і за «казлом» прыглядаць. Чуў, што казаў майстар? Летась не дагледзелі, і пээмкоўскую кантору спалілі, — рашуча кажа Суравец, і Мішка паныла апускае нос.

Колькі часу слухаю гамонку і, убіўшы галаву ў падушку, разгортваю кнігу. Яна яшчэ захавала пах друкарскай фарбы.

«Сёння памерла мама. Ці, можа, учора, не ведаю. Я атрымаў тэлеграму з прытулку: “Сканала маці. Пахаванне заўтра. Шчыра спачуваем”»*. Пад столлю кволіцца заседжаная мухамі лямпачка, у пакоі прыцемна, і радкі тэксту скачуць уваччу.

«Сёння памерла мама. Ці, можа, учора, не ведаю», — гэтыя дзве першыя фразы вярэдлівай стрэмкай убіваюцца ў свядомасць. Чытаю далей, але не даю рады ўцяміць сэнсу прачытанага. Прыўздымаю голаў. Вушы вызваляюцца з палону мяккай, прапахлай чужым потам падушкі, і слых поўніцца абрыдлымі галасамі.

— Нам, баксёрам, нельга махацца. Трэнер даведаецца — з секцыі пагоніць. У нас дваіх першаразраднікаў выгналі, — гэта голас Сураўца.

— Трэба, Хведзя, трэба… Дагэтуль ты гонар інстытута абараняў, а цяпер мусіш абараніць гонар рэспублікі. Калі мы тых казлоў супакоім, трэнер табе падзяку выкажа, — гэта голас Свірыдава.

— Ладна, угаварыў. Зранку пачынаю трэніроўкі, — гэта зноў Суравец.

— Ад ранку праўрадавая радыёстанцыя Сант’яга перадала зварот прэзідэнта Альендэ да народа, — гэта голас палітычнага каментатара Анатоля Максімавіча Гольдберга. Гольдберга на «Бі-бі-сі» называюць не толькі па імені і прозвішчы, але і па бацьку.

Не, у гэтым гармідары не пачытаеш. Падымаюся і сунуся на кухню. У фінскім доме, апрача нашага пакоя, яшчэ бакоўка майстра, якая зачыненая на замок, і маленькая кухня, дзе мы абедаем. Абеды нам прывозяць у вайсковых тэрмасах з рай-

---

* Тут і далей пераклад Зміцера Коласа.

цэнтраўскага рэстарана. Так што ямо раз на дзень, а ўвечары ходзім галодныя. Добра хоць, на кухні ёсць электраплітка, на якой гатуем у пакарабачаным чайніку ваду. Хтосьці з нашых прывёз літровы слоік агрэставага сочыва. Кідаем сочыва ў кіпень ды п'ём упрыкуску з чорным хлебам.

Лямпачка на кухні таксама кволая і заседжаная мухамі. Саджуся на хісткі ўслон, кладу кнігу на кашчавую каленку.

«А другой гадзіне я сеў у аўтобус. Спёка была страшэнная. А паеў, як звычайна, у шынку Селеста».

Нічога сабе, — я ўражана чухаю лабаціну. Дзея адбываецца ў Алжыры, яшчэ да вайны, герой працуе звычайным клеркам у дробнай фірме, а сілкуецца ў шынку. Ці шмат нашых людзей могуць такое дазволіць? Трасу галавой, пазбываючыся дакучлівых думак, і заглыбляюся ў чытанне.

«Калі мама была дома, яна ўвесь час маўчала»… «Хоць яна і не была бязбожніца, але пры жыцці ніколі не думала пра рэлігію»… «Каля труны сядзела арабка ў белым халаце і яркай хустцы»…

Герой, якога завуць Мёрсо, да таго кантактаваў адно з французамі, а тут убачыў ля матчынай труны арабку. Не надта соладка там было еўрапейцам. Наогул не ўяўляю, як бы я жыў у атачэнні арабаў.

«Ці любіць ён маці?» — гэтая думка нарадзілася пасля першых жа прачытаных сказаў. Труна была закрытая векам, але Мёрсо сказаў, каб века не ўзнімалі. Не захацеў апошнім разам зірнуць на маці. Не выяўляў ніякай жалобы і, седзячы ў трупярні, паліў цыгарэту. А што ён мусіў рабіць? Румзаць у насоўку? Біцца лбом аб дамавіну? На наступнай старонцы Мёрсо паныла ішоў за катафалкам, над ім вісела гарачае алжырскае сонца, і далягляд губляўся ў густой спякотнай смузе.

Задзіраю галаву і спрабую ўявіць, што цьмяная лямпачка над столлю — гэта алжырскае сонца.

— А, вось ты дзе схаваўся, — у кухню ўвальваецца Мастак, ставіць на плітку чайнік. — Цікавая кніжка?

Перасмыкваю плячамі.

— Не цікавая — адкінь. Я зазвычай чытаю тры старонкі, і калі кніжка не падабаецца — шпурляю ў кут. А калі падабаецца, магу тоўсты раман адным махам агарацць.

— Гэта, Лёня, такая кніга, што пасля двух-трох сказаў задумваешся.

— Над чым?

— Над сэнсам жыцця.

У пройме незачыненых дзвярэй узнікае ўсхваляваны твар Мішкі Прахаронка:

— Па радыё перадалі — у Сант'яга мяцежнікі прэзідэнцкі палац абстрэльваюць.

— Задзёр усіх, вось і атрымаў, — шапоча Свірыдаў, калі Мішка зачыняе дзверы.

— Хто, Прахаронак?

— Ды які Прахаронак, — крывеліцца сябрук і, падхапіўшы анучку, здымае з пліткі чайнік. — Альендэ!

Лёнька налівае кіпень у алюмініевую конаўку.

— А пра што кніжэнцыя?

— Ды адзін чувак здаў матку ў прытулак, а яна памерла. І вось ён едзе на паховіны, а ў душы ніякага жалю.

— Відаць, у дзяцінстве лупцавала, таму яе і не любіць, — Лёнька гучна бразгае лыжкай, размешваючы ў конаўцы сочыва.

— Ды не, тут іншае. За гэтай нібыта бяздушнасцю нешта хаваецца. Але пакуль не магу даўмецца — што.

Раніцою мяне абуджае сіпаты Сураўцовы бас.

— Куды ты абгарэлыя трэнікі падзеў? — Суравец звяртаецца да Прахаронка.

— Пад ложак закінуў. А навошта яны табе?

Ні слова не сказаўшы, Хведзька лезе пад ложак, дастае трэнікі з абгарэлай калашыною, потым поркаецца на кухні, шукаючы нешта, нарэшце грукае ўваходнымі дзвярамі.

Усе спяць, і толькі мы з Мішкам варочаемся, маракуючы — на якую халеру Сураўцу а сёмай раніцы спатрэбіліся абгарэлыя спарціўкі? Ляжым хвілін пяць і, не згаворваючыся,

падаёмся на двор. Пагатоў, выбегчы на свежае паветра самая пара: звечара выпіў аж тры конаўкі гарбаты.

Пацепваючыся ад халоднага ветру, ступаем на ганак і прыслухоўваемся. На двары гучна хукаюць, і чутны глухія ўдары. Зазіраем за рог і бачым карцінку: Суравец перавязаў калошы вяроўчынай, насыпаў у штаны пяску, падвесіў на бярозавы сук і лупіць па іх кулакамі. І не проста так, а падскокваючы, прыкладаючы кулакі да носу і хістаючыся ў бакі, нібыта ўнікаючы ўдараў суперніка.

— Ну-ка, Міш, прадэманструй, — прамаўляе Хведзька: рукі ў баксёра, як я заўважыў, спавітыя бінтамі.

Прахаронак, як сапраўдны спартовец — у майтках і саколцы — падбягае да торбы, спрабуе малаціць па ёй кулакамі і зморана пераводзіць дух.

— Дыхалку заняло? Трэніравацца трэба! — Хведзька з такой сілай б’е па торбе, што Мішка на ўсякі выпадак адыходзіць ад бярэзіны.

Ад самага ранку чабохтаемся з Лёнькам у вадзе, забіваючы калы ў гліну. Правы бот працякае, і нага па калена мокрая. Гэтым разам стаміўся як ніколі і сюд-туд наструньваю слых — ці туркоча трактар, які возіць нас на абед. Трактара, аднак, не чуваць.

Забіваю чарговы кол і, выпусціўшы з рук кувалду, падаю бокам на слізкі пасля дажджу схіл. Між тым па схіле коцiцца чарговая партыя калоў — іх высякае Суравец — адзін з іх стукае мяне па галаве, але я не варушуся.

— Эй, асцярожней там, — крычыць Лёнька.

Сябар таксама знямог і часта дыхае.

Дастаю падмоклы пачак «Прымы».

— Ну, ці шмат прачытаў? — сябрук выпускае дым адразу з рота і носа.

— З вамі пачытаеш, — з неахвотаю адказваю я, зацягнуўшыся цыгарэтай.

— Дык кажаш, чувак, з кнігі, маці не любіць? — працягвае ўчорашнюю размову сябрук.

— Адназначна цяжка сказаць.

Мне зусім няма ахвоты варочаць языком.

— Як гэта цяжка сказаць? Ты вось, напрыклад, сваю маці любіш?

Замест адказу працінаю сябра дакорлівым зіркам.

Маці мая, як і я зараз, дарэшты спрацавалася. Прыходзіць з працы на абед, кладзецца хвілінку адпачыць і просіць выключыць магнітафон. Прагне цішыні. Ды як выключыш, калі на бабінах круціцца «Бітлз». Закручваю ручку гучнасці на мінімалку, але маці любыя гукі раздражняюць. Пару разоў падхоплівалася і, заплаканая, ішла на працу раней часу. Бедная мама. У яе ўвесь час баліць галава. Мяне здаўна не адпускае думка, што маці хутка памрэ. Ніяк не магу пазбыцца гэтага наслання, з якім зжыўся і які не дае спакою.

— Вы што там, паснулі? — гракае Суравец. — Друкі ў возера заплывуць. Баксёр родам з Меншчыны і называе калы друкамі.

Хведзька начасаў калоў процьму. Некаторыя пападалі ў ваду і далёка адплылі.

Суравец упрысядкі з’язджае з адхону, чапляецца за напалову ўбіты друк, падае рукамі ў ручаіну. Мацюкнуўшыся, баксёр хапаецца за кувалду і пачынае заганяць калы, ды так, што пад нагамі зыбаецца зямля.

Увечары абрынаюся на ложак, нават не зняўшы мокрыя боты. Стаміўся ўшчэнт. А яшчэ Лёнька зумкае на вуха. Ідзі з ім у бібліятэку — і ўсё тут. Адзін ісці баіцца. Могуць латышы пераняць. Удвух яшчэ можна неяк адбіцца.

— Карыфан называецца, — выдыхае Свірыдаў, змучыўшыся падымаць мяне з ложка.

Насупіўшы бровы, Мастак вытрэсвае з сакваяжа таўсценны аловак, гумку ды іншыя мастакоўскія прычындалы. Ці не маляваць каго збіраецца?

Нічога не застаецца, як скінуць долу змучаныя ногі. Пераапранаемся ў сухое, вешаем мокрыя штаны на прасушку і, наказаўшы Прахаронку ўважліва за імі сачыць, рушым у бібліятэку.

— Узяў? — пытаюся ў Лёнькі, і той, уцяміўшы, пра што гаворка, лезе за пазуху і паказвае востры алюмініевы канец.

Каля клуба нікога няма, і Лёнька, перш чым пхнуць непадатныя дзверы, пацірае далоні.

Люся сядзіць у бібліятэцы адна, а ўбачыўшы нас, ружавее тварам.

— Прыйшлі кніжку памяняць? — дзявочы голас злёгку дрыжыць ад хвалявання.

— Ды не, за кампанію прыйшоў, — я неўпрыкмет зыркаю на Лёньку, — у нас там не надта пачытаеш. Неспрыяльныя ўмовы. А дзе Дана?

— Пенсію развозіць. Шэсць вёсак і два хутары абслугоўвае.

— А на чым ездзіць? — цікаўлюся я.

— На ровары. Іншага транспарту ў паштавікоў няма, — уздыхае бібліятэкарка.

Я панурваюся ў кніжную цемру, вывучаючы змесціва стэлажоў, а сябар, абапёршыся клубам на бібліятэчны стол, пачынае распавядаць дзяўчыне пра свайго ўлюбёнага Мадзільяні, якога ён называе не інакш як Модзі. Сябар аматар павыпендрывацца, асабліва перад дзеўкамі.

— Уяўляеце, Люсьен, калі Модзі памёр ад сухотаў, ягоная каханка на паховінах слязіны не пусціла, а на наступны дзень скочыла з пятага паверха і разбілася. А была на дзявятым месяцы цяжарнасці.

Гэтую вусцішную гісторыю чую ўпершыню і, узяўшыся за карэньчык тоўстага фаліянта, застываю, так і не выцягнуўшы кнігі. Уразіла тое, што каханка, як і Мёрсо, не плакала на пахаванні.

— Модзі здымаў пакой на мансардзе, у парыжскім квартале Манпарнас, дык гаспадар дома вырашыў пасля яго смерці вызваліць памяшканне ад хломазду і вынес карціны на сметнік. А неўзабаве даведаўся, што яны каштавалі шалёных грошай.

Мастак вытрымлівае неабходную ў такі момант паўзу.

— Ведаеце, якая ў мяне мара? Прыехаць у Парыж і адразу ж падацца на Манпарнас. Прайсціся па бруку, па якім блукаў Модзі.

— А прыгожая была? — Люсьен плаксіва шморгае носам.

— Хто? Каханка? Прыгожая. Жаннай звалі. У Модзі жанчын было — не пералічыць! А спыніўся на Жанне. Дома яе партрэт вісіць, які Модзі намаляваў.

— Той самы?! — з інтанацыяй панікі пытаецца дзяўчына.

Суразмоўнік пакутліва аддзімаецца.

— Калі б у мяне, Люсьен, быў арыгінал той рэчы, ці гібеў бы я ў вашым балоце, — Лёнька вытрымлівае чарговую паўзу і дадае: — Рэпрадукцыя.

— І хто б мой партрэт намаляваў, — летуценна прамаўляе дзяўчына, і Мастак з рашучай гатоўнасцю выдыхае:

— Партрэт? Гэта элементарна.

— Сапраўды? А дзе вашы фарбы?

— Для пачатку з вугалем папрацуем.

— Якім? З печы?

Мастак з жартаўлівым дакорам трасе кудламі, маўляў, з кім я звязаўся, і выцягвае з кішэні два алоўкі — тоўсты і тонкі.

— А на чым вы намалюеце?

— Гэтае пытанне і мяне хвалюе, — Лёнька дапытліва аглядае сцены, засяроджваецца на брэжнеўскім партрэце.

— Давайце на адваротным баку Леаніда Ільіча намалюем.

— Ой, вы што… на ім жа інвентарны нумар пазначаны.

— А ёсць якія-небудзь спісаныя партрэты? — Лёнька з нецярплівасцю ляскае алоўкамі па стале.

— Ёсць… у клубе.

Дзяўчына выцягвае са стальніцы звязак ключоў, і яны з Лёнькам выходзяць з бібкі. Я ж асядлаў крэсла і, наваліўшыся на спінку, безуважна гляджу на брэжнеўскі партрэт. Дакладна такое ж малявідла, але з дзіркай ля правага вуха, мы павесілі летась на грамадскай прыбіральні. Працавалі ў будатрадзе, у невялікім гарадку, і жылі ў мясцовай школе. У нядзелю ўсе пайшлі ў горад, а мы з адным чуваком залезлі ў школьную кладоўку і знайшлі там дзіравыя партрэты членаў Палітбюро. Вывалаклі на двор, развесілі на прыбіральні і таксама ў горад выправіліся. Калі ж вярнуліся ў школу, дык камандзір з камісарам загадалі нам збіраць мэтлахі. «А чым вы патлумачыце наша выгнанне?» — пацікавіўся я. Да апошняй

хвілі камандзір быў задужа рашучым і крыў нас мацюкамі, але тут аціх. Падумаў, відаць, ці варта шум уздымаць? Бо іх, камандзіра з камісарам, перш-наперш спытаюць: а дзе яны былі, калі «галерэю» адчынялі? Урэшце камандзір з камісарам махнулі рукамі, і я выцягнуў з торбы кагадзе купленыя дзве пляшкі «чарніла».

Дзесьці непадалёку перарывіста ляскоча матацыкл. Перакуліўшы крэсла, кідаюся да вакна. Па дарозе едзе на дапатопным «Усходзе» вясковы дзядзька ў вушанцы. «А вось калі б зараз зайшоў рабацень. Ды з фінкай у напятай руцэ. Што б я рабіў?».

З прыцемнага калідора выплывае партрэт лысага дзеяча.

— П. Я. Шэлест, — хмыкае Лёнька, — нейкі партыйны расстрыга.

Лёнька б’е па напятай халсціне пяцярнёй, абабіваючы пыл.

— Вісеў на сцяне, а ўвесну загадалі зняць, — тлумачыць бібліятэкарка.

За вакном легла сутонне, і Люсьен запаліла настольную лямпу.

— Маляваць, праўда, лепш пры дзённым святле, — Лёнька просіць дзяўчыну сесці так, каб лямпа асвятляла палову твару.

— Зробім як на альбоме «With the Beatles». Памятаеш вокладку? — зыркае ў мой бок сябрук.

Яшчэ б не памятаць, калі яго здымак, праўда, кепскай якасці, вісіць дома над ложкам.

— All my loving I will send to you. All me loving, darling I’ll be true, — спяваю я трэцюю песню з альбома і тут жа змаўкаю, бо далей слоў не ведаю.

Прымасціўшы партрэт Шэлеста на калене — маляваць збіраецца на адваротным баку, — мастак уважліва глядзіць на бібліятэкарку, бярэ тонкі аловак, лёгкім рухам пазначае агульны контур.

Я стаю за Лёньчынай спінай і з цікаўнасцю назіраю, як нараджаецца Люсьчын вобраз. На шэрым палатне з’яўляюцца вочы, нос і вусны. Прычым, прамалёўвае іх мастак па чарзе. Памалюе адно вока, потым другое, потым нос з вуснамі, потым ізноў працуе над вачамі. Першымі намаляваў вусны.

Атрымаліся рыхтык як у Люсьен — крыху пульхныя, з блуклівай усмешкай у кутках. Вочы і нос таксама ўдаліся, і я нават засмуціўся, калі мастак заштрыхаваў тонкім алоўкам левае вока. З чым узнікла праблема, дык гэта з ілбом. На палатне, вышэй броваў, шарэла пляма засохлага клею, якая псавала карціну. Мастак паспрабаваў яе адкалупнуць, пасля чаго размашыста чыркануў вакол дзявочай галавы авал. Спачатку не зразумеў для чаго, і толькі потым уцяміў: мастак вырашыў упрыгожыць дзяўчыну шыракаполым капелюшом, у якіх ходзяць баранесы. На месцы бруднай плямы з’явілася чорнае страусавае пяро.

— Хлопчыкі, ці доўга яшчэ? — дзяўчыне абрыдла сядзець у нерухомай паставе, а да таго ж не цярпелася зірнуць на партрэт.

— Яшчэ адзін, апошні пацалунак, — цытуе Лёнька словы Пушкіна і паварочвае галаву.

Я выстаўляю вялікі палец. Партрэт папраўдзе класны. Праўда, Люсьен атрымалася крыху старэйшай ад сваіх гадоў.

Мастак разгоніста распісваецца.

— Ой, гэта я? — вочы дзявочыя радасна свецяцца. — А чаму ў капелюшы?

— А ў чым трэба было намаляваць? У хустцы? — хмыкае Мастак.

— Крыху старэйшай выглядаю.

— Дык вы ж тут баранеса. А ёю станеце гадоў праз пяць, — сыпле жартачкамі Лёнька, распіхваючы па кішэнях алоўкі.

— Ну дзякуй, — Люсьен з трымценнем уздыхае. — Бацькі пабачаць — на падлогу паваляцца.

— А Дана з ровару кульнецца, — устаўляю сваіх тры капейкі, казелячы вочы на сябра. Меў бы такія здольнасці, дзень да ночы дзевак маляваў. А яны б за мной хадзілі чародамі. Сорамна прызнацца, але міжволі пераймаю Лёньчыны манеры гаварыць і апранацца. Нядаўна пабачыў сябра з чорнай стужкай на шыі замест гальштука, і папрасіў маці сшыць такі ж шыявяз. Мне і адпаведную мянушку далі: Падсвірыднік.

Мы выходзім на двор. Бібліятэкарка навешвае на прабой замок, а я трымаю загорнуты ў газеціну партрэт. На дварэ ўжо цёмна. Сама пара пакінуць Лёньку з Люськай адных. Я перадаю сябру партрэт, развітваюся, але дзяўчына хапае за куртку.

— Вы мне патрэбны.

Мы з сябрам пераглядаемся і паспяшаем за Люськай, якая жвавым крокам ідзе па вуліцы. Каля крайняй хаты Люська спыняецца, махае нам рукой, хаваецца за рыпучымі весніцамі. Пераступаем з нагі на нагу, слухаем зацяты сабачы брэх у двары. На сабаку хтосьці прыкрыкнуў, той аціх і з весніц выйшла Люська з трохлітровым слоікам малака. Я пераймаю слоік. Малако цёплае, кагадзе з-пад каровы.

— Пачакайце, яблык вынесу.

Дзяўчына зноўку знікае, сябар цягнецца сёрбнуць сырадою, але я не даю. Трэба занесці хлопцам поўны слоік.

— Нападала да халеры, — Люська завіхаецца за плотам і неўзабаве выносіць набітую яблыкамі навалочку. — Потым яшчэ дам. Зараз няма ў што пакласці.

Ідзём дахаты — я са слоікам малака, сябар з навалочкай восеньскіх яблык.

— Штрыфель, — кажа Лёнька, куснуўшы яблык, — у маёй бабулі такія.

Мне карціць паласавацца штрыфлем, ды не выпадае. Слоік трымаю. І не адной рукой, а дзвюма.

— Падамся ў Піцер. Здам чортаву тэарэтычную механіку, а летам забяру дакументы, — гучна чмякае сакаўным яблыкам сябар.

— А чаго цэлы год мучыцца. Зараз забірай.

— Ага… а вясной у войска загрымець, — Лёнька шпурляе агрызак у цёмнае неба.

— А калі не паступіш.

— У інстытут вярнуся.

— А прымуць?

Лёнька па старой звычцы насуплівае бровы і ўздыхае. Мне і самому ўсе тыя супраматы ды тэарэтычныя механікі ўпоперак горла захраслі. Гэтаксама хочацца ўсё кінуць ды з’ехаць

у шырокі свет. Але куды паедзеш? Сыходзячы з бальшака, уплішчваю Лёньку слоік з малаком, перахопліваю навалочку з яблыкамі, з жарсцю кусаю крамяны штрыфель.

Ад малака ды яблык баліць чэрава, і ў ім штосьці вуркоча ды пераліваецца. Пацягваюся на ложку, намагаючыся засярodзіцца на змесціве «Чужаніцы». Галоўны герой выпраўляецца на пляж і сустракае там знаёмую машыністку, якую звалі Мары і з якой працаваў калісьці ў адной канторы. Яны разам плаваюць, герой дапамагае дзяўчыне залезці на бакен і ў гэты момант кранаецца дзявочых грудзей. «Я быў яшчэ ў вадзе, а яна легла на жывот і павярнулася да мяне. На вочы ёй спадалі валасы, яна смяялася. Я ўскараскаўся на бакен і лёг побач. Было вельмі хораша. Нібы жартам, я адкінуў галаву назад і палажыў яе Мары на жывот. Яна нічога не сказала, і я застаўся ляжаць у салодкай дрымоце».

Як усё проста ў Мёрсо атрымалася. Сустрэў знаёмую дзяўчыну і праз дзесяць хвілін паклаў патыліцу на дзявочы жывот. А я вось цяжка сыходжуся з дзеўчынамі. Пойдзеш пасля танцаў якую праводзіць, развітваешся каля пад’езда. Трэба, па ідэі, пацалавацца на развітанне. Але няма ахвоты. І прычына адна: мне тыя чувіхі не падабаюцца. Акрамя адной, з якой сустрэўся ўвесну. Толькі пра яе і думаю.

— А калі ў кустах колькі калоў пакінуць? — гугнявіць нехта, жуючы яблык. — Адступім да кустоў, а потым падхопім калы ды наперад.

Увесь вечар адно і гаманы, што пра заўтрашнюю бойку.

— Дзеўбанеш на хрыбеціне і на зону выправішся. Мінімум на пяць гадоў, — з веданнем справы зазначае Суравец, чмякаючы яблыкам.

— А калі падзяліцца на дзве групы. Адна ў клуб заходзіць, другая ля ганку пільнуе, каб з тылу наляцець, — прамаўляюць з дальняга кута.

— Гамузам яшчэ можам адбіцца, а так спачатку адну групу адлупцуюць, а потым астатнім у каршэнь надаюць, — парыруе Свірыдаў.

— Трэба ім колы папрабіваць, — гукае Мішка Прахаронак.

— А які сэнс? Чуў пра артыкул «Псаванне асабістай маёмасці»? — усё з той жа развагай у голасе адказвае Суравец.

Убіваю галаву ў падушку, з цяжкімі павекамі ўглядаюся ў тэкст, і бачу бязмежнае, блакітнае і залатое мора, размытае на даляглядзе бялёсай смугой; бачу дзяўчыну, якую сустрэў увесну і якую ўвесь час згадваю. «А я загарэла болей за вас», — кажа дзяўчына словамі Мары. Я спытваю — ці хоча яна схадзіць у кіно. Мы апранаемся, дзяўчына пытаецца — чаму ў мяне такі жалобны выгляд? «Учора памерла мама», — шапчу я і ачомваюся.

— Становімся ля сцяны, каб на спіны не скочылі, — настаўляе публіку Хведзька Суравец, і я, прыкрыўшы твар разгорнутай кнігай, змежваю павекі.

Ішлі да бальшака з надзеяй, што латышы не прыедуць, але калі падышлі да клуба, пачулі ракатанне матацыклаў, і пад сэрцам нарадзіўся непрыемны халадок.

Суравец з Лёнькам ідуць першымі і аб нечым ледзь чутна перамаўляюцца. Я прыспешваю крок.

— Выцягне фінку — адыходзь убок. Але без рэзкіх рухаў. Рабі выгляд, што абамлеў ад страху, — сцішана выдыхае Суравец. — Пад ногі кідайся па майму сігналу, — Хведзька пстрыкае пальцамі. Гэта ўмоўны сігнал.

Латышы ездзяць па коле. Колькі іх — цяжка падлічыць, бо матацыклы раз-пораз выязджаюць з-за рога будынка і знікаюць з відавоку.

— Сустракаем гасцей з крывымі ўсмешкамі на тварах, — настаўляе грамаду Суравец.

Спатыкнуўшыся на роўнай дарозе, хапаю Лёньку за рукаво.

— Дай грабянец.

— Навошта?

— Дай! — кажу з такой рашучасцю, што сябар спехам панурвае руку за пазуху.

Грабянец абматаны анучкай і мякка кладзецца ў далонь.

Угледзеўшы нас, латышы глушаць маторы. У клубе гучыць да смерці абрыдлы Абадзінскі, і мясцовыя дзеўкі шчыльным гуртам стаяць на ганку.

Як і казаў Сурavец, выстройваемся ўздоўж сцяны. Нашы супараты становяцца паўколам. Рабацень у танкісцкім шлеме выходзіць наперад, ляпае, як калісь Суравец, кулаком па далоні. З-за ягонага плечука вытыркаецца цыбаты тыпус з ліхтаром пад вокам. Цыбаты перакідвае з рукі ў руку круглявую свінчатку.

Ногі мае падкошваюцца, але ў вушах гучаць Лёньчыны словы: «Тут і вызначыцца, хто ты: кавалак гаўна ці сапраўдны чалавек».

— Ну, хто смелы, — на твары рабаценя нараджаецца гідлівая ўсмешка, — выходзь.

Раблю два крокі.

— Ты? — рабацень акідвае мяне іранічным позіркам. — А не баішся, што сёрбала набок з’едзе?

Прымружваю вока, з усмешкай, як вучыў Суравец, гляджу на латыша. Той, выставіўшы грудзіну, падскоквае то на левай, то на правай назе. Рукі ягоныя пры гэтым бязвольна матляюцца.

— Што скачаш, як казёл, — прамаўляю, адчуваючы каркам гарачае дыханне Сураўца.

Латышы пасля такіх слоў застываюць у нерухомасці, а ў клубе, заікнуўшыся, аціхае Абадзінскі.

— Паўтары, — страшным голасам выдае рабацiністы бугай і, не зводзячы з мяне буркалаў, выцягвае з халявы фінку. Я ў сваю чаргу выцягваю з кішэні алюмініевую штуку, кранаю востры канец. Латыш наструнена мружыцца, выглядаючы — што я там дастаў з кішэні.

— Паехалі, — прамаўляюць за спінай.

Каму гэта сказалі? Ці не мне?

Бакавым зрокам бачу цёмны цень, які ўзнікае леваруч. За спінай пстрыкаюць пальцамі, і нехта кідаецца бугаю пад ногі, і не спераду, а ззаду. Размытай плямай мільгае Хведзькавы кулак, мільгаюць падэшвы кірзачоў, і Суравец кідаецца на бугая. Той ляжыць на зямлі, Лёнька з Сураўцом круцяць яму рукі,

спрабуючы адабраць фінку, даўгяла са свінчаткай шпыляе Сураўца нагой у бок, ды так, што той два разы куляецца, але тут жа падымаецца і, убачыўшы перад сабой двух латышоў, б'е правым кулаком у лоб таму, які стаіць леваруч, а левай таму, што стаіць справа. Даўгяла падбягае да Сураўца, робіць шырокі замах, Хведзька нахіляецца, заязджае крыўдзіцелю ніжэй чэрава. Даўгяла войкае, падае на калені, а астатнія латышы паволі, азадкамі наперад, адступаюць, а потым кідаюцца да матацыклаў.

Стаю, агаломшаны, і слаба цямлю — што тут, уласна, адбылося. Правая рука ў Сураўца залітая крывёю. Адкуль кроў? Нарэшце цямлю: парэзаўся, як адбіраў у фінку. Да Сураўца бяжыць Люська з аптэчкай у руцэ. «Нашатыр ёсць?» — стогне Хведзька і хапаецца за драбы. «Дайце нюхнуць кантужанаму», — Суравец ківае на даўгялу. Небарака ляжыць, раскінуўшы рукі, пасярод двара. Люська бінтуе Хведькаву далонь, а Дана, укленчыўшы перад даўгялам, тыцкае яму пад нос пляшачку з нашатырам, крычыць латышам: «Забірайце свайго!»

Матацыклы адзін за адным з'язджаюць упрочкі.

— Яшчэ сустрэнемся! — крычыць рабацень скрозь матацыклетны рокат, але на вокліч той ніхто не звяртае ўвагі.

«У канторы сёння давялося добра папрацаваць», — толькі гэтую фразу з «Чужаніцы» і здолеў прачытаць. Далей чытанне не пайшло: узбудзіўся пасля бойкі, дый пакаёўцы ўсхадзіліся не на жарты. Раз за разам, перабіваючы адзін аднаго, апавядаюць Мішку Прахаронку абставіны баталіі.

— Згулялі як па нотах, — Свірыдаў гойсае ад сценкі да сценкі не раўнуючы як тыгр у клетцы. — Больш не сунуцца.

— А навошта было бугаю пад ногі кідацца? — лыпае вачыма Мішка Прахаронак.

— Табе ж казалі: адным ударам бугая з ног зваліш, калі ў яго шлем на галаве і фінка ў руцэ, — Лёнька шорхае фінкай па далоні, падносіць да носу. — «Со-лін-ген», — чытае па складах надпіс на лязе. — Трафейная. Тронкі, праўда, новыя.

У куце са стогнам варочаецца Суравец. Як вярталіся дахаты, паўдарогі сам ішоў, а потым клыпаў, Лёньчын карак абхапіўшы.

— Баліць? — сцішана выдыхае Мішка.

— А то не баліць, — адказвае за Хведзьку Свірыдаў. — З усяго маху нагой заехаў, гад. Можа, і рабрыну зламаў.

— І са зламанай рабрынай трох бугаёў уклаў? — не сунімаецца Прахаронак.

— У гарачцы болю не адчуваеш. Майму братану ў бойцы два зубы выбілі. Спачатку і не заўважыў, — тлумачыць сітуацыю Свірыдаў.

— А як той бугай прыедзе, за «казла» разлічыцца? — звяртаецца да мяне Прахаронак.

Я і сам пра гэта думаю. Смелы быў, бо Суравец за спінай стаяў. А як сустрэнуся з рабаценем на вузкай сцежцы?

— Як прыедзе, так і з'едзе, — Лёнька выпускае фінку з рукі, і тая мякка ўбіваецца ў маснічыну.

Такія словы супакойваюць, і я, прымасціўшы кніжку на грудзіну, пераводжу дых.

Сёння нядзеля. Прачытаў адным духам «Чужаніцу» і «Чуму». «Чума» падалася расцягнутай і занудлівай. А вось «Чужаніца» не дае спакою. Я так і не ўцяміў — хто ён такі, гэты Мёрсо. Аднак ён мне спадабаўся. Я наогул у героі Камю пазнаў самога сябе. Мне таксама, як і Мёрсо, не ахвота падладжвацца пад некага, жыць па прыдуманых рознымі прайдзісветамі правілах, ляпаць далонямі на сходах і хадзіць на ідыёцкія дэманстрацыі. Толькі цяпер, прачытаўшы «Чужаніцу», зразумеў, што жыццё наша, з яго праблемамі і пачуццямі, прыхаванае недарэчнымі дэкарацыямі. Герою Камю яшчэ пашанцавала. Нарадзіўся і жыў у французскім Алжыры. Паглядзеў бы я на Мёрсо, калі б яго да нас занесла. Тут дэкарацыі не на сценах вісяць, а на людзей наваленыя. Ды так, што не прадыхнуць. Прыгадваю жарсці ля клуба і рудога латыша, якому кінуўся пад ногі Лёнька Свірыдаў. У Мёрсо сітуацыя была больш складанай: за спінаю ляжаў мёртвы араб, а перад вачыма стаяла гільяціна. Бедны француз. Выпадкова

забіў чалавека. Цікава, калі б я прашыў сэрца рудому кенту, мяне б таксама прысудзілі да смерці?

У панядзелак, ад самай раніцы, грукаюць уваходныя дзверы, і ў пакой увальваецца пээмкоўскі майстар. Ён ужо начуты пра суботнія жарсці.

— Буду званіць па інстанцыях. Тую хеўру пара супакоіць. Улетку двух рабацяг вывелі са строю, і зноў бойку ўчынілі.

Прахаронак паказвае на Сураўца.

— Добра перапала? — запытальна ўскідвае брыво майстар, і Хведзька без асаблівай ахвоты задзірае кашулю. Бок Хведзькавы пазначаны сіняй плямай.

Майстар уражана прысвістае.

— Э-э-э, браток, у бальніцу трэба. Адзявайся і сядай у маю машыну.

Выходзячы з пакоя, майстар хапаецца за рукаво Лёньчынай курткі, што вісіць ля ўваходу. Яно распаласаванае ад плечука да локця.

— Фінкай шуганулі, — паведамляем хорам.

Мастар цокае языком і паўтарае:

— Хеўру пара супакоіць.

На пару з Лёнькам дапамагаем Сураўцу дайсці да ўазіка.

— Будуць спытваць — дзе атрымаў траўму, скажы: на кол упаў, — дае ўказанні Свірыдаў. — А тое даведаюцца ў інстытуце пра бойку — і адлічыць могуць.

Уазік, даўшы кола па двары, выязджае на бальшак. Мы з сябрам глядзім услед машыне і разам уздыхаем. І хто цяпер будзе друкі забіваць? І, галоўнае, хто заедзе рабаценю ў лабешнік, калі той раптам заявіцца?

Сёння мы з Лёнькам цягаем дзірван ад трактара да каналу. Браць і несці парэзаны на квадраты дзірван трэба асцярожна, каб не вытрасці зямлю.

— Ну, што ў вёсцы кажуць аб суботняй бойцы? — звяртаецца сябар да трактарыста. Юзік абапёрся плечуком на кола і паліць.

— Усе задаволеныя, што латышоў пабілі. Асабліва мая матка.

— А чаму так?

— Бо яны ёй курыцу матацыклам пераехалі. І зараз бядуе, — Юзік зацягваецца папяросінай, адкідвае недапалак і лезе ў кабінку трактара: — Майстар едзе!

Па полі калываецца, надрыўна завываючы рухавіком, пэмкоўскі ўазік.

— Дзве рабрыны зламаныя, — паведамляе майстар, выцягваючы з уазіка каморніцкі сажань.

Закінуўшы «казу» на плячо, майстар ідзе ў дальні канец канала, адкуль мы пачыналі працаваць, і неўзабаве шыбуе насустрач, махаючы нагамі «казы». Параўняўшыся з трактарам, нешта запісвае ў нататнік і рушыць далей. Метраў праз трыста спыняецца, убівае «казу» ў зямлю, галёкае, склаўшы рупарам далоні:

— Цягніце кол і кувалду!

Вярнуўшыся да машыны, майстар прыпальвае папяросу, дае па «беламорыне» нам з Лёнькам.

— Вунь… да кала даходзіце — і едзеце дахаты.

— А чаму да кала? — пытаецца Лёнька.

Майстар сядае за стырно ўазіка:

— За абеды разлічыцеся.

— Хто-о… хоча зара-бі-іць, — дакорліва, расцягваючы зыкі, гугнявіць Мішка Прахаронак, калі машына ад'язджае. — Паехалі б на бульбу, хаця б па трыццаць ірваных зарабілі. І мокрыя б не цягаліся.

— Усе пытанні да дэкана. Гэта ён мяне перахапіў і загадаў дзесяць чалавек адабраць, — зласліва парыруе Свірыдаў.

— ПМК заваліў гадавы план. Вось студэнтаў і падрадзілі, — падае голас Юзік, і мы асуджана панурваем вочы.

Пасля працы сябар, як заўсёды, падбівае схадзіць у бібку. Валакуся з кіслай гіморай на твары, і Лёнька спрабуе да мяне падлабуніцца.

— Усё ж ты малайчына. Выйшаў насустрач бугаю. Мае лекцыі па экзістэнцыялізму далі плён.

— Ты лепш Хведзьку падзякуй.

Ля клуба стаіць машына, а побач міліцэйскі К-750 з вазком. Лёнька таксама ўглядаецца ў вечаровы змрок і, схапіўшы за крысо балонневай курткі, цягне на ўзбочыну. Падыходзім бліжэй, а потым сягаем у агарод і сцішваемся пад шатамі старой яблыні.

— Міліцыя. Уазік з латышскімі нумарамі, а матацыкл з нашымі, — шапоча на вуха сябар.

Сядзім пад яблыняй даволі доўга, ужо і лыткі занямелі. Збіраемся ўжо выпаўзаць са схову, ды тут з клуба выкульваецца цэлая грамада жанчын і тры міліцыянеры. Жанчыны, махаючы рукамі, нема гарлаюць, а міліцыянты ківаюць у адказ. «Курыцу ў мяне, паскуды, пераехалі», — чуем сярод бязладнага граю. Ці не Юзікава матка гарлае? Неўзабаве два міліцыянты садзяцца ў машыну, трэці ўскоквае на матацыкл, і мы з Лёнькам яшчэ ніжэй тулімся да зямлі. К-750, а следам міліцэйскі ўазік праязджаюць міма, сігаем праз плот, зыркаем у канец дарогі, і калі матацыкл зварочвае ўбок, разумеем: паехалі па нашу душу.

— Дзе вы цягаецеся? — гамузам выдыхаюць хлопцы, калі мы паўстаём на парозе. — Латышская міліцыя прыязджала. І наш участковы з імі. Усіх перапісалі і загадалі тры дні нікуды не з’язджаць, — хуткагаворкай гугніць Прахаронак. — Фінку забралі, як рэчавы доказ, і заточкай цікавіліся.

— Якой заточкай? — у голасе маім нараджаецца трывога.

— Якую ты ў руках трымаў.

— І што вы сказалі?

— Што гэта не заточка, а грабянец.

Я аддзімаюся, а Лёнька з грабянцом у руках азіраецца, шукаючы — якім чынам прытупіць дзяржак.

Як паведамілі міліцыянты, адзін з латышоў ляжыць у бальніцы, і па факце бойкі заведзеная крымінальная справа.

— Не сцы, прарвёмся, — сябар тыцкае пальцам у карак, і я кулём валюся на ложак.

«Можа здарыцца так, што ва ўсёй гэтай гісторыі акажуся крайнім», — я зацкавана гляджу на пакрэсленую пісягамі дажджавых рагаў столь. Даведаюцца, сапраўды, у інстытуце, могуць, чаго добрага, і адлічыць. Але ж не мы паперліся

ў Латвію, а латышы сюды завіталі. З фінкамі за халявай і са свінчаткамі ў руках. Цікава, а як бы сябе паводзіў Мёрсо? Вядома як. Паслаў бы ўсё да д'ябла і кульнуўся на правы бок. Узрадаваны такім адкрыццём, куляюся на правы бок і адразу ж засынаю.

У шыбы барабаніць заложны дождж, таму на працу не ідзём. Прыемна ляжаць вось так, не распрануўшыся, у куртцы і ў чаравіках, і, заплюшчыўшы павекі, слухаць шум дажджу ды сцішаную балбатню Лёнькі Свірыдава з Мішкам Прахаронкам. Усе дрыхнуць, а гэтым двум не спіцца. Больш за тое, Мастак штосьці малюе на сцэнцы.

— Трэба ж памятку пакінуць, — стоеным шэптам зазначае мастак, шаркаючы вугальным алоўкам.

— А чаму ён не на крыжы?

— Гэта таксама крыж. Яго Антоніеўскім называюць.

— І што, Хрыста менавіта на ім укрыжавалі?

— Хутчэй за ўсё, на такім.

— А цяжкі быў крыж?

— Па навачасных падліках, прыкладна семдзясят кэгэ.

— Ого. Цяжка было цягнуць.

— Цяжка — не тое слова. Хрыстос некалькі разоў падаў, а потым зусім знямогся.

— І што далей?

— Чувака аднаго падрадзілі. Яго Сымонам звалі. Ён і пацягнуў.

— І скуль ты, Лёня, усё ведаеш?

— Цікаўлюся… кніжкі чытаю. А ты, апроч канспектаў па супрамату, што-небудзь чытаеш?

— Затое я іспыты з першага разу здаў, а ў цябе «хвост» матляецца.

Ляжу тварам да сценкі, таму не бачу, што малюе Лёнька. Але па размовах разумею: сябар замахнуўся намаляваць укрыжаванага Хрыста. Шаргаценне алоўка закалыхвае, блытае думкі, і я панурваюся ў чуйна-імглісты сон.

Дзесьці а дванаццатай гадзіне дождж суняўся, але з ложкаў не падымаемся. Куды ісці, калі хутка абед прывязуць.

Тым часам у дзверы пастукалі.

— Адчынена! — гракае некалькі глотак, і ў прыцемку дзвярной праймы паўстае няўклюдная постаць Барыса Еўдакімавіча Сырапені, якому калісь здавалі гісторыю КПСС. Барыс Еўдакімавіч мокры як цуцык. Ці не ішоў пехатой ад самага райцэнтра?

— Хто староста? — з пагрозлівымі абертонамі пытаецца выкладчык.

— Суравец. Атрымаў вытворчую траўму і паехаў дахаты, — з бадзёрай весялосцю адказвае студэнт Свірыдаў.

— Чаму не на аб'екце? — пытаецца Барыс Еўдакімавіч усё з той жа пагрозлівай інтанацыяй і застывае ў нерухомасці.

— Гэта хто? — выкладчык уражана глядзіць на сценку.

— Джэсус Крайст, — азываецца Свірыдаў.

— Бачу, што Джэзус Крайст. Мяне цікавіць: хто маляваў?

— Меліяратары намалявалі, якія летам жылі, — Лёнька скочваецца з ложка і пачынае яго шчыгульна засцілаць, чаго дагэтуль ніколі не рабіў.

— Добра калі так, — выкладчык здымае капялюш, страсае дажджавыя кроплі. — А то б прагрымелі з тым Крайстам на партсходах.

Выцершы насоўкай бліскучую лысіну, Барыс Еўдакімавіч змучана аддзьмухваецца.

— Ну… хто арганізаваў панажоўшчыну? — голас выкладчыка зноў суравее.

Маўчым, не ведаючы, што адказаць. Відаць, нехта патэлефанаваў у інстытут і наплёў абы-чаго.

— Дзе ваш начальнік? — пытаецца Барыс Еўдакімавіч і, як на замову, пад вокнамі, каротка пасігналіўшы, спыняецца пээмкоўскі ўазік.

Восень убіраецца ў сілу. Сем гадзін вечара, а ў лесе ўжо цёмна. Толькі вада ў калюжынах, якімі спаласаваная праселіца, яшчэ бялее пад нагамі, адбіваючы кволае святло вечаровага неба. Тут, у лесе, патыхае прэлай ігліцай і грыбамі — галоўнымі восеньскімі пахамі.

Пасля працы, па старой завядзёнцы, пайшлі з сябрам у бібліятэку, і па дарозе сустрэлі Дану. Падбіўся правесці паштарку дадому. Жыве яна, як высветлілася, у невялічкай вёсцы на беразе возера. Я, да свайго сораму, да гэтай пары таго возера не бачыў. Гляну на яго хоць у цемры.

— Дзіўнае ў вас імя — Дана, — кажу, перарываючы напятае маўчанне.

— Люська так называе, — уздыхае дзяўчына, — у пашпарце «Данута» напісана. Так пры хрышчэнні назвалі.

— А вы ў касцёл ходзіце? — з насцярогай пытаюся, пераскочыўшы лужыну.

— Хаджу па святах. У нас на тым беразе возера надта прыгожы касцёл. Мяне ў ім хрысцілі.

Чарговым разам згадваю Мёрсо і ягоную сустрэчу са святаром, калі герой Камю выказаў усё, што думаў, пра пустыя святарскія суцяшэнні. Мне карціць апавесці гэта Дануце, але стрымліваюся. Зрэшты, хай са святарамі змагаецца Сырапеня. Ягоная праца. А не будзе змагацца — прагрыміць на ўсіх партсходах.

— Мая маці збіраецца да вас зайсці, — знянацку кажа Данута і наструньваецца.

— Як зайсці? Куды? — перапытваю і таксама наструньваюся.

Навакол ціха, адно ў лясных нетрах гракае птушка.

— Ну, дзе вы жывяце. Хоча ўкрыжаванне паглядзець. Суседка наша да вас заходзіла. Вы на працы былі.

— Ну, і якія ўражанні?

— Не ведала — жагнацца ці не жагнацца. Казалі, нельга Хрыстуса маляваць там, дзе п’яныя мужыкі спяць.

— Якія ж мы п’яныя. Няма грошай на «Прыму», не кажучы пра гарэлку.

Данута зноў прыслухоўваецца, трасе выстаўленым пальцам. Зараз і я чую: недзе ракоча матацыкл. Мы нырцуем у прыдарожны хмызняк. Думаў, следам за намі гужом ляціць некалькі матацыклаў, а праехаў толькі адзін. Па гуку нямоглая «Панонія».

— Сусед паехаў, — шэпча Данута.

Мы ўкленчылі, абапёршыся каленямі на паваленае дрэва, але вылазіць з хмызоў не спяшаемся. Маё сцягно кранаецца дзявочага сцягна і, здаецца, я чую грукат Данінага сэрца.

— Тут, як міліцыя прыязджала, сход арганізавала. Жанчыны на міліцыянераў і накінуліся. Маўляў, злодзеі што хочуць, то і робяць, а вы толькі рукамі разводзіце. А Люсьчына маці, у якой пляменніка пабілі, сказала — калі тых бандзюкоў не пасадзяць, яна Брэжневу пісаць будзе.

Кароткую хвілю глядзім адно аднаму ў вочы. Прыспеў час пацалаваць дзяўчыну, але мяне нешта стрымлівае. Нечакана Дана сцепанаецца, выбягае на праселіцу. Мы ідзём моўчкі — Дана наперадзе, я ззаду, пазіраючы на пукатыя дзявочыя клубы, якія віхляюцца пад куртатым плашчом.

«Мёрсо б не вагаўся. Пацалаваў дзяўчыну. А потым запрасіў да сябе», — думаю я. Чувіхі — гэта, бадай, адзінае, што яго цікавіла ў свеце. Зрэшты, на пацалункі часу не марнаваў. Адразу запрашаў да сябе. Балазе, жыў у маленькай, але асобнай кватэры. Не тое, што нашы халасцякі, якія жывуць з бацькамі альбо гібеюць у інтэрнатах.

— У цябе ёсць хто-небудзь? — не паварочваючы галавы, пытаецца Данута, і я ад нечаканасці патрапляю нагой у калюгу.

— Няма.

— А ты каго-небудзь кахаеш?

Думаю, што сказаць, і Дана, не чакаючы адказу, задае новае пытанне:

— Яна прыгожая?

— Прыгожая, — азываюся, не пазнаўшы ўласнага голасу.

— Такая прыгожая, што ты баішся падысці?

Ківаю галавой, хаця Данута гэтага і не бачыць.

— І гуляе з прыгожым хлопцам? — дзяўчына азіраецца.

— Калі ты ўсё ведаеш, навошта пытаешся? — кажу з раздражненнем, і мы зноўку надоўга змаўкаем.

Дарога святлее, вылузваецца з лесу, і перад вачыма паўстае азёрны абшар. Возера мае свінцовую водцень, зліваецца з цёмным даляглядам і, здаецца, яму няма скону.

— Вунь мая вёска, — выдыхае Дана.

Мружу вочы, але відаць толькі ўкаранаваны высокай вышкай пагорак.

— Гара Аўкштай завецца. На ёй, я яшчэ малая была, драўляны маяк паставілі. Літоўская назва. У нашых мясцінах, даўно калісьці, літоўцы жылі.

Цалую дзяўчыну на адвітанне. У яе мяккія і цёплыя вусны. Я трымаю Дану за локці, хачу пацалаваць другім разам, але яна вырываецца з абдоймаў і бяжыць, раскідваючы цыбатыя ногі, па разбітай трактарамі праселіцы.

Сёння працавалі апошні дзень. Заўтра, ад самай раніцы, едзем дадому. Надвор'е выдарылася файнае. У абед секанyў спорны дождж, але потым праяснела, і зараз на небе пануе асавелае сонца, ад возера дзьме цёплы ветрык, а ў паветры абрыўкамі бязважкага кужалю лётае павуцінне.

Стаю, задзёршы галаў, каля таго самага маяка, і ў думках падлічваю — колькі ён метраў увышкі. Наверсе, метрах у чатырох ад зямлі, збіты з дошак памост, ад якога, да самай вяршыні, вядуць сходы. Ды як на тую пляцоўку ўзлезці, калі апоры гладкія ды і слізкія.

Агледзеўшыся, вышморгваю рамень з портак, апяразваю ім гладкі слуп, прапіхваю ў пятлю правую нагу. Спрабую караскацца ўгору. Абдымаю штосілы слуп, падцягваю нагу з рэменем, і порткі паволі спаўзаюць з азадку. Скідаю іх разам з чаравікамі. З голымі лыткамі ўзбірацца спраўней.

Да памосту рукой дастаць, але сіл ужо няма. Астатнім высілкам хапаюся за край аслізлай дошкі і недарэчы згадваю, як два гады таму, пасля выпускнога вечара ў школе, мы, трое дружбакоў, выпілі дзве пляшкі гарэлкі, пайшлі ў лес да такога вось маяка, і я палез па такой жа слізкай ад дажджу апоры. Прычым залез не на верхнюю пляцоўку, а на самы вяршак. Галава кружылася, рукі дрыжэлі, туфлі слізгалі па бервяне… І як я не грымнуўся долу?! Са страшнай намогай падцягваюся, закідваю нагу на насціл і доўга сяджу на збуцвелых дошках, слінячы мезенец і водзячы па скрываўленай лытцы — падзёр аб іржавы цвік. Затое бегчы басанож па лесвіцы — сапраўднае задавальненне. Наверсе невялічкая

пляцоўка, з якой адкрываецца бязмежная, як кінуць вокам, прастора. Аказваецца, тут не адно возера, а некалькі. І кожнае пазначана зялёнымі кучмамі выспаў. Ну што ў тым Алжыры, на радзіме Мёрсо? Пясок ды мора. Але ж там няма азёраў, няма такой зеляніны. Трэба ўлетку прыехаць. Прыкладаю руку да броваў. Удалечыні, за люстрамі азярын белы, размыты відарыс касцёла, у які ходзіць Дана. А вось і яна сама. Едзе сцяжынкай на ровары.

— Дана! — крычу я, і тут жа, згадаўшы, што стаю без штаноў, збягаю, слізгаючы пяткамі па слізкіх папярочках, долу.

Аглядаем на астачу пакой, дзе пражылі амаль тры тыдні, і Лёнька хрысціцца на ўкрыжаванне. Я так і не зразумеў — жартам ці ўсур'ёз.

— Завадатара таго, з фінкай, затрымалі, — майстар бразгае замком. — Сядзіць у Дзвінскім КПЗ. Яго ўжо даўно міліцыя шукала.

Нашы ўжо ўсе ў машыне. Майстар падкіне да райцэнтра, а там сядзем на рэйсавы аўтобус.

Дабіты ўаз, падобна, быў калісьці «Хуткай дапамогай», бо ў ім тхне лекамі. Замест сядзенняў дзве прымацаваныя да сценкі лаўкі. Плюхаюся на лаву, і сябар тыцкае локцем у бок. На ўзбочыне дарогі стаіць Дана і разгублена глядзіць на ўазік. Хацела развітацца са мной, але прыпазнілася. Уазік крута разварочваецца, і сябрук ізноў тыцкае локцем пад драбы.

— Не перажывай, знойдзем табе жонку. Лепш скажы — як ты там учора? Нездарма ж прыбегла развітацца.

Усе, хто сядзіць насупраць, наставілі на мяне пракудлівыя вочы.

А што расказваць. Паабдымаліся на тарпе саломы. Пры гэтым салома непрыемна калолася і лезла за каршэнь. Мелькам азіраюся, але Даны на ўзбочыне ўжо няма.

Кракнуўшы, Лёнька раскрывае сакваяж, выцягвае «Выбранае» Альбэра Камю. Учора нёс кнігу ў бібліятэку, ды Лёнька перахапіў, сказаўшы, што сам занясе.

— Чаму не вярнуў? — пытаюся ў Свірыдава. — Люська немаведама што падумае.

— Ды не хвалюйся ты. Стаяла на паліцы чатыры гады, і яшчэ сто гадоў прастаяла б, нікім не прачытаная.

— Люська капейкі атрымлівае. І яшчэ з заробку вылічаць. За скрадзеныя кніжкі.

— Ды суніміся. Ніхто нічога не вылічыць. Спішуць тую кнігу, як і процьму іншых, — паслініўшы палец, Свірыдаў перагортвае старонкі.

Вочы выхопліваюць фразу: «Сёння памерла мама». Фраза гэтая пазбаўляе спакою. Адварочваюся ад Свірыдава і гляджу ў вакно. Увушшу гучыць Лёньчын аповед пра тое, як ён займаўся з Люськай любошчамі на клубным більярдзе, а ўвесь пакой дружна рагатаў. «Сволач», — бязгучна шапчу здранцвелымі вуснамі. З-за кустоў вытыркнуўся і знік драўляны маяк, на які ўчора залазіў, а з-за пагорка, лагодзячы зрок залацістым ад восеньскага сонца люстрам, выплыла вялізнае возера. Скоса пазіраю на майстра і прагну, каб ён прытапіў понаж газу, бо мне трэба як мага хутчэй даехаць дадому. Толькі б не памерла маці… толькі б не памерла.

# У СМАЛЕНСКІМ ПАЛОНЕ

Смаляк ехаў моўчкі, наструнена пазіраючы на шэрую стужку дарогі і выцягнуўшы шыю. Прыслухоўваўся, відаць, да працы рухавіка.

— Што там слухаць. Усяго 120 тысяч кэмэ прабегу. Матора зусім не чутна, — прамовіў Сазон і ўключыў радыё.

Салон напоўнілі настальгічныя саксафонныя рулады.

— «Накцюрн "Гарлем"». Граў некалі, — выдыхнуў смаляк. Машына, прычакаўшы на святлафоры, выехала на шырокую вуліцу. — Падшыванцам у музычную школу хадзіў па класу кларнета. Ну а ў юнацтве сакс упадабаў. Дзядзька мой у рэстарацыі лабаў. Набыў мне з рук чэхаславацкі «корч» фірмы «Амаці». Добрая рэч. На іншых саксах гадзіну граеш — пачынаюць клапаны заліпаць. А ў «чэха» — нічога падобнага. Адна праблема — трасціны. Ведаеш, што такое? — машыну страсянула на выбоіне, і смаляк сцішыў хуткасць. — Страшэнны дэфіцыт. Нармальныя трасціны толькі ў замежнікаў і набывалі. Аднойчы да нас французы з канцэртам завіталі. Джазісты. Падчас антракту пасунуліся з сябруком на сцэну. Просім трасціны прадаць для «тэнара» і «альта» — сябрук, дзякуй богу, крыху па-ангельску шпрэхаў. Кажуць, прыходзьце заўтра ад ранку да філармоніі. Ну мы і прыйшлі. Стаім, паглядаем на ўваход, а побач з намі нейкія тыпусы круцяцца. Падумалі — фарца. Хочуць якую шмаціру перахапіць. Карацей, выйшлі французы з філармоніі, сябрук да іх падскочыў, пагаманіў хвіліну і вяртаецца, шчаслівы. «Далі… і грошай не ўзялі», — гукае здалёк. Тут яго

тыпусы, якія круціліся поруч, і падхапілі. А потым і мяне за кампанію. Завезлі ў Вялікі дом на Дзяржынскай. Сталі пытацца: што мы перадалі французам? Ды нічога, кажам, не перадавалі. Вось, — паказваем, — трасцінамі разжыліся. Цэлы дзень у канторы адседзелі. Тлумачэнні пісалі ды натацыі слухалі. А неўзабаве сябрука з музвучэльні пагналі, з трэцяга курса. Я ў Палацы культуры чыгуначнікаў у ансамблі граў. Метадыстам быў аформлены. Ну і мяне дырэктар выклікаў, пачаў клапаны спускаць. Уяўляеш, граю ў ансамблі на сваім саксафоне, набываю за свае грошы трасціны, а «бугор» у сувязях з замежнай выведкай абвінавачвае. Узяўся дакараць, што я пад амерыканскага джазмэна кашу — у чорных акулярах лабаю і назад адкідваюся, калі свішчу на верхнім рэгістры. Увечары гарадскі конкурс ладзілі пад назвай «Алё, мы шукаем таленты!». Я, зразумела, кірнуў, і калі адна дзеўка пачала «Баладу пра фарбы» спяваць… памятаеш такую песню? — пасля прыпеву: «Хохотала над расспросами она», — выдаў саксам — О-хо-хо-хо. І так некалькі разоў. Песня ж грамадзянскага гучання, а тут рогат пачаўся. У журы сакратар гаркама партыі сядзела, дык тая ад абурэння нават з залы выбегла. Ну і паляцеў з палаца, прычым па артыкуле.

— А навошта цёмныя акуляры насоўваў? — спытаў Сазон.

— Святло ідзе ад рампы, слепіць.

Машына праехала па мосце, прамінула пралом у старым абарончым муры, і леваруч паўстаў вялізны сабор.

— Напалеон, як Смаленск захапіў, у алтар на кані заехаў, — саксафаніст пераключыў хуткасць, — і Гудэрыян у 41-м завітваў.

Насупраць, праз дарогу, ляжала глыбокая лагчына, скрозь заваленая смеццем. Смецце сюды, падобна, звозілі самаскідамі.

— А хто ў саборы кіруе? Чаму не збярэ парафію ды не загадае прыбраць сметнік? — голас Сазона здрыгануўся ад абурэння.

— Кірыла… мітрапаліт Смаленскі. Яму не да смецця. Казані па тэлевізіі прамаўляе.

Яны выехалі на разлеглы пляц, і саксафаніст спыніў машыну. Ён адмыслова сеў за стырно Сазонавай «Аўдзі», каб спраўдзіць — ці варта яе набываць.

— Пераканаўся, што не фуфло ўплішчваю, — з гэтымі словамі Сазон вылез з машыны.

Пару хвілін узгаднялі цану, нарэшце ўдарылі па руках. Саксафаніст запаліў цыгарэту, пусціў дым у бок гламаздаватай, з велізарным пано на франтоне, будыніны. На пано варушыўся пад ветрам ваяр-пераможца, паўзверх якога ляцелі чырвоныя літары: «Можам паўтарыць!»

— Гасцініца «Смаленск». Даволі танная, — патлумачыў смаляк.

— А чаму яе жычкай аперазалі? — вакол гасцініцы, па ўсім перыметры, цягнулася чырвоная з белымі паскамі стужка.

— У аварыйным стане. Тынкоўка адвальваецца. Мой знаёмы ўжо атрымаў па кумпалу.

— Танная, кажаш? — прамармытаў Сазон і, схамянуўшыся, адчыніў дзверцы машыны і выцягнуў з сумкі, з якая ляжала на заднім сядзенні, мініяцюрны «Canon».

— Шчоўкні на памяць.

Яго абудзіла натужлівае храпенне. Сусед па нумары — дарэчы, таксама Прыходзька, як паведамілі ў рэцэпцыі, — хроп, задзёршы ўгору глюгасты нос, чаргуючы храпакі з кароткім прысвістам. Нос пры гэтым прыкметна варушыўся. Сазон падняўся з ложка, тыцнуў храпуна кулаком у плячук, і пакаёвец задаволена замыліў вуснамі.

Яны з суседам, прышчавым недаросткам, які прыехаў з нейкага Дзямідава, засяліліся амаль адначасова, і дзямідаўскі Прыходзька, даведаўшыся, што падсялілі цёзку па прозвішчы, доўга распытваў — ці ёсць у Сазона ў Дзямідаве спакрэвічы, пасля чаго папрасіў пазычыць сто рублёў.

Пад нагамі бразнула, і пакацілася пустая бутэлька. Сазон падышоў да вакна. Ранішнія водцені злавеснай палымніцы, промні краналіся шатаў разложыстых ліп, пакрывалі ру-

жавізнаю высокія, падобныя да лебядзіных пёраў аблачыны. Непадалёку ад гасцініцы буяў зелянінаю сквер, пасярод якога стаяў нейкі помнік: у прасветліне між галін праглядаўся край гранітнага пастамента. Яшчэ ўчора хацеў зірнуць — каго там смалякі ўшанавалі, але не атрымалася. Аформіўшы дакументы на машыну, узялі з саксафаністам на грудзіну, і ў гасцініцу ўбіўся апоўначы.

Сазона нудзіла, і на душы было неспакойна. Не сёння — заўтра яго пачнуць шукаць і, вядома ж, абзвоняць гасцініцы. Так што трэба адсюль з'язджаць. Але куды? Вярнуцца на радзіму? Падацца да брата ў Калодзішчы? Але ж ёсць небяспека сустрэць якіх знаёмцаў. Да таго ж, яго ў Калодзішчах кожны сабака ведае.

«Варта было намёт прыхапіць, — падумаў той хвіляй Сазон і ляпнуў кулаком па далоні, — пасядзеў бы з вудаю на беразе Дняпра. Балазе, надвор'е спрыяе».

Ён пастаяў колькі часу, прыціснуўшы гарачы лоб да халоднай шыбы, адкашляўся і паваліўся на рыпучы ложак — даглядаць недагледжаныя сны.

Спытаўшы ў кансьержкі — дзе тут інтэрнэт-кавярня? — Сазон выйшаў са «Смаленска» і памружыўся на сонца. Даўно трэба было павесіць на «Фэйсбуку» свой здымак і патэліць у Калодзішчы, але з-за п'янкі анічога не зрабіў. Леваруч ляснуўся на асфальт кавалачак тынку. Сазон зірнуў угору. На верхатуры, атабарыўшыся на вузкім гзымсе, грувасціліся, пагрозліва пагляваючы на далягляд, два гіпсавыя будаўнікі камунізму. Можна сабе ўявіць — што будзе, як абрынуцца долу. Уабраўшы голаў у плечы, Сазон перабег дарогу.

Помнік стаяў у цэнтры невялічкага, атачонага дрэвамі пляца. На гранітным пастаменце сядзелі бронзавы паэт Аляксандр Твардоўскі і ягоны паэтычны герой Васіль Цёркін. Пры гэтым на паэта быў накінуты шынель, а герой трымаў на каленях гармонік-трохрадку. Сазон падышоў да пастамента і толькі тады ўгледзеў, што вакол, на бетонных прыступках, покатам ляжалі неахайнага выгляду тыпусы.

Ён вырашыў хуценька прамінуць сквер, але дарогу заступіў рудавалосы маладзён.

— Эй, мужык, пазыч пару рваных…

Сазон крутнуўся на абцасах, рушыў у іншы бок і адчуў жалезны спохват вышэй локця. Сазон тузануўся, спрабуючы вызваліцца, і пачуў суворы бас:

— Стайа-ць…

Пальцы машынальна крануліся грудзіны — таго месца, дзе пукаціліся загорнутыя ў поліэтылен даляры і фотаапарат. Трымаў яго ўкормлены, з кулакамі штангіста, мацак.

— Вікенцій! — пачулася з-за спіны.

З вясёлым жахам і апошняй надзеяй Сазон азірнуўся. Нейкая старая цётка ішла па скверы, махаючы пустой торбай. Спачатку падумаў, што кабета звяртаецца да штангіста, але тая, падышоўшы, схапіла Сазона за рукаво.

— Пусці, чаго ўчапіўся, — крыкнула мацаку. — Гэта Вікенцій, мой швагер.

Трымаючы, як малога свавольніка, за локаць, цётухна завяла Сазона на другі канец сквера.

— Я не Вікенцій, — Сазон заклапочана абабіў рукавы.

— У мяне швагер Вікенцій. У Краснадары жыве. Вы на яго дужа падобны. Таму так і назвала. Відаць, нетутэйшы? Нашы сюды не ходзяць. Тут наркаманы збіраюцца, песні пад гітару гарлаюць. Яны і пабіць могуць, і грошы адабраць. Не так даўно міліцыя прыязджала — каго пахапала, хто збег. Тыдзень цішыня стаяла. Цяперака зноў сабраліся. Надоечы іду, гляджу, учапіліся ў мужчыну. Невялічкага расточку такі, паголены…

Слухаць цётухну не было ахвоты.

— А дзе ў вас бліжэйшая пошта? — перабіў суразмоўніцу Сазон, — хачу брату пазваніць.

— А ў вас што, няма мабільніка?

— Ёсць! Акумулятар сеў.

— А вы адкуль прыехалі? — з ноткамі незадавальнення спытала цётухна.

— З Беларусі, — прабурчаў Сазон.

Небарака ўжо збіраўся напрасіцца да выратавальніцы на пастой, але незадаволены голас кабеты перакрэсліў такія планы. Ды і падазрона гэта будзе выглядаць. Падумае, што нейкі злодзей. Скраў нешта ці забіў каго, а цяпер хоча прыхавацца.

— Прыехаў легкавік у аднаго знаёмага набыць, а той знянацку з'ехаў. У панядзелак вернецца. Не падавацца ж дахаты. Зайшоў у гасцініцу, а месцаў няма.

— Во дзіва! — уражана азвалася цётухна, — а я чула, пустая стаіць.

— Ды спартоўцаў панаехала. Тры паверхі занялі, — Сазон роблена ўздыхнуў.

— А пашпарт у вас ёсць? — у голас суразмоўніцы нарадзілася суворая інтанацыя.

— Ляжыць у кішэні.

— А вы так і прыехалі… без нічога ніякага?

— Сумку з рэчамі на вакзале пакінуў, у багажні.

Цётухна акінула яго патрабавальным позіркам, і Сазон прыкрыў далонню няголеную сківіцу.

— Ладна, пайшлі, хоць гарбатай вас пачастую. Ды мабільнік зарадзіце. Толькі мне трэба ў краму зайсці.

Цётка надзвычай хутка як для свайго ўзросту пашыбавала ў краму, і Сазон кінуўся следам, зыркаючы на пахілую спіну і натхнёна паціраючы рукі. Цётухне было пад семдзесят, але выглядала яшчэ даволі ўвішнай.

У саксафаніста не хапала баксаў, і той часткова расплаціўся расейскімі рублямі. Так што ў кішэні храбусцела «капуста», і Сазон, прайшоўшыся ўздоўж крамных паліц, напакаваў харчамі аж тры пакеты.

— Жыву адна. Дакладней, з дачкой. Галя мая ў Вязьме вучыцца, у політэхнікуме. На выхадныя прыязджае. Так што можаце жыць да пятніцы, — Зіна, так звалі цётухну, балбатала несупынна, усё так жа борзда шыбуючы па ходніку і махаючы ў такт хадзе кардонкай з тортам.

Пералічыўшы ўсіх сваіх родных, жывых і памерлых, Зіна паведаміла, што да самой пенсіі працавала на тутэйшым ільнокамбінаце, які надоечы загавеў душой.

— Прыязджаў міністр сельскай гаспадаркі ў Смаленск, сустракаўся з камбінатаўцамі, дык людзі пыталіся: «Чаму сыравіны няма? Чаму кінулі лён вырошчваць?» — а міністр сказаў, што льнаводства — справа нерэнтабельная. У іх толькі нафту пампаваць рэнтабельна. Напампуюць, прададуць і грошы міжсобку падзеляць.

Каля старога, даваеннай пабудовы дома суразмоўніца прыцішыла хаду:

— Хто пацікавіцца — скажаце, што вы мой швагер з Краснадара. А то суседкі любяць языкамі абмывацца. Вунь, бачыце, сіняя лаўка ля ўваходу? Спачатку я зайду, а хвілін праз пяць вы заходзьце. Дваццаць пятая кватэра.

Двухпакаёўка, у якую Сазон увайшоў, уражвала сваёй высокай столлю і даўгім калідорам. Распакаваўшы з дапамогай гаспадыні прысмакі, госць прайшоў у святліцу і ўражана прысвіснуў. У куце, на стале-кніжцы, стаяў камп’ютар з пляскатым маніторам. «Даччын», — патлумачыла гаспадыня, і госць, спытаўшы — ці можна пакарыстацца? — падсеў да стала. На шчасце, на задняй панелі быў уторкнуты шнур для злучэння з фотаапаратам. Сазон падключыў «мыльніцу», знайшоў патрэбны здымак — той самы, дзе ён стаяў, абапёршыся на легкавушку, а за спінай грувасцілася гасцініца «Смаленск». Пабачыўшы нумары на бамперы, Сазон уздыхнуў. Шкада было машыны. «Аўдзі». Амаль нулёвая. Рухавік і сапраўды працаваў бездакорна. Без груку і стуку. Пачухаўшы няголеную шчаку, Сазон задумаўся. Што б такое напісаць пад фоткай? Урэшце напісаў лапідарна: «Бывай, Смаленск! Еду дахаты!» — і павесіў здымак на сваю старонку ў «Фэйсбуку».

Поліэтыленавы корак шпокнуў, крыху не даляцеўшы да столі. Шампан пеніста вырваўся з бутэльчыны.

Пасля трэцяга келіха Сазон адкінуўся на спінку крэсла і задаволена адрыгнуў: «шампунь» патыхаў гнілымі яблыкамі. Яму раптам усё наўкол пачало падабацца: і чэзлая герань на падаконні, і прыцемная, старой планіроўкі кватэра, і яе гаспадыня — фарбаваная хной, крыху пахілая, але не такая ўжо і старая кабета. Гаспадыня хоць і была старэйшая ад яго гадоў

на дваццаць, аднак грудзі яшчэ не ўсохлі, і яна іх урачыста ўсперла на край стала. Язык у Зіны быў як тая ляшчотка. Не сунімаўся ні на хвілю. Нават глытаючы шампан, спрабавала расказваць пра суседку па лецішчы, ад чаго папярхнулася і госцю давялося ўстаць і ляпнуць балаболку па спіне. Думаў, сунімецца, але куды там! Кабета, як глушэц на такавішчы, захоплена апавядала пра нейкую Маркудзіху, якая водзіць да сябе мужыкоў.

— Летась у Трускавец ездзіла. Хвалілася, што за дваццаць адзін дзень аж траіх змяніла. Плявузгала, да яе лётчык-выпрабавальнік плішчыўся. Пытаюся, і колькі ж яму гадкоў, таму выпрабавальніку? Спачатку не сказала, а потым прызналася: семдзясят пяць!

«Адно кепска — у пятніцу давядзецца адсюль выбірацца, — падумаў Сазон, утаропіўшыся ў столь, — трэба двятры дні недзе збавіць».

— Што ж вы не закусваеце? — гаспадыня падсунула талерку з сухой каўбасой, і госць, нібыта згадаўшы пра нешта важнае, падняўся з крэсла:

— Сумку з вакзала прынясу.

— Заўтра прынесяце. Яшчэ ж не дапілі — не даелі! — з інтанацыяй лёгкай панікі пралепятала Зіна, паспрабавала, як мацак у скверы, схапіць кватаранта за рукаво, але той, гукнуўшы «Я вомігам!» — рушыў да дзвярэй.

Убіўшыся ў свой нумар, Сазон мелькам зірнуў у люстэрка, якое вісела на дзверцах шафы, і нават не пазнаў сябе. Твар пакрывала зямлістага колеру шчэць.

Суседскі ложак быў шчыгульна засланы. Цёзка, падобна, ужо з’ехаў дахаты, так і не вярнуўшы доўг.

Сазон дастаў з дарожнай сумкі поліэтыленавую торбу, пхнуў у яе брудныя майткі з кашуляй, цюбік зубной пасты са шчоткай, нататнік з укладзенымі між старонак беларускімі грашыма, кінуў торбу на стол і падаўся з нумара.

…Зіна паўстала на парозе ў даўжэзным, размаляваным залатымі кітайскімі цмокамі халаце.

Кватарант прайшоўся ў кухню, выцягнуў з сумкі пляшку белага віна і тоўстую «Кнігу ўліку».

— Купіў у шапіку, — паведаміў, перахапіўшы цікаўны позірк.

— Вы кладаўшчык?

— Я незалежны журналіст, — з крыўдай буркнуў Сазон, — буду пісаць крымінальны нарыс.

— Дачка казала, журналісты і пісьменнікі на камп'ютары тэксты набіраюць, — нос Сазонавы крануў густы пах парфумы.

— Тут асаблівы выпадак, — задуменна прамармытаў незалежны журналіст, патрос узнятым пальцам і ледзь чутна дадаў: — А назаву нарыс так: «У смаленскім палоне».

Праз гадзіну ён сядзеў у святліцы і не зусім цвярозымі вачыма — выпілі з Зінай пляшку віна — пaглядаў на высокую столь. Першы сказ ніяк не атрымліваўся. Відаць, таму, што прызвычаіўся пісаць, б'ючы пальцамі па «клаве» і пазіраючы на манітор. Цяпер жа пальцы трымалі асадку, а пад носам шарэлі густа разлінаваныя старонкі. Ён стаў неадрыўна глядзець на іх, а калі лінаркі забрынілі ўваччу, падхапіўся на ногі і разважлівым крокам прайшоўся з канца ў канец пакоя. Думкі блыталіся. Чамусьці падумалася, што сёлета будзе грыбны год і ён паедзе да брата ў грыбы, і тут жа нечакана спыніўся і ўголас прашаптаў: «Смаленск сустрэў дажджом-грыбасеем…»

Смаленск сустрэў дажджом-грыбасеем, размытымі плямамі мінакоў, што краталіся за ветравым шклом, пакручастымі вуліцамі, невыразнымі контурамі старадаўніх крапасных муроў, гмахам сабора і мокрымі дрэвамі, якія панылa стаялі на тле пашарпаных, даўно не рамантаваных будынкаў.

Калі нехта пацікавіцца — які нячысцік занёс у той горад? — адкажу: там павінна была рэалізавацца галоўная мара жыцця. Хтосьці марыць займець яхту, хтосьці прагне набыць лецішча на беразе акіяну, сёй-той жыве лятункамі аб багатай чужаземнай жонцы, я ж мару стварыць грамадска-палітыч-

ную газету, якая б завітала ў кожны дом. Паколькі друкаваць на радзіме не выпадала, я і паехаў да смаленскіх друкароў, балазе першы нумар ужо быў падрыхтаваны.

Хацеў адразу ж ехаць у друкарню, заплаціць за наклад, але тут жа падумаў, што варта спыніцца ў гатэлі. Памыцца, пагаліцца і наогул прывесці сябе ў парадак.

Я даў кругаля па разлеглым пляцы, маракуючы — куды павярнуць, — і злавіў краем вока надпіс «Смаленск» на франтоне нехлямяжай, пабудаванай, відаць, яшчэ да вайны споруды.

У вялізным, як тая спартовая зала, гасцінічным фае пранізліва пахла цвіллю.

«Штосьці ў вас не надта ўтульна», — пажартаваў, выцягваючы з кішэні пашпарт. У рэцэпцыі сядзелі дзве маладыя жанчыны.

«Каторы год капітальны рамонт абяцаюць, ды ўсё не атрымліваецца, — з уздыхам прамовіла адна з іх і, акінуўшы мяне цікаўным позіркам, правяла пальцам па старонцы журнала рэгістрацыі. «Паслухайце, вы ўжо афармляліся», — з інтанацыяй лёгкага спалоху пралепятала кансьержка.

«Відаць, засяліўся яшчэ адзін Прыходзька, цёзка па прозвішчы», — падумалася той хвіляй.

Пакуль запаўняў анкету, даведаўся сёе-тое пра цёзку. Хаця кансьержкі і гаманілі напаўголасу, аднак абрыўкі размовы даляцелі да вушэй. Цёзка, як высветлілася, пасяліўся ў люксе, хадзіў з целаахоўнікам і збіраўся будаваць у Смаленску гандлёвы цэнтр.

Падняўшыся ў свой нумар, перш-наперш зірнуў у вакно. За ім зелянеў невялічкі сквер, і порсткі ветрык, які прыйшоў на змену грыбасею, шарай рабізною прабягаў па плыткіх лужынах і стоена шамацеў у шатах разложыстых ліп. Пасярод скверу стаяў помнік. У прасвеце між галін быў бачны край пастамента і бронзавая рука.

Пагаліўшыся і пачапіўшы гальштук — я іх не люблю насіць, ды сітуацыя вымагала мець прыстойны выгляд, — няспешна спусціўся ў хол. Душа прасіла песні. Не ведаю

нават, чаму. Гэта была радасць чалавека, які адолеў вялікую дарогу і знайшоў, урэшце, прытулак.

Легкавік стаяў на другім баку пляца, і перад тым, як у яго сесці, папрасіў мінака сфатаграфаваць мяне на тле гасцініцы. Тут жа, непадалёку, месцілася інтэрнэт-кавярня, куды забег, каб павесіць на «Фэйсбуку» здымак — прывітанне сябрам са Смаленска.

Паставіўшы тлустую кропку, Сазон асавела пазяхнуў, прачытаў апошні абзац. Ад тэксту патыхала газетчынай. Зрэшты, не бяда. Бо калі дадаць мастацкасці, знікне праўдападобнасць. Тут патрэбны рэпартажны стыль.

За вакном панаваў прыцемак, і вусны чарговым разам скрывіў позех. Мінулай ночы сусед-храпун не даў выспацца, таму і даводзілася штохвіліны пазяхаць.

Гаспадыня паслала яму на тахце, а сама ўжо даўно спала за сценкай. А можа і не спала, а ляжала без сну, бо з суседняга пакою раз-пораз далятталі цяжкія ўздыхі.

Сазон пайшоў спраўляць малую патрэбу і са здзіўленнем убачыў, што дзверы спальні расчыненыя. Праходзячы міма, цішком зазірнуў у дзвярную пройму. Гаспадыня ляжала тварам да сценкі, і голая спіна квола свяцілася ў прыцемку. Праўда, крумянкі і ногі былі накрытыя прасцінай.

Пазіраючы на жвавы струмок, Сазон паскроб шчэць на падбародку. Гаспадыня, відавочна, чакала, што ён здзярэ з яе прасціну. Але Зіна зусім не натхняла. Старая, гарбатая… Ды і спаць хацелася. Ужо і вочы пачыналі гарэць — быццам у іх сыпанулі жвіру. Выдыхнуўшы кароткае, па-ленінску рашучае слова «Спаць!», ён выслізнуў з прыбіральні і зноўку зазірнуў у спальню. Гаспадыня ляжала ў той жа паставе, але на ёй не было прасціны. Пастаялец налёг плечуком на вушак, з лёгкай гідлівасцю пачухаў ніз жывата і пайшоў прымаць душ.

Наступнай раніцы Сазон пачуваў сябе разбітым. Нават падлога плыла пад нагамі. Ноччу кабета прызналася, што ад самага разводу не ведала мужчын, і цяпер вырашыла адыграцца на ім за ўвесь недарэчна змарнаваны час.

Зіна завіхалася ў кухні — мыла посуд, грукацела патэльнямі, спявала песні з рэпертуару Філіпа Кіркорава, — і не давала засяродзіцца на тэксце.

Сазон здолеў напісаць толькі пару слоў. Далей пісаніна не ішла. Час ад часу ён выходзіў у інтэрнэт на сваю фэйсбучную старонку, паглядзець — ці паставіў хто падабайку пад ягоным смаленскім здымкам. Падабаек ніхто не ставіў, і Сазон, аблаяўшы ў душы сяброў, жывасілам стаў вадзіць асадкай па паперы і, дзіўная рэч, думкі — паволі, як старыя жорны, — заварушыліся ў галаве, і словы, як у таго Пушкіна, свабодна пацяклі.

Я націснуў понаж газу, паехаў на разварот і ўбачыў той самы помнік, якім зацікавіўся ад ранку.

«Зірну — каго там смалякі ўшанавалі», — з гэтай думкай спыніў машыну.

Яшчэ здалёк зразумеў, што гэта помнік тутэйшаму паэту Твардоўскаму і яго літаратурнаму герою Цёркіну. Падышоў бліжэй і пачуў шаргатлівыя крокі за спінай.

— Грамадзянін Прыходзька?

З вясёлым жахам азірнуўся. За спінай стаялі два мацакі ў аднолькавых брызентавых штармоўках. Адзін быў высокі, з разлеглым плехам на галаве і ў цёмных акулярах. Другі нізенькі, з шызым носам і ліловымі прышчамі на твары.

— Федэральная служба бяспекі, — пагрозліва прасіпеў лысы. — Ідзіце за намі.

Фээсбэшнік павярнуўся, рушыў у той бок, дзе была мая машына. Я, аднак, стаяў як скамянелы, і калі недаростак тыцнуў, даволі балюча, пальцамі ў драбы, пасунуўся на ватных нагах за лысым чэкістам.

У галаве чорнай віхурай віравалі адчайдушныя думкі, і адно пытанне не давала спакою: на якую халеру я спатрэбіўся Федэральнай службе бяспекі? Магчыма, маё затрыманне было звязана з газетай? Але ж яна яшчэ не пабачыла свет.

— Сядай, — груба прамовіў з-за спіны прышчавы недаростак, і калі я адчыніў дзверцы, гэтак жа груба схапіў за рукаво: — Не за стырно, побач сядай.

За стырно сеў лысы, а напарнік плюхнуўся на задняе сядзенне. Не паспелі грукнуць дзверцамі, як фээсбэшнікі спрытна, у чатыры рукі пачалі мяне шманаць. Выцягнулі пашпарт, грошы, розную драбязу, і па тых прафесійных рухах я зразумеў: гэта не чэкісты, а бандосы.

Пляшак, які выглядаў за старэйшага, разгарнуў пашпарт.

— Той? — запытаўся недаростак.

— Той… Прыходзька, — кіўнуў пляшак, вывучаючы мой фотаздымак. — З Беларусі. А казалі, што з Урала.

— Галоўнае, лапцевозам прыкідваецца. І тачка «Аўдзі», і нумар у гатэлі на дваіх, — азваўся недаростак і стаў лічыць рэквізаваныя грошы.

Мы на вялікай хуткасці праехалі міма сабора, завярнулі ў правулак, і за шыбамі замільгацелі пашарпаныя жоўтыя будынкі. Я спрабаваў запомніць дарогу, таму зацкавана зыркаў на бакі, і нечакана ўсё навокал панурылася ў цемру. Недаростак накінуў мне на галаў мяшок. Я паспрабаваў яго скінуць, але, зазнаўшы кухталя па карку, абмяк і заплюшчыў павекі.

Пляшак гнаў на ўсю жалезку. Спачатку машына ехала па асфальце, потым пад коламі зашамацеў жвір і стала трэсці на калдабанах.

«Куды мы едзем?» — круцілася ў глуздах. На добры лад бандосы павінны былі адабраць грошы, выпхнуць з машыны і знікнуць. Але ж не… вязуць кудысьці.

Машына, тарганууўшыся на астачу, спынілася. Мяне выцягнулі з салона. Я памкнуўся зняць з галавы мяшок, бо задыхаўся без паветра, і атрымаў удар пад дых. І толькі калі спускаліся па прыступках, недаростак каротка працадзіў:

— Здымай.

Вышчарбленыя бетонныя сходы вялі ў падвал. У цёмным прадонні пляшак доўга кешкаўся, адчыняючы замок, потым схапіў мяне за каршэнь і ўпіхнуў у прасмярдзелы мачой катух. Пад самай столлю ліпела кволым святлом закратаванае вакенца, і ў гэтым святле можна было ўгледзець падзёрты сяннік ля дальняй сценкі ды пакарабачанае вядро ля ўваходу.

— Пасядзі, дзеля пачатку, без вады і едзіва. А заўтра раніцай пагамонім, — сказаў, як адрэзаў, пляшывы бандос.

На імгненне я застыў, ачмурэлы, а калі ачомаўся, абедзвюма рукамі грукнуў у дзверы:

— Слухайце, тут нейкая памылка!

За дзвярыма пачулася шаргаценне, штосьці грукнула, мая машына ціха загула, і ўсё аціхла. Толькі цяпер уцяміў — з кім канкрэтна пераблыталі. Ну вядома, з цёзкам, што збіраўся будаваць у Смаленску гандлёвы цэнтр і жыў у люксавых апартаментах.

Пад нагою спалохана бразнула і пакацілася пустая бляшанка — сведчанне таго, што я быў не першым, хто сядзеў у гэтым страшным катуху. Колькі часу зацкавана сноўдаў ад адной сцяны да другой, потым, стаўшы на перакуленае вядро, дацягнуўся да кратаў, падцягнуўся, зазірнуў у запыленае ваконца і ўгледзеў крушню бітай цэглы ды жмут пакарабачанай арматуры. Гэта было закінутае прадпрыемства.

— Сазо-ончы-ык! — крыкнула з кухні Зінаіда, — снядана на стале-э!

Сазон роспачна, да храбусцення ў костках, пацягнуўся і ўскочыў з крэсла. Пасля вар'яцкай ночы незалежнага журналіста апанавала страшная жадаедзь.

Зінаіда зварыла боршч. Задаволена хукнуўшы, пастаялец намазаў на хлебную скібу слой гарчыцы, сёрбнуў гарачага баршчэўскага і ўхвальна павёў нюхаўкай.

— А ты ж парываўся брату званіць. Мабільнік даўно зарадзіўся, — Зінаіда закаханымі вачамі пазірала на пастаяльца.

— Уфф! — адказаў на тое пастаялец, змахнуўшы няпрошаную слязіну, — гарчыца займала дух.

Ён і папраўдзе дамовіўся з братанам, што дзынкне з тэлефоннай станцыі і скажа — калі паведаміць пра ягонае, Сазонава, знікненне, але замітусіўся і не патэлефанаваў. Тэліць жа з мабільніка не хацелася. Тэлефон, як ён меркаваў, праслухоўваўся.

Агораўшы талерку баршчу і патэльню яечні з кавалкамі вэнджанай каўбасы, Сазон вярнуўся ў святліцу, узяў мабільнік і, не набіраючы нумару, у адключаным рэжыме гракнуў:

— Прывітанне, братан!

Гучна, каб чула гаспадыня, распавёў адключанай мабіле, што затрымаўся ў Смаленску, бо чалавек, які прадае легкавік, з’явіцца толькі ў панядзелак. Скончыўшы маналог, Сазон сеў да камп’ютара.

Першым у калонцы навінаў стаяла набранае вялікімі літарамі паведамленне: «Другі дзень не выходзіць на сувязь вядомы журналіст Сазон Прыходзька! Аб яго знікненні паведаміў родны брат, які жыве ў Калодзішчах. Напярэдадні журналіст выехаў у Смаленск па рэдакцыйных справах і абяцаў вярнуцца ў аўторак. На сувязь з роднымі ён, аднак, не выйшаў, а мабільны тэлефон зніклага адключаны». Пад паведамленнем меўся допіс ягонага калегі Мадэста Касачэні: «Са смаленскімі жанчынамі заваждаўся».

— Сволач! — выдыхнуў Сазон, збіраючыся годна адказаць калегу, але згадаў, што зараз знаходзіцца ў бетонным катуху, а адтуль у «Фэйсбук» не выйдзеш.

Жартун Касачэня перабіваўся дробнымі грантамі і таксама пісаў заяўку на арганізацыю агульнарэспубліканскай дэмакратычнай газеты, але грант далі Сазону, і калега хаця і не падаваў выгляду і пры стрэчах радасна раскрыльваў рукі, усё ж такі затаіў крыўду.

Знерваваны, Сазон зайшоў у кухню, папрасіў яшчэ баршчу, выпіў дзве шклянкі кампоту з рэвенем, і зноў падаўся да стала. Гэтым разам яго чакала новая вестка: «Як паведамілі ў дзяжурнай частцы Смаленскай управы Міністэрства ўнутраных спраў, грамадзянін Прыходзька С. П. супрацоўнікамі міліцыі не затрымліваўся. У дадзены момант брат зніклага журналіста абзваньвае гарадскія гатэлі з мэтаю даведацца — ці спыняўся ў іх Сазон Прыходзька. Нагадаем: апошні раз журналіст даў аб сабе знак у сераду, змясціўшы здымак у “Фэйсбуку”». Ніжэй бег Касачэневы допіс: «Ці захаваліся ў Смаленску выцвярэзнікі? Калі захаваліся — хай туды патэляць».

— Ну і сволач, — удругарадзь выдыхнуў Сазон і выключыў камп’ютар.

На краю стала тулілася, чакаючы, калі яе возьмуць у рукі, «Кніга ўліку». Сазон падхапіў кнігу, адгарнуў колькі старонак, па старой завядзёнцы пачухаў падбароддзе. Прыспела пара напісаць пра пачуцці, якія яго апанавалі, калі ляжаў, тыцнуўшыся носам у смярдзючы сяннік, ды не было адпаведнага настрою. Урэшце вырашыў «лірычныя мясціны» дапісаць пазней.

Заснуў пад раніцу, і ў сне адчуваў холад бетоннай падлогі, які тачыўся скрозь ліхенькі сяннік. Гэта быў нават не сон, а нейкая каламутная віхура з калейдаскопам карцінак мінулага дня. Прымроіўся бронзавы Цёркін, бандос у цёмных акулярах, гасцінічны пакой і спавітыя шызай імглой крапасныя муры.

Падалося, што нехта тыцнуў у плячо, і я прачнуўся. Страшэнна хацелася піць. Да вушэй даляцелі няўцямныя галасы, і жалезныя дзверы са стоеным рыпеннем разнасцежыліся.

— Устаць! — па-вайсковаму ўладна выгукнулі ад парогу.

У дзвярной пройме пазначыліся тры постаці.

Зыркае святло ліхтара асляпіла вочы, і давялося прыкрыць іх далонню.

— Рукі па швах! — гукнуў прышчавы недаростак.

Святло папаўзло да чэрава і патухла.

Тройца падалася да выхаду, і я падбег да дзвярэй.

— Каго вы прывезлі? — з выразным каўказскім акцэнтам запыталіся за дзвярыма. — Гэта не ён!

— Вы ж самі загадалі: узяць Прыходзьку… са «Смаленска», — адказалі з інтанацыяй пакрыўджанага дзіцяці, і я пазнаў па голасе плешака.

— Прыхо-одзька, — передражніў каўказец і стаў падымацца па прыступках.

— А з гэтым што рабіць? — спытаў недаростак.

Я стаіў дых, прачыніў дзверы, але нічога больш не пачуў — бандосы зашоргалі падэшвамі і выйшлі на двор.

Сэрца парыўна забілася ад адчування, што надарылася памылка і мяне адпусцяць, магчыма, вернуць машыну…

Знянацку ў катух уваліліся пляшак з напарнікам. Пляшак быў без сонечным акуляраў, бо панавала цемра і ён не прыхоўваў твару.

— Ну што, чувак… тэлефануй родным і блізкім, хай вязуць дзесяць тысяч бакінскіх… камісараў. Прывязуць — і ты вольны… Няма бабак — хай пазычаюць, кватэру прадаюць, але дзесяць лямаў павінны быць тут не пазней наступнай нядзелі.

За сценкай абудзіўся мабільнік. «Галь… ты?» — з гатовай радасцю крыкнула гаспадыня. Званіла дачка. З падслуханай размовы стала зразумела, што Галя прыедзе заўтра а восьмай вечара.

«Яно і добра, — Сазон, ускудлаціўшы валасы на патыліцы, — яшчэ пару такіх начовак — і вечкам накрыюся». Мінулай ночы, дарэшты змораны, ён накрыў галаву падушкай, здушана прасіў гадзінку паспаць, ды юрлівая пенсіянерка і слухаць не хацела. Навалілася ўсім целам і пыталася: «Табе са мной прыемна?» Сазон вырашыў заўтра па абедзе сесці ў «дызель», заехаць у які раённы горад і атабарыцца ў якім «доме калгасніка».

Пакуль Зінаіда размаўляла з дачкой, Сазон мелькам прагнаў стужку навінаў на «Фэйсбуку». Пад ягоным здымкам месцілася новае паведамленне.

«Трэція содні няма ніякіх звестак пра журналіста Сазона Прыходзьку. Прыехаўшы ў Смаленск, ён пасяліўся ў гатэлі з аднайменнай назвай, заплаціўшы за два дні пражывання. Адміністрацыя гатэлю паведаміла, што ў нумары знойдзены асабістыя рэчы Прыходзькі, запісная кніжка і 500 тысяч беларускіх рублёў». Пад зацемкай беглі даўгім слупком штук дваццаць водгукаў. Пісалі пра тое, што трэба ехаць у Смаленск і распачынаць пошукі на месцы знікнення, падключыўшы да гэтай справы міліцыю. Касачэня гэтым разам нічога не напісаў. Затое напісала Мадэстава стрыечная сястра — паэтка Марыля Лабагрэйка. Яна папярэджвала: непраўдзівыя заявы аб знікненні могуць каштаваць заяўнікам

вялікіх штрафаў. Марыля тая была дзеўкай прыгожай і разумнай. Сазон пасля разводу з жонкай спрабаваў да яе падкочвацца, але паэтка з тых залётаў толькі пасмяялася.

— Давядзецца нам, каханы, на дзянёк развітацца, — з салодкай інтанацыяй выдала Зінаіда, увайшоўшы ў святліцу і прыціснулася шчакой да Сазонавай шыі. — Завязу цябе на лецішча. А сама вярнуся, як дачку сустрэну. Давядзецца ночку аднаму прабавіць. Будзеш па мне сумаваць?

— Сучка! — прасіпеў Сазон, не адрываючы вачэй ад манітора.

Зінаіда пужліва адхінулася.

— Гэта не табе, — пастаялец з адчаем ускудлаціў валасы. — Выглядала, што ён не чуў Зінчыных слоў.

— Кажу — заўтра на лецішча цябе завязу, а сама ў горад вярнуся. Будзеш без мяне сумаваць?

— А як жа! — у прадчуванні, што хутка выспіцца дасхочу, ды яшчэ на свежым паветры, Сазон падскочыў на крэсле.

Пастаяльцу ўжо зараз карцела дыхнуць свежага паветра, бо два дні адседзеў у хаце, таму і прапанаваў гаспадыні прайсціся па горадзе.

— Прайсціся?.. — Зінаіда дакорліва кіўнула, — пад ручку?.. Каб суседзі ад пят да макаўкі абмывалі?

— Ну тады я адзін прайдуся, — Сазон паспрабаваў устаць, але гаспадыня затрымала пастаяльца:

— Пачакай.

Кабета выйшла на гаўбец, звесілася праз поручні.

— Сядзяць, падлюгі!

— Хто?

— Хто-хто… суседкі ля пад’езда. Адразу вылічаць, што ты ад мяне выкуліўся.

Зінаіда пайшла ў калідор і, стаўшы на кукішкі, пачала поркацца ў кладоўцы. Нарэшце выцягнула ржавы газавы ключ.

— Ад мужа застаўся. Выйдзеш з ім — падумаюць, сантэхнік прыходзіў.

Надаўшы твару заклапочаную гімору, з газавым ключом на плячы, Сазон выйшаў з пад’езда. Чатыры старыя коргі, якія сядзелі на лавах, працялі незнаёмца дапытлівымі позіркамі.

— Ці не ў Зінкі трубу прарвала? — прашамкала адна з коргаў, і «сантэхнік» прыспешыў крок.

Завярнуўшы за рог дома, Сазон пхнуў газавы ключ у торбу і вылаяўся: хадзіць па горадзе з цяжкой жалязякай не дужа прыемна.

Спачатку пайшоў да гасцініцы «Смаленск», але павярнуў у адваротны бок. Яго маглі шукаць, і варта было трымацца далей ад той мясціны.

Ногі занеслі ў цяністы, парослы векавымі ліпамі парк. У парку было вобмаль народу, тут вольна дыхалася, а ў канцы цяністых прысадаў тырчаў якісьці дзіўны помнік. Па залацістай цыбуліне на вяршаку здагадаўся, што гэта помнік вайне з Напалеонам.

«Дзіўна, — думаў Сазон, чытаючы прозвішчы царскіх генералаў на мармуровых плітах, — Смаленск зазнаў тыя ж войны, што і наш край, але тут захаваліся і цэрквы, і помнікі, а ў нас усё спляжылі».

Ён сеў на паркавую лаўку, пацягнуўся і стаў думаць пра іншае — як скончыць «дакументальны» аповед. Ці то бандосы мусяць яго адпусціць, ці то ён павінен збегчы. Другі варыянт быў больш рамантычны. Але ж якім чынам абставіць уцёкі? Нічагуткі вартага ў галаў не прыходзіла. Сазон абапёрся на прыслон лаўкі, прытуліў шчаку на далоні. Думкі пачалі блытацца, ператварацца ў туманнае мроіва, у глыбіні якога гучалі далёкія галасы. Сярод замарачнага пошуму хтосьці пагрозліва выгукнуў: «Спім?» — і Сазон размежыў павекі.

Перад ім стаялі два міліцыянты.

— Дакументы ёсць?

На яго глядзелі з прафесійным утрапеннем, вызначаючы — п'яны ён ці цвярозы.

Сазон дастаў пашпарт.

— Да сябра прыехаў. А таго дома няма.

— І што, з адным развадным ключом прыехалі?

— Ключ на памыйніцы прыгледзеў. Я сантэхнікам працую.

Рудавалосы міліцыянт разгарнуў пашпарт, зірнуў на фотаздымак і са словамі: «Нельга спаць у парку», — вярнуў дакумент уладальніку.

Сазон тыцнуў пашпарт у кішэнь і адначас памацаў пачак даляраў, якімі расплаціўся саксафаніст. Спаць у парку і сапраўды не выпадала.

Паўдня ён бязмэтна блукаў па горадзе, а калі адвячоркам хацеў вяртацца «дахаты», доўга не мог знайсці Зінчынага дома. Нарэшце, ужо прыцемкам, убіўся на пастой і, не зняўшы пінжака, снапом паваліўся на тахту.

— Чаму не распрануўся? Уставай, я зараз пасцялю, — гаспадыня стала сцягваць з пастаяльца порткі, і той са слязамі на вачах прастагнаў:

— Зіна, я больш не магу.

У пятніцу па абедзе Сазон, з тварам шчаслівым і злёгку напужаным, пераступіў парог Зінінага лецішча — невялічкага драўлянага дамка з верандай.

Па дарозе на станцыю — ехалі на лецішча ў перапоўненым «дызелі» — Сазон набыў торбу харчоў і дзесяць бутэлек піва і не ведаў — куды ўсё паставіць.

— Давай сюды, — загадна прамовіла гаспадыня, адчыніўшы люк пасярэдзіне пакоя.

Сазон спусціўся па жалезных драбінах у падмосце і стаў прымаць бутэлькі, якія падавала Зіна.

— Магчыма, Маркудзіха прыцягнецца — мы паўз яе лецішча праходзілі, — дык скажаш, што ты Вікенцій, швагер мой, і што я прыеду ў нядзелю.

— Ладна, — буркнуў Сазон, вылазячы з падвала.

— Ды глядзі… не сваволь, — Зінаіда жартам хапанула пастаяльца ніжэй пупа і той, пужліва адскочыўшы, ледзь не зваліўся ў расчынены люк. — Маркудзіха яшчэ тая юрліўка… і на возе ляжала, і пад возам. Цяпер збіраецца замуж выходзіць… у пяты раз… за нейкага ўдмурта.

Выправадзіўшы гаспадыню, Сазон закаціў вочы на знак стомы ад Зінчынай балбатні і абрынуўся на ляжанку. Думаў — адразу ж засне, але тут раз за разам, то ў адно вуха то ў другое, пачалі біцца зумклівыя камары. Сазон выцяў па вуху далонню, пасля чаго камары палезлі не толькі ў вушы,

але і ў наздрыны. Бедачына з галавой пашыўся пад коўдру і стаў задыхацца. Урэшце накрыў галаву марляй, якую знайшоў пад падушкай і захроп, ды так гучна, што перапужаныя крывасмокі зляцелі з лецішча.

Абудзілі яго рыпенне маснічын і нечы ўражаны голас:

— Ну ты і храпеш!

Храпун ужо прачнуўся, але ніяк не мог развесці павекаў.

— Карацей, прыходзіць учора ўдмурт і прыносіць пачак вафляў «Чарнаморскія». Уяўляеш? Думаў, я за такі пачастунак аддавацца буду.

Сазон скінуў з твару марліну. Перад ім стаяла, вырачыўшы падмаляваныя зіркачы, грудастая жанчына.

— Ай, а хто тут?

— Вікенцій, швагра Зінчын, — паведаміў Сазон, праціраючы вочы.

— З Краснадара?

Сазон баднуў галавой.

— А дзе сама?

— Дачку сустракае.

Жанчына, відаць, гэта была Маркудзіха, хвіліну пастаяла, задала пару пытанняў, ды ўбачыўшы, што краснадарац накрыўся марляй, падалася ўпрочкі.

У горле сушыла, і самы раз было дастаць з падвала пляшку піва, але не даваў рады падняцца. Сазон крутнуўся на бок, затым лёг на чэрава. Сон не ішоў, і адно не давала спакою: як збегчы з палону? Потым падумаў, што сцэна з захопам паблізу помніка выглядае не надта праўдападобна. Калі б бандосы хацелі каго захапіць, дык, як у тых серыялах, уваліліся ў нумар, паказалі пісталет і вывелі з гатэлю. «Трэба гэтую мясціну перапісаць», — Сазон і ўявіў, як ён галіўся ў ваннай, і здрыгануўся ад гучнага стуку ў дзверы. У гэты момант, ужо не ў свядомасці, а наяве ў дзвярны вушак пастукалі.

— Заходзьце! — крыкнуў Сазон, з цяжкасцю вызваляючыся ад марлевай посцілкі.

На парозе паўстала тая самая грудастая жанчына.

— Вікенцій, у вас не знойдзецца агню? — госця трымала ў руцэ пачак цыгарэт.

Давялося ўстаць і пашукаць вачыма — дзе Зінаіда кладзе запалкі. Госця між тым плюхнулася на ляжанку, паварушыла азадкам, вызначаючы — ці мякка спаць. Запалкі, мяркуючы па яе паводзінам, былі нагодай пазнаёміцца з Зінчыным шваграм.

Кінуўшы шукаць запалкі, Сазон залез у падмосце, бразнуў пляшкамі «Клінскага».

Коркі ціха цокнулі аб падлогу, і з пляшак узняўся апетытны парок.

Яны сядзелі поруч на ляжанцы, прыкладваліся да бутэлечных рыльцаў і паглядалі адно на аднаго. Маркудзіха была гадоў на пяць-шэсць маладзейшая ад Зіны, мела крутыя сцёгны і важкія цыцкі. Сазону такія кабеты якраз падабаліся. Дапіўшы піва, ён асцярожна, аднымі пальцамі ўзяў госцю жа плечы і гэта жа асцярожна паклаў спінай на падушку.

…Сярод ночы пачуў — нехта грукнуў у шыбу.

— Сазон, ты з кім там?! Адчыняй!

Маркудзіха скацілася з ляжанкі, ліхаманкавым рухам стала нацягваць майткі.

— Які яшчэ Сазон? — дыхнула яна краснадарцу ў вуха.

— Хавайся! — прасіпеў той, узняўшы вечка люка.

Маркудзіха, павагаўшыся, палезла ў падмосце і, сарваўшыся з драбінаў, пляснулася вобзем.

— Чаму не адчыняў? Хто тут у цябе?! — Зінаіда, ускудлачая і ўсхваляваная, адкінула коўдру, патрабальна нюхнула паветра.

— Спаў… — пастаялец зайшоўся робленым позехам.

Пабачыўшы, што пастаялец адзін, гаспадыня перавяла дых.

— А я Галю накарміла, ды думаю — як ён там? Кінула ўсё і на спадарожнай «фуры» прыляцела. А ты, гляджу, і не рады?

— Суседка твая завітвала, — мовіў Сазон, ухіляючыся ад пацалунку, — штосьці ў яе здарылася.

— Маркудзіха? Ладна, заўтра ад ранку зайду, — Зінаіда сцягнула з плячэй кофту.

— Ды які ранак… прыбегла ўся расхлістаная, заплаканая. Ты да яе зазірнула б.

— Не хапала мне чужых праблем, — прабурчала Зінаіда, але тут жа выкулілася за парог.

— Вылазь хутчэй! Да цябе пабегла, — гукнуў, узняўшы люк, Сазон.

Маркудзіха хаця і нядоўга сядзела ў падвале, але дарэшты змерзла. Ляскатала зубамі і не магла вымавіць ні слова. Сазон спехам нацягнуў на небараку сукенку, прычым, задам наперад, рашуча выпхнуў госцю на двор. Схапіўшы ў ахапак мэтлахі, і сам збіраўся бегчы следам ды раптам спыніўся, выдзер з «Кнігі ўліку» старонку і неразборліва накрамзоліў: «Прабач!»

Ён бег у адных трусах па гародах, прадзіраўся скрозь кусты парэчак і агрэсту, і зусім не адчуваў холаду, хаця ноч выдарылася прахалоднай і роснай. Непадалёк брахалі сабакі, над кусце зацята каркала абуджаная варона, але Сазон нічога гэтага не чуў. Цяпер ён ведаў, як збяжыць з палону. Будзе выносіць вядро, на якое хадзіў уначы, недаростак, наставіўшы пісталет, рушыць следам, і калі пачнуць падымацца па сходах, уздзене вядро бандосу на кумпал ды кінецца на ўцёкі. Ён пабяжыць, віхляючы, як заяц, па будаўнічым друзе, і ля скроні злавесна свісне бандоская куля.

Неўзабаве Сазон адчуў пад нагамі асфальт і толькі тады заўважыў, што забыўся прыхапіць туфлі. Пастаяў крыху, зірнуў у той бок, адкуль бег, і, насунуўшы кашулю і порткі, разгоністай хадою рушыў па дарозе.

У рэсурсным цэнтры ладзілі чарговы семінар па пытаннях развіцця дэмакратыі. Пасля трох гадзін працы кіраўнік Мадэст Касачэня абвясціў кава-паўзу, і ўдзельнікі семінара пасунуліся да офіснага бойлера. Там завіхалася Мадэстава сястра Марыля Лабагрэйка. Налівала кіпень у пластмасавыя кубкі і выдавала кожнаму пакецік кавы і печыва «Слодыч». «Семінарысты» пачалі гамузам дзьмуць на каву, некаторыя ўжо сёрбнулі духмянай гарачыні ды так і застылі з вуснамі ля кубкаў. У памяшканне, зачапіўшыся карэлымі апоркамі на парог, уваліўся Сазон Прыходзька. Яго адразу не пазналі. Ды і як пазнаеш, калі ў небаракі запалі шчокі, вострыя скулы па-

крывала дзесяцідзённая шчэць, скура пацямнела, пад вачыма правіслі сіняватыя мяшкі, а вочы, што ў таго Фантамаса, чырванелі ад недасыпу. У дадатак да ўсяго на нагах журналіста былі кірзавыя боты з адрэзанымі халявамі. Сазон падабраў іх на сметніку каля Смаленскага вакзала.

Кіраўнік семінара падхапіў са стала «фоцік».

— Сазон, што з табой? — з няўклюдным спачуваннем мовіў Мадэст, пстрыкнуўшы «Ніканам».

— Усё адабралі — грошы, машыну… я пра гэта напішу, — ледзь чутна паведаміў Сазон, упаў у крэсла, і больш ад яго не пачулі ні слова.

Хтосьці працягнуў вялізную, паўметра дыяметрам, піцу, Сазон з азвярэннем стаў есці, не чуючы пытанняў, якія яму навыперадкі задавалі. Нехта прапанаваў давезці абрабаванага журналіста дадому, і Сазон, выпіўшы пяць кубкаў кавы, цяжка, з дапамогай сяброў, падняўся на ногі.

Не паспеў гаротнік выйсці з рэсурснага цэнтру, як пачалася гамэрня. «У міліцыю трэба пазваніць», — гарлалі адны. «Якая міліцыя… як ім растлумачыш — адкуль столькі бабак у беспрацоўнага журналіста?» — гарлалі з дальняга канца пакоя. «Сазон ужо адзін нумар падрыхтаваў, заставалася надрукаваць». «Ну надрукуеш ты газету. А як праз мяжу перавязеш? Сама міліцыя тачку і канфіскуе». «А ён што, у закладніках быў?» «А ты не бачыш? Спаць не давалі, сволачы, і туфлі знялі». «А хто яго дамаў?» «Як хто… смаленскія злодзеі». «Дык ён ад іх збег?» «Можа збег, а можа, адкупіўся». «Нельга было з такой сумай аднаму ехаць».

Паэтка Марыля Лабагрэйка тым часам выбілася з натоўпу шумна дыхаючых людзей і з юначым максімалізмам у голасе паведаміла:

— Танная інсцэніроўка.

— Якая інсцэніроўка? — гракнулі з дальняга канца залы.

— А такая… прадаў машыну, пасядзеў на лецішчы і сюды заявіўся. Вядома, зараз ніякіх справаздач па грантах пісаць не трэба. Усё спішацца, а сябры на новы абутак скінуцца.

Вэрхал усчаўся з яшчэ большым імпэтам. Аўдыторыя падзялілася на дзве прыкладна роўныя часткі. Адны казалі,

што на Сазона гэта падобна. Першым на гранты сеў, хату на іх пабудаваў, а цяпер пакутніка з сябе ўдае. «Вы на твар ягоны гляньце! Змучаны ўшчэнт. Тыдзень не спаў чалавек!», — гарлала нейкая кабета.

Мадэст Касачэня стукнуў асадкай па стале, заклікаючы калегаў суняцца, але тыя не сунімаліся. Некаторыя нават пачыналі валтузіцца. Кіраўнік семінара раскрыў планшэт, падключыўся да «Фэйсбука», вялікімі літарамі напісаў: «Сазон Прыходзька знайшоўся!» — і перакінуў з «Нікана» здымак зніклага небаракі. Сястра паклала яму руку на карак. Мадэст павярнуўся, лыпнуў веямі, маўляў, зірні… выглядае, Прыходзька і сапраўды трапіў да бандосаў. І сястра з крывой усмешкай страсянула кудзеркамі.

# ПАХ ГАРЭЛАГА ТОРФУ

Кудлаты дым, спароджаны высокім комінам, паўзе па небе, засціць ранішняе сонца, ператвараючы яго ў аблачыну ружовага святла. Васіль мружыцца на размыты сонечны дыск і зацята, усёй пяцярнёй, масіруе пераноссе. ТЭЦ, што стаіць на другім баку чыгуначнай лініі і неміласэрна дыміць, працуе на торфе, працінаючы наваколле агідным саладжавым смуродам. Дыміць яна стала нядаўна, з пачаткам ацяпляльнага сезону, і Васілю здаецца, што дымлівая спаруда зусім не ТЭЦ, а крэматорый, бо менавіта так пахнуць нябожчыкі.

Агідны пах адчуваецца нават ля рэдакцыі, і Васіль, ступіўшы на высокі ганак, чарговым разам крывіць нос.

Стол, як заўсёды, завалены паперамі. Хаця рэдактар і патрабуе хаваць паперы ў шуфляды стала, але патрабаванне тое ніхто не выконвае. Васіль плюхаецца на рыпучае крэсла, паныла глядзіць на спісаны нечытэльным почыркам нарыс пра рацыяналізатараў. На мінулым тыдні давялося два дні цягацца па заводзе гандлёвага машынабудавання: запісваць інтэрв’ю з галоўным інжынерам ды з заводскімі рацыяналізатарамі. «Намі быў прапанаваны новы спосаб апрацоўкі рэдуктара прамысловай мясарэзкі», — прачытаў Васіль апошні сказ учорашняй пісаніны і зноўку, як і на ганку, перакрывіў нос.

У калідоры затупалі, і ў кабінет уваліўся Казік Міклашэўскі.

— Чаго такі надзьмуты? — весела выдаў Казік, здымаючы з плячэй балонневую куртку.

Казік, як і Васіль, сёлета скончыў універсітэт. Вучыўся, праўда, не на жур-, а на гістфаку. Быў размеркаваны на пра-

цу ў вясковую школу, ды здолеў адмацавацца і ўбіцца ў газету. І не шараговым карэспандэнтам, як Васіль, а загадчыкам сельгасаддзела.

— Трэба артыкул здаваць у суботні нумар, а не магу двух слоў звязаць, — бурчыць Васіль.

Казік сядае на край стала — яны з Васілём працуюць у адным кабінеце, — закідвае ў рот цыгарэту.

— Мне б твае турботы, — загадчык сельгасаддзела чыркае запалкай, — рэдактар на раён пасылае, а ехаць няма на чым.

Васіль засяроджана чухае скронь.

— Ведаеш, што ў гэтым горадзе самае страшнае?

— Ну…

— Смурод з цэцаўскага коміна.

Казік зацягваецца цыгарэтай.

— Адразу бачна, што ты не жыў у вясковай хаце і не паліў торфабрыкет у печы, — загадчык аддзела хоча нешта сказаць, але дзверы прачыняюцца і Казік прыбірае азадак са стала.

У дзвярной пройме паўстае рэдактар і, зірнуўшы на Васіля, загадна ківае галавой.

Абмяняўшыся з Казікам наструненымі позіркамі, Васіль рушыць у рэдактарскі кабінет, з лёгкай трывогай маракуючы: з якой нагоды яго выклікаюць?

Рэдактар, Кандрат Усцінавіч Мачуля, які, дзякуючы сваім ініцыялам, займеў рэдакцыйную мянушку Кум, з робленай паслужлівасцю адчыніў дзверы кабінета і, галантна выкінуўшы руку, запрасіў заходзіць. Такія паводзіны шэфа яшчэ больш устрывожылі падначаленага. А калі, перад тым, як зачыніць дзверы, гаспадар кабінета выглянуў у калідор ды зыркнуў на два бакі, Васіль канчаткова заняпаў духам.

— Ну дык як ты, студэнт, ставішся да Суворава? — рэдактар меў звычку называць Васіля студэнтам.

— Якога Суворава?

— Ды якога… таго самага… Аляксандра Васільевіча, вялікага расейскага палкаводца.

Не ведаючы, што адказаць, Васіль торгнуў плячыма.

— Як і ўсе… з павагай.

Рэдактар сеў у крэсла, зморана ўздыхнуў.

— А што ты скажаш наконт таго, каб надаць гораду імя вялікага палкаводца?

— У сэнсе… Баранавічы назваць Суворавым?

— Менавіта, — рэдактар рыпнуў крэслам, — уяўляеш, на вакзале абвяшчаюць: «Дызель-цягнік Сувораў — Стоўбцы ад’едзе праз пяць хвілін». Гучыць?

Васіль уявіў «мацюгальнік» на гзымсе вакзала і моўчкі кіўнуў.

— А ты падлічыў, колькі грошай гэта будзе каштаваць? — спытаў знянацку Кум, прычым такім тонам, нібыта гэта Васіль сабраўся перайменоўваць горад. — Трэба памяняць усю дакументацыю, замяніць шыльды і пячаткі. А што рабіць з чыгуначнай станцыяй? Многія гарады свойчас перайменавалі, а назвы станцый пакінулі старыя, бо там пакуль на новы лад пераробіш, пасажырскі і таварны рух спыніцца.

Пасля такой тырады Кум ляпнуў далонню па стале — ды так гучна, што Васіль сцепануўся, — і загаварыў ужо іншым тонам — рашучым і ўстурбаваным.

— У ваенным гарадку нейкая баба, прозвішча не ведаю, подпісы збірае. За тое, каб горад Суворавым назваць. Аляксандр Васілевіч тут непадалёку палякаў пабіў, яна за яго і ўчапілася. Карацей, ты павінен да яе зайсці, адрэкамендавацца карэспандэнтам гарадской газеты і навесці даведкі: колькі чалавек падпісалася і куды яна збіраецца накіроўваць сваю петыцыю. Было б някепска, каб ты ў яе тыя аркушы з подпісамі пазычыў.

— А калі не пазычыць? — перабіў рэдактара падначалены.

Кум чарговы раз уздыхнуў.

— Ты ж малады журналіст. Мусіш выяўляць прафесійную кемлівасць, — Кум ізноў рыпнуў крэслам, — пакажы ёй пасведчанне, скажы, што рэдакцыя плануе ўзяць інтэрв’ю ў людзей, якім дарагое імя Аляксандра Васільевіча Суворава і якія паставілі свае подпісы пад петыцыяй. Карацей, сёння ўвечары выпраўляйся да гэтай бабы, — Кум працягнуў Васілю загадзя падрыхтаваную карталюшку з адрасам. — І яшчэ… — рэдактар надаў голасу паважныя інтанацыі, — пра нашу размову нікому ні слова.

Вяртаўся да свайго стала Васіль як на крылах. Яму да млосці абрыдла пісаць пра передавікоў вытворчасці, а тут наспявала нешта цікавае. Трывожыла, праўда, што ён мусіў прыкусіць язык. Няўжо перайменаванне горада — гэта дзяржаўны сакрэт?

— Чаго выклікаў? — пацікавіўся Казік.

— Ды так, — махнуў рукой калега, — спазняюся са здачай матэрыялу.

Васіль хукнуў у жменю, узяўся, з прытоенай усмешкай на вуснах, дапісваць артыкул пра рацыяналізатараў, але неўзабаве ляснуў асадкай па стале:

— Слухай, Казімір, а як ты ставішся да Суворава?

— Да гэтага? — Казік скамячыў валасы на лбе, дэманструючы знакамітую сувораўскую чупрынку. — А чаму пытаешся?

Васіль адно ўздыхнуў, напісаў пару сказаў і пстрыкнуў асадкай — то выпускаючы, то прыхоўваючы стрыжань.

— Сувораў жа недзе непадалёку ваяваў?

— Ваяваў. У мяне на іспытах білет быў пра тое, як канфедэратам лупня даў.

— Якім канфедэратам?

— Барскім.

— Якія ў піўбары сядзелі? — пажартаваў Васіль і тут жа адчуў: жарцік недарэчны. — Ну дык распавядзі — што там ды як.

Калега насупіў бровы.

— Карацей, кароль Станіслаў Панятоўскі пачаў хаўрусаваць з Расеяй. Шляхце тое не спадабалася, і яна сабралася ў Бары — не ў піўным, а што ва Украіне, — і стварыла ваеннапалітычную канфедэрацыю. Каб скінуць Панятоўскага. Тады шмат хто з уплывовай шляхты да канфедэратаў падаўся, у тым ліку і гетман Агінскі.

— Які паланез напісаў?

Казік дакорліва страсянуў чупрынай.

— Любіш ты перабіваць, — апавядальнік пачухаў за вухам. — Аб чым я казаў? Ага… сабраў той Агінскі войска і выступіў супраць Панятоўскага. А той парой на дапамогу ка-

ралю Сувораў з Расеі прыцёгся. Ну і даў дыхту гетману. Бітва была якраз непадалёку, у Сталавічах. Сувораўскае войска ў два разы меншае, а пашкуматаў шляхцюкоў дарэшты. І залаты запас захапіў, і гарматы, і абоз з вайсковым начыннем. Са шляхты якія ваякі. Майстры віно жлукціць ды ў карты гуляць. Так і прапілі-прагулялі Рэч Паспалітую.

Хвіліну Васіль усведамляў пачутае.

— А ты за каго — за Суворава ці за Рэч Паспалітую? — у голасе Васілёвым нарадзіліся патрабавальныя абертоны. Па рэдакцыі хадзілі чуткі, што Міклашэўскі беларускі нацыяналіст.

Казік, па прыкладзе суразмоўніка, пстрыкнуў асадкай.

— А пры чым тут Сувораў? У нас была свая дзяржава — Рэч Паспалітая. А ён прыпёрся ў чужую краіну — людзей забіваць ды абозы захопліваць.

Пачуўшы такое, Васіль канчаткова пераканаўся, што Міклашэўскі заняты нацыяналіст.

Дахаты, як заўсёды, яны з Казікам ішлі разам. Звычайна ўсю дарогу аб нечым гаманілі, а тут ішлі моўчкі і толькі як завярнулі з Савецкую, галоўную гарадскую вуліцу, Міклашэўскі, выдыхаючы цыгарэтны дым, спытаў:

— Дык на якую халеру Мачуля выклікаў?

Казік добрых пяцьдзясят, а мо і болей крокаў маўчаў.

— Нікому не скажаш?

— Вася, ты ж мяне ведаеш, — азваўся суразмоўнік, і Вася, глянуўшы за спіну, блытана замармытаў:

— Нейкая цётка ўзялася подпісы збіраць. Не падабаецца ёй назва Баранавічы. Хоча каб горад называўся…

— Сувораў? — з запытальнай інтанацыяй выдыхнуў Міклашэўскі.

— Табе ўжо сказалі?

— Ды няцяжка здагадацца. І цётка тая, адчуваю, з ваеннага гарадка?

— Цябе Кум таксама выклікаў? — Васіль другім разам азірнуўся.

Суразмоўнік зацягнуўся пякучым дымам, кінуў з ладнай адлегласці недапалак у сметніцу.

— Ты, Васёк, можаш нават не знаёміць з падрабязнасцямі. І так усё зразумела, — Міклашэўскі злёгку расхваляваўся, бо тут жа прыпаліў новую цыгарэту. — Я вось што табе скажу: падобныя, не ўзгодненыя з уладамі ініцыятывы, вомігам здушваюцца. Калі б подпісы збіраў хтосьці з нашых, яму б адразу па карку заехалі. Але гэтым занялася цётухна прыезджая, магчыма, з маскоўскай прапіскай. А пачуўшы слова «Масква», у гаркаме губляюць прытомнасць, — Казік смактануў цыгарэту, ды так, што закашляўся. — Думаю, там параіліся ў вузкім коле і вырашылі зрабіць крайнім небараку Мачуля.

— Ну ты ўжо фарбы не згушчай, — прамовіў, даволі няўпэўнена, Васіль, — справа ж гарэлага бліну не вартая.

— Э-э-э, Вася, не скажы. Гарадскі камітэт партыі паміж нажніцамі апынуўся. З аднаго боку Аляксандр… як яго?

— Васільевіч, — падказаў суразмоўнік.

— … Васільевіч Суворaў, ад якога проста так не адмахнешся, а з другога — праблемы, звязаныя з перайменаваннем.

— Так, мне Кум казаў, — муркнуў Васіль.

— Казаў, ды, відаць, не ўсё. Вунь, — Казік выкінуў наперад руку, — на рагу Савецкай і Пралетарскай мусіць паўстаць пляц Суворава з манументам вялікаму палкаводцу. Зразумелая рэч. Калі горад Суворaў, дык і помнік павінен стаяць. І не гіпсавы, а манументальны. І ўся гэтая прыгажосць мусіць паўстаць за сродкі гарадскога бюджэту. А там грошай няма нават на пільныя патрэбы. Глянь на дарогу. Спрэс у выбоінах. Так што лепш бы яны Баранавічы Жалезабетонагорскам назвалі. Танней абышлося.

Васіль зірнуў па разбіты асфальт, які цьмяна свяціўся ў святле ліхтароў. Ён ужо рабіў матэрыял пра недагледжаныя гарадскія дарогі, але Кум у апошні момант зняў з паласы.

— І сапраўды, — уздыхнуў Васіль, — на якую халеру гаркаму тыя мітрэнгі.

— Гляджу, прасёк сітуацыю, — Міклашэўскі зноўку кінуў недапалак у сметніцу ды гэтым разам спудлаваў.

— Але чаму Кум мяне засылае да той бабы?

— Кум стары корч, кар’еру за бацькам Сталіным пачынаў. Хітраван унікальны. Гаркам яго зрабіў крайнім, а ён цябе. І калі нешта надарыцца, усе на небараку-карэспандэнта ўтаропяцца. Маўляў… малады яшчэ… даручылі важную палітычную справу, а ён яе заваліў.

— А што можа здарыцца? — з трывогай запытаўся Васіль.

— Ды ўсякае. Жыццё — рэч непрадказальная. І не ўсё ў ёй так проста, як здаецца.

Казік глянуў на гадзіннік, прыспешыў крок.

— І якую Кум паставіў задачу? Высветліць — куды цётка збіраецца пасылаць тую паперу?

— Пад дзвярыма стаяў? — наструнена выдыхнуў Васіль.

— Вась, я што, кепска выхаваны? І навошта мне ўблытвацца ў чужыя справы.

Казік, падобна, пакрыўдзіўся, бо пашыбаваў ледзь не подбегам.

— А якая розніца — куды пашле, — з ліслівым уздыхам спытаў Васіль.

— Ёсць розніца, — азваўся сумоўнік пасля працяглага маўчання. — Прынясе петыцыю ў гаркам ці ў Менск адашле — гэта адно. А калі ў Маскву — гэта зусім іншы каленкор. У нас петыцыю прымуць, зарэгіструюць па ўсёй форме, запросяць у кабінет, прыязна пагутараць і паабяцаюць зрабіць усё, каб надаць гораду слаўнае імя. І потым будуць валаводзіць да апошняга, чакаючы, калі грамадзянская актывістка адсюль з’едзе ці ў лепшы свет выправіцца, — Казік крутнуў галавой. — Бягу, браток, на аўтобус. Зараз па целеку футбол пачнецца. Кубак чэмпіёнаў.

Аўтобус, дыхнуўшы выхлапным смуродам, ад’ехаў ад прыпынку, а Васіль усё стаяў, разважаючы над Казікавымі словамі. Калега, падобна, кій перагнуў, намаляваўшы амаль дэтэктыўную гісторыю. Ну збірае тая цётка подпісы. Ну занясе, сапраўды, тыя лісткі ў гаркам. Яны там і зжаўцеюць у стальніцы.

Халодная імжа саступіла месца дробнаму снегу, і Васіль, наставіўшы каўнер куртатай курткі, рушыў па ходніку.

Вайсковы гарадок хоць і месціўся каля ад чыгуначнага вакзала, але бываць там не даводзілася. Наш герой паўгадзіны шукаў вуліцу Заслонава, потым, раз-пораз зазіраючы ў карталюшку, шукаў у прыцемку патрэбны дом, нарэшце спытаў у падпітага мінака, і той паказаў на драўляную, немаведама калі згламэзданую будыніну. Два вакна свяціліся прыязным жоўтым святлом, і герой, перавёўшы дых, узбег на рыплівы ганак.

На другім баку дзвярэй бразнула клямка, пачуўся жаночы голас «Адчыняю-адчыняю», і неўзабаве перад Васілём паўстала старая цётка ў атласным халаце.

— Вам каго?

Васіль сумеўся, але толькі на імгненне.

— Я з мясцовай газеты. Паступіў сігнал на нездавальняючыя ўмовы жыцця ў вашым доме і ў некалькіх суседніх дамах. Хочам даць адпаведны матэрыял.

— А што за газета?

— «Знамя коммунизма», — госць запусціў руку ў нутраны кішэнь пінжака, — вось маё рэдакцыйнае пасведчанне.

Цётка, павярнуўшыся да святла, разгарнула пасведчанне, параўнала фотакартку з арыгіналам.

— Зайдзіце.

Карэспандэнт пераступіў парог, адчуўшы, як зыбануліся пад нагою масніцы.

— Бачыце?! — падвысіла голас гаспадыня. — Кожнага разу заходжу — і баюся ў падвал праваліцца. У суседнім доме адна ўжо правалілася.

«Ці тая гэта кабета? На зборшчыцу подпісаў не надта падобная», — падумаў Васіль, асцярожным крокам прамінаючы кухню. У святліцы стаялі піяніна і шыкоўная тахта, на якой ляжаў вокладкай угору разгорнуты нумар «Раман-газеты».

Гаспадыня, як бачна, любіла пагаманіць.

— І дах у двух месцах працякаў. Добра, зяць дастаў шыферу і салдат прывёў. Дзіркі залаталі. Зяць мой акадэмію Жукоўскага скончыў. Размеркавалі ў Баранавічы. Меркавалі, едуць у вялікі горад, а тут вялікая вёска. І жытло далі такое, што можна ў падмосце праваліцца. Мы з дачкой у Маскве

жылі, на Камсамольскім праспекце. Я з імі не паехала, дома засталася, а тут дачка тэлефануе, румзае ў слухаўку. «Мама, — кажа, — мышы ноччу бегаюць! Адна нават на твар скочыла». Давялося ўсё кінуць і прыехаць.

— Мяне таксама сюды размеркавалі, — перапыніў карэспандэнт гаваркую маскоўку. — Думаў, у цывілізацыю еду, а тут… ад адной назвы млосна. Ну якая гэта, скажыце, назва: Баранавічы! — госць пакасіўся на гаспадыню. — Маці ўчора ліста надаслала. Пытаецца: ты што там, сярод бараноў жывеш?

Маскоўка ляпнула ў далоні, рушыла ў спальню, і выйшла адтуль са жмуткам папер.

— Як добра, што вы прыйшлі! Вось, пачытайце!

«ДАРАГІ МІКАЛАЙ ВІКТАРАВІЧ!» — мільганулі ўваччу буйныя, адбітыя на разладжанай друкарцы літары. «Звяртаюцца да вас жыхары беларускага горада Баранавічы… І шматлікія госці, і карэнныя жыхары абураюцца немілагучнасцю гучання яго назвы… Між тым у БССР і дагэтуль годна не адзначанае і не ўшанаванае імя Аляксандра Васільевіча Суворава… Тут, на беларускай зямлі, ён упісаў слаўную старонку ў гісторыю Айчыны… Сувораў — не толькі гераічнае мінулае нашага шматнацыянальнага народу, гэта яшчэ і не менш гераічная сучаснасць… Просім Вярхоўны Савет з разуменнем паставіцца да гэтай просьбы і паспрыяць, каб горад займеў, нарэшце, годнае імя…»

— А хто такі Мікалай Віктаравіч? — пацікавіўся госць, похапкам прачытаўшы тэкст.

— Як хто… Падгорны. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

Госць з робленым захапленнем страсянуў галавой.

— А пасылаць думаеце каштоўным лістом?

— Ды не. На Новы год у Маскву еду. І перадам паперы непасрэдна ў прымальню Вярхоўнага Савета. Тым больш, я туды ўжо заходзіла.

Гаспадыня спадылба зірнула на госця.

— Ну а вы падпішыцеся? Калі падпішыцеся — пачастую вас гарбатай.

Цётухна рашуча, па-вайсковаму крутнулася, рушыла на кухню.

— Ды я і без гарбаты падпішу, — бадзёра прамовіў карэспандэнт, пазіраючы на шырокую, абцягнутую чырвоным атласам спіну.

— Зяць сёння на дзяжурстве, дачка пайшла да сяброўкі, так што адна гаспадарнічаю, — на пліце бразнуў чайнік.

Сеўшы на край услону, карэспандэнт дастаў самапіску, адгарнуў некалькі старонак. Пад петыцыяй стаяла 149 подпісаў. Госць друкаванымі літарамі напісаў прозвішча, пазначыў адрас, велягурыста распісаўся.

— Шкада, што сто пяцьдзясяты, — карэспандэнт вярнуў самапіску ў кішэнь пінжака. — Я мусіў быць першым.

Дрогкія пальцы пералічылі старонкі.

— Слухайце, а не маглі б вы даць гэта на пару дзён? Я б па сваім інтэрнаце прабегся. Шмат подпісаў не абяцаю, а штук трыццаць–сорак здабуду дакладна.

— Не, малады чалавек… сур’ёзны дакумент, — гаспадыня адчыніла лядоўню, — я сама магу падысці да вашага інтэрната.

Першая атака была адбітая, і малады чалавек сцішыўся, разважаючы — якім чынам можна завалодаць сур’ёзным дакументам.

На стале з’явілася талерка з канапкамі. На тонка парэзаны батон было намазанае масла, а наверсе ляжалі скрылі чырвонай вяндліны.

— Вяндліну з Масквы прывезла. Цэлую гадзіну ў чарзе адстаяла, — патлумачыла маскоўка, пабачыўшы здзіўленне ў вачах карэспандэнта. — Пакаштуйце.

Карэспандэнт хацеў адмовіцца ад пачастунку, але адранку нічога не еў і, захлынаючыся ад асцы, сцярожка, двума пальцамі падхапіў канапку. Яна была халоднай, з лядоўні, і карэспандэнт, жуючы смакоцце, заплюшчыў вочы ад задавальнення. А калі расплюшчыў, убачыў на стале графін з чырвоным пітвом. Пітва, праўда, было на самым днечку, і карэспандэнт, пад шум увішнага чайніка, падхапіў другую канапку.

— А дзе ў нас Сувораў ваяваў? — спытаў праз хвіліну карэспандэнт, разняволена чвякаючы вуснамі.

Струмень вару з прыемным зыкам напоўніў імбрык, і нос казытнуў прынадны пах. Гарбату, няйначай, таксама прывезлі з Масквы.

— Ды тут побач… вёска-а… — суразмоўніца прымружыла вочы — яны ў яе былі каля самага пераносся, а таму здаваліся малюпасенькімі, — Стулавічы… не… Сталовічы! Палякаў пабіў. Не ведаю нават — чаго яны тут боўталіся. Мне пра гэта зяцеў нампаліт расказаў. Па нядзелях заходзіць да нас. Сур'ёзны такі мужчына. Да Баранавічаў у ГДР служыў. Дапамог ліста напісаць.

Гаспадыня разліла напой — густы, цёмна-барвовы, — па кілішках.

— Вішнёвая наліўка. Сама гатавала.

Пітво прыемнай цеплынёй кранула грудзіну, і гэта надало карэспандэнту рашучасці.

— Ведаеце што… забіраю вашы подпісы. Праз два дні вярну. Заўтра ад ранку кладу іх на стол рэдактару. Падрыхтуем матэрыял на першую паласу. Тут у вас, гляджу, — карэспандэнт перагарнуў старонкі петыцыі, — паважаныя людзі падпісаліся. Мы з імі звяжамся, паслухаем — што скажуць. Трэба ж, перад тым як у Маскву ехаць, падрыхтаваць грамадскую думку. Вы згодныя са мной?

Кабета залыпала вачанятамі, і карэспандэнт ляснуў на стол пасведчанне. Прычым з такім выглядам, нібыта гэта вялікая каштоўнасць, тым часам як рэдакцыйная сакратарка магла іх выпісаць цэлы тузін.

Хоць і выпіў Васіль наліўкі адзін глыток, але галава прыемна кружылася, і ён, выходзячы з хаты, зачапіўся мыском чаравіка за парог.

— Толькі на бандзюганаў не ўзбіцеся! Прыходзяць з нейкіх Траццякоў з нашымі біцца. Хлопца надоечы пабілі — у бальніцу паклалі, — гукнула ў спіну цётухна.

Даўно Васілю не пачувалася так добра. Галоўнае, выканаў загад Мачуля. Здабыў, можна сказаць, выдзер з учэпістых рук тую чортаву петыцыю. Вось яна, ляжыць між старонак

«Раман-газеты» з раманам Аляксея Югава «Страшны суд». Цётухна ахвяравала раман, каб не пашкодзіць старонкі, бо пачыналася сапраўдная завея. Васіль уявіў, як кіне петыцыю на рэдактаравы стол, і стоена ўсміхнуўся. Адзіная праблема — матэрыял пра цётчын дом. Гэта тэма зачыненая. Месяц таму напісаў нататку пра лядашчае жытло. Ужо і вычытаны быў, але Кум замяніў фотарэпартажам са свята ў дзіцячым садку.

Снежныя хлапякі віхурыліся ў паветры і адразу ж раставалі, кранууўшыся мокрага асфальту. І толькі кусты, якіяраслі ўздоўж дарогі, бухмаціліся ад снегу, нагадваючы фантастычных істот. Нечакана з-за аснежаных кустоў выплылі дзве змрочныя постаці.

— Эй, чувак, даў закурыць.

«Траццякі!» — з абамлелым сэрцам падумаў Васіль, прыціснуўшы да грудзей «Раман-газету».

— Не палю.

— А калі абшукаем?

Нечыя ўвішныя пальцы кранулся курткі, Васіль адхінуўся, у гэты момант уваччу штосьці ўспыхнула, зямля абрынулася пад нагамі і патыліцу працяў тупы боль.

Відаць, ён згубіў прытомнасць, бо калі ачуўся, поруч нікога не было. Яго нудзіла. Вякнуўшы, Васіль памацаў пабітую патыліцу — стукнуўся аб асфальт, як падаў, — прыціснуў далонь да правага вока, спрабуючы пазбыцца непрагляднага туману. Ля ягоных ног ветрык гартаў «Раману-газету», а разлеглая лужына была пазначаная белымі плямамі. Васіль вокраччу падпоўз да лужыны, дастаў з вады старонкі з подпісамі. Потым прапоўз далей і выцягнуў з другой калюгі лісток з друкаваным тэкстам. На ёй злавеснай пячаткай праступаў адбітак бруднай падэшвы. Паспрабаваў пералічыць старонкі, але яны пазліпаліся і рваліся з краёў. Зрэшты, лічыць іх не было патрэбы. Не несці ж гэты бруд з размытымі подпісамі Мікалаю Віктаравічу Падгорнаму.

Паволі, з напругай, у пабітай галаве пачалі віраваць думкі. Усё ж такі Казік як у ваду глядзеў. Прынясу заўтра тыя мокрыя лісткі, пакладу перад Кумам. Той у душы ўзрадуецца,

што выканаў загад гаркама, а наяве пачне дакараць. Даручылі важную справу, а ты зварот працоўных да Падгорнага ў лужыну ўкінуў?

Васіль падышоў да куста, тузануў аснежаныя галінкі, збіраючы ў жменю снег, прыклаў да падбітага вока тугую снежку, і раптоўная здагадка асвятляльнай ракетай скаланула свядомасць. А можа, гэта і не Траццякі? Можа, нейкія нанятыя баксёры. Падцікавалі па дарозе і адным ударам вырашылі ўсе праблемы. Не, мае рацыю Міклашэўскі: не ўсё ў гэтым свеце так проста, як падаецца.

Галава па-ранейшаму круцілася, і ён не даваў рады ўцяміць, у які бок трэба ісці, і пайшоў наўздагад — туды, дзе журботна гулі цеплавозы і адкуль хвалямі плыў саладжавы пах торфу.

# ЗМЕСТ

**Мудроў, В.**
М11 Меліярацыя з Альбэрам Камю : апавяданні / Вінцэсь Мудроў. — Мінск : Кнігазбор, 2021. — 212 с.
ISBN 978-985-7227-92-1.

Зборнік складаюць 10 апавяданняў, у якіх аўтар піша пра нашы дні, а таксама згадвае часы сваёй маладосці.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Мудроў** Вінцэсь

# Меліярацыя з Альбэрам Камю

*Апавяданні*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Вікторыя Трэнас
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Вікторыя Трэнас

Падпісана да друку 12.01.2021. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 11,13.
Ул.-выд. арк. 8,67. Наклад 150 ас. Зак. 2.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.